

Задача моладзі ў тым, каб вучыцца, — сказаў У. І. Ленін 40 год таму назад на III Усерасійскім з'ездзе камсамола. Савецкая моладзь верна здзяйсняе гэты ленінскі наказ. Сакратар камітэта камсамола Мінскага гадзіннікавага завода Ала Кузняцова вучыцца завочна ў Вышэйшай школе прафсаюзнага руху і кіруе гуртком па вывучэнню гісторыі КПСС.
Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

У НУМАРЫ:



**10** (92)

Кастрычнік.

1960.

Год выдання VIII.

Газетна-часопіснае выдавецтва
Галоўвыдата Міністэрства
культуры БССР.
Мінск.

На вокладцы мал. Г. Скамарохава.

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы 70×108 $^{1}/_{16}$. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 7.420 экз. Цана 4 руб.
АТ 11053. Здадзена ў набор 1.IX.60. Падпісана да друку 3.X.60. Зак. 685

Газетна-часопіснае выдавецтва, г. Мінск, праспект імя Сталіна, 79.

Друкарня імя Сталіна. Мінск, праспект імя Сталіна, 79.



Выдатны беларускі паэт Пятрусь Броўка нарадзіўся ў 1905 годзе ў вёсцы Пуцілкавічы Ушацкага раёна Віцебскай вобласці ў беднай сялянскай сям'і. У юнацкія гады працаваў на камсамольскай рабоце, пасля—адказным сакратаром акруговай газеты «Чырвоная Полаччына», а ў 1931 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт і заняўся літаратурнай працай.

У гады Вялікай Айчыннай вайны Пятрусь Броўка працаваў у франтавым і партызанскім друку. Пасля вайны рэдагаваў часопіс «Полымя», а з 1948 года працуе старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. П. Броўка з'яўляецца членам ЦК КПБ, дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР, сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў СССР.

У выдавецтвах нашай краіны выйшлі з друку каля трох дзесяткаў кніг паэзіі Петруся Броўкі і раман «Калі зліваюцца рэкі».

Творы П. Броўкі двойчы адзначаліся Сталінскай прэміяй, перакладаліся на рускую і на многія іншыя мовы народаў СССР і краін народнай дэмакратыі.

Цяпер паэт працуе над новай кнігай вершаў. Некаторыя з іх мы змяшчаем ніжэй.

**Пятрусь БРОЎКА**

## ВЕРАСНЁЎСКІЯ ВЯТРЫ



Прыйшлі вятры, і хмараў статкі
Нагналі песень дажджавых,
І жоўтыя паклалі латкі
На ўборы паркаў гарадскіх.

Здаецца, вежы так намоклі,
У хмарах, што ў капелюшах,
І ліхтары, як быццам кроплі,
Дрыжаць на тонкіх правадах.

А трубы дахаў плачуць, плачуць,
Уздоўж праспектаў ручайкі...
І толькі гальштукаў дзіцячых
Мігаюць ярка аганькі.

## НАШТО Ў МЯНЕ ТАКІЯ ВОЧЫ



Бярозкі гнуткай — стан дзявочы,
А шчокі вішнямі цвітуць,
Нашто ў мяне такія вочы,
Што век спакою не даюць.

Як затанцуе — проста замяць
Пачне ў вачах маіх кружыць,
Як узмахне яна рукамі,
Здаецца, лебедзь узляціць.

Прыпыніцца і засмяецца,
Засвецяць зубы серабром —
Яна ў маё ўплывае сэрца,
Нібы Бяроза у Дняпро.

## БУСЕЛ



Я помню хаціну дзіцячых гадоў,
Падкову на збітым парозе,
Вялізнае з дзедаву шапку гняздо
Буслоў на высокай бярозе.

Жылі з буслянятамі аж да зімы
Ды лёталі на сенажаці...
Казалі суседзі — шчаслівыя мы,
Я жыў, адчуваючы шчасце:

Бо бачыў як бусел імклівы ўзлятаў,
Імчаў на багнішчы, у лозы.
Я бегаў глядзець і не раз пазнаваў
Свайго са старое бярозы.

А ён там паважна, як пан, пахаджаў,
Харч ловячы дзюбай-іголкай,
І я ўсё на Ноя старога злаваў,
Што выпусціў поскудзі столькі.

Я быў несвядомым у тыя часы,
Не мог я дайсці да такога,
Што буслу гадзюка смачней кіўбасы,
А жаба прыемней жаркога.

Я звычкі бусловы пасля адгадаў,
Я зведаў бусловы настроі,
Ён клёкатам часта мне спаць не даваў,
Ды я не злаваўся на тое.

І дружба была найсардэчная ў нас,
Здавалася мне так малому,
Бо я сумаваў, паглядаў увесь час,
Чакаючы бусла дадому.

Чаго не пазнаеш у тыя гады,
Я вёў з ім ад сэрца размовы,
Я чуў як вітаўся са мной ён тады,
Буслінай, адрывістай мовай.

А як маё сэрца шчымела ў смузе —
У вырай пачаў ён збірацца,
Стаяў задумённы на доўгай назе,
Як флюгер на панскім палацы.

А потым праз зіму яго не было...
Ды зноў па вясновай дарозе,
Здавалася, бусел прыносіў цяпло
І ўборы старэнькай бярозе.



Калі я пабольшаў, да новых шляхоў
Пазвала вучоба і праца,
Я мусіў ад'ехаць на многа гадоў
І з буслам сваім развітацца.

За вёснамі вёсны шумелі, ішлі...
Вярнуўся дахаты я сталым,
Другія буслы на бярозе жылі,
Даўнейшага друга не стала.

Гады адыходзяць, імкнуць чарадой,
Адно, не жадаюць вяртацца,
Буслы прылятаюць заўсёды вясной,
Свайго не магу дачакацца.

## ЗІМОВАЕ



Прыемна прамчацца ўзімку,
З-пад капытоў клубкі-камы,
Не знаю гарачэй абдымкаў,
За тых, што ў нашае зімы.

Імчыш. За лесам, за высокім,
Мігае месяц, што ліхтар,
Мароз як пацалуе ў шчокі,
Аж усяго кідае ў жар.

Здаецца, вецер закалыша,
Над коньмі пара, нібы дым,
І санкі так на снезе пішуць,
Што пазайздросціць можна ім!

## ЭЙФЕЛЕВА ВЕЖА



У нашым свеце шмат багацця,
Нямала можна палюбіць —
І я ў Парыжы меў за шчасце
На вежы Эйфелевай быць.

Ляжалі плошчы ў гуле, ў тлуме,
А я зайздросціў з вышыні,
Але калі пра дом падумаў,
Не стала зайздрасці ані.

Бо скрозь у нас ад Прыанежжа
Да Кара-Кумаў грамадой,
Як быццам Эйфелевы вежы,
Пасталі краны над зямлёй.



**Іван ПТАШНІКАЎ**

# ЧАКАЙ У ДАЛЁКІХ ГРЫНЯХ

**Раман**

Мал. М. Савіцкага.

Леаніду сёння не першаму давялося «аддувацца».

Да таго ж не адразу сабраліся людзі, як хацелася. Прыйшло к пачатку чалавек семнаццаць з чатырох вёсак-брыгад і ўсё. Трэ' было чакаць. Ішоў час і не абяцаў нічога добрага.

Прывялі музыкаў — двух гарманістаў. Яны абудзілі вёску шалёнай полькай і схаваліся ў клубе. Цяпер чакай!.. І пасыпаліся дзяўчаты, як пшаніца з-пад шуфля. З гэтага і трэ' было б зачаць. Неўзабаве, пазагінаўшы брылі, пераступілі парог хлопцы, панабівалася дзетвары, прыдыбалі старэйшыя, спаважныя гаспадары. Праўда, іх меней. Паселі наперад вясковыя пляткаркі-сакатухі, без якіх не абыходзілася ні на адных танцах: трэба ж было ведаць, хто з кім «гуляў» і каго стаў праводзіць дадому.

Танцы хацелі ўхітрыцца адкласці на пасля лекцыі, ды так і ў аб'явах было павывешвана па брыгадах, але ж грынёўцаў хлебам не кармі, а музыку дай.

Танцы зацягваліся, і Леанід нерваваўся. Праз якую гадзіну, ну хай

---

Працяг. Пачатак у № 9.



з гакам, варта быць там, куды паабяцаў не спазніцца. Ён хадзіў паўз сцяну ды скуб пасму валасоў, што чаплялася за нос.

Нарэшце выціснуўся з грамады Авяр'ян з маладым старшынёй калгаса. Яны павінны былі сказаць сваё перад лекцыяй. Умоўлена ж...

Гармонікі на куце захліпнуліся, і ўсе рассунуліся па лаўках. Повен клуб. На сцэнцы за сталом, дзе месца прэзідыуму, селі Авяр'ян, малады старшыня і Васіль Міронавіч. Яны заўсёды былі на вечарах і сходах, прыйшлі і сёння, як актыў.

— Таварышы, ціха!.. Ціха!.. Вечар барацьбы з перажыткамі ў свядомасці і гэтак далей... Ціха, таварышы!.. Лічу адкрытым... — перагінаўся за трыбункай Васіль Міронавіч і махаў рукамі. — Са словам мае выступіць сакратар калгаснай партарганізацыі. Цішэй там у парозе... прасіў бы я...

Высокі, з усмешкай, Авяр'ян, грынёўскі калгаснік, касец-двунормавік, камуніст і парторг, паправіў на грудзях новую ваенную гімнасцёрку, палапаў за кішэнькі і пачаў вычытваць з газеты, што ляжала перад ім на палінялай і абшарпанай трыбунцы, пункты адзін за другім.

Цішыня стала на зайздрасць, што недзе і Васіль Міронавіч, так дамагаючыся яе, не чакаў. Не шушукаліся, не сыкалі, не соўгалі нагамі, нават не курылі. Слухалі з увагай, ад цікавасці паразяўляліся. І калі Авяр'ян скончыў — усё роўна маўчалі.

— Уразумелі? Га?! Не? Цяпер растлумачу. Ну, хоць бы гэты пункт, самы стражэйшы. Хаця, што вам чытаць было... Вы з раніцы з газет самі ўсё выведалі. Трэ' было адразу тлумачыць. Я і зраблю гэта.

— А ты не думай, што разумнейшы... — ціха сярод цішыні данеслася ззаду да застолля цераз доўгую залу. Не ўчулі за сталом, хто сказаў, ды і не звярнулі ўвагі.

Авяр'ян толькі выпраставўся, пасля 'шчэ больш нахінуўся да залы:

— Той, хто займаецца самагонакурэннем — гэта значыць, гоніць самагонку і спекулюе ёю, што азначае — прадае па дзесяць рублёў паўлітра, як наша Раіна, — караецца па суду ад... — ён ці не забыўся лічбы, бо нагнуўся паглядзець у газету... і тут яму не далі гаварыць.

— Га-а-а-а!.. — пранеслася па ўсім клубе і ўжо не сціхала. Суняць людзей, здалося, было не пад сілу.

— Ён мяне ўвідзеў!.. Ён увідзеў мяне!.. Пад суд аддае... Падумайце... Людцы... — Раіна пабівала ўсіх. Яе голас — высокі і прарэзлівы, бы яна мянціла не языком, а скрэбла дзеркачом па бляшаным вядры.— А Выжлятнік, а Джвучка, а Пэрцы... Як іх, то не бачыш... А тут упёрся во... А божачка, а людцы...

Нарэшце яна засаплася, змоўкла. Кончылі гаманіць і другія.

— Для чаго я тлумачу? — Авяр'ян пачаў гаварыць больш ціха, затое цвёрда. — Не для таго, каб пад суд каго падводзіць. Гэта лёгка было б зрабіць. Выйшаў сёння ўказ, сабраліся мы, ну хоць бы ўчатырох, як цяпер, — паказаў ён на застолле, — і шась да Раіны ці да Джвучкі!..— Авяр'ян ткнуў рукой уперад і 'шчэ больш нагнуўся да грамады. — Вось вам і... А вы яшчэ крычыцё нечага. У вас жа ночы... апоўначы хто захоча — знойдзе дудкі з вершнікамі... Дык вось! Тлумачу... Каб болей ніхто не ўздумаў заводзіць брагу і дыміць днём ці ноччу ў варывеньках ці дзе яшчэ там... Раіна, а ці ў памяці ў цябе, як, хаваючыся ад воч, ты была на гарышчы раз уздумала агонь раскласці ля гаршка? Ты ж вёску магла спякчы. А дзела на цябе падавалі? Не. Мо' і дарэмна пашкадавалі, га? Дык не позна яшчэ...

— Пабойся бога, Авяр'янка... Чаго ты да яе прыліп... Ну, гнала кабеціна, хто яе не гнаў, хто яе не піў... А цяпер, во, не будзе, як вы

расказалі што да чаго... — гэта аж са скуры лезла, як хацела абяліць Раіну маленькая Волечка. Сама ж была не без граху. Авяр'ян ведаў. Але хітрэй яна за Раіну, і ўлавіць яе не давялося.

— І чаго ён да яе, як ліст у лазні?..

— І нашто яна яму?..

— Не ўзнімай ты ліха, чалавеча!..

— Хай таварыскім судом за самагонку судзяць!.. Я, ён, мы, усе... Фуліганаў жа дык судзяць. А тут годзікі...

— Уздумаў жа во...

— І што яму Раіна зрабіла? Вока зацярушыла?!

Клуб грымеў; шум мацнеў, сціхаў; раптам узнімаўся смех, аж столь, выдавала, ад яго трашчыць і карабаціцца.

— Думаю... Ды цішэй вы там, на задніх!.. — Авяр'ян узяў сваё галасам. — Думаю, што мы без абгавораў пакончым. Вось што... Прымем гэты ўказ з першым і апошнім пунктам і прагаласуем. Хто за тое...

Дагаварыць не далі. Зашумелі і пацяглі ўгору рукі. Усе, да аднаго. Ды з такой заядласцю, што маглі так усю ноч падымаць і апускаць. Маўляў бы так, галасуй ні галасуй, а як ціснулі гáру, так і будуць ціснуць. Толькі больш уціхую.

— І помніце, запішыце дома на чалесніках, што з заўтрашняга дня і праз тры дні запар усе павінны знесці апараты, тлумачу: дудкі, вершнікі ды і бітоны ў каго, як у Раіны... знесці да калгаснай кузні. У каго пасля гэтага знойдзем такія штукі — па галоўцы не пагладзім. Учынім па закону. А ты, Раіна, не чмыхай і заўтра ж першая прыцягні ўсё ў кузню.

— А што ёй тады рабіць? У баптыстыя ісці?

— Га-га-га!..

— Ды цішэй! Заткніся! Дайце паслухаць чалавека. Толкам гаворыць...

— А піць што будзеце вы, мужчыны? Чым душу прыманіце? — жартавалі з залы, але не весела. Нехта падбрэхваў...

— Мяне гэтым не пад'ялдыкнеш!.. Я не п'ю, як ты, хто там... І магу тлумачэнне кожнаму даць, чаму. — Авяр'ян ведаў, што гэта не ўсё, і не спяшаўся падавацца да застолля.

— Мо' нарад мне дадзіцё заўтра звозіць дуды да кузні?! — запішчала раптам непрыкметная, маленькая Волечка. Рабіла яна ў Закалюжжы на ферме. Ад такой рэдка льга было слова ўчуць на сходзе. Ціхоня. А тут вышчырылася. Чаго?.. Бачыць, што другія, то і яна. Ёсць жа такія.

— А ты ў брыгадзіра спытай...

— Ты то, Авяр'ян, не п'еш... Ну і старшыня з табой... А што брыгадзіры будуць са сваімі горламі рабіць? Затыкаць? У магазін не пададуцца ж. Там жа не дармавізна, туды ж каня не прадасі за маскоўскую...

Волечка не сама надумала сёння гэтак выказвацца. З-за яе плячэй падняўся быў і сеў Выжлятнік. Ён нацкоўваў. І п'яны недзе, бо дровы ж цягаў сёння гэтай самай Волечцы на калгасным кані.

— Слухай, Выжлятнік. Напіўся, то паўзі спаць і не сунь свой язык пад гарачую патэльню. Ён у цябе чуць вісіць, як ануча... Не бяруць свайго твае кпіны, бачыш... Не шыпіць... А ты, калі заўтра не адцягнеш да кузні свае дуды, віні сябе... У мяне ўсё, таварышы калгаснікі.

Авяр'ян сеў за стол, даючы знак, што больш гэтакіх запытанняў ніхто слухаць не хоча і не стане.

Старшыня гаварыць не схацеў. Мужчыны параіліся і пакінулі застолле. Авяр'ян з Васілём Міронавічам селі ў пярэднім радзе, а старшыня ці не падаўся з клуба.



За сталом застаўся Леанід. Пагартаўшы наспех лісткі ў блакноціку, прычасаўся, зірнуў на відку ва ўсіх на гадзіннік і заняў Авяр'янава месца за трыбункай.

«Рэлігія — опіум народа...» — падумаў. Да гэтага калгасны клуб слухаў яго лекцыі і пра Месяц, космас, пра Ісуса Хрыста, святы вялікдзень...

Сёння — апошняя. Трэ' змагчы растлумачыць, як рабіў тут толькі што Авяр'ян, што вера ў бога ніколі нікога не ўзнясла на неба, не падбіла ні аднаго грынёўца на самы звычайны сялянскі подзвіг — скасіць восемдзесят сотак мурагу. Што яна — ручнік тых, хто, прысвоіўшы чужое, хоча ўцерці і душу і рукі... а то нават і ад крыві. Яна — для цемрыва. А для чаго пачарнелы трухнявы абраз у новай хаце? На куце яшчэ...

Пад носам цытаты: думкі класікаў, падкрэсленыя ў блакноціку, разгорнутая «Біблія» Емельяна Яраслаўскага.

І тут, адзін на адзін з людзьмі, якіх ведаў даўно, а многія вунь з тых мужчын, што ў кутку на лаве, яго без штаноў 'шчэ помняць, ён сцяміў — грынёўцам трэба грынёўскае...

Выплыў сам па сабе з усім сваім нутром — што з неба зваліўся — ойча Сабольскі...

Леанід зачыніў «Біблію» і адышоўся ад трыбункі.

Клуб загалёкаў — накінуўся хто на каго — і змоўк. Як дождж, бывае, пры пагодзе, — урэжа і няма яго.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Слова ўпала на душу, далёкае, знаёмае, кратала яе, вярэдзіла, як бывае ўсшалелы вецер сухую траву на паляне-імшары; трэсла, як бура малады вербалоз, зрываючы лісце і хапаючы яго ў белы свет...

Думкі ўскруцяць у галаве боль і гора, пранясуць прад вачыма былое і мо' паўзабытае, дадуць кожнаму ў занятак сваё. Іх льга толькі пасеяць. От жа, скажы...

Авяр'яну ў памяці, як у тую рань у нядзелю прыскочылі дваццаць верхавых у Закалюжжа. Коні ў пене, людзі задыханыя і нечага прагавітыя. Не шнырылі па дварах, не пыталі стрэчнага-папярэчнага. Ім было расказана і ўказана. Усё. Да макуліны.

Авяр'ян тады з'ехаў у Закалюжжа з Грынёў, да цешчы. Выехаў адтуль і Перапёлка — дырэктар лесапілкі. Не схацелі быць на воку, калі людское атрэб'е высыпала, што пацукі з нор, і палезла служыць у валасную паліцыю. Цяжка тады было ўцалець і ў падполлі пад бокам у тых, каму раптам стукнула ў дурную галаву перашарсціцца на новы лад. Многія сунуліся проста каб звясці з кім рахунак, маючы ўладу: павязку, прыклад і бізун.

Авяр'ян знаў тады, што Перапёлку ўдалі. Кусаў нехта і думаў, што напэўна.

Коні не тоўпіліся на двары. Іх пакідалі на вуліцы н'ат без прывязі. Нелюдзі рваліся да свайго.

Перапёлку выцяглі з каморкі на двор і прыставілі да сцяны.

Сонца толькі што мелася ўзыходзіць. Чырвань з-за хлева хлынула на паркан, на сцяну, на грудзі чалавеку. Тут жа, увачавідкі.

— Партыйны білет!

— Няма. Беспартыйны.

— Чырвонаармейскую кніжку!

— У хаце... У стале...

— Малюшыц! Уласік! Абшукаць стол!

Начальнік валасной паліцыі, нейкі Буйка, — ніхто не чуў, адкуль і як ён апынуўся тут, — здаровы, крываногі, даўганосы і шэры з твару, мо' не схацеў моўчкі адправіць на той свет ахвяру. Бо для чаго тады ўчыніў допыт?

Праверылі ўсё, да паперынкі. Нашто спатрэбілася Буйку самому ўбачыць, што Перапёлка камуніст, і што быў за чалавек Буйка, — ніхто ніколі не скажа. Неўзабаве ён знік, плявузгалі, што яго расстралялі самі немцы. За што і за якое...

— Уласік, каня! Дарэмныя раз'езды! — крыкнуў ён тады. Глуха натруджана, бы ў яго перасохла ў горле.

Дваццаць коней, узбіваючы пыл, галопам пацокалі з вёскі, як і з'явіліся.

Перапёлку не зачапілі.

Не забылася, хто шыпеў тады з-пад калоды: вуж, кусі!.. Гэты ж... У яго з Перапёлкам нелады былі. З лесапілкі ж перад самай вайной вытурылі. І куды цяпер зашыўся, веры не дасі.

Авяр'ян доўга думаў пра сваё, не слухаў; пасля яму напомнілі другое; яно падабрала думкі, злілося з імі ў адно, панеслася-завірыла, не даючыся, каб у спакоі разгадаць яго, разабрацца...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Іх было двое. Ён і Пятрок Габрусёнак. Ён угаварыў Габрусёнка застацца дома на якія суткі... А цяпер другі ўжо тыдзень яны пякліся на сонцы на Габрусёнкавым падворку.

Сыходзіліся штодня. Ён сам поўз, прыгорбіўшыся, да Габрусёнка. Гародамі. Ля платоў. Заўсёды. Бо Пятрок быў лены — цюлень — і нікуды, здаецца, не думаў кратацца са стойбішча. Асвойтаўся ж, бабыль... А так праседзець доўга ці выпадзе... Гэта не пры партызанах...

— Пятрок... Дык што? Няўжо ты ані на́ дух? Заўтра ж пададзімся ў раён, кажу. Усё роўна ты сваіх не дагоніш ужо.

— Ці не зноў ты са сваёй ільготай прыцёгся? Выставілі там яе табе... Чакае... Ты ж нават не партызан...

— Абмазгуем, галава... Толькі без ільготы, брат, цяпер дома не седня. І так нам ужо што захочуць могуць прыпаяць. І табе, і мне... Прышыюць дзезярцірства і...

— Ну што?! Ну што?! Ну што я зраблю?.. — у Габрусёнка ўсхадзіліся нервы. Такое з ім было рэдка. Спакойны, невысокі, худы, — плюгавы, як яго пад злосную руку клікалі да вайны ў вёсцы, — ён цяпер аж шалеў. Вочы былі — адны бельмы.

Людзі бавіліся ў зрубчыку, што Габрусёнак не даканчыў пад варывеньку. На парозе. Пятрок — тыдзень які назад — партызан-кутузавец. Ён толькі чуў, што іхняя брыгада праз палявыя ваенкаматы, ці як, даўно ўлілася ў вайсковую часць і пакалашмачана ўжо ля Гродна. Сам жа застаўся. Паслухаўся гэтага... Ды і ў партызаны, бадай, ці пайшоў бы, каб яго ў сорак чацвёртым увосень не мабілізавалі.

Аўтамат пры ім. Габрусёнак скляваў кулямі ўсё ніжняе бярно, — нервы. Цяпер ён бярэ і меціць у шпакоўніцу, што праз вуліцу ў суседзяў на таполі. Свярбяць чалавеку рукі.

Яго напарнік — ссутулены, раскіслы. Таму не да шпакоў. Ён хацеў бы, каб не надаваць стрэлу, але ж цяпер у вёсцы ў кожнага шчаняці



ламачына ёсць, — смаляць вунь дні і ночы. Ёсць і ў яго. Каму што якое хоць бы і да іх. Маўчыць, але моршчыцца ад стрэлу.

— До! — кладзе ён сваю мурзатую руку на худы плячук Габрусёнку. — Задэч гэтую жалязяку за зруб дзе... Вось што. Я — за старшыню, ты — рахункавод і брыгадзір.

— Ды і які з цябе старшыня... Ты ж толькі перад самай вайной, лічы, у калгас прыйшоў. Хаця... — Габрусёнку ўсё роўна. Маўчыць, курыць.

— Знойдзем, Пятрок, усё знойдзем... Не забывайся, што ад штрафнога не ўцячэш, калі што не так змарыгуліш. А немец недабіты. Так што недалёка ад дому ў яго горла ткнуць. Тут ужо напэўна. Не цыўкнеш...

Па струхнелым тынку паўзлі мурашкі. У вуглу абвісала павучынне. Густое. Моцнае, што з нітак. На ім н'ат апілкі і пясок улежалі. На зямлі ля парога — плуг, без ручак, без нарога. Саржавелы. Аж уеўся палазком у ніжняе падгнілае вянцо. Габрусёнку стала чагосць шкада, прыкра. Ён сплюнуў, ужо ў злосці.

Ці не гэты так угаворваў яго застацца на адну ноч дома, хітры і сквапны чалавек, што нават і ў апошні час выкруціўся ад партызанскай мабілізацыі, — адгаварыўся, што скуры пачне выраблядь на боты. І пачаў. Не так партызанам, як на збыт.

Вайна — мітусня, вайна — мітрэнга, згуб галавы, дакука. Адаспацца, аддыхацца, плюнуць на ўсё хоць два-тры дні, а там — бог бацька... Гэта таго довады.

— Усё панішчылася, у глум пайшло, Пятрок. Хаця, што табе, адзінокаму, як пальцу. Прыб'ешся некуды. А тут — голыя, босыя. Людзі жыць пачынаюць. У многіх ёсць за што... ёсць... — змоўнік зморшчыўся, пасля ажыў на вачах і шлёпнуў Габрусёнку па калене. — А ты паможаш, ведаю. Нам ночку, толькі ночку выкраіць. Ды заўтра ў раён. Пашнырым. Прыткнемся недзе, быць не можа. Не ў нас, дык у людзей. У чужых яшчэ больш з рукі. Прыду да цябе прыцемкам. Трэ' будзе каняку ўшчаміць. Ты зробіш...

Было над вечарок. За далёкім полем і бярэзнікам, дзе аж па зямлі кацілася сонца, паўзлі барвовыя кудзелістыя тулягі. Там шашэйка, пясок, пыл. Жнівеньскі гарачы вецер высушыў яе за дзень, пад вечар пайшлі танкі, — і яна задыміла.

Грукатала на захадзе, немач на яго. Над самай вёскай, здаецца, зачэпяць асверы, коўзалі самалёты. Вылі, аж у вушшу дзёрла.

Габрусёнак нічога не адказаў. Мо' і не слухаў. Яму ўсё адно. Ды і рукі знебыліся без работы.

— Ваўка ногі кормяць. А ноч — папаска. Не цябе вучыць... — чуў Габрусёнак і не мог пайсці насуперак.

Пятрок застаўся і быў адзін.

Цямнела ў пыле і ўначы далёкая дарога.

А жыццё? Хіба не такімі дарогамі скрэмсана? — гэтак разважыў тады чалавек.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Ноч у ваччу, што сажа. Цемень згусла; недзе, як каланіца, каб працягнуў руку. Во, аж боўтаецца пад калясьмі, чвякае, пляскае мокрымі пыскамі, трашчыць пашчэнкамі.

Мрої нікнуць — храпе конь, цюпае па гразі і каменні. Трасуць калёсы, хапае дрыжыка. Цела гарыць, як апечана. Смага і боль. Ламаніна.
Зноў каланіца — ліпкая, чорная... А то неба ўспеніцца белым вогнівам, задрыжыць, перавернецца, згасне. І зноў не бачаць вочы.
Смыляць рукі, твар — пазбіваў-пасчэсваў. Нагу бы хто патрушчыў. Не пакранеш.
— Но-о... Зану-уда... — далёка-далёка, недзе аж па той бок лесу. Ціхенька, што камар звініць.
Зноў варушацца ў цемені белыя пашчэнкі, пляскаюць пыскі, пырскае мокрым па твары. Кроў...
Вочы ловяць лес. Чорны-чорны. Сосны — у дзёгці. Ліпкія. А то калматыя, як аўчыны. Сукі — ражны. Халодныя, вострыя. Соваюць у паясніцу, калі тармосіць па калдобах.
«Ці доўга лес?... За ім — канцы для мукі... За ім — дом. Дзе мы, Пятрок? Дзе?..»
Чалавек намагаецца крычаць, чалавек змогся ад крыку... Пятрок не аклікнецца.
— Но-о... падлюга... — яшчэ цішэй, што з глухога будынку.
Мінулі Вілію. Перабрылі ў Каменскім бродзе. Знесла далёка ў лагі. Выбраліся. Схаваліся ў лесе. Балота, альшэўнік. Квокчуць у гразі колы, шапочуць па лісці. Цяжка каню.
Ззаду пад Каменам ледзь ірдзіцца, дрыжыць зарыва. Лускаюць стрэлы. Счакае нехта — і зноў. Бы ў чалавека патроны не пад рукой, а далёка за пазухай, і каб дастаць іх, трэ' вунь колькі капашыцца.
Пятрок не думае. Не ў галаве і тое, што на калёсах паранены чалавек. Наскочыў той на сваё, не мінуў ліха. А фронту, як агню, баяўся. Вось табе і фронт. На печы. Пагнаўся-пагаліўся. На багацці галаву звярнуў...
...У хаце не плакалі, не прасілі. Толькі ціснуліся да печы дзеці.
Сям'я — не багатая. Кульгавы гаспадар. На ложках — зрэб'е. Мо' толькі таго і жыцця, што ў хлеве карова.
Яны — з аўтаматам. Ад іх — у страху. Не, яго, Петрыка, не баяліся. Ён быў пры кані. А гэты, што ные ў ляжэйках... Як яго насіла па двары... Да сцяны кульгавага мерыўся стаўляць. Звыкся за свае «аперацыі». У вайну ніхто ж не глядзеў, як і дзе дабываў ён вазы смаленых парсюкоў. Але ж цяпер вайну знесла. Як жа так? Петрыку несамавіта. Але хай, усё роўна. Не для сябе ж.
Так яно і мінула б, калі б не палез гэты чалавек, што лёг цяпер аблогай на калёсах, па зрэб'е ў куфар. Заняўся хто ведае чым... Не згледзеў н'ат, як шмыгнуў за парог кульгавы.
Апомніліся па часе.
Пагналі былі каня, — не папрэш: каравяка ззаду.
Кінулі яе...
А тут цемната, ноч. Хутары без агню, без сабак. Трапілі на чужую дарогу...
Стрэл разадраў цішыню, бы хто ражном прапароў іржавае бляшанае вядро. Бухнула яшчэ разы два. Над галавой. Стралялі з нямецкага карабіна. Разрыўнымі. Збоку, з другога хутара. Наўздагон.
«Дабег той кульгавы... Свайго абарону не меў... Ды тут яны плоймай адзін за аднаго...» — падумаў Пятрок.
Дарога пайшла лазнякамі. Конь учуў кулі: мо' ён гэта і даў убок.
Душа прасіла ратунку.
З калёс гыкнулі дзве кароценькія чаргі — сыпанулі дзве жменькі чырвоных пчолак туды, на двор...



Конь ірвануў па загонах, па крушнях камення. Ад калатні аж косці грукалі. Толькі цуд трымаў на возе.
Пятрок азірнуўся: ці не паклікалі? На возе нікога не было. Як мага спыніўшы каня, Пятрок скочыў долкі, не ведаючы 'шчэ, куды і чаго. Яго клікалі, шалёна, без аддухі. Ужо ладнавата ззаду поўз чалавек, ледзь валок сябе. Чорная, рухомая куча... Ён усцягнуў пасля яе на воз. Пад енк і лаянку недзе пераціскаў-перавязваў. Дзе — і сам не ведаў. Па галёнках, мусіць.
За імі не беглі. Заняўся хутар. Сухі ад лета будынак гарэў без ветру, як сярнічка.
Калі яны з'ехалі ў яр і звярнулі да Віліі, полымя знікла за лесам.
«Вось табе і фронт. Пад бокам... Праз бакі вылез...» — Пятрок маўчыць.
Цюпкае конь, стогне чалавек, цыльгіча кола аб атосу. Цесна яму.
Чорнае неба, як намоклы, цяжкі рызман, душыць на плечы.
Бліснулі былі зоркі, як іскры ў даўнім прыску ад ветру, — дзве-тры. Дзіўна, у такой цемені...
Закалюжжа 'шчэ было далёка.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Двое блудзілі ўначы, у хваробе. У аднаго балела душа, другому куля пашчапала галёнку.
Адзін пасля не вярнуўся дадому з вайны. Пра яго мо' і сапраўды-такі храбрую смерць паведамілі ў вёску. Чалавек можа і хацеў змыць з сябе цень, а мо' і яго звёў са свету недарэчны выпадак. Хто ведае, як павярнулася б лёс, каб чалавек пайшоў разам з усімі, а не папёрлі яго аднойчы перад сабой у раён два салдаты.
Другога — рана загнала ў шпіталь, выратавала-такі ад фронту. Ён лічыў, што павязло. Яшчэ ў Вілейцы, у бальніцы, ёрзаючы хворай нагой па белых прасцінах, ён тыкаў у нос сваімі паперкамі-дакументамі і сёстрам і ўрачам. Ён — партызан... Насіўся з імі ў раёне, пасля аж у штабе партызанскага руху неяк выхлапатаў паперу, дзе значылася, што «рана палучана пры выкананні баявога задання». Дабіўся быў першай групы і пенсіі.
Спачатку моцна кульгаў, спатыкаўся; усё крычаў, што праз гэта не захацелі яго зрабіць старшынёй у калгасе. На ключніка сам ірваўся пайсці, ды жанчыны да кладавой не падпусцілі і блізка. Далі брыгадзіра.
Бегаць за бабамі кульгаваму? Абразілі. Ён плюнуў на ўсё, — астаўся з боку прыпёку.
Надарыла выпадак, і яго па часе зачапіў неяк старшыня сельсавета Юшковіч, што, калі не падводзіць памяць, пасля Перапёлкі стаў. Перапёлка пайшоў жа тады на фронт.
Трапіўся кульгавы чалавек на вочы Юшковічу. Хлеба лёгкага стаў дапаганяць, клясці жыццё.
— А ты б, як цябе там... у папы падаўся б. У нашу царкву, я чуў, поп трэба. Я на тваім месцы лягчэйшага хлеба і не выбраў бы. Абібок... Кінь лайдачыць, кажу! Жанчыны ў плуг упрагаюцца, лапатамі загуменне ўскапалі... Сама ўпору такога бугая зацугляць. На выскачку б нёсся. Душы няма...
Юшковіч пажартаваў, а кульгавы дачыкіляў туды, куды трэба. Быў знік надоўга з вёскі, а перад самым канцом вайны на вялікадня правіў ужо службу ў грынёўскай царкве.

Двое блудзілі... Уначы. Адзін з іх мОжа і выбіўся б на рань, каб не загінуў; другі і цяпер галёкае ў цемені, трывожыць людзям душу, цягае сваю рызу, як хмару, з хаты ў хату ў калядніцу.

А мо' чалавек хапіўся за свае грахі?

Ёсць што залечваць...

А вы?.. Вы?.. Што ў галаве думаеце?! Да каго цягне вас? Па што? Забыліся?..

Хаця, з выгадай поп. Вы яму даравалі грахі. Чаму ж... і ён вам даруе. Любыя. Свой. Самі выгадавалі. На сваіх грахах. А грашыць і вы не зломкі... не толькі ойча. Ёсць. Пальцам пакажу!

Хлопец аж заходзіўся. Увесь кіпеў, махаў рукамі — сек згуслую духоту ўгары пад столлю.

Свяжыла здалёку праз расчыненае акно. Сырая ноч несла ў клуб, сыпала на застолле пахі старых гуркоў з град, зялёнага 'шчэ кропу недзе з-пад прызбы і белыя матылькі — на агонь...

І раптам... голас... Пісклявы, высокі, нудны, нібы рэжуць каго. Зал — як на вуголлі. Замітусіўся, заківаўся, заскрыпелі лаўкі, штось трэснула, забарабаніла, шлёпнулася вобземлю. Цішыня бы і не пачавала.

Высокі нудны голас — плач... Плакала Раіна, прымаўляючы:

— А па-айду ж я адгэтуль... А ізно-оў на нас навалілІся... А і гэты недавярак... А што яму трэба?.. А на-ашто ён чапае чалавека боска-ага?..

Сыпануў малады смех, як густы дождж. Падкасіў плач-хліпаўку, заткнуў на хвілю пісклявае горла. І тады пачалося... Як ветрам сарвала. Сплялося, счапілася, зблыталася...

— Чаго гавыліш, нябітая?..

— Нашто яму Сабольскі? Нашто чапае папа?..

— Пра ўсё ўжо забыліся. І ці праўда гэта?

— Ча-аго наплёў... Во чаму іх вучаць!.. Во!..

— Бачыш, выдумаў як. Спец...

— Здумаў усё, здумаў... Жартачкі...

— Цягне, што ката за хвост... Я, мілы, прама скажу...

— А гэты прабраўся ў папы... Скажы. Залез...

— Пад суд яго! Дзізярцір...

— Абсалютна!..

— Было... Было... Яшчэ і якое. І сягоння каменская баба скажа, як ён спёк яе... Жывая...

— Каравятнік!

— Абсалютна!

— Абраза! Цяпер не даюць папоў абсмейваць...

— Мала яму гэтага...

— Папы ўсе такія...

— Гнаць! Ён мне спаць не дае штоcurr! Балбоча ў званы, як цацрук... Над вухам...

— А ты хату адсунь далей ад званоў...

— А трэба яны нам, як сытаму кату масленіца...

— Ха-ха-ха!..

Леанід чакаў. Выгаварацца — сціхнуць. Не. Тут не тое. Пачалі ўставаць, разыходзіцца.

На сцэнку ўскочыў Авяр'ян, спыніўся ля трыбункі. Злаваў.

Клуб — успораны вулей. Не зважаюць і на яго.

— Ці-іха!..

Не памагае.



— А ну, адступіцеся ад дзвярэй! Ад дзвярэй адыдзіцеся, кажу!.. Ніхто не аб'явіў, што лекцыя закончана. Што гэта?

Шум ападаў. Людзі ўслухоўваліся, мо' таму, што чалавек стаў шмат гаварыць. Паднялі галовы.

— Што за панада, скажыце мне, распаўзацца? Га?

— Раіна збегла...

— Га-га-га...

— Таварышы! — Авяр'ян адышоўся ад трыбункі. — Ад праўлення і калгаснай партарганізацыі кажу дзякуй... давай сюды руку, Гаўрылаў... студэнту Гаўрылаву за помач нам у лекцыях. Думаю, гэта наша не апошняя... А там, — ён кіўнуў у залу, — ці не ты, Волька, ды і многа хто, распіналіся, што такога не было. У мяне спытай. Скажу... Ды і ў другіх, — калі мо' памяць адняло. Другія помняць...

Яны сышлі са сцэнкі. Удваіх. Уперадзе — малады, вясёлы. Смяяўся, паказваў зубы. Ззаду — спаважны мужчына. Сур'ёзны, ад нечага ў клопаце. Не сказалі, што вечару канец. Ды і далёка 'шчэ было да таго. Рассоўвалі лаўкі, стаўлялі да сцен, піхалі ў парог.

Музыкі сыпанулі польку.

Раптоўны цяжкі град малаціў падлогу. Шалелі каблукі. Вечарынка толькі пачыналася.

Леаніда абступілі, не выпусцілі...

Што ён мог зрабіць...

Горад спаў.

Горад жыў.

Шэрая асенняя ноч атуліла яго ў мяккую мярэжу, бы вялікая-вялікая птушка з асцярогай хавала пад крыло вялікае птушаня.

Шэрыя, аж чорныя, дамы; чорнае, аж бурае, віслае неба; жоўтыя, аж белыя, негустыя агні; моцныя, аж крыклівыя ад нецярпення гудкі на вакзалах; шпаркія, аж вёрткія, як мышы на голым таку, таксі на асфальце, — бадзёры, неспакойны ў сне горад...

Ліхтары ў німбах, што месяц пад поўня, калі варожыць на змены, — угары туман; тэлемачта ў чырвоных ягадах, тыя аж дрыжаць, бы вецер там уверсе возьме іх ды трывожыць.

Ноч ціхая, стоеная. Не цягне на сон: хараство, нязвыкласць на душы...

Была часіна, калі трамвай, празвінеўшы на павароце, мчаў праз увесь горад толькі з адным якім познім пасажырам, нервова торкаючыся на пустых прыпынках, кіраваў туды, за доўгі перакідны мост, дзе, зусім на краю горада, рабіў яшчэ паварот і ўжо цішэй і спакайней сунуўся назад, мо' каб неўпрыкмет, бывае, ад рэдкіх воч шмыгнуць у парк, на супачынак. Нашто будзіць лагоду начы перазвонам...

Пасля трамвая зменшала і машын. Не мітусіліся таксі; быццам плылі, не палячы фар. Для чаго жахаць застыглую цемень?.. Яна — спакой, ціша...

Жывая, нязвыклая ціша...

Неба бы падсмалілі ліхтары, што мо' вунь якія гарачыя, не крані іх. Вохлапкі хмар застылі, заблыталіся ў мярэжах і не схлынуць да рання, да свежых вятроў, што прачынаюцца ўсходам зары.

Хмары сцерагуць цішу.

Адкуль і што, раптам у гэтую нязвыкласць і спакой уварваліся незразумелыя, зусім жа чужыя для горада гукі. Яны, напачатку глухія і далё-

кія, пасля смелыя і частыя, плылі адтуль, з поўдня, ад аўтазавода, дзе аж два гарадскія паркі.

«Крлы-крлы... Крлы-крлы...» — варушылася неба.

Яно было жывое. Аж краталася. У яго сажы нельга было ўгледзець хоць бы што падобнае на караван; мо' ад гэтага яно варушылася ўсё, валюхала хмарамі-крыллем...

«Крлы-крлы... Крлы-крлы...» — стагнала неба.

Гукі праціналі нутро, глушылі ўсё на свеце, трывожылі ноч, смела, шалёна; яны аддалялі горад, запаланялі, знішчалі яго. Спрадвечныя гаспадары лугоў і лесу — журавы — абклалі горад; задзірыстыя, назойлівыя — бы там, дома, на бяздонных, халодных імшарах. Ці не для таго яны абралі ноч?..

Такі караван рэдка даводзілася калі спатыкаць.

«Крлы-крлы... Крлы-крлы...» — жыло неба.

Трэслася, мяльцешыла. Выдавала, нехта трэпле за рагі бурую коўдру начы.

Было штось дзіўнае ў тым, штось рэдкае ад вялікай радасці, якая плыла ад жыцця, — яе неслі асеннія, моцнагрудыя, маладыя птахі.

Над сонным начным прасторам плакалі журавы, пакідаючы на росганях горад.

«Крлы... крлы...» — самотная гамонка сыпалася згары, ужо здалёку, на развітанне. Гэта быў голас з далёкай, труднай дарогі. Гэта — сум, утрапёнасць ад волі і лёту...

«Крлы...» — далёкае, апошняе ад вялікай грамады.

Жыло нешта няўцямнае ў лёце птах, у іх начной трывозе-песні. Яны шыбавалі з поўдня на поўнач. Мо' важак звярнуў на гарадскія агнізоркі, зблытаўшы іх у цемрыве з хвастом Млечнага Шляху? А можа там, за горадам, мелася месца, вядомае важаку, дзе начлег і спажыва? Хто ведае, адкуль, з якой далечы гэтае няўрымслівае птаства, якое мо' збілася са штыху і намарылася да смерці?

Ноч...

Кралася самота. Стала зябка. Ці не жураўлінымі крыламі махнулася над горадам недалёкая зіма?

Было нешта згублена, — блізкае, незразумелае. Па ім стаў рэзаць душу незнаёмы сум.

Журавы пакінулі горад.

Журавы пакінулі боль.

Леанід паспяшаўся.

У памяці ажыла дарога, дом і яна — каго прынеслі з сабою, аб кім напомнілі журавы...

У галаву лезлі і словы другой, інакшыя, чужыя пасля дому, далёкія пасля жураўлінага крыку.

Птахі прынеслі і панеслі з сабой аднаго,— і пакінулі другога чалавека. Яны ўчынілі гэта... Яны знеслі Галіну; вярнулі да таго, аб кім нікому не сказана, і хто цяпер мо' і не да патрэбы...

У галаве стаялі млявыя словы:

«Лёня... Не цалуй у вочы. Вейкі нафарбаваныя. Я не мылася ад учарашняга. Дзеля іх. Папсуеш...»

А сама яна цалавала прагавіта, балюча, злосна. Гэта ад таго, што такі час мінуў. Расстанне...

Яна — Люда Зімчанка. Невысокая, з яго, чарнавалосая, з кірпатым тварам, які маюць украінскія дзяўчаты; густыя каштанавыя валасы носіць кожны дзень па-другому. У чуць-чуць неўпрыкмет касаватых вачах — бляск, бы яны са штодзённай слязой. Мяккі голас, мяккія





шчокі з ямачкамі, што ледзь заўважыш пры смеху. Зграбная з фігуры, танкавая. Ногі таўставаценькія, — мо' ад гэтага і заўжды нездаволены позірк вачэй з блакітам, бо даводзіцца ж насіць сукенкі на адзін і той жа доўгі фасон.

«Мы не можам чакаць літасці ад прыроды; узяць яе — наша задача...» — кпілі студэнты з такога.

Яна — хімічка. На другім курсе. Летась жа толькі паступіла ва ўніверсітэт. Да таго была на гадзіннікавым заводзе. Два гады. Паступала ж штогод, — правальвалася. Перш — у тэатральны, — не залічылі. Другі — у медыцынскі, — не прайшла па конкурсу. Ва ўніверсітэт паступіць памог ужо двухгадовы стаж і яшчэ мо' хтосьці.

Прыехала ў Мінск з Кубані. Бацька ў яе там — аграном. Пажыўшы ў горадзе, не ўзлюбіла вёску.

Ныла па тэатры, па кінаакцёрах. Шалела ад голасу Марка Бернэса...

«Лёня... Пра наша з табой ніхто не знае...» — млявыя словы кружылі галаў.

...Пазнаёміліся выпадкам. Леаніду здарылася памагчы прыпісаць сваю дваюрадную сястру. Зайшоў раз да яе на кватэру і ўбачыў тады сумную, безуважную да ўсяго дзяўчыну. Яна не загаварыла ні разу, пасля зусім знікла. Дзяўчынёха працавала з яго сястрой, яны і жылі ўдзвюх на кватэры.

— Хто яна?

— Людка... — адказала сястра.

— Сумуе чагосьці?

— Ды не. Паступаць рыхтуецца. Трэці год запар... Не шанцуе.

— А-а-а... Куды?

— Да вас.

— А што яе цікавіць? Ну... да чаго душу мае?

— Спачатку афіцэры, цяпер навуковыя работнікі. На заводскіх хлопчыкаў не глядзіць. Яшчэ «Савецкі экран»...

— Гм... На які паступае?

— Па хіміі яна.
— А ты як?
— А я кінула вячэрнюю. Дзявяты пачала і кінула. А-ат... Нашто?
— Што ты? Дзяўчына... Адкуль у цябе гэта?..
— Людка гэтак гаворыць. Паступае сама, бо студэнткай хоча пабыць. Весела. А мне да той студэнткі два гады. А ўжо дваццаць трэці пачаўся.
— Састарэла, выходзіць?
— А што? Маладосць мінае. А вечары займаць кніжкамі...
— Дык што ты надумала далей?
— Нічога. Выйду замуж. Папрацую цяпер. Збяру барахла...
— А з кім ты дружыш, не сакрэт?
— Свае хлопчыкі надакучлівыя. Стылягі. Ёсць курсанцік адзін...
— Сустракаецеся? У кіно ходзіце, у тэатр?
— Ды не... — дзеўчына мнецца. — Не пускаюць яго часта. Мы самі з дзеўчакамі ездзім у вучылішча...
— Гм-м... — Леанід доўга маўчаў. Пасля пачаў сціха: — Ведаеш што, дзяўчына... Давай у нядзелю ў тэатр... Масквічы ж тут. Тэатр Станіслаўскага...
— А як жа Людка? Яна ж мяне з сабой бярэ...
— Я прынясу заўтра вам білеты...— сказаў Леанід і падумаў: «А там пасля я за цябе, дзяўчына, вазьмуся. Выб'ю гэта з галавы...»
Выйшла не так. Давялося ўзяцца не за таго. Сястра маўчала і ў тэатры і пасля. Нават не пытала нічога. Спектакль ёй прыйшоўся да спадобы. Чым — невядома.
— Спадабаўся і ўсё. Давай пра другое гаварыць. Толькі не пра ўчарашняе. Я не хачу, каб Людка чула...
— А я ведаю, пра што вы гаварылі. Па маралі вашай здагадваюся... — залапатала Люда.
З гэтага і пачалося.
Тон у яе быў высокі, злосны, не падступіцца. Гэта было не тое непрыкметнае дзяўчо ў пакоі над кніжкай.
Бровы, вейкі, вусны — у фарбе. Плацце чорнае — дэкальтэ. Валасы распушчаны. Пальчаткі чорныя. На нозі нешта абута,— і нічога няма. На спектаклі мітусілася без аддухі. На вуліцы аббегала ўсе вітрыны і афішы, — пазнавала тых, хто кінуўся ў вочы на сцэне, ойкала і без канца, надакучліва падымала рукі за шыю, — папраўляла валасы. Паўтарала сяды-тады:
— А гэта хімія... мне во дзе села... — і стукала кулачком па грудзях.
Вось хто быў небяспечны — тое непрыкметнае дзяўчо.
— Мараль усе могуць чытаць... А жыць? Не, вы мне скажыце... У спектаклі ўсё гладка, добра... Цалуюцца... З мілым рай і ў шалашы. А я не люблю гэтай філасофіі! Не па душы! Мне надакучыла глядзець, як другія ездзяць і жывуць у кватэрках... — яна глуха шчоўкнула пальцамі ў пальчатках. — Гм... Рай у шалашы. Філасофія Адама і Евы. А што рабіць у тым шалашы, скажыце мне? Не, вы мне скажыце... Любоў — гэта яшчэ не жыццё. У добрым жыцці і добрая любоў...
— Я думаю, вы дарма ваюеце процi шалаша... — Леанід не мог схаваць усмешкі. Вядома, што за птушка на калку. Уся наверсе. — У шалашы, у зялёным, дзе сена 'шчэ мурожнае падсцелена, сама лепш цалавацца. Л-лепшага не знойдзеш, паверце...
Люда маўчала. Не чакала такога. Але доўга не думала.
— Хм... Вёска... Знайшлі! Шчасце!.. Рай!.. Каханне!.. Мроі!.. Кактэбель!.. Манака!.. Не, вы толькі скажыце... Шалаш у вёсцы... Ха-ха-ха!.. Пацалункі з рамантыкай... Камары, балота, каровы рагатыя...
— А дзе вы раслі?
— У станіцы. У кубанскай станіцы...
— У кубанскай вёсцы?
— Не блытайце... Я люблю станіцу, а не люблю беларускай вёскі. Бачыла. Была! На бульбу нас вазілі летась. Прыраўнялі...
Яна пакрыўдзілася.
— А якія вы яшчэ вёскі ведаеце?
— Ніякіх. А нашто яны мне?
— А як вы глядзіце на тое, што адзін кітайскі пісьменнік, вы яго ведаеце, яго ўвесь свет знае, лаўрэат... Дык вось, ён кінуў сталіцу і паехаў у далёкую вёску. Простым земляробам стаў, сакратаром партарганізацыі і жыве на здароўе. Раман піша новы.
— Дурань! — кораценька і рэзка. — Хаця, даруйце, пагарачылася. Можна з год паспаць у шалашы... паспаць, пакуль палац збудуецца.
— Я вас з такой філасофіяй і да шалаша не падпусціў бы...
— Дзякуй. Не рвуся. Я жанчына. Як вы яшчэ не разумееце... Нам утульнасць да душы. — Падумала: — Я знайду яе. А то ходзіш шторань ля гаража, дзе людзі свае «Волгі» выкочваюць... Або... на ліфтах, вунь, катаюцца, у ваннячках плёхкаюцца, радыёлкі на балкончыкі выстаўляюць... А ты... Стынь у нейкім закануку ў паганай гаспадыні, якую цярпець нельга. Нервы ўсе папсавала. Жыццё... Шалаш недарэчны...
— Я думаю, на тым балконе прыемней, куды сам дзверы адчыніш. Сам! Сваімі рукамі... Разумееце? Не так? Не? А што вы зрабілі для гэтага? Дзесяць класаў скончылі? Чаго вы апрагаецеся? Вы ж кроку лішняга баіцёся ступіць... Вы не маеце права плакаць па ўсім гэтым... Каб паднеслі вам? І няўжо прыемна будзе ад усяго чужога?
— Наіўнасць... — яна ўсміхалася. Паблажліва. — Я жанчына. Я павінна быць гатова да гэтага. І ў мяне будзе...
— Не ведаю, што ў вас у запасе... На што вам спадзявацца...
— Наіўнасць... На сябе... — ціха, з шэптам, настырна і кпліва.
— Ахвяроўваць?.. Сябе? За гараж і балкон?
— Наі-іўнасць... Нехта гэтым усім ахвяруе.
Дзяўчаты смяяліся. З некага таго, каго яны ўжо, лічы, абвялі вакол пальца.
Цяжка пераносіць смех...
— Як бы я хацеў, каб вы пажылі са студэнтамі... У інтэрнаце. Дзе людзі думаюць, там няма філасофіі чорных акуляраў і вузенькіх штонікаў. Не-е... А за вёску я вам ніколі не дарую... Ма-анака...
«Крлы... Крлы...» — стаяла ў вушшу; аж звінела.
Далёка тая Люда, як і начныя жуpавы...
Душа пусцела. Не-е... Яна ўступала месца другому, блізкаму. Жуpавы, дом... Памяць тушыла млявыя словы Люды, пачутыя ў пад'ездзе; выносіла наверх другое, — яшчэ няўцямнае.
Галаву надоўга забіла дарога. Ад яе не ачуняеш хутка...
...Дождж тады пачаўся вечарам. Густы, нудны; халодны і недарэчны. Шастаў за акном у гародчыку па лісці, слюніў рагаламі вокны; у хаце цёк пісягамі з юшкі далоў, у качарэжнік. На двары, аж ад ганка, хлюпала пад нагамі, — не ступі. Жвір намок і распоўзся. Свежы 'шчэ, не зляжаўся. З гародчыка гнала на падворак салому, высахлы за пагодай канаторжнік і бульбоўнік. Вуліца раскісла. Развезла недзе і дарогу, бо не прыйшоў аўтобус.

Назаўтра дождж не пераціх. У познія абеды ўлупіў 'шчэ больпы. Пад'яснела. Значыць, зноў на суткі. Абкла-ала...

Трэба ісці на шлях. Падвязе нехта. Дарога не спіць.

Селі за стол. Прыцюцькаўся сусед. Малады 'шчэ, а з сівой галавою. Маці паставіла паўлітра. Провады ж. Як-ніяк...

Сусед, сівы Антусёк, далёкі сваяк, адразу ж палез частаваць. Чужым жа...

— Ды я не п'ю... — Леаніду не да таго.

— Во-о... Выдумаў. Чаму?

— Хвароба ад яе, — буркнуў ён.

— Якая хвароба? — Антусёк насцеражыўся. — Не чуў я. Кажы, што за хвароба?

— Хібінская чума!.. — аж зазлаваў Леанід.

— А бач ты, сусед... не чуў... А я не баюся, ліха яе... Я люблю выпіць і люблю па жонцы ўсю радню... — Антусёк піў адзін. Выдавала, праводзілі ў дарогу не хлопца, а яго, Антуська.

На душы было паскудна, як і на двары... ад такога чалавека.

Дождж сцёбаў па шашы, як хто пугай, калоў твар. Касы, калючы.

За абочынамі курэў сівы туман-пара. Рэдкі, нясмелы, ён памалу-памалу поўз у бярэзнік, дзе табуніўся да ночы.

Хліпала зямля.

Халодны дождж студзіў гарачую раллю.

Зябла поле.

Прамакаў плашч. Цела няньчылі дрыжыкі.

Леанід не сцярпеў, — выйшаў на шлях пад вечар. Хацелася заўтра ранкам сесці ў райцэнтры на аўтобус, каб за парой быць у горадзе.

Пад бярозамі, дзе ён быў надумаў чакаць машыну, было 'шчэ горш: цякло з галля. Цурком. Адзін ратунак ад дажджу на пустой дарозе — ісці. Прывыкнеш. Угрэешся, — і цёпла.

Машына дагнала ўжо далекавата ад дому, ля мастка, дзе дарога з даваеннымі 'шчэ калдобінамі. Гліна. Колы прыбуксоўваюць у кожнай яміне.

Яго ўзялі, — не пакідаць жа чалавека нанач у дарозе. Мокры ж з ног да галавы. Зваліцца ад прастуды.

Машына — газік. У кабіне — стараваты шафёр і дзве дзяўчыны. У кузаве — мяхі з бульбай, растрэсенае, упэцканае ў гразь капуснае лісце і прывязанае на тасьму шчаня. Месяцы тры яму. Вымакла... Што аблезла. Калоціцца, бы з вялікага страху. Вочы сумныя, палахлівыя. Круцяцца, просяць... Ці не цяпла і шкадобы?.. А мордачка ў яго кругленькая, носік беленькі, як той гузік на чорным рукаўцы ў дзіцяці. Прыгожы, бедны пупсік... Нешта пішчыць цененька-цененька, бы ў саломінку...

Леанід сеў на чамадан, падняў на калені мокры цёплы камяк і прыкрыў яго крыліною набраклага плашча.

Дождж цяпер быў далёка ў полі.

Пад'язджаючы да пасёлка, машыну спынілі. У лесе. Дзяўчына ў пакамечаным плашчыку ўскочыла з каляса праз борт у кузаў, не гаворачы нічога, забрала з кален у Леаніда сабачку, тузануўшы, абарвала тасьму і шпурнула яго праз борт у мокры лазняк, далёка за кювет.

— Ты што? Здурнела?..

Дзяўчына, здаецца, з Закалюжжа. Тая, што выехала нядаўна ў горад, выскачыла там за шафёра і цяпер на сваёй, лічы, машыне паяўляецца дадому. Яна толькі раз зірнула Леаніду ў вочы, што значыла: «Зрабі, во, чалавеку ласку, падбяры на дарозе... А што яшчэ заплоціць... За якім там траяком хоць ты сам да яго ў кішэню недзе лезь».



У гарадскім пасёлку было пуста і мокра. Машыны не хадзілі. Злезшы на дарогу, Леанід адчуў, што не хочуць слухаць здубелыя на слаце рукі. Можна было пагрэцца ў чайной.

Нехаця боўтаючыся ў талерцы, Леанід пачуў, як нехта тузае яго за калашыну пад сталом. Просіцца на калені...

Раптам данеслася знаёмае цмоканне; нехта засвістаў у саломінку.

«Шкада сабачку... Людзі, называецца... Лішні стаў — на дарогу...»

У вочы кінулася мокрая тасёмка, — цягалася па падлозе.

Леанід адсунуўся. З-пад стала на яго глядзелі сумныя вочы. У іх была радасць...

Есці не хацелася...

...Леанід спяшыў.

«Крлы... Крлы...» — хроп недзе далёка сабачка, свістаў цененька ў саломінку.

Леаніду не хапала чалавека, якога пакінуў аднаго там, не сказаўшы нічога на ростані. Ён ведаў.

Ён уразіў таго чалавека, пакрыўдзіў, не прыйшоўшы тады ўначы да саду.

«Ніхто мне не даруе».

«Крлы... Крлы...» — міналі яго машыны.

Заныла недзе глыбока ў лакці рука. Ніяк усё не гаілася...

Леанід спяшыў дадому, у інтэрнат.

Над горадам затоена дрыжала поўнач.

Галіна не магла адчыніць брамку.

Тапталася і бразгала клямкай. Праклятая клямка... Высунула бліскучы, вычышчаны пальцамі язычок і дражніцца.

Хата была высокая, але малая і непрыгожая; такі ж і частакол ад вуліцы, — высокі, зялёны ад сырасці і старасці, каструбаваты — да яго не дакраніся — і зусім недалугі: нахілены, жывасілам абломаны зверху.

Стаяла хаціна далекавата ў двары аж за вулачкай, і таму адтуль не было відаць, што робіцца на вуліцы. Над страхою звісаў сук-рагач, ад вярбы. Другі быў адшчэплены ад дрэва і валяўся ў гародчыку. Даўно, бо пусціў атожылле, прырос. Ці не вясной яго адвіхнула ў буру?

Паркан ад гароду паламаны, парканне рассунута, мо' свінні лычамі «перасыпалі» яго, лазячы ў грады. Гародчык — перакапаны і пусты. Валяўся доўгі, звялы, белы ўжо, як салома, утаптаны ў зямлю сухі бульбоўнік. Аблез ад сонца і вады.

На двары блішчала гразь, туды, пад хлеўчукі.

Галіна бразгала клямкай і не бачыла, дзе б можна было пралезці на двор. Хіба зайсці з гароду?

«Што там такі за гаспадар? Відаць, і на душы ў яго тое, што і на двары...»

Гаспадар адчыніў сам. Прыйшоў з вуліцы. Гэта ён пераскочыў быў праз плот недзе з чужога гароду.

Стукнуў кулаком, як молатам, па клямцы, піхнуў старым чаравікам варотцы, раз, другі, — аж затрашчалі.

Галіна адскочыла.

— Добры дзень. Хто дома?

Ні чорна, ні бела.

Твар хлопца быў знаёмы. Хаця чарнявыя ўсе адзін на аднаго падобны.

Смуглявы хлопча не глядзеў на яе; пайшоў наперадзе, адчыніў дзверы, прапусціў прайсці, зачыніўся і не ступіў далей ад парога.

Пакой адзін. Вялікая печ, вялікія драўляныя ложкі, два; у кутку вялікі стол і маленькія нізенькія лавы. Сцены шэрыя, ад парога рудыя, там, дзе лямпа, відаць, надоўга прыкаравала была да іх; даўно-даўно не беленыя. Далёка ў куце — абраз, без рушніка, аклееЕны паперай. Шмат акон, у хаце светла і відаць, што не мецена. Над сталом на сцяне — плакат-кінарэклама. Дзве чорныя галавы зліліся ў адну пляму: мухі за гады чатыры адседзелі на ёй сваё, што хочаш, во, вымалявалі. Пахла цвіллю і мылам.

Галіна сцёрла рукой лаву, прысела, паклала на стол сумачку, пасунула яе далей.

— Значыць, надоўга... — першае, што сказаў ён.

Яна павярнулася на голас. Убачыла ўзлахмачаны, а мо' і кучаравы чуб, — у траве ці ў сене... Заспаныя вочы... Абвіслую ніжнюю губу пад ладным носам. У вачах — абыякавасць да ўсяго. Рукі ў кішэнях. Пазяхае.

«Ababiўся недзе п'яны... — падумалася Галіне. — Гэта яе сын. Як яна хваліла... Для маці любы сын — дзіця. Сваё...»

— Дзе маці ваша? Паклічце мне...

— У мяне матка ні з кім чужым не гаворыць. Абсалютна. Я гавару.

— Добра! Вось ты і пакліч матку! Мы пагаварылі ўжо з табой... — Галіна раптам успомніла, дзе яна магла бачыць гэты сонны з фанабэраю твар. І не раз... «Вось ты які... Ягадка... Ты падумай, ашчэрыўся адразу...»

Такога хлопец не чакаў, але не збянтэжыўся:

— Матка, значыць, трэба... Матка. А мо' я падыйду? — выскаліўся ён. — Маўчыцё, значыць... Добра. У лесе яна. За мохам паехала. На двары гразь. Мо' бачылі? Абсалютна...

— Маці? За мохам? А ты валяўся ў сене і адсыпаўся пасля п'янкі? Язык 'шчэ паварочваецца гаварыць...

— Ну-ну... Паехалі... А вам што? Мая матка. Абсалютна.

— Не мая ж. Як цябе зваць?

— А хрэн яго знае...

— Ты падумай... Тц... Ай-яй-я... Лаяцца ўмее. Ты падумай...

Ён стаяў, падпёршы плячыма вушак; рукі ў кішэнях. Адвярнуўся быў ад яе, чмыхаў і круціў галавой, ці не хаваў смех.

— Сарвалася з языка. Зляцела... Само. Ды пасля ўчарашняга... Дружкі тыя, ат... За маё пілі. А сёння да трактара ніхто за мяне не пайшоў. Маю галаву дзяўбсці будуць. Э-э-ха-ха!.. Лю-юдзі... — ён пазяхнуў, моцна, на ўсю хату, не дастаючы рук з кішэняў.

— А вас як завуць?

— Я з бальніцы.

— А-а-а... Я ж вас бачыў. Ведаю. Да маткі, значыць? З бальніцы? Яна зараз прыцягнецца. Даўно ўжо недзе прапала... — у хлопца ў вачах была ні то радасць, ні то ён проста хацеў сказаць нешта добрае, ды не мог. — Яна цяпер здаровая. Робіць усё сама. Не трэба мне суседзяў цягаць... А то дажылася была, што ў бальніцу людзі адвозілі. На калёсы не магла ўсцягнуцца...

— А сын не мог прывезці?

— Я ж пры трактары. Як вы далёка ад усяго. Абсалютна. Не адпусцілі... — хлопец нёс лухту, гледзячы ў вочы. Дабрата тая, што была з'явілася на твары, знікла. Нарэшце змоўк.

Нешта ў парозе пацурчэла з лавы на падлогу. Пасля капала, пакуль



не сціхла. Адтуль недзе вылез кот, адышоўся, лёг пасярод хаты. Абліз-ваўся і думаў сваё. На людзей і вусамі не павёў.

— Ты ў камсамоле?

— Ого!.. Успомнілі. Страх прынеслі? Бы-ыў...

— А цяпер?

— Выбыў... — хлопец зноў павесялеў, дастаў руку з кішэні і доўга цёр вочы. Пазяхнуў яшчэ і выцер вусны. — Абсалютна.

— Перарос?

— Білет кот сцягнуў... — ён дастаў другую руку з кішэні і паказаў на падлогу. — Збяёдаў. Ён самы. Віноўнік. Выключылі...

— Радуешся...

— Хоць камсорг ззаду не шлындае. А то праходу няма. Вып'еш — і на сход цябе. Выключылі, значыць... Абсалютна. Паплакаў і сціх. Дык вы да маткі па хваробе... ці па камсамолу прыцягліся? Дарма толькі з гароду валокся. Матка ў лесе! — крутнуўся ён і ўжо быў на парозе.

Галіна ўзарвалася з лавы і схапіла яго за руку. Яна зразумела, што выпусціш гэтага хлопца — не зловіш. А для чаго тады прыперлася сюды?

— А ну, вярніся! Да маці ішла, але і з табой гаварыць буду!.. — Галіна зазлавала, і ці не ад гэтага хлопец стаў раптам мяккі. Пайшоў за ёю да стала і сеў на яе месца. Сама яна адышлася ў парог.

— Не ўцяку. І не думаю. Сон не возьме, раз ускруцілі... Абсалютна! А пра што мне гамонку весці з вамі? — ён раптам задзёр галаву, Галіна ўгледзела брудны расшпілены і пакомканы каўнер белай сарочкі. Ён вылазіў з-пад зашмальцаванага сукна — пінжака.

— Памыўся б хоць. Да дзяўчат ходзіш... Бруду... Ты падумай... Але чорт з табой! Мне маці тваёй шкада. Гаруе... Ты разумееш, якое яе жыццё за табой? Колькі месяцаў не падымалася, а ты... Маўчы!.. Прывязлі яе, пакуль з халаты ссадзілі сёстры, халаты мяняць сталі. Распрануць не маглі. Аплік у спадніцы ледзь расшпілілі. Заржавеў. Спала колькі апранутая. Нават верхняе не мяняла... Лазні не бачыла. На суседзяў пакінуў маці. А сам вочы заліваў... З гора? Ці не так? Маўчы! А цяпер? Маці на ногі трохі паднялі, дык ты гразі на двары за яе не засыплеш... Для чаго толькі ты на свеце?.. Жонку прывёў бы ў хату маці дагледзець, раз у самога рукі чорт ведае дзе...

Ён падняўся, адышоўся да акна, закурыў. Доўга глядзеў на яе, думаючы пра нешта далёкае, сваё. Не вытрымаў пасля, перабіў на слове, рассмяяўся:

— Дык аставайцеся за жонку, што гаварыць... Не праганю. Такой у нас не знойдзеш. Я нават курыць кіну... — ён патушыў у пальцах папяросу і пацерабіў ззаду плячо: — Дык не астанешся ж... З гарадскімі недзе керамі абжымончыкі рэжаш... Га?

— Дурань! Я да маці да тваёй прыйшла... Лячыцца ёй яшчэ трэба. З сэрцам у яе... Ты падумаў пра гэта? Ты... — голас яе ціхі, пасля злосны просіць прыйсці да розуму.

— Гэта я? Я? Дурань?.. — ён скіраваў да яе, ступаў, зыбаючыся па падлозе. Дайшоў да сярэдзіны хаты, крутнуўся і са злосцю шпурнуў нагою ката. Той апынуўся аж пад ложкам ля печы. Зашыпеў. Працяжна, са свістам, — вось-вось змяя з падпечча выпаўзе.

Яны сыходзіліся пасярод хаты. Не ведалі, пэўна, што маюць рабіць... І як абышлося б — невядома, калі б у хату не ўбегла вяртлявая Волечка з фермы. Расчыніўшы насцеж дзверы, ухапіла ў качарэжніку рыдлёўку і толькі тады ўбачыла іх. Спопаразку спынілася. Пачала папраўляць хустку на галаве.

— Бо-о... Здрасцвіцця... Вы да ае? А ну, Пэрац, марш матку змяні!.. — закрычала яна раптам на хлопца і патупала за парог. Як тая козачка, борздзенька, задзёршы галоўку.

— Раман... Раманька... — чуваць было з двара. — Што ты дзе робіш?

— Вайну тачу!.. — гыркнуў ён са злосцю. — Павязло вам, дзевачка... Абсалютна... — пастаяў яшчэ, падышоў да акна, прынік да шыбы. — Фіў!.. — свіснуў праз зубы, ціха так. — Бабы малайцы, — і лянiва пераступіў парог, то хаваючы, то дастаючы рукі з кішэняў.

— Мая ты дачу-ушка... — той самы голас, што клікаў быў Рамана, чуваць яшчэ са двара. Знаёмы голас.

Жанчына перакулілася праз парог. Стала і ні з месца. Задыханая, спацелая. Без хусткі. У валасы нападала сасновага шылля. Ля вуха прыкарэў кавалачак грэбня. На грудзях расхрыстана фуфайка, старая, латаная. Пад ёй чырвоная нажутка. На нагах мокрыя гумовыя боты.

— Мая ты дачушка... А я ў галаве не прыйду ніяк... Хто гэта, думаю... Прыйшла... Рада я. А ён, мой Раманька, ці быў хаця дома?.. Чаго ж вы стаіцё на хаце? Сядзьце. Няўжо ён вас не прасіў? Ён у мяне добры, сталы ўжо. Не надта паслухмяны толькі. Хаця дзе вам слухаць нас старых... Не тое, мусіць, гаворым. Цяпер новы свет. Дык вы сядзьце. Да стала бліжэй падсуньцеся. Чысцей там. За работай дык і не заўсёды часу бывае агледзецца каля хаты... Сядзьце. А мае ногі палепшалі. Я ўжо, во, і на работу хаджу. Сядзь — дачушка...

Жанчына не ведала, што рабіць.

...Ля рэчкі было несціхотна, сакатала па каменні вада, нехта гаманіў і дзёўбаў тапаром па бервяне, — усё чулася ў аселіцы, дзе яны ішлі.

З гародаў свяжыла. Пахла альховае лісце. Яго наабіваў ля ракі вецер, яно прэла ў мокрай траве на беражніцы.

На гасцінцы грукатала. Там лёталі машыны з прычэпамі. Аўтакалона валакла лес на сплаў да Віліі. Дзень і ноч.

Шарэла. Машыны ішлі з падфарнікамі. Усляпую. Ведалі дарогу, звыкліся.

Чорнае, у сажы, неба, чорная чэрствая зямля. Восень. Вечар студзіць твар; далей у гароды — нясе золкі водар выкапанай і скіданай на мяжы ў кучкі рэдзькі, свежай, здаровай.

Мінуўшы загароддзе, яны адразу выйшлі на гасцінец. Пастаялі. Рассталіся.

— Дзякуй, дачушка... Не забывайся... — жанчына, ківаючы галавой, шаптала. Доўга 'шчэ глядзела на бальшак, дзе калыхаўся ў цемені невыразны камячок, і плакала.

Раман Пэрац жыў па той бок Грынёў, на канцы вёскі. Гэта, лічы, аж пад самае Закалюжжа.

Ісці дадому бальшаком было бліжэй, чымся вёскай праз усе Грыні. Ды 'шчэ захацелася б забегчы ў бальніцу, а там можна напаткаць Васіля Міронавіча. Так недарэчы.

Пасля ад'езду Леаніда Галіна не магла глядзець на Васіля. Ён здаваўся ён нейкі недалугі, вялы і рахманы, як цяля. Ён ёй не падабаўся.

Пілі яны, колькі хацелі.

Даўно ўсё прынялі са стала і цяпер толькі гаварылі. Уволю.

Накурылі-надымілі. Не чулі дыму і дзвярэй не расчынялі.

У другой палове хаты плакала дзіця. Давалася ў знакі. Там ціха гаманіла Анэта. Відаць, схіліўшыся над калыскай.



— Ну як, мілы, твой сынавей? Цяльпук недзе ўжо ладны... га? — Выжлятнік лапаў Дзедзіху за рукаво. — Вязе табе, мілы, як і вязло. Скажу прама...

— І я гэта гававу... — Джвучка адхінуўся ад стала і ўладзіў локці на падаконнік.

Іх трое. За сталом. Стол тут жа з праходу, як увойдзеш у хату.

— Я, мілы, прама скажу... Пры табе ўсім жылося. І нам вязло, — Выжлятнік пачынаў здаля. — Ты неяк падход да людзей меў. У галаве не месцiцца... Сем год старшынёй... Сем год! І на табе! З'елі... А каго на месца? Шчаня. Яму і дваццаці шасці няма. Камсамолам на матацыкле ўсё прыязджаў кіраваць. А цяпер — бац! Старшыня-я...

— Шчаня... І я гававу. Малако на губах... — Джвучка ўпёрся локцямі ў шыбу. — Мяне столярам хоча звабіць... У будаўнічую бвыгаду ўпёвці. Дудкі...

Дзедзіха шмат выпіў, — даўнейшая старшыньская звычка. Балела галава, ныла ў сярэдзіне, — і ён без аддухі курыў.

— А я, Андрэй... — Выжлятнік гладзіў адрослыя сівыя валасы, задзіраў галаву і глядзеў недзе ў столь, бы чытаў з яе. — Я, мілы, прама скажу... за табой у калгасе мала быў. Пры табе ў лесніку пайшоў. І жылі мы, мілы, пальчыкі абліжаш, прама скажу... — ён уставіўся на Дзедзіху, аж зыркаў у вочы. — А цяпер? Жонка мая была ў калгас не пайшла. Дык ён што ўздумаў? Гародзік хоча шаснуць! Пятнаццаць сотачак пакінуць, гэта каб адумаліся мы. Аскубсці. А тады зусім аголіць. Няхай. Не загіну. А жонку не пушчу. Знарок. У лесе на ягадах больш выкленчыць, факт!

— Пвы гэтым і нашым жонкам патачкі няма. Высока лётае...

— Мілы, не перабівай. Дай мне чалавеку душу сваю ачысціць... Недарма ж мы ў Закалюжжа валакліся. Слухай, мілы... — Выжлятнік тоўхаў Дзедзіху ў грудзі. — Гэта не ўсё. За кароўку, шчаня, грошыкі скубянуў. Праз штраф. Карова мая ўсё лета ў поле хадзіла, а я не ў калгасе. Дык што?.. З мяне дзерці павінны? Дзе вы такое чулі? Дзе бачылі? Ці пры табе, мілы, так было? Я вярну свае грошы, вярну... Я напішу, сам адвязу. У вобласці пабуду... — Выжлятнік памаўчаў і пачаў цішэй: — А ты, мілы, дарма сам адмовіўся, прама скажу. Як гэта? Самому пайсці? Са старшынства? Дарма, мілы, скажу прама...

— Надакучыла мне, от надакучыла... Сапсаваўся я... Гарэлка сапсавала...— Дзедзіха ківаў галавою і цёр пальцамі каля воч, там, дзе ў баразёнках ляжалі маршчыны; шмат іх.

— Мілы, ты проста не знаў сабе цаны, чэсна скажу... А людзі зналі. Пры табе, мілы, яны не чулі пра штраф... Скора гэты мне скажа плаціць за тое, што я за вугол хаджу на калгасныя соткі... Зямлю чужую тапчу...

— Хе-хе... Будзеш плаціць і за тое, што пваз февму ў лес ходзіш... — Джвучка падумаў, угледзеўся нечага на стол і аж закрычаў: — Апважэцца! Не пваглыне! Задавіцца!..

Ён, падскокваючы, гаркаў кораценька, адрывіста. Як сабака на жабу. У гарачцы высадзіў локцем шыбу. Яна, цэленькая, выскачыла і легла ў гародчыку на мяккую граду. У хату пацягнула вільгаць. На дварэ пасля дажджу было золка.

Дзедзіха быў і не ўгледзеў спачатку; тады сказаў:

— Ліха з ёй. Падымецца і прыставіцца. А хлопец... ён з галавой. Не дурны, відаць...

— Што ты, мілы... Мілы, што ты... Я казаў і Джвук, во, скажа, змагаць не дасць... ты не ўмееш сябе ставіць... Нейкі, як інтральная паласа,

цяпер. Гэтага ж шчаняці ці паслухаюць старыя? Паглядзім, як ён вясной усеецца... На тваё на гатовае прыслалі. Звезена ўсё, у стажках, у пунях... На працадні тваё выдае. Паглядзім...

Здарылася, што доўга маўчалі. Джвучка пляваў праз свежую фортку ў гародчык. Не плакаў хлопец і ў той палове хаты. Відаць, прыспала яго Анэта. Цікалі на сцяне ля акна ходзікі, бы гэта не Джвучка, а яны адтуль цыркалі ў гародчык.

— Што мавыгуліць доўга... Гавары яму, Мівон. Падпішамся і — двазда хлопцу... Не дадзім пвыжыцца скуле. Пусціць кавэнне — тады... Ужо лыхае ўсюдах з носам, як свіння...

— Ён, мілы, сам ведае, вучыць не трэба. Слухай, Андрэй... — Выжлятнік нагнуўся да Дзедзіхі: — Мо' і спяшыць наперад не трэба? Можа вясны дачакацца? З сяўбой ён пагарыць, як піць даць. А гэта не жарцікі... Кампанія. Раён яго ў парашок сатрэ. А на лета зноў тады цябе. Помніш, як я быў пры табе рахункаводам першыя гады? Я, мілы, прама скажу...

Дзедзіху клікнулі. Ён устаў і схадзіў у тую хату. За ім выйшла Анэта. Апранулася на воку і выбегла з хаты.

— Кароў гоняць. Меркне... — Андрэй здагадваўся, чаго прыпоўз Выжлятнік. А Джвучка? Платон мог і не ведаць. Ды бадай...

Гутарка далей не ішла. Не клеілася. Джвучка працверазеў, мо' ад таго, што з двара сапло праз фортку.

— Не за гавамі зіма, — пакратаў плячыма Джвучка і паёрзаў па лаве.

— Я люблю зіму... — Выжлятнік зноў задзёр галаву і шнырыў вачыма па столі. — Люблю... Такую, каб на дварэ сняжок і марозік далікатны, а ў хаце напалена... Цягне тады на касых, ой цягне. А яны... Белыя, сытыя... Я, мілы, чэсна скажу, люблю зіму, люблю. Па снезе і рагаты кабанчык нідзе не дзенецца... — Выжлятнік сачыў за Андрэем здалёку-здалёку: — «Страляны верабей. Нават брыво не ўздрыгнула. Думае нешта сваё і канцы...» — вярцелася ў яго на языку.

Маўчалі, хоць размова магла ўжо ісці аж у трох кірунках.

Нарэшце Джвучка, прычасаўшыся пальцамі, вярнуўся назад, да ранейшага:

— Я б яму адзін не дававаў. Гэта ж думаць, казаў ты... Ну, хай я тады і выпіў чуць. Але ж за гвудкі з пваўлення выкідваць?.. Не давую... Я тады з заявай пвыходзіў. Сена не хапала на кавову. А ён вылез з-за стала і джаваб-джаваб... Ніводзін ставшына ў нас не пускаў вукі ў ход...

— Ты, Джвук, тады дарма лез, прама скажу. Праўленне разагнаць надумаў. Незаконнае знайшоў... Яны закон табе не такі маглі ўставіць... Не так трэба. Абдумана... — Выжлятнік не хацеў больш кратаць старшыні. Дамовіліся напісаць — напішуць. Не за гэтым жа прыйшоў. — А ты, Андруша, нешта, мілы, звесіўся зусім. Мо' я куды збегаю яшчэ за бутэлькай?

— Не варт. Пайду, відаць, да дзіцяці. Чуваць, варочаецца, не спіць. Закалыхаць яго — рука забаліць. Муха недзе залезла; во, брыкаецца, бедны...

— Чакай... Паспееш. Дык ты да мяне можа ў Грыні падыдзеш на днях... Паталкуем. Трэба. Я цяпер жыву... А мо' зноў да цябе? Не, мілы, лепш да мяне. Прыходзь. У мяне цяпер... — Выжлятнік нагнуўся да Дзедзіхі: — А ў цябе, во, ложак яшчэ адзін драўляны стаіць. Для чаго ён? Я табе, мілы, магу цяпер пазычыць... І пазычу. На любы час. Хоць да вясны... — Выжлятнік шаптаў. Джвучка не слухаў. Глядзеў пад стол. Насёрбаўся; яго трудзіла. — Дык ты слухай... Ты, мілы, для мяне не раз дабро рабіў. Помніць буду. І помню. Усё шыта-крыта было. І цяпер будзе... — вочы яго набеглі сырасцю, нейкай густой, чырвонай. Яны чакалі, дапытвалі, лавілі кожны рух.

— Добра. Сыдземся некалі. Не апошні ж раз. Пайду. Хлопец плача. Анэта бавіцца... Знаеце, дзе мой парог, і да вас дарогу помню. — Дзедзіха ўстаў і пайшоў у другую палавіну хаты, зачыніўшы за сабой у перагародцы дзверы.

Мужчыны яшчэ заставаліся ў хаце. Раіліся. Нечага цмокалі, мо' сп'яна цалаваліся, а мо' шкадавалі, што не ўсё па іх выйшла. А пры чым тут ён, Дзедзіха?

Пасля доўга то расчыняліся, то зачыняліся дзверы. Бразгалі. Ці не перацягваў Выжлятнік Джвучку праз парог? Нехта мычэў і лаяўся. Ціха; не зразумееш хто. Нарэшце пачуўся голас Анэты. Яна накінулася на мужчын. Адчытвала некага, бо той умудрыўся, відаць, абказліць парог.

Стукнулі адны і другія дзверы. Анэта падбегла да калыскі. Хлопец плакаў, аж заходзіўся.

Калі Дзедзіха адышоўся ад акна — мужчыны былі ўжо ў аселіцы.

«Гародамі пакалдыбалі. Вуліца вузкая стала...»

Сын не сціхаў і на руках у Анэты. Андрэя пачала кратаць злосць, аднекуль ішла здалёку. На каго? На сына, што галяшыць без скону? На жонку, — не можа суняць піскляnё гэта? А мо' на тых двух здаравілаў, што пералазілі аж каля рэчкі праз плот? Ён узіраўся на дарогу, куды кіравалі тыя, і яго 'шчэ больш агартала скруха і брала злосць.

Выпала, што не адзін Аркадзь бачыў Выжлятніка на Пагурку: наткнуўся і Дзедзіха.

Але маўчаў. Аркадзь таксама не плявузгаў: перагаварылі ж адразу. Да пары збан ваду носіць. Лось жа сышоў ад Выжлятніка. У Асіпаўскім знайшоў ратунак.

Не дакажаш. Такога мала...

Але ж, во, шлындаюцца людзі. Не адзін лось іх недзе варушыць. Пэрац прагаварыўся быў, адкуль у яго новы гарнітур. Шапнуў пра Чар-чаг раз пад мухай Аркадзю, на трактары ж у яго робіць. Аркадзь і сам мог здагадвацца.

Прыбег ён да Дзедзіхі, — бацькі ж не меў. З маці раіцца? А Андрэй — дзядзька родны, бацькаў брат. Аркадзь шкадаваў Пэрца, — уцягнулі хлопца. А Дзедзіха не мог зачапіць Выжлятніка і цяпер 'шчэ: той шмат мог выцягці наверх. А ці даруе Андрэю калгас, калі даведаецца пра тое-сёе, яшчэ невядома. Грахі мо' і невялікія; толькі ж — воўк сабакі не баіцца, ды звягі не любіць...

Даказаць жа што пра Чар-чаг — зноў-такі паспрабуй... Са слоў? Хто паверыць без сведак? Пры Выжлятніку скрозь Платон трэцца. Сам баязлівы, барыш толькі смела прапівае. Паршываму чалавеку заўжды трэба «чэсны» падбрэхавіч... А Выжлятнік гаворыць смела толькі пры ім. На Платона не-е... Не абапрэшся. З яго, як з казла малака. Не ўпрэе тут.

Парашылі маўчаць, хоць Аркадзь лаяўся як мог. Свярбеў язык хлопцу. Але той трымаў яго за зубамі.

Толькі па вёсцы папаўзлі аднекуль чуткі. Нясмелыя, далёкія.

— Выжлятнік лася збяёдаў і папа хацеў угробіць... — гаварылі напачатку ў Грынях жанчыны, ціха, ушэпт; пасля — мужчыны, рагочучы і падлічваючы, за колькі можа прапіць Мірон тыя грошы. Заціхала было ўсё, пасля зноў варушылася. Пачыналі нанава рассасульваць пра лася і папа, пра папа і лася. Далей-болей. Не сцярпеў, загаварыў сам ойча Сабольскі, прыпамінаць пачаў нейчыя алавяныя рукі, — і вёска стагнала.

Вось і прыцягся Выжлятнік, бо Пэрац сазнаўся, што «сказануў» Аркадзю, — лоб гуза шукае... А як таму хлапцу заткнеш рот? Толькі ж праз Андрэя.

Ну і чалавечыкі... Лезуць, як муха на рану. Спагады і абарону яшчэ шукаюць. Ну што, ну няхай Дзедзіха піў разам з імі калі; было, што перакідаў сабе сёе-тое з калгаснага. Хаця сам не рабіў таго, Выжлятнік усё майстраваў. Варта было толькі вочы зажмурыць. А па гэтым следзе калгас скублі джвучкі, і слова адкрыта не было як сказаць. Усё б усплыло. Не тым пахла такое...

Гарэлка ўсё рабіла. Уцягнуўся. А цяпер вось сэрца не хоча трымацца... І калгас да ручкі давёў бы і сэрца да разрыву. Самае дурное ў чалавеку — любоў да гэтай га́ры.

Яны лічуць Дзедзіху за свайго... за дурня. Не-не, чалавечыкі.... Не мог Дзедзіха далей калгас сваімі рукамі весці. Па-другому ўсюды ў людзей пайшло, а нам, каб за імі пакульгаць, трэ' было б шмат каго пад суд падводзіць. А як было рукі ад тых атрэсці, з кім чарку дзяліў?

Сам вінаваты.

Сам і адышоў ад усяго, дарогу ўступіў, бо ўсё правільна стала. Чаго ўжо было трымацца за хвост, калі за грыву не сумеў. А жылі-былі раней наўкол такія, як ён, Дзедзіха, чаму ж і яму было не жыць? Але ж насталі не тыя часы, і Дзедзіха — палка між спіц. Цяпер усё правільна, і Дзедзіху не падаб'еш. Нечага ім распінацца, што ў нядзелю свята. А грэшным ужо — не меса. Чэсна жыць — можна. І Дзедзіха будзе! Знае як! А з такімі? Ніякага хаўрусу. До! Дзедзіха хоча быць чалавекам, а не «старшынёй». Хто распароўся на ражне, таму сучкі не страшны. Не збаіцца Дзедзіха іх. Было — прайшло. Час ачысціць і душу і памяць, і яго і людскую. І нечага не даваць жыць чалавеку...

Расла злосць на гэтых збуялых ад здароўя людзей. Яны былі скруцілі яго жыццё; збілі са штыху. Абпаілі, абвялі... Праваліўся з нагамі—ляціш і з галавой. Жыццё — гэта глыбока... Вунь як глыбока... Не дастанеш да ўсяго. Не дойдзеш сваімі мазгамі. А памагчы тады — ніхто не памог. На вачах Дзедзіха быў добры чалавек, на раёне — сярэдні старшыня, а капні... Не, такія далей ісці не маглі. Падбіліся. І ўсё праз тых... Міронаў ды Платонаў. Хаця і сам вінен. Мяккае сэрца... А яно: ад мяккасці — да хваробы...

А тыя здаравілы сабе. Чорт іх не бярэ... Не баяліся... Дзедзіха перадрыжаў... Было. Але з такімі Дзедзіха 'шчэ справіцца. Змацуецца... Хопіць змораных рук абмыць прысталыя ногі... Мацнейшы воцат — хутчэй трэсне пасудак...

Плакаў сын, як што найшло на яго. Аж захліпаўся. Мо' хворы?

Згусаў адвячорак, пахмуры, насуплены. У хаце шарэла. У хату заўсёды раней прыходзіць вечар, чымся на двор.

Мужчын праз акно не было як разабраць. Хто і які... Дзедзіха бачыў іх цені — дрыготкія, невыразныя, нялюдскія.

«Пагавару яшчэ з Аркадзем. Ён малады. І ведае такіх, не церпіць. Яму смялей...»

Плакаў сын; заходзіўся, галяшачы.

Дзедзіха адвярнуўся ад шыбіны. На вачах у Анэты былі слёзы.

Націк стаяў у лазе. Гэта ў лагчыне, дзе балотца, — пасека, пні, ельнік у рост чалавека. Лаза ад поля. Аркадзь звярнуў сюды, калі звечарэла. Пара і дадому. А мо' лепш загнаць і трактар на ферму ў Грыні? Пад Бусліныя сосны?..



— Гэй, Пэрац! Дзе начаваць станем?

— А хрэн яго ведае...

Поле шэрае, ад логу сівое. Мокрая ралля-зябліва — чорная-чорная, бы палатно, вываранае ў траве-мачанічніку і вымаклае ў рудзе-гразі. Так яго, палатно, пасля вайны фарбавалі ў вёсцы бабы, з такога сураўца насіў штаны і Аркадзь. Ды нават і без штаноў у адной доўгай кашулі такой бегаў. Былі «Камбрыгам» прازвалі за гэта. І доўга клікалі. Цяпер забылі. Вырас. Ды і пра партызанскага камбрыга забыліся. Дзіўна — і прыйшло ж некаму ў галаву ахрысціць так. Камбрыг—той у доўгай чорнай скуранай тужурцы быў, ён жа, Аркадзь, — у кашулі. Хаця, — у чорнай, у доўгай... Чым не камбрыг?

Пад зябліва трэ' завярнуць усё іржышча. Гэта, лічы, цэлае лавацкае поле — ад Грынёў да Закалюжжа, дзе ячмяні буялі.

— Слухай, Раман. Застаўся б ты, пакуль вартавы прывалачэ сябе. Табе ж у Грыні — нагой ступіць. А мне — дзяўбіся па гразі на край зямлі. Светніца...

— Арка... Ды ну яго пад падол. Каму трэба твае жалеззё... Абсалютна.

— Каму? Запчасткі цяпер не адным нам печань выелі. А тут — ідзі і вінці. Любое. Ноч — год. А гнаць яго пад сосны да вас — гаручае. Ды і не цягнуць з сабой усё ламачча. Кузня цэлая. А вартавога выбралі... Чорт... Раз гультай — ідзі вартаваць...

— Арка... Ды я счакаў бы... Толькі не. Сёння, — Раман зняў кепку, страсянуў галавой, цмокнуў, — ягадка мяне адна чакае. Сохне. Чорненькая такая, спелая... Не магу, Арка, душа мая. Трэ' памыцца, выветрыцца. Сёння думаю зажымончык зрэзаць. Эх-тц!.. А як прыцісцуць дзяўчыну, ягадку тую, калі ад цябе саляркай нясе? А дзяўчынка чорная... Фігурка... І сама такая цвёрдзенькая... Але цыц! Не дазваляе. Абсалютна. Колькі хацеў. Як ты думаеш? Арка? Удасца калі?

— А даўно табе не ўдаецца?

— Ды ўжо месяцы са два... Тц... Не магу... — Пэрац доўга круціў галавой. — Слухай, Арка. Ты мне толькі скажы. Пабуду, пачакаем таго абібока ўдвух. Дамоў успееш. А мо' і цябе чакае? Ты толькі скажы. Тады другое. Адпушчу. Абсалютна. Сам прычакаю. Спраўлюся. Хрэн з ім... Хаця...

— Ды мяне ніхто. Каму я ў голаве. А твая... чыя гэта?

— Цыганачка адна. Чорненькая. Як Выжлятнік гаворыць: я, мілы, прама скажу, пальчыкі абліжаш... Толькі ж маладзенькая, баіцца. Тут трэба момант такі падкаравуліць, каб нават і падазрэнне не падала. Тады — раз! Галоўнае — не даць агледзецца. Абсалютна. Хаця...

— Гм... Што хаця?

— Не папускаецца. Відаць, чуе. Яны ўсе чуткія да гэтага, ой, ведаюць... Абсалютна. Наперад знаюць. У мяне была адна...

— Ведаю, галаву адурыў...

— Ну, ладна, Арка. Гэта не-е... На вачах мяняецца. То такая, то гэткая. І ўсё пасля таго, як я быў на беразе хапануў яе. Не ўдалося. Абсалютна. Не далі ж. Інтэлігенты *нашы*, грынёўскія. Прынесла нялёгкая. Каго? А дылду з акушэркай. Летам яшчэ. Дык мая пасля таго—анінадух. Здалёку калі — залатая. Чуць бліжэй — мяняецца. Дзяўчыне на дзень некалькі разоў дарогу перабягаюць то каты, то сабакі, то стылягі. Абсалютна. Яна прыгожая, да яе ліпнуць.

— Ды хто яна?

— А-а... І цябе ўзяло. Я яе не выпушчу. Сказаў — усё. Тут шанс ёсць. Абсалютна. Пэ-эўны...

— Чаўпеш... Не ўдасца. Цямнее во...

— Ты думаеш? Арка? Не бойся... Я ўжо не так далёка быў... А цяпер я сабе спяшыць не буду. Накаплю любві. На любоў націсну. Такому рычагу верацъ... Прывыкне. А прывычка, Арка, мацней за любоў тую... Га?

Гаварыў ён адрывіста, блытаў. Усё стрыг вачыма ў бок Аркадзя. Яны сядзелі на зямлі, на пагорачку, дзе тырчаў белы, сухі і жорсткі, як дрот, сівец. Адвячорак хаваў ад воч поле; краў яго. Голасу далёка не было чуваць. Сыра. Пэрац балбатаў, бы сабе пад нос.

— Любіць можа кожны. А вось любяць не кожнага. Каб мяне любілі... Эх бы гэта любоў мне памагла... — ён пацягнуўся, адваліўся плячыма на калючы сівец, засмяяўся і ўсхапіўся: — Ведаеш, што дзяўчына робіць, калі цябе сама палюбіць? А-а... Хаця, цябе вучыць не трэба... — ён зноў адваліўся на плечы і, лежачы, зарагатаў: — Любо-оў... Ды ну яе ў баразёнку... Няма яе! Абсалютна. Пабольш нахабства! Гэта штучка мацней за ўсё...

— Слухай, Раман. Табе было калі сумна? Скажы.

— Як сумна?

— Ну... у душы. Ці брала так?... Бывае, як возьме...

— Ну-у-у... У мяне не душа свярбіць, а рукі. Хаця, стой... Было і мне сумнавата раз, калі інтэлігентка прыходзіла. Я табе не гаварыў? Тут дык я не ведаю адкуль падступіцца... Напудрана вельмі. Трэ' будзе ў таго доўгага падвучыцца. Такі ж дэрбіна, а вось... Што глядзіш? Ды ён з ёй... Проста... На вечарынкі трэ' часцей тэпаць.

— Слухай, дык хто да цябе прыходзіў?

— А-а... Ды тая. Ведаеш яе. Ты яе раз прывозіў. Хаця ноччу. Не разгледзеў добра. Каб мне так давялося, паспрабаваў бы. Не ўзяло б, дык не ўзяло б. Бяды... А то прыйшла днём... Ды дзяркатая нейкая. Такая вочы выдзярэ. Адразу. Сляпы застанешся, калі што. Абсалютна. О-о... З такой не пагілюеш...

— Акушэрка? Галіна? Да цябе прыходзіла? — Аркадзь быў усхапіўся. Пасля асеў і змоўк. Думаў, гледзячы ў зямлю.

— О-о-о... Ды ты чаго гэта? А-а-а... — бы здагадаўся Раман. — Ты ёй падыдзеш. Да інтэлігентаў бліжэй, чым, дапусцім, я. Табе з гэтай можна і на любоў націснуць. А ў мяне не атрымаецца. Мазута я. Баразна... Абсалютна. — Пэрац перавёў пальцам пад носам, выпэцкаўшы твар. Цяпер хлопец меў вусы, крывыя, загнутыя ўгору: на правай шчацэ аж да вока.

Аркадзь маўчаў. Узіраўся ў вячэрнюю смугу, што густа вісела над зямлёй, бы гэта хмары шчодра сеялі яе, рассыпалі. Прад вачыма ўсплыла тая ноч, са смугою-воблакамі і месяцам... І тая, далёкая цяпер для яго белавалосая дзяўчына, па якой нудзіцца душа... Чаго б ён ні зрабіў дзеля таго дзяўчаці... Самае недалугае тое, што адразу найшло ўтрапенне, з першага слова. Каб можна было хоць столькі быць знаёмаму з ёй, як той Васіль Міронавіч... Тады хай бы прыходзіла любое каханне. Не страх. А дружба пасля, калі нахлынула пачуццё?.. Калі нешта вяжа, гоніць прэч?..

Якая далёкая яна цяпер...

— Слухай, Арка. Ты ўсё не верыш. Ну, без выдумак, прыйшла сама. Сапраўды. Не прывезлі ж яе на «націку» да мяне ў двор. Узбудзіла. Адэкалончыкам пахне. Шапачка. Гарадская. Ну і бландзінка... У-у-у... Не дарма з ёй інтэлігенты нашы шпацыравалі... Спачатку студэнт. Ведаю таго. Ляпікі не дасць... Палец у рот не кладзі. Абсалютна. Пасля гэтая даўгалыгая парканіна. Гэты лямцяя. Ануча. Абсалютна. Худы, а яшчэ сохці пачаў. Здохне. З любві. Хаця тая гэтага варта... Яе



недзе можна... Абсалютна. Толькі не таму худому дылду. О-о-о... З такой я не супраць... Устояць не мог...

Аркадзь быў на нагах...

Пэрац спачатку не сцяміў, якая сіла ўскруціла і падняла яго з халоднага калючага сіўцу. Хлопец яшчэ заікаўся нечага, пасля папярхнуўся: сціснула грудзі. Падавіўся. Ад неспадзёўкі. Такіх вачэй у Аркадзя ён ніколі не бачыў. Круглыя, вялікія... Слёзы аж пырскаюць. Ад злосці, як іскры. Гараць...

— Заікні-ся пра яе яшчэ, дурань... Паскуда!.. Скуры сваёй чорнай не далічышся...

Тая ж шалёная сіла зноў шпурнула яго на груд. На жорсткі, цвёрды, як камень.

... Ноч ахутала поле дымам. Ён лёг на самую зямлю. Апаў надаўга. Асенняя ноч — з вяроўку.

Два шырокія промні секлі цемру, паласавалі. Палохалі яе, жахалі, крэмсалі, як маглі. Выхоплівалі з чорнай мякаці кусты, калашмацілі бярэзнік.

Матор страляў лёгка і часта. Будзіў усё на свеце, што ўклалася спаць у сціхлай, халоднай начы.

Трактар кіраваў у Грыні. У гумны. Пад Бусліныя сосны.

«А дамоў паспееціа. Ноч вырасла. А гразь — не страх. Калі і памешваць прыйдзецца...» — Аркадзь супакоіўся.

А ззаду, у цемені, мясіў поле збіты з тропу хлопец. Недарэчны і нягеглы. Лёгкадумны, на ўсё падкі. Утрапёны, як у гарачцы.

У тую ноч пайшоў снег. На гразь.

Клуб гудзеў. Клуб рэдка калі маўчаў.

Любяць у Грынях кіно — будуць па колькі разоў глядзець; шануюць танцы — да раніцы і старыя і малыя высядзяць; паважаюць спектаклі, што ставяць настаўнікі, — аж далоні гараць у кожнай бабулькі ад воплескаў: «Гэта ж такі фацкі ціятар...»

Не абыходзяць у Грынях і лекцый і любых вечароў. Запалі толькі агонь у вялізных вокнах таго дома-клуба, што на маргу за садам...

Людзей найшло. Бо такога 'шчэ не было. А мо' і надарылася які раз калі да вайны... Маладыя не помняць. На свежую выдумку, як і на свежага чалавека — ідуць усе.

Набілася — не дыхнуць.

— Пачынаем вечар... «Пытайся — адкажам...» Таварышы — уціхамірцеся... Нічога не пачуеш там ззаду, — Васіль Міронавіч падаўся ўперад за трыбункай і ткнуў у кут доўгай рукой. З хвіліну яна тырчала ўгары, пасля папраўіла гальштук: — Мы, ну мы... — Васіль Міронавіч адвярнуўся да стала і пацягнуў тую доўгую руку аж пад столлю: — Галіна Фёдараўна, наш медык; настаўнік нашай дзесяцігодкі, выкладчык геаграфіі Еўдакім Мікалаевіч Петушонак і я... — ён памаўчаў быў: — Дык вось мы ўскрылі скрынку з вашымі, дарагія таварышы, пытаннямі. Учора ўскрылі. Скажу праўду, — тут з вас недзе кожны напісаў. Руку прыклалі... Ледзь падрыхтаваліся мы. Трэ' будзе надалей раней скрынку вытрасаць. Ну, нічога. Пачнем.

— Пачынай!.. Пара! — крыкнулі ззаду: крыкуны заўсёды труцца далей ад пераду.

Галіна сядзела ля Петушонка. Зусім жа блізка. Бачыла яна гэтага чалавека так разы са два. Здалёку. Цяпер прыглядалася.

Маленькі. Тоўсценькі. Ножкі кароценькія. З крэсла ледзь дакра-

наюцца падлогі на сцэне. Твар малады 'шчэ, але азызлы, лоб — квадратны; цяжка даць, колькі год чалавеку. Мо' трыццаць пяць, а мо' і з дзесятак больш. Аднолькава. Трэ' будзе спытаць Васіля, так, дзеля цікавасці. Сядзіць надзьмуты. Лыпае вачыма. Галоўку, лысаваценькую ззаду, задзёр, падпёр рукамі пад бліскучы падбародак. Ці не сала еў ды не выцер?.. Глядзіць не ў зал, а на столь, на сцены.

— Еўдакім Мікалаевіч... — нагінаецца да яго Галіна. — Давайце падзелімся, як і хацелі. Проста пораўну. Пытанняў, во, семдзесят дзевяць. Гэта па дваццаць шэсць. Лішняе — Васілю Міронавічу... — яна гаворыць, каб чым-небудзь адцягнуць гэтага чалавека ад столі. Не падабаецца ёй.

— Чаго? Мы ўжо наладзіліся. Тэхніку я бяру на сябе. І спадарожнікі. Таксама. А астатняе дзяліце сабе, — кіўнуў Петушонак у бок Васіля Міронавіча і 'шчэ больш утаропіўся ў столь, бы там раптам убачыў дзірачку. Галіна ўгледзела, што вочы ў яго сівыя, як з дымам, і павыпучваны.

— Таварышы, ціха... — Васіль Міронавіч любіў пагаварыць і не мог даравацъ некаму: — Хто думае кідацца рэплікамі — хай піша іх на паперу і кідае сюды на трыбуну ў пісьмовай форме. Можна падысці і наперад. Нечага там... Збіліся... Не пачуеце ж ні-ні. Тут, во, свабодна. Нават сесці можна. Лаўку перанясіце. Не лянуйцеся. З Закалюжжа, бачу, ёсць шмат. Будзьце, як дома. Таварышы! Першае пытанне, якое я вам зачытаю, падаў нам конюх Мікіта. Вы яго знаеце.

— Знаем, знаем... Чытай!..

— Ён піша, — Васіль Міронавіч падняў руку, як лапатачку, — ды не адзін ён. Аж дваццаць дзве пісулькі такія. Во... — рука апусцілася на трыбунку, зграбла кучку паперак і паднесла іх блізка да вачэй: Васіль Міронавіч быў без акуляраў... — Дык вось... «Адкажыце мне, старому, прама, ці абыдзецца без вайны на свеце? І ці будуць кідаць вялікія бомбы на вёскі, ці толькі на гарады? Вось гэта і пытаю...» — Васіль Міронавіч, відаць, дрэнна разбіраў чужы почырк і чытаў задужа спавагі. Па слову цыркаў: — На гэта пытанне адкажу я... — ён павярнуўся быў да стала і ўгледзеў Петушонка, як вылепленага. Той сядзеў надзьмуты, схаваўшы за сябе Галіну. Злаваў, бо торкаў локцем. — А можа вы пачнеце першыя, Еўдакім Мікалаевіч?

— Я адкажу, — крутнуў галавой Петушонак. — А пасля толькі па тэхніцы буду гаварыць.

— Слова скажа Еўдакім Мікалаевіч. Толькі ціха... Дамовімся!

Петушонак выбег з-за стала і ўзляцеў за трыбунку.

— Аўтарытэтна скажу: вайны не можа быць і не будзе. Чаму? Таму што Азінхавар і Адзінавар баяцца. Баязліўцы яны. Гэта па-першае. А па-другое — мы спадарожнікі запусцілі. А гэта не жарцікі. Такая тэхніка ў нас. Такія самалёты. На трыццаць вёрст уверх падымаюцца. Не дзіва, што і спадарожнікі запускаюць. Такія самалёты не толькі спадарожнікі... Што ўгодна падымуць і куды ўгодна... — Петушонак адвярнуўся, збегаў да стала, наліў у шклянку вады з графіна, занёс на трыбуну, але не піў. Паставіў перад носам. — Аўтарытэтна заяўляю, збаяцца нас і змірууца. І яшчэ, па-трэцяе... — Петушонак з-за трыбункі зноў глядзеў не ў зал, а ў столь: — Па-трэцяе, скажу таксама аўтарытэтна, што вайны не будзе. Папомніце мяне, бо...

— Галаслоўна!.. — моцная і кплівая данеслася ззаду рэпліка.

— Галаслоўна? Галаслоўна, кажаш? Хто там такі знайшоўся? А ты вылезь сюды і сам расталкуй мне. А я паслухаю. А то граматнік знайшоўся... Калі Васіль Міронавіч не мог вас усцішыць, то я супакою. Аўтарытэтна заяўляю. Галаслоў-оўна... Я табе аўтарытэтна скажу, што вайны не будзе. Бо людзі і так многа чырвонага квасу пралілі. І больш не хочуць! А гэта табе не абы-што. Не жарцікі. А ён — галаслоўна, крычыць... Выскачыў. Ведаеш многа... Галаслоўна...

Галіна не ведала, што Петушонка, выходзіць, толькі зачапіць варта.

— Ты падумай...

Васіль Міронавіч хітрыў. Унурыў галаву і глядзеў, павярнуўшыся, на Галіну, бы адкуль здалёку-здалёку. «Хай патрэплецца да пары, — было ў вачах, — людзей не правядзеш. А вам, Галіна Фёдараўна, трэба ведаць такіх...»

Яна не слухала Петушонка нейкі мо' адзін момант, бо ўгледзела бялявага хлопца.

«Той, што з Закалюжжа. Нешта ён на вочы больш не пападаўся. Ніколі. А тады, ночы, урэзаўся ён мне...»

Аркадзь сядзеў далекавата. Думаў — не ўбачаць; але са сцэны льга ўгледзець усё напралёт. Сядзеў і не слухаў. Ні пра што не хацеў думаць. Вярзе чалавек — хай вярзе. Ні сыра, ні мокра... Наслухаўся Аркадзь, дзякуй богу. Хапіла ў свой час. Вучыў жа той яго, здаецца, у пятым класе, «мазгі ўстаўляў», — без гэтага не абыходзілася і дня. Нашто толькі пускаць такога на людзі. Хаця, другія мо' не хочуць, а гэтага — хлебам не кармі, а трыбуну падсунь. Дзеяч. З папкай прыйшоў. І чаму чалавек не возьмецца за галаву? Сам бы... А то скончыў там пасля вайны педвучылішча завочна і макам сеў. Што тады было канчаць... А дырэктарам нават быў. Во ўчарэпіўся, чуць сапхнулі. У раяна меў руку. Гэтакія могуць... Усё. Галовы вараць для сябе якраз што трэба. Нічога не скажаш...

— Я табе дакажу!.. Гэта ты выскачыў за трыбуну, як кот з-за печы...

У зале ўсе шукалі вачыма — хто гэта? Круцілі галовамі, шушукалі. Аркадзь пазнаў Рамана.

«Толк гаворыць. Але ж п'яны недзе... Не так трэба браць Петушонка... Але няхай. На бязрыб'е і Пэрац рыба...»

Чалавек за трыбункай аж захліпаўся:

— Калі яшчэ хто ас-с-меліцца л-ляпнуць абразу... З клуба вылеціць...

— Ну-ну... Не ты яго будаваў, не тваё права голас павышаць. Гэта табе не ў школе! Прывык... — голас быў ні то Раманаў, ні то зусім стары, мужчынскі. Аркадзь не мог разабраць.

Тады і пачалося...

— А што ты ў школе чытаеш дзецям?

— Гіяграфію... — Петушонак спачатку не ведаў, чаго ад яго хочуць.

— Гіяграфію... Га-га-га...

— Ды з трыбуны яго!.. Чытэльнік... Смех!

— Адказаў, называецца... Растлумачыў. Язык не паварочваецца. Не служыць.

— Васіль, вядзі вечар. Дуй сам! Гавары што, а то разыдземся...

— Давай танцы!.. Нечага муштраваць!..

Петушонак анямеў. Пачырванеў, што бурак. Затросся.

— Ах, так? Зрываць?! Бачыў я, хто горла дзёр... Запомню... Я пакажу, як мерапрыемствы зрываць... — ён выкуліўся з-за трыбункі, падхапіў адной рукой папку, скокнуў са сцэны, неяк чвякнуўся, як камок сырой гліны, пасля затупаў да дзвярэй каблукамі.

Аркадзь толькі ўгледзеў яго лысіну. Мільгнула і знікла. Мо' той надзеў кепку, а мо' адразу шмыгнуў у адчыненыя дзверы, як мыш. Відаць, усё разам.

Людзі ўставалі, пачыналі разыходзіцца. Рыпнулі гармонікі. Расчыніліся дзверы. На вуліцы пісклявіла дзяўчо. Як камар. Цененька, настырна:

Палюбіў міня шыфёр,
Ой, д'падружкі, ухажор...

Галіна не помніла, як апынулася на месцы Петушонка. Мо' таму, што Васіль Міронавіч быў спакойны, кіўнуў толькі ёй, паказаў на трыбуну. Вядома. Нельга ж зрывацца. Пакажы толькі слабае месца. А людзей жа столькі прыйшло..

— А ну, сядзьце... Сядзьце!... Прашу... Дзе сорам?! Ты падумай... Чалавека пабеглі даганяць, каб і на вуліцы не даць праходу! А ну, сядзьце!.. — голас яе дрыжаў. Захліпаўся быў. Але, рэзкі і высокі, ён неяк збянтэжыў людзей, як, бывае, вецер зрывае мароз, зайшоўшы з-за ракі. На вачах жа змякчыць на дварэ... — Гэта мяшчанства, калі хочаце знаць! Бескультур'е!..

— О-о... Прачнулася... Ідзі лепш вальчык адхопім...

— Ці-іш-ш... Пэрац!

Клуб устрапянуўся: прыняў выклік. Людзі загаманілі 'шчэ горш, але не выходзілі. Засталіся. Падаваліся да сцэны.

«Яшчэ хвіліну — сцягнуць...»

Ці не ад такой думкі яна ўсміхнулася:

— Давайце бліжэй... Займайце пярэднія рады. А яшчэ просяць — што такое мяшчанства адказаць... Я скажу! Вось яно! Хутчэй спаць каторыя. Ну, няхай танцы... Добра. Але ўспееце і пылу наглытацца. У клубе ж у вас рэдка калі падлога спырскваецца. Не бойцеся, доўга не зацягнем. Я сама хачу танцаваць не менш вас. А ну схавайце там гармонік. Рыпае...

Усё прадуманае з Васілём Міронавічам лопнула на вачах...

— Мы не мяшчане! Мяшчанства ў горадзе. У вёсцы няма... — крыкнуў Пэрац. Усё круціўся спераду, бы для гэтага.

Трэ' было браць быка за рогі.

— Мяшчанства, калі ты не чуў, гэта свая коўдра, свой домік на замку, куды вы так спяшыцё... Свой гародзік... І што хачу, тое капаю ў сваім гародзіку...

— Га-га-га!.. Гэта Джвучка, Джвучка на замок усё бярэ. Ад суседзяў... Га-га-га... Джвучка — мешчанін!.. А мы і не зналі...

Узняўся рогат, бы каменне пасыпалася. Людзі павалілі з вуліцы, пазаймалі праходы.

— Не толькі Джвучка... Я яго не знаю...

— Пазнаеце яшчэ! Дасца ў знакі. Вунь, разлёгся...

— Цішэй! Паслухаць дай...

Значыць, слухалі.

— У каго я толькі ні была... Скажыце мне самі. Чаму вы клееце хаты мазнёй з рынку... мазнёй, што глуханямыя таргуюць? Не, вы скажыце! Жоўтыя ільвы, як каты; азёры — плямы тыя з-пад чарніла... Лебедзі — з доўгімі шыямі, — бяры і каля сябе акручвай. І пад кустамі закаханыя парачкі-плаксы... А фарбы ж... Жоўтае на чырвоным... І многа ў каго ў Грынях у хаце. Ты падумай... Самі сабе прыцягнуць нешта са свету і не ведаюць, што гэта такое...

— Правільна! На рынак ездзілі... З хаты па чалавеку пёрлася на аўтобус! Брыгадзір штрафаваў. Працадні знімаў. Не памагала...

— І з цябе зняў. Так што не крычы...

— А што я, лысы?.. Сам ездзіў...

— Раіна моду падала. Першая прыцягнула..

— А чаго там. Танней такія капы. Дывана ж не куплю...

— Збяднеў ужо, як люцыпарскі хвост. Не пі!

— Якія гэта капы... Анучы...



— Сёння ж сарву. Клапы толькі плодзяцца за імі...

— Я знала, што няпекна. Але ж усе хапалі... З рук ірвалі...

— Абрыдлі. Глядзець не магу. Праўду дзяўчына кажа...

— Зрываць са сцен! Абсалютна!

— А што я прыклею?.. Не люблю хату голую!..

Зал схапіўся між сабой. Трэ' было счакаць. Нарэшце супакоіўся; выгаварыўся.

— Таварышы. Давайце, раз зачапілі, возьмемся мы за гэта мяшчанства. Талкаваць будзем шмат. Ёсць пра што. Не на адзін вечар хопіць. Сёння мы толькі зачапілі... — Галіна гаварыла цішэй: хрыпла. Супакоілася. Учула, што ў клубе накурана. Дым перш цягнуўся на сцэну, а тады да дзвярэй. Ад галасоў дрыжаў.

— Давай сёння, валяй, чаго цягнуць!

— А ты нам рэцэпт выпішы!

— Што гэта такая за хвароба новая?

— Мінінгіт! Раіна захварэла ўжо. Аблажыў...

Не, зал не мог выгаварыцца і сціхці. Яго зачапілі за жывое. Ён зноў узвіразіўся, адпачыў быў толькі.

Яна гаварыла доўга. З гадзіну. Да сёмага поту.

Распінайся, бывае, — не дакажаш. Людзі шмат на чым век зжылі.

— А табе што? Прыехала чысцёха!

— У таго глядзі, у каго сцены ад леташняга не белены... А мяне не руш! Я чыстая хаджу... У другіх падымі паглядзі!

— У Раіны!..

— Ёй вечна часу няма...

— Што Раіна... Да Пэрцаў схадзі!

— Там баба хворая...

— А Пэрац? Хай жэніцца. Лабідуда такі. Дзяўчатам толькі жыцця не дае. Паспакайнее ў вёсцы...

«Што ж, людзі мілыя, гаварыце, спрачайцеся. Перамелецца шмат што на муку за вечар. Няпраўда...»

Унеслі людзям у вушы, што мешчанін — гэта дрэнна, і ніхто не хацеў ім быць. Вочы дзёр, даказваў...

Што было б, калі б нарэшце не ўздыхнула нейчая маладая душа. Не сцярпела...

— Пра любоў...

— Га-а... Давай далей гані! Любоў давай... Пісалі!

— Уразумелі мяшчанства... Пакончым!

— А-а-а... Гэта ты пра любоў пісала? Пара, пара. Падцягнулася, вырасла...

— Хай Васіль Міронавіч на любоў адкажа! Сумуе ён... Галаву за сталом звесіў...

— Улюбіўся...

— Улюбіўся? У яго сэрца няма...

— А яно ў яго ў пяткі зайшло... Ад вялікага кахання. У пятках мацай...

— Га-га-га!..

— Ён цалавацца баіцца. У вёсцы ніводнай дзяўчыны не пацалаваў.

— А ты адкуль ведаеш?

— Нагоніць сваё...

— Пацалункі — перажыткі...

Дзяўчаты ўзяліся за Васіля Міронавіча. Улучылі момант. Той хоць бы што. Сядзеў і ківаў галавою, — маўляў, згаджаюся, а што яшчэ? Давайце, давайце...

Моладзь шумела; заглушыла старыя звадкі. Галіна толькі цяпер

заўважыла, што ў клубе мала старых. А мо' тыя памаладзелі, калі гутарка пра любоў зайшла?

— Пра каханне... бяда. Сама больш запісак. Ці ёсць яно, бедныя, пытаюцца. І не падпісалася ні адна душа. Каму ж адказваць? Мо' хто пад старасць кахання захацеў?.. Чаго ж саромецца? Га?

— Раіна захацела!..

— Яна яшчэ любіць можа!..

Зашумелі і сціхлі — бы вецер закруціў і ўлёгся.

— Скажу, скажу... — Галіна зірнула на Васіля, той папраўляў гальштук. Усміхнулася. — Каханне жыве. Не змёрла. Верце мне. І мо' сёння мы н'ат мацней кахаем, чым нехта ўчора. Сумнявацца не варта. Можна было і не пісаць. Каханне ёсць...

Яе перабілі:

— Ёсць! Больш зажымацца, яшчэ больш будзе... Любосці тэй...

— А яе ніхто з вёскі і не гнаў...

— Гэта Пэрац усумніўся. Першы напісаў...

— Ад яго дзяўчаты сталі бегчы!

— Яны такія. То да яго, то ад яго...

— Ён губы зацалаваў... У яго яны, што пакрышкі веласіпедныя...

— Кахання няма... Прывычка!..

— Я табе прывыкну!.. Сухар!

— Што пра каханне гаварыць... Дзейнічаць трэба!..

— А ты ўжо надзейнічаў. Да дзяўчыны баіцца даткнуцца. На танцах памяло ў качарэжніку топча!..

— Абсалютна!..

— Любоў ёсць! Бывала, жывеш, жывеш з жонкай і ўлюбішся ў яе... — голас з кашлем, мужчынскі.

— Га-га-га!..

— До пра любосць! Давай на маю адкажы. Я пра старасць пісаў... — паднялася ля сцяны барада. Белая, што кашуля. Пасля Галіна ўгледзела твар. Тодар... Яна ведала яго.

Ён перабіў маладых. На яго затупалі нагамі, але ён не садзіўся. Хацелі былі не даць гаварыць старому, ды Галіна заступілася;

— Усё ж высвятлілі. Хай хто сам выйдзе і скажа, чаму кахання няма, калі мо' так думае...

Заціхлі. Пасля рашылі: раз ёсць каханне — значыць ёсць і нечага перабіваць старога.

—І не станем валаводзіцца... Танцы ж позняцца.

— Што за любва без танцаў? Абсалютна...

— Ды ну іх... Дакука. Гавары. Не выкруцішся, дзяўчынка... — цяпер ужо яе не хацелі адпускаць.

Патраф людзям...

— Ты мне на месцы, дачушка, адкажы... — стаяў Тодар. — Во, я быў вычытаў. Ад старасці часнок есці... Пяць грамаў на дзень. Гэта ж... Быў узяў у краме на пяцьдзесят рублёў, свой не вырас, паляруш на яго... Градку замачыла ад рэчкі. Дык, во, — праўда, на халаднік расцягнулі — дык, во, барада толькі псавацца стала. З аднаго краю валасы чорныя пачалі расці... Не відаць пры агні. Днём паглядзець можна... І ў вусах валасіны з чатыры чорненькія адскочылі... Выходзіць, мне пад старасць трэба не сівыя, а чорныя валасы рваць... Хе-хе... А вось, дачушка, слабею. Грудзі не тыя сталі... Як жа так? Пішуць — ад старасці, а не памагае?

—Гіблае дзела! Гіблае... Табе, дзед, не ідзе чорная барада...

— Во... Маладзёнкам захацеў стаць! Ці не Анцю думаеш кінуць? Га? Да Раіны падмасціцца? Га?





І так — кожнага справадзяць. Заікніся... Вясёлы народ грынёўцы.

— Прыйдзіце па нядзелі... — Галіна ўбачыла, як застыла белая барада. Стары чакаў. — Не так далёка ад Закалюжжа. А не — каня вазьміце ў брыгадзіра. Паглядзім, мо' вам часнок зусім і не трэба есці...

— Вазіцца са старым... Дойдзе, раз сюды прыдзёбаўся...

Зноў рэплікі. Несціханы тлум. Пасыпаліся пытанні. З залы. Як гарох. Дзед Тодар падаў моду.

— Вы, во, гарадская... Скажыце, чаму ў горадзе не прыпісваюць? — распінаўся пісклявы хлопец.

— Гляньце на яго... Ты відзеў... У горад захацеў. Няпраўда! Хто варты, таго і ў горад бяруць. А лайдакі там не трэба. Сваіх хапае... — дзед Тодар не даў гаварыць Галіне.

— А я ў цябе не пытаю, карчэвіна... Хай яна скажа! — агрызнуўся хлопец. Высокі і тонкі. Стаяў ля самага парога. Здавалася, сыкні на яго і ён ліне за дзверы.

— Нічога не дабаўлю. Верна... — Галіна ўтаропілася на хлопца, які цяпер высунуўся наперад.

— Гэта не адказ!

— Якраз адказ... — зноў уступіўся за яе дзед Тодар. — Я цябе і ў нашым калгасе не прыпісаў бы, каб волю меў. Карчэ-эвіна...

— Яго ў горад пацягнула... Стылягам захацеў стаць...

— Ён жа дзесяць скончыў...

— Не прамяняю на свае чатыры...

— Гультай. Соня... Гаворыць з табой, бац — і храпе...

— Засне ў горадзе — трамвай задавіць. Адказваць прыйдзецца... — не сунімаўся дзед Тодар.

— Га-га-га!..

— А ты, дзед, за трыбуну шыбуй! Адтуль дай яму ляпікі! Што — з праходу...

— І пайду. А то такі малачай абнаглее... не толькі за трыбуну залезе, а і са сходу вышкурыць... — дзед Тодар, мо' нават знячэўку, ступіў з месца і пад шалёныя апладысменты пашкандыбаў да трыбункі.

...Галіна сядзела і сачыла за дзедам Тодарам. Ён разышоўся, яго нельга было ўціхамірыць. Мусіць, як і ўсе старыя. Апанаваў ужо Васіля Міронавіча, — той гатоў быў пераламацца, згінаючыся і разгінаючыся за сталом, даказваў усё.

Галіне быў да спадобы стары. Жвавы, вёрткі, любое такое пісклянё, што ў горад просіцца, за пояс затыркне.

Вось і цяпер. Падняўся на дыбкі, пагладзіў далонёй бараду, бы

правёў асцярожна траплом па ручэйцы ільну, і аж выцягнуўся ўперад, тыкаючы здаля пальцам у Васіля Міронавіча:

— Не. Ты мне, старому, тут, на месцы адкажы. Змогуць яны там, у Амэрыцы, — паказаў ён рукой назад, бы тая Амерыка была ў яго ззаду за плячыма, — талковы спадарожнік змарыгуліць і пусціць? Нешта я не чуў...

— І яны ўжо трохі намасквічыліся, дзед. Колькі гэта кіло напасле закінулі?

— Хе-хе... Ведаю... Дык гэта ж гарошына... Не, сынку. Не могуць яны талковага спадарожніка змарыгуліць. Не могуць...

Мудры дзед. Век зжыў. Пабадзяўся, пабачыў. Такія ў вёсцы — філосафы. Варожаць і на ўраджай і на пагоду. Дзе не розумам, то хітрасцю дойдуць...

Галіна глядзела на яго зблізку. Валасы кароценькія, сівыя, прыгладжаны на лоб. Барада густая, не белая, а рыжая ад агню. Нос маленькі, ледзь відаць на твары. Востранькі, што дзюбка ў маладога птушаняці.

Дзед у фуфайцы. Зашпіліўся, хаця і цёпла. Гаварыў па-свойму складна. Пра спадарожнікі, пра ўсё на свеце. Задаваў сабе пытанні, адказваў. Відаць, што чытаў стары. А мо' чуў, памяць добрую меўшы. Гаварыў і пра «шыбкасць» у дванаццаць вёрст у секунду: «Гэта ж, махнеш рукой — у Закалюжжа і назад да клуба шэсць разоў... туды і назад збегаць. Во шыбаваць трэба!..» Упамінаў пра «вялікія мінусы таго цэльсія» там уверсе і пальцам тыкаў у столь. Ведаў — і талкаваў другім. Доўга, смешна.

Нарэшце павярнуўся да Галіны. Яна не чакала. Насцеражылася, пасур'ёзнела.

— Вы ўзялі, дачушка, крыўду на нас, што мы Петушонка сёння не захацелі слухаць... Не трэба. Прабачаюся за людзей перад вамі... Што хацелі паразыходзіцца... Вы ж чалавек як-ніяк не наські... А перад ім не трэба. Абрыд ён нам. Мы яго даўно раскусілі. Ведаем. У нас з ім выйшла сёння такое, як у мяне з адным шаўцом. Не зацягну ліграменту на вашы танцы, паслухайце...

Адстала ў мяне падэшва. У адным боце зусім, у другім — трошачкі. У дарозе. Хаця якая там падэшва. Лыкам шытая... Заходжу да шаўца і кажу: так і так. Разуўся. Ратуй. Ён — адзін. У такой во фуфайцы, як я цяпер. «На два капылы спатыкнуўся? Два перацягнуць?» — пытае. «На два», — адказваю. «Пяць рублёў...» Сказаў, забраў боты, знік за перагародачкай. Доўга не ляпаў. Мігам вярнуўся. Мацаю падэшву — трымаецца. Нішто, думаю. Грошы тады ў мяне былі. «На, шэсць», — кажу. «О-о... Дай назад боты. Ты добры чалавек. Яшчэ раз пераб'ю. Не натандэт...»

Так і тут. Пахвалі такога Петушонка, пладзісменты ўстрой — зноў пачне ўсё спачатку. Тандэт свой папраўляць. Гэта такі чалавек... Дагані яго, шапку залamі — вернецца і ўсю ноч галаву дурыць стане... А вы добра гаварылі, дай вам здароўя.

— Правільна, дзед! Падсып яму... Хай пацярэбіцца...
— Крый яго! Ён не чуе!..
— Авяр'яна няма... Той бы ўклеіў Петушонку. Не церпіць такіх...
— Не падыходзіць, дзед, твой анекдот! Не лезе...
— А складна маніць... Начытаны... Чарнакніжнік!..
— Петушонак абразіцца... Шаўцом назвалі!..
— Загаварыўся, дзед... Зарапартаваўся... Перахапіў.. Годзе!

Дзед Тодар і вухам не вёў. Прыплюшчыўся, ці не стараўся ўбачыць, хто наважыўся яго падкалоць. Не сцерпеў:



— Ціха!.. — крыкнуў сіпла і ціхенька. — Васіль, сынку... Уціхамір іх . Ну і разышліся... А я вам вось што запяю. На яго не такую крыцiку навесці трэба... Нам чалавека з добрай грамаццю дай! І ўсё! Гіяграфія... Фтарыцет... Га? Хоць мо' без грамаці, але я верна крыцікнуў. Яго не так можна. А вы тут усе маладыя, выўчаныя... Ды языкі пазавязвалі... Маўчыцё пастаянна... Баіцёся на яго талковую крыцiку навесці. А я — як умею...

— Чашы, дзед... Не здавайся!..
— Канчай, стары... Снег на вуліцы пайшоў...
— Хай музыка слова скажа!
— Дзед, закругляйся!..
— Зазімаваў на трыбуне!..
— Га-га-га!..

Дзеда Тодара ссадзілі са сцэнкі. Гушкалі былі, дралі горла, крычучы: «Брава!.. Давай дзеду цяпер барыню!..»

Моладзь усхадзілася. Хацела свайго і брала сваё.

Танцы пачаліся позна. Пад дзень.

Аркадзь у той вечар быў з Галінай.

Калі яны пакінулі клуб, на вуліцы было ўжо бела.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

# ВЯТРЫ Ў ГРЫНЯХ

У Грыні прыйшла зіма.

Яе прынесла з Віліі, адтуль з-за Асіпаўскай пушчы, — з Закалюжжа.

Хапянула на галец сіверам зямлю і Цяні-балота, астудзіла Асіпаўскае. Стылі, кракталі на стужы старыя сосны-каржакі, лускалася ад марозу кара на маладым сасонніку, — гул настырнай зімы плыў у вёску з загумення, з лесу.

Дарога — груда. Размешаную машынамі і калясьмі густую гразь сцяло за ноч. Груда — востры камень, крэмень. Не разатрэш, не прыгладзіш. Адскокваюць колы.

Барабаняць калёсы ці сігналяць машыны — чуваць за сем вёрст: марозная ціша ловіць гукі здалёку-здалёку. Колы аж звіняць, бы па свежым бруку, які не паспелі абабіць, аб'ездзіць-абцiснуць.

Выпаў іней — сівы, аж сіні. Прысыпаў пясок, прыцярушыў сцежку. Мяккі, лёгенькі, — пушынкі адны. Дыхне конь на дарогу, звесіўшы галаву долкі — рассыплецца, ляціць на бакі, бы аўсяная пацярушка на таку з-пад венічка.

Тэлефонныя правады — што тыя пасуканыя ніткі з белай ваты, калматыя, тоўстыя па пальцу. Бы хто абкруціў іх — прыхаваў ад марозу.

Лагі заслала шэрым, нявыбеленым абрусам, — каструбаватым, нязграбным. Тырчаць пуплы-ніткі, вузлы-звязкі, — няскошаная дзе старая высокая мятліца прыпала долу, выгнулася, вытыркнулася куп'е — латкамі-пляйстрамі.

Трэскалася зямля, шчапалася, як калода на сонцы. За леспрамгаскімі прычэпамі пыліла перасохлая дарога. Мароз пёк нагалец трэці тыдзень.

Ноччу дрыжалі ў небе зоркі, скакалі, бы гэта іх даняў мароз; пырскалі ў чорнае бяздонне, як вуголле з печы на падлогу, як іскры з ко-

міна, калі гарыць сажа. А мо' хто наважыўся запаліць высахлае ад марозу, як і дарога, неба і назойліва жахаў угары сярнічкамі?

Ірваліся вуглы; трашчалі платы, зрубы ў студнях: мароз нішчыў ваду. Рака прамерзла да дна, лёд чысты, як спірт, свіціўся наскрозь. Пад ім можна было разглядзець твань і травіцу, як на далоні.

Толькі на канец Грынёў, пад Закалюжжа, мароз апёкся ў крыніцы, надаўшы пары. Яна стаяла там дзень і ноч, бы ад лета 'шчэ курыўся падпалены на Лажках торф. Адтуль гнала іней на лог, на вёску, цярушыла на стрэхі, пасыпала ферму, двары і вуліцу, як гаспадар белым пясочкам перад святам.

Склелі дрэвы, склелі будынкі.

Ракаталі, аж заходзіліся на марозе трактары, тралюючы лес на ферму пад Бусліныя сосны. Гулі-галяшылі леспрамгаскія машыны, мчалі з Асіпаўскага да Віліі ля Грынёў і назад. Для іх усталявалася дарога, як цэмент. Трэба перакінуць лес, каб летам лішне не рабіць вярстовых маставых па імшарах. Саплі, дыхаючы, людзі з тапарамі ля будынкаў на ферме, — на марозе стылі грудзі. Дыміліся дзень і ноч коміны, рэдка ды гулка скрыпелі вароты і асверы. Людзі без дай прычыны не вылазілі на двор; не бразгалі часта вёдры ля студняў, бы і вады ў марозы спатрэбілася меней.

Кашлялі ўвесь дзень конюхі і даглядчыкі ля парніка і на ферме ці пускаючыся з жывёлай да крыніцы. Далёка чуваць... Рэха доўга жыло ў вёсцы, пасля яго глытала Ваўкаўня і Асіпаўскае.

На трэцім тыдні ў гаспадароў-гультаёў захісталіся-затрашчалі платы, — гэта ў каго апусцела дрывотня. Не сунуцца ж у такі мароз на згуб вушэй некуды ў лес. Ды і ліха на яго, няўжо пратрымае доўга: змены ж надыбаюць, маладзік хутка.

«Вымерзне, глядзі, азіміна... — бедавалі на ферме праўленцы. — Такія марозы, помніцца, былі ў саракавым, у фінскую вайну, калі сады прапалі»...

Праўленцам клопат, не да сцюжы...

Вецер ашалеў ноччу. Ускруціўся недзе ў Асіпаўскім, як і той мароз, і падзьмуў з загумення. Пасля ўзвіразіўся і нёсся без сціхання, шматаючы заціхлую было наколькі ноч, — сухі, калючы. У хаце выдавала, што ён вось высадзіць ад вуліцы шыбы, яны разляцяцца аб лаву і рассыплюцца на падлозе дробненькімі шкляначкамі-ільдзінкамі; уварвецца ў фортку, дыхне сіверам у напаленай хаце, пакруціць, пазрывае фіранкі, зміяце са стала газеты, паапякае вазоны і расхаляпіць дзверы.

Ды шыбы трымаліся, і мо' ад таго вецер шалеў 'шчэ горш. Падымаючы на прыгуменні выпетраны ад марозу жарсцвяк, ён гнаў яго пазёмкай-мяцеліцай проста ў вёску, перакідваў праз платы і сцёбаў, што сухім гарохам, па сценах і вокнах. Губляючы імпэт, але не сунімаючыся, ён урываўся на двор і варочаў усё на свой лад. За ноч умудрыўся адшчапіць варотцы і цяпер ганяў іх са скрыпам узад і ўперад, бразгаючы аб дубовае шула; вымятаў панадворак ад трасочніку, замуроўваючы ўшчэнт падваротню ў хлеве; нават цененькія ільдзінкі, патрэсканыя і рассыпаныя ў вымерзлых лужынах, сабраў, выдзьмухаў ад карыцы і трэсачак і роўненькімі кучкамі, што адмерыў, ссыпаў на пясчанае, чыстае дно.

Пад раніцу вецер ірваў 'шчэ больш, і вароты, выдавала, шчапаліся. Ёй мільганулася, што нехта сячэ сукаватыя калоды з-пад хлева, якія не паслухаліся яе жаночых рук і колькі ўжо валяюцца на дрывотніку.

Яна прачнулася. Нагнулася да акна:

— Заспала...



Чырвонае, што жар, сонца вылазіла ўжо з-за вярбы-рагача, які тырчаў у гародзе пад аселіцу.

— Такая чырвань... Паўнеба... На безгалоўе...

Яна ўссунула на босыя ногі цяжкія Міронавы боты, абкрылася і выбегла на двор.

— Вецер заскуголіў на самае вуха, бы галодны сабака апанаваў гаспадара; секанўў жарствой па вачах, сыпануў у твар трасочніку...

Мірон Выжлятнік выцягся на ложку, бы адубеў за ноч. Коўдра з'ехала да сцяны, і ад акна адзервянела плячо, не павярнуць.

Вочы адплюшчыліся з болем, бы хто жывасілам раздзёр павечкі; калолася недзе глыбока, як ад нацярушанага дробнага шылля.

Ён ажываў — прачынаўся. Учуў скрып ля парога, — скрыпелі боты, выдавала, дзе далёка, мо' аж пад канец вёскі.

«Дзе я?..» — стаў думаць. Сумнення не было. Гэта яго боты, са скрыўленымі запяткамі, у жоўтым пяску, — хоць бы Волька іх анучай змахнула. Ён вылупіў вочы, не могучы зварухнуцца. Бачыў толькі качарэжнік, што ля парога, дзе цяпер боты стаялі, як прымерзлі. Чуў, як гулі правады ад ветру, бо нехта вырваў шнур ад радыё са сцяны, учора 'шчэ, жывасілам, і яно маўчала. Хацеў зноў звесці вочы на сон, — левы бот з рассечаным у лесе носам адарваўся ад падлогі, зарыпаў.

«Мае ж боты...» — Выжлятнік хоча прыўзняцца, аж ірвецца. Толькі галава — што камень ад жорнаў, не скранеш з падушкі; рукі — жэрдкі, як прывітаваныя наглуха ў плоце. У ваччу туман... — Задымеўся чалеснік, пацягнулася з печы ў комін сівое палатно, бы хто там, на страсе, спяшаўся, скручваў яго ў трубы. У галаве стукала, звінела, — нібы пад падушкай дзяўблі мерзлую груду.

«Боты ж у мяне на нагах... Мілы, кінь... са мной жарты... Так муштраваць? Павыкручваць? Скалечыць?..»

— Гэ-э!.. — спрасоння нема і хрыпла.

Боты заскакалі, зарыпелі і падыбалі да парога.

— Стой! Гэ-э!..— загаманіў ён на ўсю хату, падскочыў і сеў, у адной бялізне, лыпаючы вачыма на жонку.

— Во. Накачаў Джвучка... Насёрбаліся, і сну няма. Ганяеш некага ўсю ноч па пушчы. І мне вачэй звесці не даў. Што? Тузае? Вядро прывалачы, га?

— Не крычы нашча. Чаго ўсхадзілася? Проста галава ломіць, прама скажу. Бывае, — Выжлятнік сцяў аберуч далонямі галаву, бы яна ў яго расшчапілася з начы і цяпер магла, што той гарбуз, разваліцца надвая. Між пальцаў павытыркаліся кароткія валасы: галава цяпер што дрэнна абскубленая гусь. — Гэта ты мне сну не даеш... Скрыпіш... — прамычэў ён, як абдзелены ля кармушкі бык.

— Так? Гэта я не даю, сівая твая шаламэйка! Га?.. Скрыплю, кажаш? А ці не Раініна гэта злынь скрыпіць? Га?.. Што ж я каля печы і перад табой на пальчыках у беленькіх паўбалетках кленчыць стану? Не дажывеш са сваім Джвучкам. Мыкала... Мычыць усю ноч. Дачку без пары ўскруціў. Калі яшчэ ў школу, хай бы спала. Добра, што ложак пад п'яным сухі. Раве, не ведае чаго... Не хацела я цябе ўчора пры людзях чапаць. Выдала б такую нахлабушку! Паўважалася...

— Што? Заціхні!.. — Недалёка ад Раіны... — падняў галаву Выжлятнік, саскочыў з ложка і падцягнуў споднікі.

— Панаводзіў... Джвучка, Пэрац, Куцка паршывы... Кумпанійка. Дружкі. Такія давядуць...

— Ну, кінь, кураня мокрае, прама скажу, — Мірон не хацеў захо-

дзіць далёка, жонка магла фігу вытнкуць на пахмелле, а без яго — не жывы. — Гані боты. Ды ў печы глядзі што робіцца.

— Знаю, куды глядзець. Зірні лепш на сябе, які стаў. З'ехаў за ноч, як чучала... Не кінеш смактаць — з'есць ляснічы, паглядзіш. Вымову зноў усырычыў... — цішэла і Волька. — На твае мазглякі, не сядзі голыбосы, брыдоцце...

Цяжкія боты спаўзлі з тонкіх ног, прасунуліся цераз хату і ткнуліся халявамі ў валасатыя Міронавы галёнкі.

— Глядзі, Волька... Даскачашся... Паняньчу... Разам жа жывем, на ўсіх ідзе. Што, не знаеш? А ляснічы новы — ражон яловы. Ставіць сябе... Інстытут. Тыкаецца ўсюды. Зялёны... Ушчэміць недзе галаву, пачакае хай... А ўчора злынь была не чыстая, раз так па хаце водзіць, прама скажу. Раіна памёту ў брагу дабаўляла. Чуваць. Галаву знясу!

Волька шлёпала босымі нагамі ля дзежкі, шаруючы рудую ад учарашняга спаленага сала скавараду.

— Ты мне ласонікаў не строй. Бліноў пшанічных, яйцы з чатыры і прамачыць... Ён мне вымову... Паперку ў зубы тыча. Палохае. За п'янку грозіць. Хто яе не п'е?

— Лепшых ласонікаў і ў каменскага Куцкі не сышчаш. Нешта ён забываць стаў пра цябе. Адбудаваўся — і хвастом быў накрыўся... А прамачыць — скулля. Да Раіны вунь... А ляснічы, хоць і хлапец яшчэ, а з галавой. Во-о... Не на таго ты, відаць, напаў. Ён за цябе возьмецца, папомніш. Скура трашчаць будзе. На вясну без работы застанешся. У калгас папросішся. А цяпер у калгасе не то, што раней. Прыцісануць да работы. Мінулася...

— Не крануся з хаты, чуеш?

— Згрозіш мне...

— А трэба. Прама скажу, трэба... Лес нехта валам валіць за Асіпаўскім. На Віліі...

— Варта. Скора сцежкі ад гэтай злыні не ўбачыш, не то каб парубкі... А хто валіць, ведаю. Не адзін недзе Куцка. Хіба людзі табе глытаўку замажуць. Але счакай, дабяруся і я. Качарэжнік пакрышу на дурной галаве. Трэба мне такія заработкі. Судом пахне. Начэй не сплю...

— Волька! Ты зноў за сваё... Кінь, кажу прама, цыганскую музыку. Труніць усю раніцу. Давай хутчэй заткнуць чым, ды пайду. І не за адным пнём валакуся, галава твая. — Выжлятнік сцішэў. — Рагатая скаціна зноў вярнулася на Пагурак. Хай толькі снегу дасць, хай след стане — мае! Можа вецер і нарве сняжку, узвіразіўся так. А скаціна нішто прыйшла. Ці не тая, падазраю...

Акруціўшы каля шыі ручнік, ён пашлэпаў у сенцы.

— Глядзі, скаціна рагатая... Прасадзішся! Лоб гуза шукае. Зно-о-йдзе...— не сціхала Волька.

Ён не чуў. Ды і слухаць не схацеў бы.

Праз гадзіну выйшаў на загуменне пад Ваўкаўню. Насупраць ветру. Ружжо з сабой гэты раз не браў.

«Меншае падазрэнне, калі ствол у лес радзей цягаеш...»

— Дык гэта праўда, што Выжлятнік да старшыні з кулакамі кінуўся? Мама?

— Ат, не дуры галавы. Трактар свой думай як злажыць. Расклалі ж...

Аркадзю няёмка. Аднекуль падступае злосць.



— На тваіх жа вачах было. І не заступіцца за старшыню... А трактар зложым, не твая бяда. Яшчэ па запчасткі ў горад паеду заўтра. Ну, дык як там?

— Не прыставай... Ён вучыць матку. Глядзі, схопіш у мяне...

— А ўсё ж заступіцца варта было б за старшыню... Наш хлопец. Малады. Хаця, адны бабы... Разбегліся. Куды каторая. Падумаеш, Выжлятнік у бога загнуў. Вушы заткнулі і ходу. Так было? А дзе? На ферме?

Ульяна ўсміхнулася:

— Мо' за гэта міліцыя і цягае іх, што разбегліся. Я-то не пабегла... Наадварот, бліжэй падышла. Схапіў бы той у мяне вілачніка, каб яшчэ чуць...— Яна задумалася. — Было на што глянуць. Старшыня, хоць і маладзенькі, а таго як лапнуў за руку. Каб не паявіўся Авяр'ян, палучыў бы Выжлятнік... Варта. Надумаўся... Дай яму падводу. Сам лезе ў канюшню, хамут з кладоўкі цягне. Без спросу. Каня зацугляў... Ой, варта было б бандзіту. Дзізярціру... Я так і таму чалавеку сказала, калі спытаўся, бо варта.

— А што ты яшчэ сказала? Доўга нешта гаварылі...

— А ўсё. Што знала. З пачатку да канца.

Было пасля вячэры. Дрыжала за акном ядраная ад марозу ноч, мігаў агонь на застоллі. Вокны ад вуліцы замураваны; ад гароду шыбы зверху адтавалі, і з падваконня капала на лаву. Гэта ад печы: насупраць жа. Палілася нядаўна.

Яны ўдваіх у хаце. Яна, пажылая, памажнелая, са свежымі русымі валасамі, — іх толькі на скронях кранула інеем, не адразу ўгледзіш, — сядзела на ўслончыку ля печы, там, дзе лазяць на пяколак. Задумалася, падпёрлася. Гаварыла. Глядзела на покут, на сына, — ён нагнуўся над сталом, над кнігай. Механіку сваю чытаў, цяпер адклаў. Глядзела, гаварыла. Думала, што яны ўдваіх так здаўна. Сын жа за гаспадара, як на ногі ўстаў. Праз блакады, праз голад яго выхадзіла... Вырас. І вывучыўся 'шчэ.

— Усё расказала. Добры чалавек быў з вобласці. Такі шчыры хіба толькі наш сакратар раённы, той, што новага старшыню прывозіў. А гэты з вобласці і не міліцыянер, бо ў пальце быў і ў шапцы, якія ў вёсцы носяць. І не дзеля аднаго Выжлятніка прыязджаў. Казаў, участковы сам тут разбярэцца... Рэабілітаваную паперу на брата прынёс. Пытаўся, проста, што людзі цяпер... Ну, як Выжлятнік і Джвучка, што робяць, чым займаюцца. Я і расказала. І як цяпер з кулакамі на новага старшыню кінуўся і як некалі белыя коні вербаваў. Ён і твайго бацьку быў выслаў у трыццаць сёмым. Вось. Ніколі б не падумаў. Ён тады і на Авяр'яна быў падпісаўся. З Джвучкам. Удваіх паўвёскі ўдалі. Столькі мужчын. Твайго бацьку і Авяр'яна самых апошніх забралі. Адпусцілі тады з Оршы. А астатнія... І брат мой... Паказваў мне гэты чалавек... Выжлятнік і Джвучка падпісваліся. Пад кожным. На твайго бацьку сведчылі, што лазню калгасную спаліў. А бацька тады ў раёне быў на нарадзе, як пажар надарыўся. І цяпер помню. Але ж тады не пыталіся.

Добры гэта чалавек з вобласці. Душэўны. Гаворыць так са спагадай, з розумам. Сэрца выкладвае. Пра ўсё, пра ўсё расказваў. Гэта ж хто думаў, што такія рабілі. А пасля засталіся і дзёрлі калгас. Лупілі. До. Цярпелі іх. Усё расказала. Аж на душы лягчэй. А ён запісваў да макулінкі. Во такую кіпу спісаў. Не я адна гаварыла. Усе бабы. Збегліся да гэтага чалавека. Хай жа ведаюць там, што за людзі такое рабілі. Па-

думаць, паўвёскі ўдаць. За што за якое! Столькі людцаў... Гэта ж праз берыйцаў праклятых... Папаўзла б, пацалавала б таго чалавека, хто знішчыў таго Берыю...

Доўга гаварыла яна.

Шасталі ходзікі ля акна, што ад вуліцы, бы хто там вадзіў па сцяне жменькай сена.

Дрыжала за акном ад марозу ноч. Дрыжыкі лезлі за плечы, пацепвалі Аркадзя.

Ярка гарэла святло. Гаварыла Улляна, без сціхання.

— Мама, а якіх гэта белых коней ён вербаваў? Гавораць пра яго, плявузгаюць па вёсцы, а толкам дык і не чуў ніколі.

У коміне завыла.

— Піхну юшку, а то вецер хату вышастае. Старая песня, сын...

Памаўчалі былі, і яна расказала.

... — Жылі мы тады ў Грынях. Па вайне ж сюды перабраліся на жыццё, ведаеш жа.

Ты таго не помніш. У калысцы ляжаў.

Тады былі найшлі маразы, большыя, чымся цяпер. Мёрлі на ляту птушкі, марозіліся людзі. Суш, іней, сівярок. Стары лавацкі сад пасля таго і не ачуняў. Зачах. Толькі дзве дзічкі, што цяпер кожную весну цвітуць, ад яго засталіся, выжылі. Старыя яны ўжо зусім. За прыгонам нашы грынёўцы іх панам Таразэвічам садзілі. Ліха з імі...

Людзі наракалі, што такія маразы ад фінскай вайны: нібыта адтуль, іх, з Фінляндыі, прынесла.

Вайна ў вёсцы падабрала мужчын. Бацьку твайго не ўзялі па хваробе, бо гады яго 'шчэ былі тыя. Пайшоў бы.

Як сёння ў памяці... Была субота. Сядзела я за машынай. Ці не для цябе пашыць што трэ' было... Бацька корпаўся ля печы, дзе цяплей, прастаў цвікі на снарадзе, — ферму ў калгасе збіраліся вясной перакрыць. Сонца было на поўдні і праз акно свяціла аж пад самы ложак. Ляпнулі былі вароты, і па двары ля акна зарыпелі неяк суха і паволі-паволі цяжкія крокі. Чалавек ледзь дыбаў, апіраючыся на плот і на палку. У акне доўга была відаць зімовая шапка і чорны каўнер ад кажуха. Я кіўнула бацьку, і ён выбег на двор. Памагчы ж трэ' было. Адразу пазнала, хто гэта. Ды і па вёсцы гамонка ад учарашняга разносілася пра яго. Такое не маглі ўмоўчаць: чалавек з далёкай вайны жывы з'явіўся.

Дзверы настылі і не адчыняліся.

Зноў доўга тупалі ў сеначках. Шукалі клямку і пасля не маглі адчыніць. Я падбегла да дзвярэй. Піхнула. Ён стаяў на парозе. Адчыняў сам.

— Добры дзень, мілыя... Во бярэ, спасу няма. Што на Карэльскім перашыйку. Як Манергейм цісне. Але лопнуць вантробы. Раздавім, прама скажу...

Язык у чалавека лапатаў шыбка і цвяроза. Вочы круціліся і зыркалі па сценах, здавалася, з парога аж на покуце ў шчэлках чорт ведае што угледзелі. Затое ногі ледзь валаклі на сабе вялікія валёнкі, цягнулі па хаце ад качарэжніка да куфра, дзе быў зэдлік.

Чалавек зняў кажух, доўгі, да пят, чорны. Павесіў на ложак, на брыж. Скінуў пасля шапку, правёў рукой па кароткіх, адрослых ад стрыжкі валасах. Застаўся сядзець у ваеннай фуфайцы і ў ватоўках. Валёнкі таксама былі ваенныя — вялікія, белыя, зусім новыя. Чалавек цёр рукі, пасля згінаўся да галёнак і скуб іх, бы яны ў яго свярбелі-свярбелі...



— Ну, грэйся ды расказвай... Гэта ж недзе, брат ты мой... Такая вайна, у такія маразы. Як людзі трываюць толькі... — бацька зноў сеў у запечак за калодачку з цвікамі.

— Кінь бразгаць. Чалавек, во, як госць вялікі... — сыкнула я на бацьку. А ён і сам не хацеў ляпаць тады, проста было неяк няёмка, не мог дзе рук дзець.

— Трымаем. Гонім... Бягуць фіны. Як мухі дохнуць. А нас спірт, мілы, ад марозу ратуе. Раніцы — спірт, днём — спірт, вечарам — спірт, ноччу — спірт. Чырвоныя ўсе, што ракі. Адным словам, фіны баяцца нас, дохнуць. Як прусакі...— чалавек ёрзаўся на зэдліку і церабіў паясніцу. — Снег не дае іх лавіць, мілы. Такі снег. У тры метры. Глядзіш, як з-за сцяны, і свету не бачыш. Мілы, гіблае дзела. Не прайсці. Снег сыпкі, што ў нас пясок у Ваўкаўні, правальваешся. Толькі трактарамі каб дарогу расчысціў... Ды нельга. Відаць. Трактар чорны. Коні, толькі коні могуць спасці фінскую кампанію. Я, мілы, тут не на пабыўцы. Хворага, во, і то камандзіравалі. Я, мілы, сам пасля кантузіі паехаў вербаваць белыя коні. Толькі коні, белыя коні памогуць збяёдаць фінаў. І я навярбую. З усяго сельсавета, а то і з раёна. Ёсць у нас, а вайне памагчы трэба, — чалавек не мог, здавалася, выгаварыцца. Сыпаў і сыпаў, слова за словам, беспярэдыху, бы ягадкі перасыпаў са жмені ў жменю, пакуль іх у рот вытрасці. Складна і спрытна. А вочы ўсё бегалі па сценах, па дзвярах, зыркалі на акно, на дарогу, — што ў ненармальнага. Як на вуголлі сядзеў чалавек, трывожыўся і ўсё расціраў сярэдзіну, а то, згінаючыся, прыпадаў зноў да галёнак.

— А мне, мілы, кантузію пераважыць давялося. Думаў, луну. Ажно на папраўку пайшло, на лепшае. Дык тут далі, во, дванаццаць дзён на вярбоўку. Нічога не зробіш, вайна, — чалавек развёў рукамі. — І падлечышся, сказалі. А не так-то лёгка. Нага, во, зірніце... Не тоўпіцца ў валёнак. — Ён спрытна сагнуўся, забыўшыся на сярэдзіну, сцягнуў рукамі валёнак і абсунуў шкарпэтку, беленькую, суконную, мусіць, салдацкую, бо такіх у вёсцы яму зрабіць не маглі. — Во, пухліна, мілы, як бурак, нага, пасінела аж.

Я добра не разгледзела. Бацька быў бліжай. «Ага, ага», — прамармытаў і змоўк. Чалавек жа спрытна падцягнуў белую шкарпэтку, сунуў нагу ў валёнак, выпраставўся і толькі тады застагнаў і ўхапіўся зноў за сярэдзіну. Счырванеў увесь, як ад таго, што балюча і цяжка было згінацца, хто тады ведаў. Адкінуўся ж на зэдліку да куфра, стагнаў і войкаў. Ціха, цяжка, — як сабака дзе здыхаў пад лавай. Мы сядзелі склаўшы рукі, а чалавека мо' трэ' было ратаваць ад пакуты. Куды кінуцца? Па якога доктара?

Забразджэлі ў запечку цвікі. Бацька зачапіў нагою скрынку, падняўся. Мо' куды пайсці быў падумаў.

Чалавека зноў як варам абліло, зжыгнула; тады, відаць, адпусціла ад «боляў», — ён выпраставўся і насцеражыўся. Залыпаў вачыма, перастаў быў мацаць сябе за паясніцу. Апусціў вочы і разглядаў валёнкі. Пасля адкінуў галаву, і вочы яго зноў забегалі па сценах.

— Толькі коні, белыя коні, мілы, могуць нас выручыць. Так і дзядзька кажа, што ў Ленінградзе... — чалавек уздрыгнуў і асекся. Вочы зноў зашнырылі па вокнах, узіраліся далёка на выган, на шашу.— Я, мілы, зарос, во, за дарогу. Падстрыжэш... Цяпер дык з суседзяў і няма каму: мерзне народ у акопах. Нажніцы ў мяне з сабой, лахман толькі знайдзі які на плечы ўскінуць...

Доўга ён 'шчэ сядзеў на калодачцы пасярод хаты, ныў, адстаўляў нагу і вербаваў белыя коні. Пайшоў няскора, цягнуў усё. Чаго хацеў — і сёння не здагадаешся. Трэба нешта было, не адна стрыжка.

Нядобрае, думаю, у чалавека ў галаве. Пабегла я тады ў сельсавет і расказала, што чула, што бачыла... што думала...

Пайшоў ён увечары, а ноччу яго забралі. Дзізярціраваў. Нядобры бог да чалавека... Думаеш на белых конях ехаць, а тут цябе па снезе на хворых нагах пруць, пад ружжом яшчэ. І кульгавасць як вадой змыла. Бураком-рэпкай, казалі, нагу націраў, за кантузію пасінелую каб усё сышло. Я-ткі тое, не можа чалавек з балючай сярэдзінай так лёгка валёнак здзерці з нагі або ўскочыць з калодачкі і падмятаць за сабой валасы, кленчыць, збіраць шчапоткамі. Забываўся, бандзіт. А вайны ён тады 'шчэ і не бачыў. З Ленінграда збег, другія — марозілі сябе і пад кулі падсоўвалі, а гэты... І дакументы дастаў і вінтоўку ў дзядзькі тады ў Ленінградзе кінуў. Знайшлі ўсё. І дзядзька такі самы, ваенным нейкім быў, інцідантам. Вось якой вярбоўкай чалавек скуру бярог. І неяк, во, мінула тады вайна такога. Руку, кажуць, ткнуў з акопа пад кулі, — ды ў шпіталі адлежыўся. Жывы і здаровы вярнуўся з фінскай, разам з усімі. Ніхто і цяпер не ведае, як яму ўсё сышло гладка. Не расказвае. Баялі, што расстраляць хацелі... Не перайначыўся чалавек. І ў гэтую вайну, думаеш, на немца хутчэй сунуўся? Не-к... У партызаны пайшоў перад апошняй блакадай, калі мабілізавалі. І то, прыладзіў сваю лазеньку і вэндзіў сала. Партызан... Нажываўся. І цяпер зямля ў яго лёгка круціцца пад нагамі, носіць. І галавы ён нідзе не зверне. У лес падаўся...

Той чалавек з вобласці яго таксама ж дапрошваў. Доўга трымаў. Гадзіны са дзве. У канцылярыі. Выйшаў адтуль вясёлы, усміхаецца, рукамі махае, расчырванеўся ўвесь, як нага яго ў фінскую вайну. Хоць бы душа перавярнулася ў чалавека за слёзы людскія. Другіх адправіў, каб самому рабункі чыніць. Гэтую гніду да людскога і блізка не трэ было б падпускаць, а то і ў начальстве яшчэ пасля вайны пахадзіў. За ім у вёсцы бабе і слова нельга было сказаць. Страшыў усё тым жа...

Штодзень самагонкі вымагаў. Хоць ты, было, спецыяльна для яго гані. Але кончылася цяпер ягонае на людзях... То ў лес нырнуў. Жыве... А лес што? Цёмная ноч. Хто за ім туды пойдзе ззаду? Толькі ж, каб зрабіў так, каб яго дзе сасной на смерць прыдавіла, берыйца гэтага...

Ульяна змоўкла і глядзела на застолле, на святло. Што мроілася жанчыне — нямаведама; што легла ёй цяпер на душу — гора, непатрэбнае ўтрапенне ад усяго благога на жыцці, — хіба мог згадаць хлапечы розум?

Маці... Колькі яна перанесла, пагаравала, колькі перацягалі яе плечы нягод і цяжару ад жыцця і колькі яшчэ пяшчоты і любоцца ў вачах...

Колькі выпакутавала, калі ў першыя дні пасля ваеннага смуроду вывела яго, малога, з лесу на папялішча і пасля ўкрывала лахманамі ў змудраванай на двары зямлянцы. Каб хаця не прастыў, каб сырасць грудзі не сцяла...

Бацька з партызан не вярнуўся. Нават па смерці цяжка было яго апазнаць: згарэў, забіты ў будынку, калі гарнізон у райцэнтры нішчылі.

А тая галодная вясна на папялішчы, калі ліповы ліст сушылі на хлеб, калі елі сухі і жорсткі праснак, пакуль не сталі пухнуць...

Вайна прайшла, але пакінула 'шчэ сябе надоўга. Ад яе нікуды нельга было сысці, яна, і мінуўшы ўжо вёску, лезла ў кожную шчыліну ў закутку, каб задушыць чалавека, як муху... Ды цяжка ёй было, не пад сілу ўжо... Аж трашчалі напятыя ад натугі жылы, калі схуднелыя жанчыны ўпрагаліся ў плуг, каб засыпаць зямлёю бульбіну ці



зерне, — жыццё сваё пасеяць. Бо чаго ж чакаць не сеяўшы? Не лопнулі ад натугі жылы: яны толькі больш драцянелі. Гэта была апошняя чалавечая сутычка з вайной пасля вайны. Чалавек, падаючы, узнімаўся на ногі, чалавек перамагаў.

Перамог...

Выстаяў...

Маці... У маршчынах, у сівізне. З хворым з тых часоў сэрцам. Без следу такое не мінае чалавека...

За акном усхадзіўся вецер, шалёны, напорысты. Аціх быў. Пасля, як пасцілкай, сцёбаў па шыбінах, ірваў страху, трашчаў па гары. Шумеў суха, выдавала, гэта ён ганяе на шастку, што ля коміна пад страхою, навязаныя для лазні венікі.

Ці не ад яго міргаў за сталом агонь? Ляпалі вароты, моцна і часта. Звінела вядро ля студні, гэта яго ганяла над парканам, перакідала далёка на гарод і шпурляла назад, на дрывотнік.

За акном заматляліся белыя абрусы, засцёбалі кудлатымі махрамі па шыбах, — паваліў снег. Забялела на гародзе, пасінелі чорныя шыбы. Пацішэў вецер, нехта лягчэй і павольней стаў ступаць па гарышчы, не звінела вядро, бразгала сціха, — відаць, поўнае снегу.

Ноч у белай буры хлынула на вёску...

— Добра, мама, што расказала. Нам трэба знаць. Чалавеку за такое... Чуе... Сам ад народу ў лес зашыўся. Бяжыць воўк ад агню...

— Не хадзі, сын... Дзе тыя Грыні... Край свету па мяцеліцы...

Яна хвалявалася, а ён нічога больш не сказаў.

За вуліцай яго спаткаў халодны і густы вецер з загумення і пацёг з пазёмкай у поле.

Маці...

Усю дарогу ён гаварыў з ёй. Расказваў, чаго ў вочы не мог сказаць.

А вецер нёс яго ў белы свет, у Грыні, туды, дзе ярка і разлівіста гарэлі вокны ў клубе, дзе біткам набіта моладзі, дзе людзі не сунімаюцца пасля працы днём, калі ныюць ногі і баліць спіна, дзе было несціханае ніколі жыццё...

Дзе была Галіна...

Сціхла, змерла. Здавалася, зямля намерзлася была, насклелася і застыла пад снегам, лягла аблогай на сон, не дыша; здавалася адышло цяпло, знікла назаўжды.

Снег валіў чацвёра сутак запар. Панадзімала, панастаўляла на дарозе, на прыгуменні і на ферме белых капцоў, не пралезці да Ваўкаўні. Аціхла ад ветру, і зноў пачынаў дыхаць мароз, адтуль, з-за гумнаў.

Усталявалася зіма: быў яе час.

Учора пад поўнач падалі голас ваўкі, нібыта без іх дык у Закалюжжы і ў Грынях і жыць нельга... Выйшлі з Асіпаўскага, пад Ваўкаўню, запелі. Два ці тры — ад сілы. Голас слабы, рэдкі — цяпер і ваўкоў мала. Няма. Не тое, што раней.

Сабакі ўсю ноч ірвалі прывязь, заходзіліся, падвывалі адзін аднаму ў марознае неба, — чулі галодную прыблуду.

Кракталі, варушыліся, — жылі Грыні і Закалюжжа. Людзі працілі дарогу вуліцай, беглі перш-на-перш да хаты старога Тодара і Пракурорыхі, дзе брыгадзіры вешалі нарады ў скрыначку пад шкло; разграбалі сцежкі да хлявоў, да студняў. Ад Грынёў да Закалюжжа

прасунуўся трактар, пайшоў на тралёўку лесу. Аркадзь першы правёў зімовую дарогу — працейшую, нацянькі. А праз дзень яе расцёрлі і раз'езджалі на санях — валаклі торф з-пад Пагурка на лавацкае поле.

Яшчэ па цаліне дыбаў Выжлятнік раніцай у Асіпаўскае, а з цямном пёрся ўжо з Закалюжжа ў Грыні па вытраляванай дарозе. Пераабуўся і знік быў з дому. Позна за вячэрай соп і не абраніў ні слова.

— І нанач яшчэ Джвучку з Пэрцам аблыхаў... І ні жыў... — чуў ён, як бурчала Волька, ды сцерпеў. Такога з ім не было.

Не спаў усю ноч. Варочаўся, курыў, тупаў па хаце; уссунуўшы валёнкі, выходзіў на двор, ляпаў нечага ў хлеве, узяўся быў расчышчаць ноччу снег. Далёка яшчэ да дня шмыгнуў з хаты, ціш-ком, не сказаўшы ні слова. Жонка, дзякуй богу, апрагалася сном. Каб гэта ў другі час... Ускруціў бы яе Выжлятнік, як міленькая каля печы выдылінгавала б. А цяпер... Лішні шум, агонь ноччу ў вокнах і дым з коміна — людзі не дурныя. Скварку можна і ў кішэню ткнуць, знойдзецца...

За вёскай ля шашы, дзе недалёка малады калгасны сад, яны былі ўжо ўтрох. Сабраліся тут, не заходзілі адзін да другога. Льга ноччу ў вёсцы з ружжом на каго-небудзь аднаго наткнуцца, як заўтра ўжо ля нарадаў усе будуць трубіць, што не спаў, валокся недзе. А многія ўздумаюць і прапытаць, куды, высачыць, як Пракурорыха ці Раіна. І далей ад воч старога Тодара... Гэты...

Уперадзе іх — цалюткі свет. А да дня недалёка: сіпла галасілі пеўні. Па той канец Закалюжжа брахаў сабака, глуха, як з-пад зямлі. Грыні спалі аблогай: позна ўкладаліся з вечара. Сход калгасны быў у клубе. Праўленне цяпер пры новым старшыні ўсіх на гной гоніць, спасу няма. На ферме мігцелі агні, рыпелі вароты. Нехта паганяў каня, енчылі палавы, свежа, ядрана, на ўсю вёску. Мароз не адлягаў.

Трое падаліся дарогай на горку, пад лавацкія сады. Не размаўлялі. Пра што было? Крочылі наўздагонку за паласатым Жульбасам — гэта каб угрэцца. Пасля цёплай хаты прабіраў мароз, гнула ў крук, аж да зямлі.

Варта ні на каго не наткнуцца...

Пад Закалюжжам у самой лазе яны звернуць на цаліну, там сляды, ходжана ўжо. Ад лазы трапяць да Ваўкаўні, а адтуль да Асіпаўскага—руку працягнуць.

Дарогай нацярушана сена, не свежае, прыхопленае інеем. Раніцай тут стагі звозілі з балота, панатрасалі. Поле змерла. Стыў збялелы ад інею лазняк у абочынах. Здалёк — шэрыя здані, копы сена.

Ноч настылай даланёй лезла за плечы, поўзала па твары; пасыпала, як скрозь пальцы, нечым цяжкім і халодным вейкі; бяліла каўняры — хавала ад воч, перахмала рукамі з рота пару, — грэлася сама.

Скрыпела пад нагамі, бы галодны звер скрыгатаў зубамі. У лавацкім садзе вісеў туман, што кудзеля, мо' ад таго пахла ільном, як ад лазні-сушылкі. Часам пах збівала цяжкая і горкая сырасць: прэлі гнаі ў раскіданых па полі кучах, як капцах.

Трое — угрэтыя і задыханыя — спыніліся ўжо ў Ваўкаўні.

— Адсапнёмся і вушым далей...

Бралася на дзень. У небе выскачылі зоркі: распаўзаліся, радзелі перад світанкам хмары.

Далёкую зару над лесам, дзе электрастанцыя, людзі прынялі за пажар і доўга думалі, што гэта ён.

— Спякло, мілы, некага чыста, прама скажу... О-о... Аж неба занялося...

— Згавэў. Добва, калі жывы выскачыў...

— Абсалютна. Спёкся...

У лес упёрліся, як у сцяну. Ад Ваўкаўні ішлі дробненькім сасняч-ком. Сасонкі ў замеці. Тырчаць са снегу растапыраныя лапкі, бы падбітыя курапаткі расставілі крылы.

На золаку быў узняўся вецер, зашумеў-прабег уверсе, атрэс іней — задыміліся кранутыя елкі — і сціх.

Было шэра.

Ішлі адзін за адным, шнурам. Мясілі ўцэла. Панастаўлялі каўняры, паапускалі ў шапках вушы, унурылі галовы, — можна было напароцца чортведама на што. На кожным кроку.

Снег перасыпаўся па нагах, як мяккі попел з-пад асінавых дроў. Не злёгся, стаяў ворахам, і нага лезла аж па калена, выцягвала на след мох з іголлем.

Саплі, як загнаная жывёла. Сабака скакаў збоку, разявіўшыся і, бывае, хаваючыся аж па вушы ў снезе.

Лес парадзеў. Гэта перад самым Асіпаўскім. Сталі трапляцца дзялянкі — старыя вырубы. Выйшлі на пасеку, дзе нядаўна калгас выкаціў лесу — дай божа! — на будынкі. Тут застаў дзень. Пажаўцела спрэс чорнае сасонне, пабялеў снег. З-пад яго, глядзі во, вылазіла-прабівалася незацярушаная лясная, высокая і пругкая, мятліца ды чырвоная, пакурчаная, сухая папараць. Ля заснежаных пнёў шмат дзе бурэўся пад'яловец, бы воўчых скур панавешвалі на сушку. Занесеныя-засыпаныя, не спаленыя летам лаўжы бугрыліся, што мядзведжыя мерлагі.

Пасека белая, чыстая, шаром пакаці.

Лес драмаў, не прачнуўся. Не чуў раніцы, як аглух. Не варухнуўся, не атрос ад снегу настылае голле. Не было перамены пасля начы.

Спыніліся ў ельнічку, што ўкліняўся ў пасеку. Якраз ля разбуранай былой зямлянкі-канюшні, цяпер доўгай яміны. У трыццаць дзевятым годзе тут стаяла кавалерыя, пакуль нашы не перайшлі Вілію — граніцу.

На выспе-бугрыне ля яміны — засыпанае свежае бярвенне, сцягнутае ў шліхту. Вытраляванае; яго яшчэ не забраў калгас. Селі на крайняе палена, ачысціўшы рукавіцамі снег. Пассоўвалі змакрэлыя ад поту шапкі на патыліцы, закурылі. Маўчалі, як пасля лаянкі. Паласаты Жульбас лыхаў па яміне — дзёр снег і мох: чуў мышэй.

— Скора след. За палянай. Там балота далей. Доўгія крыніцы

не замерзлі. Правалы. Пазаўчора па пояс ускочыў быў. Станем на след, пасля разыдземся. Пойдзе нехта адзін. У абход. Пад вецер. Адкуль дзьме? З Пагурка. — Выжлятнік адвярнуўся, выцяг шыю. — Ціхота. За вярсту чуваць, трэсні толькі. На лыжах бы, дык шэрані няма, праваліўся. А ў нас, прама скажу, калі гэта было, каб у лес хто на лыжах падаўся. У фінаў не так... На елцы з лыжамі сядзіць, затоіцца які, пасля — шась! — на галаву проста. Як цігра, прама скажу...

Выжлятнік гаварыў шмат. Гэта зняло ўзрушанасць і трывогу. Раман Пэрац дастаў з кішэні акрайчык хлеба і стаў жваць, пацягваючыся і цярэбячыся. Быў у фуфайцы, картовых штанах, запхнутых у халявы кірзавых ботаў. Ідучы ўцэла, зачэрпнуў снегу і цяпер выграбаў яго чырвонымі пальцамі. Ляпаў па каленях, — відаць, нешта несамавітае было ў яго апранута падніз. Платон курыў, аж захліпаўся. Папярхнуўся быў, закашляўся:

— Не варта дыміць. Раніцай далёка нясе... — цёр ён вочы запясцем. Пасля стаў абкладаць вялікі чорны каўнер у пацыраваным кажушку. Шлёпаў па бервяне цеснаватымі валёнкамі-атопкамі. Грэўся. Нарэшце паклаў на калені дубальтоўку, старую, з адшчэпленым прыкладам, апёрся на яе лакцямі і ўтаропіўся праз пасеку, туды, дзе жаўцеліся сосны. Там стукаў дзяцел, прачнуўся недзе галодны, грэў дзюбу і настылы за ноч жывот. Ён псаваў цішыню, вяртаў насцярогу, клопат. Бы гэта дзёўб у аціхлыя было грудзі, калоў нутро.

— Ідзём. Стыць пачалі... — Выжлятнік зашпіліў на ўсе гузікі новы суконны павалаканец, счысціў нямаведама для чаго з валёнак снег. Яны — вялізныя, чорныя, падшытыя зубчатай гумай, старыя. Старэй за Платонавы. Памяць адабрала, — ці гэта яны ад партызан засталіся, ці тыя, што пасля ўжо вайны дастаў, як у вёсцы сельсавет дапамогу дзяліў?

— Ціш... Дзяцел, зараза... А я.. бы хто з тапавом, падумаў...

Насцярогу ўчуў сабака, выскачыў з яміны, дзе лізаў снег, натапырыўся і стаў ірвацца ўперад. Нібы толькі цяпер успомніў, што ён сабака, што ён у лесе, і ўсе шолахі, якія не чуюць людзі, чуў і пускаў паўз вушы, а за гэта глядзі і па хрыбце схапіць льга.

— Той пачуць мог... З раніцы надумаў мо' пад Вілію ткнуцца...

— Ці чэвці... І звер любіць паспаць...

— Абсалютна. В-ва... — Пэрац дрыжаў. Ламала яго ўжо другі дзень. Круціла, жвакала ногі; гуло ў галаве.

Каб не распусціць нюні, ён увесь час маўчаў.

— Пэрцу прыйдзецца заступіць ад вёскі. Па гэты бок Пагурка. Дзе бярасклет. З яго ламачынай здалёку не возьмеш. На падпуску толькі. Я — у абход, у мяне калібер. Адрэжу ад Віліі, падцісну да Доўгіх, у крыніцы. Ты, Джвук, адразу ж туды. Краем Асіпаўскага. Удасца прыціснуць да балота — наша. Не — пацалуем у...

На след вывеў сабака. Ішлі па ўчарашняй, прысыпанай інеем, сцяжыне. Дыбалі да другой паляны-загарадзі, дзе бярасклет. Пакінулі Пэрца. Распаранага, спатнелага.

Праз гоні Джвучка ўзяў управа, перасек дарогу, што вяла з Чарчагу, і паціснуў пад Доўгія. Кранутая жывёла, калі што, пройдзе краем Доўгіх, не палезе ў крыніцы на згуб. Заступіць толькі расцяроб, адвярнуць у балота, а не — скіраваць хоць пад вёску: на бярасклет, на Пэрца. Назад дарогу жывёле заступіць Выжлятнік. Пастка...

Падняўся вецер. Стаў моцны і напорысты. Хістаў вершаліны сосен, трос іх, што макаўкі, гудзеў. Пасыпаўся снег — белы мак. Пачалася мяцеліца. Плыла там, уверсе, ныла, пішчала, сціхала была, — тады зноўку шалела. Стагнала Асіпаўскае, як паранены звер, — пушча ўзвіразілася, што галодныя воўкі калі пад поўнач.

На дол стала цярушыць густой мукой, бы ўгары, дзе вершаліны, гудзелі жорны, трушчачы перасохлае зерне; пасыпала, што пад канец лета пераспелай дзеразой, — лес быў сіні, як ад дыму. Мяцеліца — зімовы пажар...

Выжлятнік задыхаўся...

Ногі млелі, падсякаліся. На плячах — не павалаканец, а дубовая карына. Давіла, муляла, рэзала, на спіне, пад пахай, у лакцях. З-пад шапкі цякло цурком. Валёнкі — што два карчы, прывязаныя да ног. Духата. Адышка. Нехта з палатнянай анучай лезе заткнуць горла. У роце суха, кісла і праціўна, бы там не язык, а бронзавы патрон, які зручней трымаць у зубах, — ямчэй перазарад зрабіць пасля стрэлу.

Снег дастае да паясніцы.

Сабака глытае брэх, ледзь чуеш загнанае псё. Лёг на след. Упаў за здабычай.

Лось стаў нанач на Пагурку. У яловым гушчары, ля вывараткі. Не прылёг. Учуў недзе з вечара яго, Выжлятніка. Прастаяў усю ноч, як на пікеце... Узрушыўся ж тады мо', калі са днём пацягнула ад чалавека потам.

Лось не чакаў. Ішоў у рэдкалес, у Асіпаўскае, ірваў да Віліі. За ракой льга нырнуць у лясныя прасцягі пад Палік. Там няма лагоў і дзялянак, там векавыя елкі ў дзідах — не падступіцца... Затое — нетры, ратунак ад бяды.

Жывёла кіравала напрасткі, напрапалую, на чалавека. Чула яго, а ішла. Ззаду — гібель. Ратаваць магло адно — ногі.

Лось пакідаў Пагурак, згараваў апошнюю ноч і пакідаў яго мо' назаўсёды: адыходзіў.

Выжлятнік учуў трэск здалёку, — замёр, згорбіўся, бы гэта вытыркнуўся-вырас высокі пень з доўгім сукам, а не чалавек узняў ружжо. Нехта зыбаў зямлю, дыхаў на яго гарачай парай. Цяўкнуў сабака... Закурэлася, — бы з-пад зямлі прарваўся вецер, узняўшы варахаваты снег, як аўсяную мякіну на таку, ускруціў тут, у адвечным зацішшы, мяцеліцу і гнаў яе хто ведае якой дарогай.

Жывёла размінулася з чалавекам.

Ён угледзеў з-за дрэў бурую лапіну, н'ат чырвоную, мо' што ад снегу. На якую хвілю нагадалася ласіха з малым, што знікла з-пад самага носа тады, па чорнай сцежцы.

Лапіна скалыхнулася, растала. Зноў уздрыгнула.

Гахнуў стрэл... Густы, глухі, што ў сырой пуні. Закрумкала знямоглае рэха ў Чар-чагу, бы там душылі старога каршуна. Заглох быў тупат, сціх пошум лесу; тады зноў уздрыгнула зямля.

«Гэ-эй!..» — данеслася да Пэрца.

«Тгу-у...» — затрубіў у кулак Джвучка. Кораценька, ярка.

Выжлятнік даў стрэл. Значыла, — выходзіць на след, пагоня.

Стагнаў лес, свісталі на ветры голыя дубцы ў бярэзніку, хвасталі па твары, дзёрлі павалаканец; білі, хлопалі лапкамі, што крыллем, елкі — па плячах, па галаве; ёкала ў жываце, калола; гарачыня паліла горла... Каб кроў хаця не хлынула праз рот... Сыпала за каўнер халодную жарству, вострую, дзяркатую, як хто вадзіў па шыі настылай суконкай.

Сабака ўперадзе. Травіць; аж заліваецца. Недалёка недзе ад жывёлы...

Лось узяў да Віліі. Ясна. Дзе зможа выбіцца? Куды рвануць напярэймы?

Мала вопыту. Усё — пачутае ад старых на вёсцы, заблытанае выдумкамі дзеда Тодара. А тут наглая, з розумам жывёла, скажы ты...
Рака стала. Махнуць праз яе, што плюнуць. Хаця тым месцам, дзе налёг сабака, за ракой — курганне, галец. Лось можа не пайсці. Зверне...
Выжлятнік іграўся са скуры.
«Разуцца б... Скінуць павалакан...»
Асіпаўскае радзела. Пачалася Сырніца — даваенная парубка. Пасека — імшара, разгаты ляшчэўнік, абвіслы, палеглы аж на дол; хілы сасняк, высокія тонкія пні.
На снезе — кропля крыві — рэдкая, жоўтая, як нявыспелая ягадка рабіны. Распаўзлася даўгаваценькая плямка...
Выжлятнік спыніўся. Захлынаючыся, хапаў рукою снег, пхаў у рот, за карак, сыпаў на галаву. Задрыжалі ногі, калі асеў на калені над крывяной кропляй...
«Падраніў...» — страпянулася душа.
Нагнуўся.
«Не-е... Расплюснутая гнілая журавінка. Выкінута наверх капытом...»
Зноў яго ўскруціла са снегу, паставіла на ногі і штурханула на след. Сагнуўшыся, прыпадаючы да зямлі, прыціскаючы да грудзей дубальтоўку, ірваў ён па Сырніцы між пнёў і вываратак.
Снег на следзе пачарнеў. Лось даставаў да імшання, дзёр капытамі прэлае, змерзлае лісце.
Зноў кроў. Накапана, бы ў каго з носа.
«Рана...» — сцяў зубы Выжлятнік, як звер, учуўшы кроў.
След не давёў у канец імшары, — забіраў на лінію між Асіпаўскім і Сырніцай. Лось не ішоў да Віліі на выспу, блытаў след і куды цяпер мог падацца — згадай. Лось вымотваў вантробы чалавеку. Ад бегатні гнула ў крук; душыў кашаль і смага.
Кроў..
Кроў на снезе і на твары. Сэрца бегае ў грудзях, як бульбіна ў пустым кошыку, калі яго стаць калаціць без аддухі. Вочы поўны поту, што цурчыць з ілба, — рэжуцца, не павернеш. Сціснула грудзі, бы надавалі пад дыхавіцу.
Зменшаў вецер. Пагусцеў снег. Пасыпаў, як з шуфля. Было не рана.
... Платон Джвучка пасля стрэлу вырваўся з-пад Доўгіх і праз колькі часу налучыў на след, што вёў пад Сырніцу. Вярсты з чатыры дуў шалёнага пешака. У Сырніцы надумаў збочыць правей пад поле, каб выскачыць напярэймы каля Масткоў. Гэта не даходзячы да Віліі... Ды ў Сырніцы след звярнуў у расцяроб, і чалавек, збіты з тропу, скінуў з сябе кажух, стаў пераабувацца, прыткнуўшыся на корч ля старога лаўжа. Рэзалі ногі. Адсапнуўся, разамлеў; ахінуўся кажухом, халодным і прыемным; размяк. Вісла галава, пагнала сліну, занылі плечы і крыж, як пасля лазні...
«Чаго ляцець верх лесу?.. Гававу сквуціць? Панёсся ж адзін...»
Нагнала сон. Пасля змору. Але ён — загуба. Падняўшыся і апіраючыся на ружжо, Джвучка падабраў са снегу і сунуў у кішэню кажуха шматы ад суконак і рушыў назад паўз расцярэб у кірунку пасекі-агарожы, дзе рос берасклет і дзе меўся быць цяпер Раман Пэрац.
Усё зрывалася. Па такім безгалоўі пагоні не наладзіш. Здурнеўшы толькі, станеш капацца ў снезе, як курыца ў кучы зерня, — вязнеш, а ні зярняці не клюнеш.
... У Рамана ламала спіна, дрыжалі ногі, калола ў правую руку ля



запясця. Балела галава, цела стала ліпкае і гарачае, бы яго, нагрэўшы перад печчу, выпэцкалі ў каланіцу. Сохлі вусны, чарствеў язык, — выдавала: у роце кавалак здубелага праснака. Застаўшыся адзін, Раман разгроб высахлы лоўж, развёў агонь. Сучча пішчала, дыміла, гасла. Пасля ўгарэлася. Прыхінуўся спіной да яловага пня, плоскага, як грубка, распарыўся і не мог падняцца. Расчырванеўся ад агню, валасы вылезлі з-пад шапкі, папрыліпалі да яловай кары. Праз картовыя порткі грэла калені і сцёгны, — стала зусім як дома.
Брэх і стрэлы даўно глынула мяцеліца. Было што цяпер у лесе, ратавалася ці канала ад раны, — чорт з ім. Пайсці ж дадому, — заядуць. Пасля стрэлу трэ' было бегчы. Так адкрыта? На леспрамгасцаў наткнуцца можна. Ды ці мала на каго. Калгас жа лес тралюе...
За гэта не гладзяць...
Колькі таго пажытку, калі і ўгробіш жывёлу. Ды і не адно яшчэ горла прыйдзецца заткнуць, Выжлятнік наперад плявузгаў. Разарвуцца на кавалкі, расцягнуць па костцы, што ваўкі. Хаця... Лес вялікі. Абход Выжлятніка. Ён тут перш-на-перш. А цябе не адкідае—маўчы, не ный. Яшчэ што скажаш, чаму не пабег, маючы маладыя і здаровыя ногі... У Джвучкі адгаворка — рэўматызм...
Яловая кара лускалася пад азадкам, макрэла ад цяпла, мачыла галёнкі. Сядзець стала, што на халодным камені.
Галаву цягнула долу, млела шыя. З цяплом сціналіся павечкі. Прывалаклася скруха-шкадоба. Па нечым...
Жылі ў лесе двое — Выжлятнік і лось. Стала цесна...
Думкі вязалі доўгае вязьмо, але гэта быў хутчэй сон. Чалавек-падручны ішоў на чалавека-завадатая ў сне. Рэальнасць і небыццё доўга змагаліся недзе глыбока ў свядомасці, пасля саступілі нечаму празрыстаму і лёгкаму — забыццю ад усяго на свеце.
... Баляць плечы, дзярэ ў горле, пяршыць. У ваччу сіне. Не ногі — скрыпучыя мыліцы. Трашчаць, гатовы шчапацца, калі ўзаб'ешся на пнішча. Мокра ў паясніцы, мокра і горача пад вязанкай за спіной. Павалакан ляжыць недзе, засыпаны снегам, у расцяробе пад Сырніцай. Чалавек ірвецца без розуму, без развагі.
Лось вёў Выжлятніка назад. Сцягаў да Віліі, вывалак на луг, на заснежаную беражніцу і павёў пад Асіпаўскае, кіраваў на Пагурак.
Жывёла калясіла — рабіла круг, як і ўлетку.
Сабака енчыў нямаведама дзе. Лес стаў чужы. Такія елкі ніколі не надараліся — густыя, чырвоныя, у дзідах. Схмурэла. Паўдня мінула? Вечар? Хто скажа...
Ногі скрыпяць у каленях, рукі ўпускаюць ружжо.
Зранены, абабіты, у крыві...
Няма чым дыхаць. Мала свету... Разрываюцца грудзі... Не ад болю за сябе, а з-за боязі страціць тое, да чаго так кароткі рукі.
Стрэл...
Стрэл уловіць Асіпаўскае і Сырніца, учуе Платон з Раманам.
Стрэл — збавенне, ратунак. Прыбягуць, знойдуць, стануць на след...
Чалавек падае ў снег. Грабе пад сябе нешта вострае, дзяркатае. Захлынаючыся, хапае ротам, як рукавом, калючую стужу.
... Платон узбіўся на сляды пад Віліёй.
Пад Сырніцай у расцяробе выцяг з-пад снегу павалаканец...
У самым Чар-чагу вытарабаніў з леташняй яловай вершаліны Выжлятніка...
— Не дае, мілы, дыхаць... Не цягні... — адна сіпка.

Чалавек не стаяў на нагах: натрудзіў, падарваў сябе.
— Човт з ім... Конскае мяса... Ачухайся. У цяпло трэба... Загінеш...
— Адпачыць, мілы... Адсапнуцца дай. Ногі, ногі здалі... Ніколі не думаў...
Дробненькі сняжок церушыўся праз яловыя лапкі. Унізе, ля зямлі, шарэла. Мітусілася ў ваччу, бы пад самым носам камары таўклі мак. Надыходзіў вечар. Па-зімоваму, адразу ж пасля палудня.
Людзі зноў улеглі следам.
... Вочы адплюшчыліся з болем. Твар быў чужы, гарачы і мокры. Снег сыпаўся, таяў, цякло за каўнер. Звяло калені.
Агонь стух. Пішчала, сквярлося вогнішча.
Той самы, мусіць, грук, што ўзбудзіў, аддаляўся, цішэў.
Раман ускочыў, утаропіўся. Не мог ні ступіць, ні апусціцца сесці...
Між сасон нехта ехаў на гнедым кані... Паволі-паволі, сунуўся проста...
Першы зман, што наплыў хутчэй праз сон, знік...
Перад вачыма дыбаў лось. Вялікі, стары, з рыжым бокам, як калгасны вытворнік з Закалюжжа, што быў падабраў пад сябе летась дзеда Тодара... Валок па зямлі рогі, як саначкі па снезе, ад змору, відаць, і натугі, што давялося знесці.
Лось адыходзіў на Чар-чаг. Ратаваўся. Выбіўся быў аж на Ваўкаўню. Бліжэй да чалавечага жылля шукаў паратунку.
Знікне... Сыйдзе з воч... Заблытаў след, адчапіўся ад сабакі... Марудзіць мо' перад большай 'шчэ дарогай. Прарве да Віліі, вернецца на Палік...
Бегчы пасля сну і аддухі лёгка. Раман выскачыў на тую паляну, дзе прыткнуліся былі раніцай на бярвенні. Лось дыбаў беразняком, густым, і цёмным. Падняў рогі, выдавала — чуваць, як ён соп-чмыхаў... Ля дзвюх елак тарканууся на якую хвілю: учуў блізка чалавека. Раману не трэ' было доўга мецішча...
Стрэл хляснуў сухі і рэдкі, як хто дубцом сцебануў па плячах. Счакаўшы, загуло рэха — далёкае, грознае...
Лось стаяў, выдавала на'т, не ўчуў стрэлу. Пасля асунуўся на дол з усіх чатырох, знік з воч...
Скаціўся ў ямішча канюшні-зямлянкі.
Таго не бачыў хлопец і не бег глядзець: схапіла дрыжыка. Ляпалі зубы, не сцяць — скрыгочуць, што плугі па каменні на лавацкім полі.
Сціснуў іх моцна-моцна... Не згледзеў, як да крыві раскусіў палец.
Бегчы, знікнуць адсюль...
Ззаду забрахаў сабака.
Падступіўся азноб, — нехта працягнуў па целе шурпатую ледзяную руку, як намерзлую яловую карыну.
Стала блага.

— Нас сямёра.... Брыгада. З пня валім. Ферма ўвесь лес калгасны падчысціць... Узяўся наш старшыня з Авяр'янам...
Дзедзіха гаворыць, нібы апраўдваецца. Не разбярэш.
Прыйшоў ён, як добра сшарэла. Вырас, што пень з-пад снегу. У фуфайцы, у ватовіках; шапка з апушчанымі вушамі. Наморaны, спрацаваны, відаць, памахаў рукамі за дзень. Перацяты ў паясніцы пілой — пузатай, новай, зусім белай: зімой смала не ліпне.
— Калгасная, мілы, пілка ў цябе, глядзі якая... Твая ж, помню, старая, вузенькая. Добрая была, дык і зрэзалася так. Гэта не дажыве...



Два чалавекі бачаць адзін другога навылёт, гавораць жа богведама што...
Двое другіх — стары і малады — толькі павярнулі галовы. Не здзівіліся, не спалохаліся. Лішняе вока — бяда. Але ж гэтае за сваё слыло.
Снег вытаптаны, чырвоны, аж буры, калі доўга глядзець. Як свежы гліняны ток у пуні.
Яны — у самай яміне, даўнейшай зямлянцы-канюшні. Згорбішся — і не відаць. Каля Андрэевых ног снег бы ўсыпаны журавінамі; ля рудога, без кары пня, дзе Выжлятнік, нехта мо' нацярушыў дробненькіх, як мак, брусьнічак. Чырвоненькіх — пераспелых і перамерзлых.
Людзі атрасалі ад крыві рукі.
— Ты тут, мілы, з канём? Пугоўе ў руках...
— Тралявалі лес да Масткоў... Пад машыны...
— А як?..
— Што «а як?» Вы нарабілі такога стуку... Дурных няма... Толькі...
— Мілы, не страш. Што толькі?
— Я адзін на след узбіўся. Другім часу не было лыхаць па лесе. Працавалі. А я... Пачуў ружжо сваё. Яно ж у Пэрца ад той нядзелі засталося, ты ж, здаецца, браў... Пачуў — і душа замёрла.
Выжлятнік і верыў і не верыў.
Селі на разасланы Джвучкаў кажух. Дзедзіха бы і не бачыў Мірона. Сачыў — як Платон ёрзаўся нагамі па разасланай мяккай, ліпкай і слізкай чырвонай скуры, сыкаў і бурчэў на Пэрца.
Ад жывёлы засталася нязграбная чырвоная груда на снезе, як куча насечаных альховых дроў пад варыўнёй на дрывотніку ў Выжлятніка.
Скура сабе, мяса сабе...
Толькі галава лася ляжала воддаль, як жывая. Закінула са снегу ўгору рогі, навастрыла вушы, падцяла губы...
Выдавала — дыхне праз храпы, разадзьме снег, страсяне рагамі... З зямлі вырвецца жывёла, якую сцяло мерзлай грудай, здушыла, змардавала, але не загубіла сілу і прагу да волі, да ляснога святла і цемры... Грукнуць капыты — застогне лес.
Дзедзіха ўгледзеў вочы, — там, дзе сівая крэсачка праз нос, — чорныя і мокрыя. Яны плакалі...
Выжлятнік сачыў. Ён ведаў, што думае цяпер гэты чалавек... Закурыў, сплюнуў:
— Шкадаваць, мілы, нечага... Пацягаў нас... Сам таго не варты. Ты тут, мілы, з канём. Прама скажу, зрабіць трэба, каб на ферме было ціха. Ацямнеем жа. Каня затрымаем. Цяпер не сунешся: уся ферма ў зборы. Хаця — кумпяк любое горла заткне. Толькі ж іх не хопіць на ўсіх. А табе...
— Дай чаго мацнейшага дыхануць... «Беламор» сёння, што трава...
— І ў мяне «Беламор». Памяняем. Бывае, пачка трапіцца... Мілы, сам бачыш... Блізка да вёскі. Добра, што ў яміну загнала падлу гэту. Хаця нішто, раз'еўся. Кумпякі-калоды. Пальчыкі, мілы, абліжаш... Стараваты толькі. Варыць і смажыць годны. Блізка да вёскі, кажу. Хаця, мілы, не пацягнеш куды ў Чар-чаг. Каб толькі ціха. Але ж больш нікога не прынесла. А так што? Быў стрэл ці мо' толькі дзяцел дзюбаў — хто скажа? А ты... Я ведаў, што пра летняе знаў... Я думаю, і па-твойму, як і па-мойму... Што тут, мілы, такое сталася? Дзяцел чарвячка клюнуў... З-пад карыны дастаў. Хе-хе... Наш лес. Дзе захацеў, там і пралез.
Чарнее крывавае вытапчышча, нібыта на зямлі перавярнулі дагары скуру.

Пасля поту за спіну лезе холад. Дзедзіха ўздрыгвае...
У ваччу — чырвонае полымя... У памяці — далёкі ўспамін...
Было адразу пасля вайны. Па лясах сноўдаліся ваўкі. Адкормленыя, адужэлыя. Ніхто іх не кратаў аблавамі. Пачалі ўлетку браць дзяцей — з двароў, з выганчыкаў. Накідваліся на людзей у дарозе. Звяры асмеleліся за вайну ды пакаштавалі за франты і блакады чалавека... Гаварылі — былі аўчаркі, што разбегліся з Паліка пасля разгрому адной эсэсаўскай часці нашай рэгулярнай арміяй.
Ліха іх ведае...
Цяпер ваўкоў зменшала: павынішчалі паляўнічыя. Гнёздамі бралі малых на сконе лета; білі старых, дзе пападала. Адзін Тодар ля скаціны колькі вунь збяёдаў...
Была якраз такая пара. Вяртаўся ён з раённай нарады старшынь. Адзін. Каня не браў: на лесавывазцы тады і старое і малое цягло жылы рвала. Каняка які за дзень вунь на колькі падганяў план. А з'явіся ў райком на кані, калі вывазка гарыць...
Пад'ехаў машынай па шашы пад Дзераўно, злез. Пайшоў пешкі. Вецер у вочы. Мароз. Пальцы мерзнуць на руках, — станеш, адатрэш і далей. Кіламетраў з дзесятак да Грынёў дыбаць было. І дыбаў. Час такі, работы заўтра зраніцы па горла, па вайне мацаваліся якраз, на ногі ўзбіваліся. Мінуты спакойнай не выкраіш. А тады ў райкоме паслухалі, параілі, памаглі былі. — Перапёлка тады сакратаром першым стаў. А думаў жа за план папруць, дзе Макар козы пасе, — дык ногі не чулі ні дарогі, ні марозу.
Выйшаў на поле, пад Грыні. Абапал хмыз, разгаты, натапыраны. Мяльцешыць усё перад вачыма, як жывое. Ачомаўся, прывык да страху-шораху за плячыма. Поле — Гальдарада. Некалі хутары былі там, у калектывізацыю перавязлі іх на канец Грынёў. Цяпер там бульба неблагая расце. Дайшоў якраз да гальдарадскіх дубоў... Паспеў толькі прываліцца спіной да камля, не помніў, як асунуўся, сеў у снег. Знямеў, — заткнула глытаўку. На шашы замітусіліся зоркі, мо' то неба ўначы пад'яснівалася, — вецер дзёр сыпкі снег і нёс у вочы, скуголіў, выў, екатаў... То быў не вецер. Ваўкараззё... Пёрла насустрач. З-пад Грынёў...
Апамятаўся ён аж на загароддзі, ля калгаснай фермы. Выбіўся на двор, дабег пад Бусліныя сосны. Адсопся. Не мог сцяміць — чаму здубела раптам вопратка, пакрылася льдом. І цяпер не скажа — бачыў тое ці мо' прыдалося: пярэдняя ваўчыца спынілася ля дуба... На яго палілося нешта гарачае і праціўнае. Ён быў закрыў вочы...
Насланнё мінула. Звяры не зачапілі. У тую ноч ён не дайшоў да Закалюжжа, зваліўся з ног у Грынях. Назаўтра трэ' было ў МТС. Спыніў каня ля дубкоў, злез. Нічога не пазнаць: сляды занесла. Але пад Дзераўно, калі з шашы зварочваць на МТС, конь захроп, даў у хамут. Прыйшлося злезці. За кустамі кінулася ў вочы нешта змятае, чырвонае, — як бінты ў крыві. Падышоў туды — гэта з мастка спусціцца ў лагчыну. Снег быў убіты, як і тут, у зямлянцы, спырсканы крывёю, саследжаны звяр'ём. Нацярушаная поўсць тырчала са снегу, — як шылле ад жухлай сасны, — жоўтая, доўгая.
Рэзаліся звяры. За самку ці з голаду... А мо' хто з іх раздзёрся на цізіду, і яны ўчулі кроў? Канцы таму... Глынуць...
Звяры рвалі сябе...
Тады ён укуліўся ў санкі і гнаў каня да МТС як толькі мог.
І цяпер яму захацелася выбегчы з ельніку на дарогу, ускочыць на каpы і гнаць, гнаць з лесу каня.



— Што маўчыш? Дай пвыкуру... Замерз, пакуль спарадкаваліся...
Да Дзедзіхі цягнецца рука, не вымытая ў снезе ад крыві, не выцертая аб паліну кажуха, як ні стараўся Джвучка.
Ззаду за Платонам — Пэрац. Пераменьваецца з нагі на нагу. Картовыя штаны мокрыя, прыліплі да калень.
— Змардаваўся хлопец, прама скажу. Ці не захварэў ты? Чырвоны, што рак. Цяплей трэ' было апранацца. І не спаць. Нічога, мілы, хай чуць сціснецца — будзем дома. А там — гарэліцы і ў пасцель. Як рукой здыме, прама скажу.
— А-а... Пройдзе. Дзядзька Андрэй, дзе сёння Аркадзь быў? Мо' на рамонце? — голас сіплы, з кашлем. Хлопца ціснула прастуда.
— З намі. З пня валілі. Заўтра трактарам тралянём, калі старшыня закамандуе. Бо коні — жылы. Напнеш лішняе — лопнуць. Не тое, што трос.
Пэрац падышоў і тупаў вінаваты і ад гэтага 'шчэ больш хворы. Не прасіў закурыць, лізаў толькі языком па вуснах, даставаў рукамі штаноў і выціраў неўпрыкмет пальцы.
Дзедзіху здалося, што хлопец баіцца людзей, і яму стала шкада-шкада яго, і тая злосць, якая была сцяла некалі ў хаце, ля акна, зноў варухнулася ў душы. Стала горача. Ён нагнуўся да зямлі, зачэрпнуў жменяй снегу, сцяў у кулаку. Скамкалася снежка. Растапырыў пальцы — яна скацілася і знікла ў навеі.
«Задліжыць, глядзі. Заўтра з цяплом возьмемся за тралёўку...»
Пэрца трэсла.
Над ім павіс камень, і ён, хлапчанё яшчэ, гатовы ўжо быў на ўсё, каб стаць ранейшым — гарэзай, верхалазам, назолай, — толькі б не мець ніякай віны. І ён даўся перш-на-перш хваробе.
— А цяпер... Каму што. Не шлэпай, Джвук, сядзь. Мітусішся шмат. Сваё палучыш. Не абдзелім. І ты, хлопец, марш бліжэй, марыгуліць будзем. Не нюнься, ты зарабіў. Такую тушу скінуў, яшчэ і за тапаром у вёску збегаў. А то раскіс... Бы наеўся ўжо...
— Абсалютна...
— Што?.. Давай, Андруша, намацаем, дзе мякчэйшае. Для цябе, прама скажу...
Людзі заставаліся ў лесе. Чакалі цямна.
Пахла падзолай ад растаптанага ў зямлянцы на самым дне гнілога слупка, струхнелага, сырога.
Наставала мяккая, з лагодай ноч.
Лес сціх-стаіўся. Натапырыўся-слухаў.
Злягаўся снег. Здавалася, чуваць было, як патрэсквае пад ім сухое сучча і папараць.
Сабака грыз косці, туды далей, за шліхтай бярвення, у вяршаллі. Прагавіта, гадка.
Там, дзе зімаваў леспрамгас, загулі машыны. Гэта пад Ваўкаўню, ля вёскі.
Людзі не чулі. Не да таго было.

— Я люблю цябе...
— Перастаньце! Прашу... — ёй невыносна.
— Скажыце... Мне дваццаць чатыры. Магу я з вамі гаварыць адкрыта? Я нікога з дзяўчат не меў яшчэ...
— А я не пытаю, меў ці не меў. Знайшоў, чым хваліцца, ты падумай...

— У дваццаць чатыры гады пацалаваў першы раз... Вас пацалаваў... І то ў халодную шчаку.
— Ха-ха-ха!.. — звонка, ядрана, бо на марозе.
— Смешна... Толькі, чаму вы мне нічога не адкажаце? А я вас так...
— Васіль Міронавіч!..
Яны ўдваіх. Выйшлі на лыжах на поўдні. Ён — пасля ўрокаў; яна — па дзяжурстве ў бальніцы. Выскачылі былі з Грынёў на зімовы бальшак, прыцёрты машынамі, — яна паперадзе, ён ззаду, — дабеглі да маста, звярнулі ля лавацкага саду на поўнач, вынырнулі з альшэўніку на выган ля самага Закалюжжа і прайшлі праз усю вёску, знікшы ў сасонніку ля Ваўкаўні. Там, за хатай Андрэя Дзедзіхі.
Цяпер былі ля Масткоў.
Пакінулі ўбаку леспрамгаскія будынкі—дзве доўгія канюшні, кузню, лесапілку. За студняй, па другі бок дарогі, дзе натралявана дроў і даўгоцця, — мінулі стагі сена, высокія, гарбатыя, па-гаспадарску аскубленыя ля долу і абгароджаныя ў колькі вунь жэрдак.
З кузні ад кавадла ляцеў звон, сухі, высокі. Шумела машына. Там згружалі вугаль.
Усё знікла, усё заступілі Масткі.
Галіна спынілася, каб прычакаць Васіля Міронавіча. Разгуляйся з такім, крыкні, каб шукаў цябе... Згубіся...
— Галіна Фёдараўна... Не-не... Я пра Петушонка. Выклікаў учора да дошкі вучня: «Дзе Баб-эль-мандэбскі праліў?» Яго любімы канёк... Ну, хлопец тыц указкай у адно месца... «Не туды!» Той тыц у другое... Такое Петушонак выпаліў... Вушкі звянуць.
— Культура... Вучыце дзяцей.
— А сёння... Ваяваў цэлы дзянёк супраць швейнай машыны. Яна ў нас пакуль у настаўніцкай стаіць. Гітары і мандаліны ў калідор шпурляў. На дырэктара новага зуб мае: «Да яго ў кабінет — гэты лом! Гэты політэхнічны лом!.. — крычыць. — У настаўніцкай не павярнуцца...» Разумееш, політэхнічны лом... Во, тэрмін. Самы навёсенькі... Школа цеснаватая ў нас яшчэ, а прыбораў — заваліся. У лабараторыі і ў складзіку не ўмесціш. Пакуль узвядзем новы корпус, пастаіць швейная машына і ў настаўніцкай у парозе. Кожны ж перапынак з класа ў клас соўгаюць. Павісяць і мандаліны...
— Ведаю я вашага Петушонка і не хачу слухаць. А ў вас настаўнікі ёсць і з высокай культурай, знаёма. Толькі няньчыцеся, вось, з Петушонкам. А вы, Васіль Міронавіч, заігрываеце з ім, пацяшаецеся. Тэрмінамі любуецеся... Вам смешна, што чалавек сваё, відаць, адрабіў. Мінуў яго век. Хай саступіць.
— У яго яшчэ рука у райана. Ну чаго гледзіцё? Што вы ўчынілі, га?
— Ты падумай... У райком пайшла б. База політэхнічная ў школе ёсць? Есць. Майстэрня трэба? Трэба. А загадчык майстэрні ёсць? Няма. А географа вам прышлюць. Заяўку дайце. Хапае ў горадзе цяпер настаўнікаў без дзела. А да вас недалёка. Можна штосуботу на праспект ездзіць. Я ведаю такіх, што без работы па тры гады там сядзяць. Хочуць уладзіцца ці ў самім горадзе ці каля блізу. Хутка месца зоймуць, хай толькі пачуюць. Дык вы даражыце «інтэлектам». Выгадавалі... Адукацыя, палёт думкі, «гіяграфія»... Я шмат гавару, праўда?
Яна ў шарсцяной белай кофтачцы, у белай шапачцы. Белы шалік далікатна прыцісну ззаду на шыі смешны кутасік-пупсік. Так і цягне Васіля патузаць за матузкі. Ад спакусы смешна, і ён хітравата зазірае ёй у вочы. Ён у спартыўным рудым касцюме; на шыі — у чырвоную клетку шалік, пыжыкавая шапка аж на патыліцы. Высокі, стройны,



калі трымаецца за кійкі. Сёння ён да спадобы Галіне. Мо' таму яна і папусцілася, калі ён папраўляў у яе мацаванне на лыжыне, у Ваўкаўні. Пасля надзьмулася і не размаўляла. Ішла паперадзе, плаўна, прыгожа, адштурхоўваючыся смела і пругка. Ён падступаўся адтуль і адгэтуль. Тады стаў прасіць прабачыць. Для чаго і што? Загаварыла зноў, мо' каб не чуць просьбы і прызнання. Зімой, сярод лесу? Нашто яно ёй? Ніколі не думалася пра такое, і цяпер не хацелася думаць. Нядрэнны ён хлопец, з розумам, бывае часам не можа сябе паставіць...
Лес глуха гудзеў, крактаў, бы разгінаўся стары — млява, нехаця.
Ад Ваўкаўні да Масткоў — калгасны абшар. Закіданы вяршаллем, суччам. Працярэблены, рэдкі, — бо свіціцца, што вышарпанае палатно. Пні лучаюцца аж па грудзі — гэта мо' ад таго, калі наспех будаваліся пасля вайны. Але ж дагэтуль можна было прыбраць, агледзець чалавечым вокам. Відаць, гаспадарылі тут па Джвучкаваму закону: калгаснае — усіхнае, не маё адно. Дык начорта мне аднаму апрагацца. Хай нарад дадуць, працадні запішуць, што лішні раз нагнуся падабраць за сабой...
— Прывыклі... Шмат каго трэба...
— А па-мойму, Васіль Міронавіч, — забраць лес у такіх. Пад дзяржаву. Есць жа праект. Пачысцее. Адразу. Як ён летам дымам не пойдзе, калі ўсё гэта сухое?..
Скіравалі дарогай, што вяла ад Масткоў на лугі, пад самую Вілію да Жоўтага берага. Ішлі ціха, ён стараўся быць побач.
— Дзяцел стукае, як хто пяткай тапара дзяўбе...
— Як хто пальчыкам у дзверы. Просіцца...
Перайнач яе думку, вазьмі звярні на свой бок...
Смяяліся. Маўчалі. Сышлі на лінію-прасеку. Гэта летняя дарога па карэнні. З-пад снегу ўзбоч лезуць абцярушаныя галінкі верасу, — мо' 'шчэ спіцамі і восямі, ці абабітыя капытамі. Па куп'і шныраць чырвоныя гілі, пырхаюць 'шчэ здаля, пакідаючы на снезе крэсачкі ад лапак і пацярушку ад верасу.
З купіны скаціўся камяк, як белая шапка-вушанка, падняў за сабой снег, панаторкваў слядоў-ямак і лінуў праз дарогу ў пакурчаныя багуны на імшары.
— Ты падумай... Заяц... Нацярушыў іголачак. Па ўсёй дарожцы. Шэранькіх, відаць на снезе...
— Што кот поўсці. Выскубся са страху. Не выліняў да зімы добра. Худы, мо' хворы. Вам бы паслухаць яго. Мо' ён драпака даў, доктара ўчуўшы? Пёр, што лапамі з-пад бруха, недзе аж скуру злупіў...
Спыніліся, нагнуліся.
— Сам ты кот...
— Ліса рыжая...
— Ты падумай, ліса... Не ведала.
Лёгкая і гнуткая, яна сыпанула яму за шалік снегу, — і была ўжо зноў наперадзе, ішла без аглядкі па рэдкалессі.
— На пень не ўзбіся... Лыжы скалечыш!..
«Ы-ы-ш...» — глухое, зімняе рэха. Там, адкуль прыйшлі, панёсся стрэл — далёкі, працяжны.
Васіль нагнаў яе.
— Галаву скруціць можна. Барысаўна тады мне харакіры зробіць. Чуеш, адгалоскі?..
— Ага.
— Леспрамгас. Далекавата адсюль. Праз граду. Чуеш, як звіняць электрапілы? Што чмялі, як у гняздзе точацца.
— Ага.



— А ты чула калі?
— Ага.
Яна зноў наперадзе. Ускочыла з лыжамі на пень, атрэсла рукамі снег з калень і нырнула, як спалоханая курапатка, у разгаты бярэзнік.
— Галіна!..
Спынілася была, мо' што ўчула ў голасе трывогу. Вярнулася, бо ён клікнуў яшчэ. Выскачыла з бярэзніку і зноў была на пні. Пакалыхвалася, пакуль супакоілася.
Ён калясіў, дзе загіналася ўлева дарога на летні разор ад пажару.
— След... Гналіся... Раніцай... Свежа зусім. Паглядзі. З Асіпаўскага. Да Віліі, відаць, бо ля грады электрапілы...
Яна бачыла толькі чалавечыя сляды, побач — бы хто паленам торкаў глыбока ў снег, аж да зямлі, — і ўсё.
— Ты падумай... Кроў. Як хто вунь ёдам пырснуў...
— Ідзём следам.
— Не...
— Ты думаеш?.. Яны ж паранілі. У іх сабака. Угледзелі след?
— Я не егер. І не люблю палявання, не люблю забіваць. І глядзець не хачу і слухаць не стану. Каб мая сіла — забараніла б падымаць ружжо на ўсё жывое.
Прайшлі колькі следам, ісці было цяжка, нязручна, бо па ельніку.
— Лес. У лесе ўсё бывае...
— Вы апраўдваеце? Філасофія. Што ў Леаніда...
Сказала, асеклася. Памаўчала, спытала яшчэ:
— Не піша? Сябры ж...
— Не.
— Такі лес. Ляснік адзін, а браканьераў... Леснікі павінны не толькі лес сцерагчы, а і душу жывую ў ім.
— У нас яны сцерагуць... Браканьеры самі. Здаўна. Выжлятніка нашага знаеце? Не ўсе, праўда. Але ж каму не спакуса, скажам, лася аблажыць? Ды і ў лесе кожнаму свая галава — закон.
— Выдумка. Судзіць за гэта. Варта... Для мяне і ў лесе існуюць агульначалавечыя законы... — сказала, звярнула са следу і пайшла адна. Лёгка, шыбка...
— Галі-іна... — ён змог сябе, скіраваў на дарогу.
Яны плылі асіпаўскай пасекай — аснежанай і ад таго бясконцай у надвячэрняй мяккай сінечы. Малады, дваццацігадовы лес-сасняк, прыцярушаны, драмаў у мроях. Васіль не помніў, з расказаў чуў, як калісь тут гуў адвечны бор, пасля сплыў Віліёй, — агаліўшы асіпаўскі бок. І ўжо за Васілёвай памяццю тут зазелянелі, заслалі дол калматыя пахнючыя сасонкі, — прыняліся на добрай зямлі. У вайну пачалі былі нішчыць сасняк, карчаваць пні і ўздзіраць пасеку пад жыта. Месцамі. Па-звярынаму прагавітыя да аднаасобніцтва і дармавой нажывы рукі рвалі, палілі маладыя дрэвы. Ці не Выжлятнік гэта, ляснік цяперашні, з Джвучкам лезлі тады? Самыя першыя.

Раслі жыты, на лес гледзячы. Ды не неслі багацця. Не мог дайсці сваёй мазгаўнёй ненажэрны чалавеча, не мог сцяміць — дзе і адкуль браць яго. Думаў нацярушыць з капы-другой жытца... І з рук сышло тое людзям, даравалася вунь як мо' дарма.

Праз гады, праз немалы час тут зноў будуць лясы, збуялыя на зурадлівелай ад прыроды зямлі, — цёмныя, несціханыя ад жыцця.

Пад Вілію — града. Былая граніца ад Польшчы. Грады не пазнаць, не ведаючы. Парасла сасняком, — і ён зраўняўся з тым, што на пасецы, а дзе-кольвечы стаў абганяць. За градой Жоўты бераг — пагранзастава да трыццаць дзевятага года.

Шорхаюць лыжы, дзе цвярдзейшы, злеглы снег. Зверху сыпле крупамі, парывае вецер, — паволі ўсталёўваецца на спакоі.

Васіль у знямозе-паветры. Яна ад таго, што дзень плыве ў смуземярэжы, наганяе нязвыклыя думкі, як усхліпы. Усхліпвае вецер, усхліпвае душа, тады зноў замірае, супакойваецца, ды не стыне, — яе ўзбудзілі, мучаць, трывожаць...

«Я кахаю цябе, Галіна...» — гэта пяе ад радасці душа, ад нязведанай раней стомы. Так ад самага лета. Нязносна, балюча... Каханне — мука. Неспакой, утрапенне...

Ён стане гаварыць пра тое, не адступіцца, бо стань маўчаць — не жыццё...

А яна — здзек, жарт, усмешка. Бо ў душы мае другое. Хто для яе Леанід і Аркадзь з Закалюжжа, што так часта бывае ў клубе? Хто той, зусім далёкі сябар па школе, пра каго памкнулася раз сказаць?

Як прыкра ісці ззаду...

Абмінае ледзьве не ўсё на свеце, калі абыходзіць каханне...

І чаму ён такі, са сваёй прастатой? Нягеглы, зусім жа не для любові... Але так любіць душа... Чаго 'шчэ трэба дзяўчыне? Каб жаніўся? Хоць сёння, сярод гэтых дзікіх і калючых сасняковў...

Ды не. Дзяўчына хоча кахаць, а не замуж... А ён? Хіба ж без любові мае такі намер? Не любіць яна. Але ж за шчасце трэба змагчы, адолець няўрымслівы мо' лёс? Яна 'шчэ можа пакахаць яго, калі ён будзе таго варты.

«Кахаць... Кахаць...» — шумяць лыжы.

Бралася на сутонне, асмужала.

Была пара, калі пахмуры дзень сваёй вяласцю і знямогай дае пазнаць, што заходзіць сонца. Яно цяпер ззаду, над Закалюжжам; зірнуць туды — там святлейшы кут неба, нібы дзе з хаты праз вокны цэдзіцца блеклае, слізкае святло.

Драмалі сосны.

Скрозь бялеў снег.

Яны выйшлі на пясчаную выспу — абрывісты, вышэзны бераг Віліі. Да яго, Васіль памятае, падступалі будынкі заставы. Цяпер тут — пустэча. Цяжка н'ат угледзець напамін жыцця. Усё адгэтуль звезлі пасля трыццаць дзевятага года, а якія-кольвечы рэшткі ў партызанскія часы спяклі паліцэйскія, адтуль, з-за Віліі. Самотны кут, засыпаны, схаваны ў снягі.

Прыкметны зімою вечар у лесе...

Накляваўшыся з настылых бяроз, што пракідаюцца між сасняку, пупышак-почак, халодных і цвёрдых, як гарох, набіўшы туга воллі, падаліся пад Цяні-імшары і асіпаўскія лесасекі чародкі камлюкаватых цецерукоў, — пакінулі пасеку. Шмат скіравала іх і да Віліі — на лугі. Вунь 'шчэ якіх можна ўгледзець на рэдкаверхіх высокіх соснах, што бліжай пад беражніцу. Адтуль, з вершалін, сыплецца рэдкі сняжок: варушацца леныя птахі, чысцяць дзюбы аб цёплыя нахохленыя грудкі, а мо' чуюць адкуль трывогу там, уверсе. Сядзяць, спачываюць, пасля даюць нырца проста ў снег — у імгненне, са спрытам. Праклёўваюць лёганькі шарпак, кешкаюцца, што куры ў пяску, рыхтуюць ямкі, пасля зашыюцца ў бачок пад самы снег і паснуць на ноч. Не пройме іх ні вецер, ні мароз. Хай трашчыць сабе па пнях і па карах, хай прабірае да стрыжня сосны, даймае ў лесе ўсё жывое і галоднае, — цецярук не чуе. Ноч пад снегам для яго цяплей, чымся марозны дзень на наскрлелым бярозавым голлі.

Як толькі збяжыцца цемень, — з-пад натапыранай у снезе елачкі выткнецца палахлівае зайчо, паківаe-паводзіць вушамі, пачмыхае і патрухае з беражніцы пад Вілію, дзе лозы і асіннік — на жыр.

Скочыць асцярожнае зайчо са стромкага берага, ссунецца па снезе, перакуліцца праз галаву, не ўтрымаўшыся; замрэ, чакаючы богведама якога страху; адсапнецца і 'шчэ з большай асцярогай паскача-паклыпае логам пад вілійскія лозы ля затокаў.

Раптам з-пад зямлі — фантан снегу... Зайчо хтось шпурляе ўгору, сцёбае калючым і шорсткім, лупіць поўсць аж са скурай... Вусатая мордачка зайчаці натыкаецца на штось чорнае, страшнае... Кінулася зайчо ў бок — там другі жывы камяк, скокнула ўперад — зноўку! Грыміць беражніца, віхрыць, бы ўзнялася-ўскруцілася бура-мяцеліца. Чарнее снег, варушыцца, жыве. Хлопае, хлюпае, стракоча...

Палахлівы звярок лінуў, як апантаны, назад, пад асіпаўскую пасеку, у снягі і сасняк, без аглядкі, без галавы. Уперадзе яму — галодная ноч: цецерукі не далі павячэраць. Чаго ім... Ляжалі б сабе, апрагаліся сном, дык не...

А хай пырсне за Віліёй на ўсходзе зара...

Па шэрані лёгка падысці-падкрасціся да самага птушынага схованішча. Счакаць, покуль заіграе дзень, заіскрыцца сінькай белае прырэчча; прыпомніць, што вунь там ля пахілай лазінкі закапаўся ў снег — белы пясок — самы крайні, нахохлены, санлівы, лены ад тлушчу самец... Зайсці ад яго, падступіцца на стрэл. Успароць з-пад снегу таго лёгка: чуткі птах і ў сне ўловіць крокі здаля...

Вастры вуха... Льга будзе зрабіць два-тры дуплеты... Цёмныя, аж сінія на белым снезе цецерукі, хлопаюць крыллем, засыпаюць снегам з ног да галавы, засцяць свет. Будзь спрытны і ўтрапёны... Шрот падсякае напэўна, як мае быць рэжа крылы. Сытыя камякі чвякаюць у снег, што качаны ў кадзь на шаткаваную капусту...

Яна чуе, як цёпла дыхае побач Васіль Міронавіч, як гаворыць, бывае аж заікаючыся.

Няпраўда, што яна не любіць паляваць! Яна ўжо гатова ўсю ноч чакаць світанку, мерзнуць, склецы на холадзе побач з ім. Тут ён цікавы, лагодны. Разумныя вочы зусім не хітрыя, як бывае, калі ён хоча жартаваць...

Яны на выспе.

— Гэта ў нашым баку, Галіна, самая большая гара...



Ззаду лес — сцяна. Цёмная, аж бурая туды, дзе Асіпаўскае. Мройная, суровая, строгая пушча неспакойна ў сваім сне і цішы...

На поўначы — сінеча. Далёка-далёка там цямнее вёска — гэта ўжо ў другой вобласці. Справа прымярэжаная, сцямнелая роўнядзь без краю, густая, ціхая. Казачная, таямнічая...

Лясы... Прасцяг... Там партызанскі Палік, пра які столькі наслухалася Галіна. Яна першы раз бачыць яго адсюль, з высі. Ён зманьвае, вабіць ва ўлонне, зычыць дзівы-прывіды, навявае мроі, далёкую фантазію, шэпча песні-явы...

Спакой пасля гораду — здзіў... Веліч і суровасць. Любоў і развага. Думкі, загадкі, навевы радасці, — бясконца, без аддухі...

Яна не можа даць веры сабе, не можа сазнацца, што спявае ў душы ад найсця велічы і красы, ад утрапення, ад маладосці... А як хочацца гаварыць, выказаць, што снуецца ў галаве, што гарыць на душы...

Жыццё — веліч... Радасць і каханне. Жыццё — мары... Ад веку і праз вякі... Жыццё дае бачыць і тварыць. Падсячы, падрань яго, — і ты не птушка, ты — камяк, ты чвякаешся ў снег, у гразь. Жыццё — крылы... Яно дае вялікія правы выявіць розум і годнасць...

Лясы... Яны гарэлі ад вайны, ад пажараў — шалаў людзей і прыроды, але іх не знішчыць.

Яны — жыццё...

І яны не могуць згарэць — захліпнуцца ў агні і небыцці ад таго, што могуць прынесці — трасца ім! — неразумныя атамныя галовы. Нават звер з лесу, драпежны і вечна галодны, каб ведаў тое і мог, — крычаў бы, роў супраць пажару-вайны... Ён — жыццё, і ён — за жыццё...

За жыццё — людзі. З розумам, са светлымі думкамі, вялікай, шчырай душы і дабраты...

Яны ўратуюць яго, яны заступяць мір ад немачы-гвалту...

Галіна ўспомніла ўсіх малютак, якіх давялося пераняць на свет, узяць на рукі і панесці ў жыццё — вялікае, здаровае, светлае. Ужо колькі калыхала яна на руках людскога шчасця...

Мяккая мярэжа спавівае лес, усцішае яго нанач. Бадай садліжыць.

На душы неспакой, на душы агонь... Хочацца жыць, кахаць...

Недзе глыбока-глыбока варухнулася тое даўнейшае — гарадская сустрэча з Леанідам і летні вечар, калі яна засталася ля калгасных садоў. І ад гэтага чалавек, што стаяў поруч і ў задуменні хмурыў навіслыя бровы, узіраючыся за раку, стаў халодны і незразумелы. А тады вярнуўся, наблізіўся Леанід — той, каго колькі ўжо во не хацелі падпускаць блізка думкі, гналі прэч. Васіль не разумее яе. Леанід зразумеў бы... Як хочацца марыць-гаварыць... З кім? Не з Васілём толькі. Ды і ні з кім на свеце... Пра сваё можна дзяліцца з чалавекам, з якім звязваеш усяго сябе...

Вечар навяваў стому, балелі ногі. Стала сыра.

Маўчалі доўга. Думаў кожны сваё. Васіль неяк згас — ад змору ці ад думак. Цяжка бачыць ля сябе чалавека, які мо' вунь як кахае цябе. Але ж за гэта не гавораць дзякуй. А яна і не ўдзячна яму, не; яе хутчэй працінае злосць. Назойлівасць з'ядае павагу, нішчыць, як палын мяту... Каханне нараджае каханне. А не здолее — прападае само, знікае, уступае нечаму другому. Так думала Галіна, ды так не мог Васіль. Ён знебываўся. Абіваў парогі, тырчаў у бальніцы, хадзіў па пятах. Сачыў, нерваваўся, — не загавары ні з кім. Сёння яна павінна сказаць усё. Раз і назаўжды. Нямаведама, як і чаму пераступаеш чалавеку дарогу? Ну і што, калі яна прыйшлася па душы? Чыя віна? Але скажы яму такое... Хаця... ён з розумам.

Яна, відаць, шмат думае пра сябе...

Не сказаць? Дзеля чаго тады пёрліся на край зямлі? Гоніць ліха, ды не дае адвагі...

Яна ўгледзела, што ўвесь бераг усланы шляхтамі, высокімі, роўнымі, прыгожымі. Іх тут — не абмерыць вокам... Яна ніколі 'шчэ не бачыла гэтулькі лесу. Звезенага, нагатаванага, колькі разоў перакочанага чалавечымі рукамі, — потнымі, натруджанымі, у смале. Лес чакае вясны, пакуль на Віліі не сарве лёд, ды пасля паводкі не ўтопіцца ў берагі цёмная рака, не забруіць роўнай плынню... Тады пасыплецца з адхоністага берага ў ваду, загрукае-зазвініць бярвенне, — як тая бульба ў загарадку. Запрудзіцца, забурліць, як на кіпені, рака, застогне і павалачэ камлі, што двум чалавекам толькі пад сілу ў абхват, пацягне ў блізкі свет, дзе нагатавана прыстань.

Цямнеў заходні край неба, хапаючы ўсё з воч. Загуло далёка-далёка, ледзь лавіла вуха. Колькі разоў там зжахнулася сутонне, пабурэла.

— У Камене... Электрастанцыя. Міжкалгасная. Самая большая ў нашым баку. Летась кончылі... — чуе яна, ды нічога не можа сказаць. Усё ўляглося, што было ўсхадзілася пасля шыбкай дарогі. Пацягнула дадому.

Цямнела хутка, дрыжала, мітусілася над галавой шэрае неба. Зашумеў ззаду лес — адтуль ішла ноч. На твар упалі сняжынкі, прыліплі, як шматкі паперы. Пайшоў рэдкі снег, павеяў вецер, густы, як тады, пасля полудня. У прыродзе бралася на адлігу.

За плечы краўся холад...

Галіна ўзмахнула кійкамі і знікла з воч недзе там, унізе, дзе пад снегам прэла Вілія і чарнеліся ля затокі густыя лазнякі.

Васіль не памятаў, як нырнуў услед.

...Аснежаныя сосны шумелі глуха. Аснежаныя сосны заўсёды глуха шумяць.

Двое выбіліся на Ваўкаўню, калі ў Закалюжжы міргалі агні.

Выйшлі на ферму — дыхнула цёплым, абжылым. Здалёку праз расчыненыя ў парнік дзверы было відаць, як палае ў печы агонь і мітусяцца ля парога людзі.

Ярка адсвечвалі лямпачкі ля дзвярэй у кароўнік. Мычэлі каровы, шорхаліся аб драбіны, аб сцены.

Бразгаў ланцуг, звінелі вёдры ля студні. Гаманілі жанчыны, лёгка апранутыя, што летам.

— Гэта старшыня памог нам вытурыць сёння яе на канюшню. Капала гной разам з усімі, як прыпёрлі. Нідзе не дзелася. Як міленькая... А то пячурылася колькі, як леснічыхай стала.

Васіль пазнаў Уляну, — Аркадзеву маці. Гэта ж яна на тым праўленні першая падтрымала старшыню, калі той за Выжлятнічыху і Джвучку ўзяўся быў. Смелае праўленне было.

Жанчынам цёпла ля работы. Некалі ўслухоўвацца, што нанач загуў лес, што сыплецца мокрадзь, калі трэба даіць і карміць жывёлу.

Прыпыніліся ля студні, прывіталіся. Ветру з-за будынкаў не было чуваць, — што ў хаце за сцяной. Змораныя ногі цягнулі прысесці, хацелася піць.

Пасля перасеклі гарод з расцягнутымі платамі і пад'ехалі да двара — першага з краю вёскі. Пакінулі ля варот лыжы, пайшлі пастукалі ў дзверы.

Толькі тады Галіна ўспомніла, што яна тут бывала, калі на парозе з'явілася захутаная Анэта.

— Дзеткі мае... У такі снег... Мокрыя... Адкуль вы? Заходзьце, заходзьце. А я вас не пазнала. На сына паглядзіце. Расце. Сядзіць ужо сам. На рукі ідзе.

Атрэслі снег, увайшлі ў першы пакой, селі ля стала.

— Мо' чаю вам — сагрэцца, а мо' чаго цяплейшага? Мы тут мігам. Андрэй... — паклікала Анэта, расчыніўшы дзверы ў другі пакой.

За сталом там сядзеў, відаць, муж. Адвярнуўшыся плячыма на хату, налёг, нагнуўшыся, на край стала. Не зварухнуўся на голас, не абраніў і слова.

— Не трэба. Нічога. Мы нап'емся. Толькі, калі ёсць, хатняй вады... Каб не цяпер са студні. А хлопец хай расце вялікі. Не будзіце. Халодная я, мокрая: на рукі яго не возьмеш. Другім разам... І далоў не пускайце сына, пакуль зіма. А нам — яшчэ дадому з Васілём Міронавічам... Ацямнелі.

— Андрэй... Людзі ў хаце... — паклікала жанчына, пасля зноў да іх: — Намарыліся... Далёка недзе?

— На Жоўтым беразе...

— Ага, ага... — нічога не зразумела жанчына.

Васіль маўчаў, глядзеў праз акно на двор.

Ля хлева — конь, на плот ускінуты лейцы. Сані-кары — пустыя, без бабы. Чалавек аднекуль прыехаў. Не ўсё, відаць, зрабіў за дзень, а змору досыць. А жонка дома дыхнуць мо' не дае. І таго нестае, і тое трэба...



### Першыя творы

У гэтым і наступных нумарах часопіса мы пазнаёмім нашых чытачоў з дыпломнымі работамі сёлетніх выпускнікоў мастацкага факультэта Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.

**Барыс Ус** нарадзіўся ў 1929 годзе ў Палтаве. Атрымаўшы сярэднюю мастацкую адукацыю, працаваў некаторы час у майстэрнях Беларускага аддзялення Мастацкага фонду СССР, а пасля паступіў у інстытут. Дыплом мастака-жывапісца атрымаў пасля абароны карціны «Знайшлі таварыша».

Скончыўшы інстытут, вярнуўся на ранейшае месца працы.

**Юры Тышкевіч** нарадзіўся ў 1929 годзе ў Мінску. Атрымаўшы сярэднюю мастацкую адукацыю, служыў у Савецкай Арміі. Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут скончыў сёлета, абараніўшы дыпломную работу — серыю каляровых лінагравюр «Родны Мінск».





Людміла Ізмайлава. На сплаве.



Барыс Ус. Знайшлі таварыша.

**Юры Тышкевіч. Красавіцкае сонца.** З серыі лінагравюр «Родны Мінск».



**Людвіг Асецкі. *Сігнал.*** З серыі лінагравюр «Кастрычнік на Беларусі».

— Мо' пераначуеце ў нас. Чаго ўжо так. У першым пакоі, калі трэба, ніхто не спіць. Мы ў другім месцімся. Цёпла ў нас. Малака можна будзе згатаваць. З холаду ж вы...

— О-о... Дзякуй... За запрашэнне, за ваду... Цянькі дома не начуюць, як кажуць у вас. Бывайце здаровы. Хай расце вялікі сын...

Галіна была ля парога. Васіль сядзеў 'шчэ колькі ля стала, не крануўся. Мо' хацеў застацца, каб яго воля. Кіўнуўшыся ля дзвярэй у знак павагі, ён зморана выйшаў на двор.

Грыні не спалі. Позна вярталіся на канюшню з пустымі санямі калгаснікі, турылі былі гнаі пад лавацкія сады. Глядзі, дзень і ноч. Па вёсцы гойсала машына, раніцай яна памчала была ў раён па ўгнаенне. Разам паехала і Нінка, — аптэкарку падмяняе пакуль, тая недзе на курсах. Вярнулася тады і Нінка. Вунь як добра.

У клубе бялелі вокны. Там недзе страляў рухавічок. Пыхкаў, ляскатаў. Меліся пускаць кіно. Гаманілі дзеці, рыпаў гармонік. Без яго ў Грынях ні кроку...

У Пракурорыхі, дзе на кватэры Галіна, цёмна. Жанчына жыла адна, любіла збіраць плёткі па вёсцы, бегала тады па хатах, лапатала, нават пераказвала ўсё да макавага зерня, што чула па радыё. Бы без яе такога і не чулі і чуць не маглі. Бывае спецыяльна сядзе ля рэпрадуктара, аж разявіцца, слухаючы «апошнія ведамленні», а тады апранецца, хату на замок, — і пайшла па вёсцы з двара ў двор. Выдавала, што яна і на работу ішла, на поле ці на ферму, толькі дзеля таго, каб перадаць навіну. Чалавек, бывае, і не жыў, калі не налапочацца пра другіх. А хто колькі на працадні прывалок з калгасных свірнаў, а чаму ёй каня далі, а Тодару з Уллянай машыну падганялі. А што хто прывёз з горада, што купіў, што новае закінулі ў магазін... А ці дарага, каб зусім і не танна было, бо таннае не вельмі добрае... Каб штапель ці шэрсць... А чаму тая замуж пайшла за пастуха, за трактарыста ці шафёра лепш, ды і настаўнікі ж ёю не ганьбавалі... І так без сконy. Адкуль толькі ў жанчын памяць і ахвота мянціць языком. Дзве такія сарокі ў Грынях — Пракурорыха ў адным канцы вёскі, Раіна ў другім. Між сабою не жывуць, нават бывае зусім не мірацца. Пракурорыха толькі гамоніць і ўсё тут, дзеля весялосці бывае, каб душу ўдаве адвесці; Раіна ж на ўсе плёткі глядзіць другімі вачыма. А колькі б далі цяпер за свежае сала, а як бы выгнаць самагонкі, каб ніхто не ўчуў, а ці будуць якія льготы, а мо' старым пенсію дадуць вялікую ці помач добрую, а мо' на работу ісці не вельмі стануць чапіцца. Цяжка ўжыцца такім людзям.

Расплявузгала была Пракурорыха сёе-тое і пра Галіну. Ды спахапілася, прыкусіла язык, — смецце з хаты не выносіла. І дзяўчына ж ёй падабалася. Памагала дома, плаціла добра, прыветная, ад кашлю заўсёды вылечыць. У апошні час хваліць яе стала на людзях. Дзяўчыне цаны няма. І жаніха таксама. Ні Мірончык (так яна звала Васіля Міронавіча) ні той Дышлеўчык з Закалюжжа, што ў клубе ўсё танцуе з ёй, — ніхто не падыходзіць. Хіба той яшчэ, Гаўрылішын хлопец, што вучыцца ў горадзе. Дык жа ён не пад бокам. Той ніштo. І пісьмы слаць стаў. Такая дзяўчына... Няма ёй тут хлопцаў, няма. Ды я і сама, каб была такая, — а ні глянула б на нашых Пэрцаў. П'юць, лаянку ўстрояць на кожнай вечарынцы, соваюцца адзін да аднаго. Няма культуры яшчэ. А дзяўчына добрая, з пекнатой...

Так яна будзе галяшыць штодня. Адно і тое ж.

Ключ ляжаў за вушаком у праёмінцы, дзе пісьманоска заўсёды заторквала газеты. Галіна зняла замок, аддала Васілю. Увайшлі ў цёмныя сенцы. Запахла бульбай-паранкай, нечым кіслым, але прыемным.



Яна ўзяла ў яго замок, вобмацкам паклала на лаўку. Падышла да дзвярэй, намацала клямку.

— Не трэба... Пастаім тут.

Яна маўчала, не адчыняла.

Яму карцела застацца ў цемнаце, а адчыніш дзверы ў хату — уключай святло... Ён стаяў блізка ля яе. Нагнуўся быў, узяў за рукі. Яна не вырвалася. Ён прыгарнуў яе і ў цемнаце пацалаваў у валасы.

— Галя...

— Лыжы прынясі ад варот. Забыўся. Свае можаш кідаць і на вуліцы. А я ў Барысаўны брала.

Ён кулем кінуўся на двор, рызыкуючы рассадзіць аб вушак лоб. Калі ў вокнах ад двара ўспыхнуў агонь — аж зжахнуўся.

— Пастаўлю чай. Пагрэемся. Пайду да сябе, пераапрануся. Ды і вам, Васіль Міронавіч, мо' лепш у сваё цяпло? — яна ўсміхнулася, хітрая, лёгкая, нібы і не стамілася і не намерзлася. — Толькі я вас не ганю, не падумайце так. Вячэру сама гатую заўсёды. Гаспадыні вечарам дома не знойдзеш.

Ён сядзеў адзін ля акна ад вуліцы.

У хаце пахла медыкаментамі.

Прыкручаны рэпрадуктар шаптаў пра канькабежцаў.

У сенцах шумеў керагаз.

Яна выйшла ў лёгкай летняй сукенцы-тацянцы, з шырокім поясам, дэкальтэ. Чырвонашчокая, з намоклымі ад снегу белымі валасамі: яны блішчаць ад яркага агню. Вочы вільготныя, цёплыя. У іх — усцішанасць, гэта што ад стомы. Любае, недасяжнае для яго дзяўчо...

Сеўшы, прыхінулася да спінкі канапы плячыма, глядзіць проста яму ў твар — блізкі, добры чалавек...

Цёпла ў хаце. Васіль Міронавіч расшпіліў куртку. Пашкадаваў, што наслядзіў ля стала, перасеў на канапу, да Галіны, прыціх, утаропіўся на яе... Якая яна прыгожая... І як ён яе кахае...

— Хочаце, я пакажу вам кнігі, якіх вы 'шчэ не бачылі...

— Не трэба...

Ён падсеў бліжай. Сціх. Пасля раптоўна абняў яе, зусім знянацку і неяк палахліва, і стаў цалаваць у лоб, у шчаку, — куды папала... Яна адняла яго паслухмяныя рукі, адапхнула ад сябе.

— Вы ведаеце, чаму я дазволіла гэта?

— Не кажыце... Маўчыце. Я не ведаю, што рабіць. Я кахаю вас... Я жанюся на табе, Галя... Сёння... Цяпер. Я люблю цябе... Усю, да макулінкі.

Яна ўстала і перасела на стул, дзе нядаўна быў прысеў ён. Пасля адышлася да акна і адвярнулася спіною на хату.

Ён не ведаў, як быць, бо думаў, што цяпер трэба ўчыніць тое, пасля чаго яна прывяжацца, палюбіць сама...

Яна не ўцякла ад акна. Ён узяў яе на моцныя рукі, занёс на канапу. Хутка... Быў ашалелы, лавіў яе вусны, дыхаў горача, цяжка.

— Галя... Галя...

Ударылі яго, мусіць, по воку, бо аднекуль са столі раптам пасыпаліся іскры, вострыя, колкія, бы там хто раструшчыў лямпачку на дробныя вогніўцы.

Ён раз'ятрыўся, быў у шалёнай злосці.

— Не стань крычаць... На сваю галаву... Пачуюць...

— Пусціце... Не ламіце рукі... Ой, спіна...

— Падумаеш... Што там у цябе...

Ударылі не шкадуючы. У злосці і ў крыўдзе. Так мог зрабіць чалавек, якому спрацівеў нехта да агіды.

Яна была ў парозе. На якую толькі адну хвілю ўсплыло ў памяці, як да яе лез у гарадскім парку летась п'яны, круціў рукі...

— Якія гадкія словы... І рукі... Я дазволіла была вам пацалаваць сябе, каб вы зразумелі, *што я ніколі вас не кахала і не змагла б пакахаць...*

Ён не ўгледзеў, як яна ўскінула на плечы паліто; учуў толькі, як бразнулі дзверы, і цёмны прывід мільгануўся ля акна.

— Галя! Галя!.. Я не хацеў... Паслухай...

Стала ціха. Цікаў-бразджэў у Галіным пакойчыку будзільнік, шаптала нямаведама пра што радыё.

Ад цішы стала нудзіць. Нахлынуў сорам.

Васіль Міронавіч кінуўся за парог. Ні ў сенцах, ні на двары Галіны не было.

Выбег на вуліцу.

— Добры вечар....

Як з-пад зямлі вырас Аркадзь. Не хапала...

— Васіль Міронавіч... У нас жа сход камсамольскі. Шукаем вас... Дамовіліся ж былі. А Галіна Фёдараўна дома?

— Не там мяне шукаеш, хлопец!.. — Васіль Міронавіч у злосці саўгануў па снезе весніцы...

Стуку не было.

У галаве боль, ломіць яе, крышыць; нязносны, калючы...

Не павярнуць вачэй — рэжацца.

Нехта сцяў зубамі пераноссе, жвакае, ірве...

Тахкае сэрца, і ад гэтага бы хто чым тупым месіць па галаве; аж іскры ў ваччу.

Круціць усяго, узнімае з ложка, кідае ў бяздонне, вось-вось разарве...

Блага, падварочвае пад грудзі. Хапаюць колкі. Не дыхнуць.

Калоціць, аж падкідвае, вось страсе з ложка. Не ўратуешся ад холаду, не сагрэешся. Маці знемаглася, тупаючы ля ложка, зносячы ўсё, што было ў хаце: коўдры, фуфайкі, нават кажушок стары, які ўжо ніхто не насіў, дастала з куфра і ўкрыла ім ногі.

Зноў круціць-носіць, зноў ломіць галава, трэскаюцца вусны, спірае дых. У вачах снег... Працягнеш руку — гарачы, як агонь, не даткнуцца; круцяцца елкі, падаючы, скошаныя, на дол і верцяцца, як утрапёныя... Вось дагоняць, прыдавяць да зямлі, прасадзяць. Гэта не елкі, — лось гайсае за ім. Яго халодныя рогі кранулі спіну, колюць, пратыкаюць навылёт...

— Га-а... Я не біў... Не думаў... Сам наляцеў... — сіпла, натужна.

Пэрац трызніў; яго пакідала свядомасць.

Хлопец кідаўся на ложку. Гарэў, што ў агні, дыхаў з сябе, горача і суха. Чорныя валасы змоклі ад поту, блішчаць растрэсеныя па чырвонай навалачцы на падушцы. На іх паналіпала белае пер'е, бы хлопец толькі што прылёг адпачыць ад малатарні, дзе яму ў потную ад працы галаву насыпалася насення малачаю.

У хаце вымецена, напалена. Чыста, утульна. Нядаўна пабелены сцены, на вокнах фіранкі. На судніку марлевая занавесачка, не зусім свежая, прыжоўкла знізу. Гэта што заўсёды мокрая.

— Як на ногі ўзнялася — апарадкаваліся хоць... І вось скажы, дачушка, насланнё нейкае на нашу хату. Ніяк хвароба нас не пакідае. Я ўстала — хлопца скінула. Хаця б толькі не надоўга. Як жа я без помачы ў такія маразы? Дроў жа палкі некаму будзе нарыхтаваць. Ён у мяне паслухмяны. Пакрычыць, пакрычыць і зробіць. Адзін сынок... Ах...



Маці Пэрца, хворая на ногі Гануля, плакала, стоячы ў яго ў галавах. Выціpала пальцамі вочы і глядзела са смуткам і надзеяй на Галіну.

Галіна тут ад самай раніцы. У Барысаўны пасля прыёму абход у палатах, — засталася. Галіну падкінулі да хворага на бальнічным кані. Пазваніў з канцылярыі старшыня — Станіслаў Пракопавіч. Проста прасіў. Хлопец ля трактара патрэбен якраз, рамонт канчаць некаму, а тут злёг. Галіна спачатку не пазнала старшыні, пасля апамяталася, паабяцала зараз жа быць на месцы. Яна паважала гэтага маладога, цёмнатварага хлопца, разумнага, неспакойнага. Яны пазнаёміліся бліжэй, калі ў вёску ўклюнуўся грып і прыйшлося рабіць па хатах прывіўкі і дэзінфекцыю. Старшыня сам хадзіў з двара ў двор. Папрасіў халат. «Як гэта, — кажа, — дапусціцца, каб хвароба абложыла калгаснікаў? А рабіць тады хто будзе? Вы ў нас, медыцына, глядзіце... Мне каб семнаццаць маіх калгаснікаў на ногі праз два дні падняді... Кім я іх замяню? У мяне будоўля, у мяне торф... У лесе, на ферме людзі трэба. Не дай бог яшчэ трактарыста грып абложыць ці шафёра... І яшчэ... Каб хто пад грып не хаваўся. Цяжка бывае разабраць. Баліць галава жанчыне — і ўсё. Не на завод, кажа якая, — і не ідзе на ферму. Як з хворай галавой гной капаць? А сама адваліцца на ложку, пруткі ў рукі — і пальчаткі робіць. Або, чаго добрага, «І адзін у полі воін» чытае. Вось і грып... Хварэць лягчэй, чымся гной з праварын на сані накідаць... А зімовы дзень, як і вясенні, — год корміць...»

Галіна глядзіць на Пэрца і ўспамінае старшыню. Два хлопцы лічы. Наколькі адзін старэй за другога — ну на гады чатыры, з выгляду — равеснікі, а як не падобны адзін на аднаго. Таму людзей даверылі, калгас, а гэты... Галіна ўздыхнула, ад таго ўшчэ больш захліпала Гануля.

— У бальніцу забярэм. Можа быць запаленне лёгкіх... — сказала і асеклася. — «Яно ўжо яго сцяло, двухбаковае, — падумала. — І як гэта вырвалася ў мяне пры маці. Не стрымалася».

— А куды ж вы яго заберацё?.. А хто ж за ім хадзіць будзе?.. Хто вады падасць... А я дома сама яго дагледжу... — жанчына пачынала прымаўляць.

— Супакойцеся. Вам нельга. Забярэм ненадоўга. Трэба хутчэй блакіраваць хваробу. На месцы лягчэй. Не буду ж я тут сядзець пры ім. Ён жа не адзін у нас. І ўрач не зможа адарвацца надоўга... Кіньце, кажу. У нас конь. Апранем хлопца цяплей. Паглядзіце чым. І ўкрыць што трэба ўзяць. Пасля забераце...

Жанчына сціхла, замітусілася па хаце.

— А можа я яму сама банкі пастаўлю? Нашто ж звозіць з дому. Я яго ад акна на гэты ложак, да печы, перанясу. Я ж не магу без яго. Сэрца парвецца...

Галіна больш не гаварыла, рабіла ўсё сама.

— Укол... Зніміце яму кашулю. Хутка...

Жанчына зноў заплакала...

У вазок быў запрэжаны бальнічны мышак, у перадку сядзеў Мікіта — конюх. Ён ніколі не заходзіў у хату з дактарамі, каб лішніх слёз не бачыць. Сэрца мяккае меў чалавек: убачыў слёзы ў другога і — у самога раса адразу пакапае.

Галіна вяла пад руку Рамана праз увесь двор і вулачку, збоку клыпала маці, бедавала і не так трымала хлопца, як сама старалася ўчапіцца за частакол. Знясілела, — такое не для жанчыны са слабым сэр-



цам. Усадзілі хлопца з правага боку, укруцілі коўдрай ногі, паднялі каўнер у паддзёўцы, падвязалі шалік.

Хлопец абвіс, асунуўся ў вазку, прылёг. Дыхаў з сябе, спатнеў, покуль дацягнуўся да варот; плюшчыў вочы — балела галава.

— А сынок мой, а глядзіце там яго... А як я прыйду да цябе балючымі нагамі...

— Не стойце на холадзе, Ганна. Кіньце плакаць. Я сама за ім буду глядзець...

— А дзіцятка ж мае...

Конь узяў з месца рыссю, сыпануў снегам з-пад капытоў на коўдру, і вазок адразу ж знік за павароткай — звярнуў на аселіцы да маста.

У вочы з ветрам несла поўсць, — Мікіта тузаў лейцамі. На дварэ браўся мароз. Пакруціла было, пакруціла гэтыя дні і не дало змен, не сцяплела.

З горкі на горку, з рытвіны ў рытвіну, — міналі грэблю. Маўчалі.

— Скруціла хлопца як, га?.. Тузае. Малады, а паддаўся. Насклеўся недзе добра. А мо' хапянуў дзе — і на мароз. Душой можа загавець. Добра ведаю, не пасылалі куды. Самахоць хваробы нажыў, не па нараду. А ў такі мароз... Мой брат з Лагойска прыязджаў... Дык там адзін набраўся ў тыя вялікія маразы і звіўся быў пад плотам. Адубеў за ноч, што корч. І малады, засватаўся толькі... Моладзь — дзеці. Не могуць ні піць, ні выдыхваць... А не ўмееш — не бярыся. Гэта ж за адну ноч можа паспівацца ўся блазнота і... вымерзне. Уся вёска... Добра, што гэту гарэлку цяпер надта не ставяць на паяўку, ды і «смалакураў» прыціснулі... Ой не люблю гэтай гáры... Паскудства...

Мікіта не піў і не курыў і ці не ад гэтага любіў кідацца ў філасофію. Цяпер ён гаварыў і гаварыў, не адварочваючыся; заносіў руку назад і мацаў, як укрыты ў хлопца ногі.

— А нашто вы нос трыцё снегам, дзядзька Мікіта?

— Мерзне, чую. У старога перш-на-перш нос мерзне.



— Зусім забараняецца расціраць абмарожанае месца снегам... Яшчэ больш ад гэтага ахалоджваецца абмарожаная тканка. Пры расціранні з'яўляюцца ледзяныя крышталікі, можна занесці праз ранкі ў скуру любую інфекцыю... Трэба носам кратаць, альбо хусцінкай сухой ці мокрай асцярожна церці...

— Не-е... Якая там фекцыя... І дзяды нашы і прадзеды снегам толькі і ратавалі сябе... Народнае лякарства... Простае. А па медыцыне дык носам яшчэ трэба ўмець кратаць...

Абое рассмяяліся.

— Куды везяцё?.. Спыніце!.. Спыніце!.. Тр-р...

Хлопца ўскруціла, патузала было на чыстым паветры, відаць, яму палегчала.

— Не падымайся. Нельга гаварыць на марозе. Лёгкія хворыя...

— Якія лёгкія? Куды цягнеце? З пасцелі сцягнулі!.. Назад...

— Не брыкайся б хлопец. Загавееш... — умешваецца Мікіта.

— Слухай, стары. Куды вязеш? А ты, — глядзіць ён на яе, нашарсценіўшыся, — чаго тут? Што я, радзіць сабраўся?.. — сапе, дыхае зморана, цяжка, пацее, аб'інеў, а рвецца, аж са скуры лезе. Гарыць увесь.

— Я — фельчар. У цябе запаленне...

— Запаленне... Фельчар... Пупы адразаць толькі...

— Ну і ўрэжу я табе зараз... Краніся яшчэ раз...

Ён ірвануўся, знайшоў недзе сілы, іываліўся з вазка тут жа. На снег. Выцягнуў коўдру, ахапак сена.Ываліўся і не змог устаць.

Яго ўсцягнулі зноў на ляжалае месца, укрылі. Ён маўчаў, пасля пачаў кідацца і мармытаць, няўцямна, голасна. Да яго зноў падступіўся пал, зводзіў са свету.

Ачнуўся ён яшчэ за лавацкімі садамі. Змізарнеў на вачах. Не дыхаў, а хаўкаў.

— Не вешай, хлопец, галавы. Думай, што будзе пасля, калі пойдзеш на папраўку. А то за якія суткі... Я ўчора ад родаў аднаго прыняла... Чатыры дзевяцьсот... Дык гэта мужчына! На ўсю бальніцу падаў голас.

— Што думаць... Ой як не хацеў бы... — Пэрац занерваваўся. Закашляў і загаманіў моцна і натруджана:

— У бальніцу? Га?.. Не хачу, дзе Нінка, не хачу!..

Крычаў, сціхаў; мармытаў і шаптаў пад нос; прасіў піць, клікаў Нінку, Выжлятніка... Некага палохаў і палохаўся сам.

— Паганяйце, Мікіта... Хутчэй. Ён, здаецца мне, дастукаўся... Схапіў крупознае...

Сані-вазок выскачылі з рэдкага, выразанага на дровы альшэўніку і нырнулі ў лагчыну, да маста, дзе перасякала ездавую санную дарогу шаша. Гэта тут, па канец Грынёў, пад бальніцу. Пэрац жыў, глядзі во, далекавата. Тады, увосень, яна, Галіна, неяк хутчэй, здаецца, прыйшла ў Грыні. Мо' таму, што сустрэўся быў Аркадзь? Яму было па дарозе: на праўленне ішоў, старшыню хацеў бачыць. Нешта з трактарам не ладзілася, яна не памятае што. І не да старшыні ён недзе ішоў, бо колькі прастаялі ў яе на двары. Тады, калі ён з'явіўся першы раз у хату сярод начы, ён быў, што гэты Пэрац. А цяпер... Хто яго ведае... Здавалася б, пра што з ім гаварыць... А сустрэнешся — час знікае неўзаметку. Толькі занадта ўжо ён з дзявочай душой...

Сані мчалі пад самую шашу, мышак ірваў угалоп, — паспрабуй, стрымай...

«Сані — вецер...»

Галіне прыдалося, што яна мчыць з гары на Жоўтым беразе пад Вілію, пад калючыя голыя лазнякі. Дагнаў Васіль Міронавіч, падсек, скінуў з ног. Абое паляцелі потырч... Праламаўся быў лёд, і Васіль Міро-

навіч праваліўся ў жоўтую жыжу з каленам. Неглыбока, вядома, з краю. Усё ж добра, што ён збіў з дарогі. Ля затокі можна было праскочыць і тады не звярнуўся б, — трэ' было б скакаць у рэчку. А лёд мог падапрэць пад снегам...

Ухаба... Сані падскокваюць, нахіляюцца, выпростваюцца і мчаць гароўна і напорыста — займае дух...

Мінулае цяплее ў памяці...

...Яна ляціць на веласіпедзе з маторчыкам. Села сама на Аркадзеў веласіпед, яшчэ тады, увосень... І панёс ён па вуліцы, па выгане да рэчкі... Разгубілася... Апамяталася — забылася, што да чаго, не можа затармазіць. Дзе ты з першага разу спомніш... Услед тады бег Васіль, крычаў што было сілы, куды і што круціць... Збеглася ўся вёска. На хаду падхапілі з сядла... Як цяпер памятае, павісла на руках у Аркадзя, а ў лужыне пад Васілём храпе пракляты маторчык...

Мышак суцішыў бег. Сунуліся цяпер марудна, сцішна, — узнімаліся на насып, каб перакуліцца праз дарогу.

«Нейкія яны падобныя... І Васіль і Аркадзь. Адзін характар, не тое, што...»

Яна не ведала, чаму раўняла іх з Леанідам.

Сані зляцелі з дарогі ў лагчыну, дзе перамерзла рака, і схаваліся ў Грынях.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гануля сядзела ля акна і ўзіралася на дарогу, на лавацкія сады, што цьмяна выступалі здалёку. Іх ахутвала зімняя смуга-мярэжа, а мо' ўжо старыя вочы не хацелі добра бачыць?

Адзінота прынесла сум і трывогу. Ганулі не хацелася, каб хто прыйшоў у хату — богведама за чым з'явіцца чалавек?

Сядзела доўга. Часам падыходзіла да печы, апранала кажух, скідвала яго з плеч на ложак і зноў садзілася на лаву да акна.

Пасля рашылася. Выйшла ў насцярозе на двор, патэпала ля парога, зірнула ўкрадкі на вуліцу і пачала паціху перакочваць дзежачку з сеначак у бок хлева, за варывеньку. Рабіла ўсё ціха, прыслухоўваючыся. Апасна днём, ды трываць нельга. Прыйдуць яшчэ ў хату, узнімуць вечка, капануць... Далей ад воч куды, каб і падумаць не маглі...

— Сабакам вытрасці... Праклятая ялавічына... Хлапца з'ела і са свету зжыць можа. Праз яе... Праз іх. Пайду да іх, пайду... Сэрца маё не вытрымае. Жыва не буду, калі не прасаджу якім ражном Выжляціну старую... Ён хлапца ў магілу ўгоніць... І так увёў... Хаця б ціха абышлося, хаця б. Божа крый... Мой Раманька...

Жанчына была ў трывозе.

— Пане Куцка... Ведаеш, чаму баб у салдаты не бяруць?
— Не. Ну-ну...
— А знаеш сакрэт, каб жонку ўлагодзіць?..
— Давай...
— Га-га-га...

Рогат узнімае столь, здаецца гэта ад яго зверху ўпала тоненькая палоска пабелкі, якраз на руку Выжлятніку. Ён расцірае яе аб лоб, змахваючы пот.



— Дзяцей убяры, языка за імі не павернеш...

— А ну, дзеці, марш у першую хату. Не знаеце, ці што?.. — Ян Куцка ўстаў з-за стала, сцягнуў з сябе вязанку-світар і застаўся ў адной клятчатай рубашцы-каўбойцы. Ну і замарыў ты, Мірон, мяне. А ну яшчэ што-небудзь скаромнае. Люблю анекдоты, як... як чорт знае што. Ад гарэлкі адказаўся б...

— Хто цяпер не любіць, мілы, прама скажу. Добры анекдот, што добрая чарка...

Бутэлькі са стала прыняты. Засталася закуска. Калі хто ткнецца ў хату, ну што? Госці вячэралі. Куцка не вельмі хацеў, каб бачылі, што ў яго ёсць свая сівуха — нікуды ж не бегаў купляць ці пазычаць.

Надзьмуты, русявы, аж рыжы, з чырвоным носам, набеглым ад хмелю крывёю, з рэдкімі ўскудлачанымі валасамі, падслепаваты, ён сядзеў цяпер з краю стала, заклаўшы нагу на нагу і сашчапіўшы рукі на калене.

— А ты што, Дзедзіха-дзед, галаву падкруціў? Адставаць стаў ад хлопцаў? Колькі там...

— Мілы, прама скажу, ён больш за нас сёння ўзяў. Хай адпачне, не руш. Дамоў далё-ёка...

— Не сплю, усё чую... — Андрэй гаворыць цяжка, аж плечы ўздрыгваюць.

— А-а, ты чуеш? Дык слухай. Я помню, колькі ў мяне засталося не заплачанага ў ваш калгас за лес. По-омню... Мая распіска ў вас. Ты яе здаў пры перадачы?
— Не, Куцка.
— Дык на трэцюю часць... Згода?
— Не.
— Папалам!
— Не.
— Гм... Слухай Дзедзіха...
— Не ўпарціся, бадзяга...
— Мілы, прама скажу. Глядзі, брат...
— Слухай Дзедзіха... — Куцка ўсхадзіўся, загуў-загугнявіў. — Галаву тваю я заўсёды цаніў. І цаню. Сам ты сёння ведаеш. Людзі жывуць і жыць збіраюцца. Я са сваёй дурной галавой і то гавару: вайны не будзе, не туды павярнулася, няма дурных. Людзі жыць хочуць, і добра жыць. А мы? А я? А ты? Падумай. Калгас — калгасам. Адтуль на твае працадні заўсёды дадуць. Не прападзе. А дзе ты яшчэ падкалыміш? А я добра даю. Ну і ўсё. Скажам, не хочаш так, ну зробім там другую распіску на якіх рублёў пяцьсот, а астатняе — папалам...

Выжлятнік усхапіўся з лавы, заскакаў-задрыгаў нагамі па хаце і запеў чыста і выразна:

— Руб іграе,
Руб маўчыць,
Руб у дзірачцы тырчыць...

Падскочыў да Яна Куцкі, паляпаў даланёй па яго лысаватай патыліцы, што лыжкай па цесце, і падзьмуў праз нос:

— Ішоў лысы і пляшывы,
Знайшлі яны грэбень,
Кажа лысы пляшываму:
— Нам ён не патрэбен...

Джвучка павесялеў, закурыў, зліваў гарэлку са шклянкі ў шклянку. Расшпіліў каўнер: пацеў...

— Праўда ў хаце говача. Добвыя сцены, дух трымаюць. На дварэ халадэча...

Ян Куцка выбег у першую хату і ляпнуў дзверцамі ў шафе.

Адзін Андрэй як абмёр, узваліўся локцямі на стол, звесіў галаву. Шырокі, белы сталовы нож блішчаў у яго пад барадой.

У шыбы стукала часта і глуха, як бы нехта цадзіў па вокнах ад вуліцы мяшком — атрасаў яго ад мукі. На рамках з двара павіслі гурбачкі сняжку. Па шкле шорхала, грэбала, як тым венікам-разгачом — гэта хацелі змесці снег, ды дзе ты прыладзішся надта з гальнікам...

Андрэй раптам узарваўся, — аж задрыжаў стол, — павярнуўся да акна.

На дварэ несціханая, белая ноч, ашалелая ад радасці і волі, бо яе нагнала, каб засыпаць-захаваць усё благое на свеце. Стаяць, стогнуць ад буры старыя, збуялыя таполі, хістаюцца, не гнуцца. Бура для іх — жыццё, абуджэнне. Ім цяжка спаць на ціхім марозе.

Чарнеюць будынкі, гарацць-свецяць вокнамі; падставілі пад вецер свае скабы платы, што абступілі вуліцу...

Вецер ірве дах, трашчаць бэлькі, стогне гарышча...

Новая, гладка склюдаваная хата. Вялікая, цёплая... Хаця, сцены грэюць любога чалавека...

У коміне цененька пішчыць вецер, ные, што шчанятка дзе за печчу. У такім гарлатым коміне і так мізэрна? У такой вялікай хаце і такая дробная істота — яе гаспадар... Гавораць, у чалавека душа бывае як суконка. Не-е... У гэтага душа — гнілая нітка... Не рвецца толькі, жыве — цячэ з яе гніль...

Гаспадар — былы хутаранін. З год, як падсяліўся да вёскі. Кулачок. У калгас пасля вайны ледзь-ледзь угаварылі. Пан жа Куцка... І як сталася, што і Андрэй з ім выйшаў на адну дарогу? Вядома, праз Выжлятнікаву сцежку...

Ян Куцка — каменскі. Камена да трыццаць дзевятага было за Віліёй, за граніцай. Пасля — немцы. Пры іх Ян Куцка быў у самаахове... Было што ахоўваць. Прыязджаў аж у Закалюжжа, у Грыні дапінаў са сваёй малатаркай-прыводам. Дзёр дабро і скуру з людзей. Пачаў з гэтага... А пасля і з паліцыяй рабаваў. Аброс, вайна не дастала яго.

Адбудаваўся пасля вайны на хутары. Было за што. Тады ж знюхаўся з Выжлятнікам: у таго ж казённы лес. А калі там не было як разагнацца — пад бокам калгасны...

Які дурань тады змусіў пайсці на ўступку Куцку — прадаць калгаснага лесу? Хаця, другі клопат быў. А лес... Колькі там яго прасіў Куцка. А пасля колькі разануў... Прыйшлося гаварыць сур'ёзна. Даў распіску... Яна ў кішэні. Не аддаў Андрэй яе новаму старшыні. Лішні дакумент — лішняя бяда. Па распісцы было відаць, колькі лесу тураную Куцка... А хто дазволіў? Праўленцы маўчалі напачатку, а цяпер узяліся і за гэта. Камісія хадзіла... Да пня лічылі, куды што пайшло. Новы старшыня кожны сук палічыў... Быў бы Дзедзіха сам, падумаеш, — гэта на будоўлю, гэта на дошкі, на рамы пайшло... Спісалася б... Для вока апрыходвалі б суму якую, падставілі кубатуру: хто пойдзе правяраць старшыню... Ды надта ніхто і не рваўся. А цяпер...

Трэба аддаць. Усё. А гэта тысячы...

Не адзін жа лес. А сена колькі ўпёрлі гэтаму Куцку з лугу... Праз Вілію ўсе ночы ў касьбу плылі калёсы. І за што? За гарэлку...

І не толькі Куцку... Куцка памог пажыць не аднаму ў Камене. Як свой і ты тут цяпер, паспрабуй, зайдзі да любога. І накормяць, і напояць. У пухавікі спаць пакладуць неразутага. Нажыў павагу за калгаснае...



Што тая распіска ў кішэні... Калі яе і атаварыць — не аплоціш. Да пянька падлічылі. Куцкавай дзялянкай назвалі... Бачыў народ. Сачылі людзі. Дзед Тодар нават запісваў, куды хто пацягнуў быў. А цяпер адкажы. Без распісак, без папер. Паперы людзям не трэба. У іх ёсць вочы...

Дзедзіха зжахнуўся...

У людзей — вочы... О каб у людзей не было воч...

Не, гэта загаварыў стары, ранейшы Дзедзіха. Не-е...

Добра, што ў людзей ёсць вочы... Цяжка цяпер глянуць у іх, але ён, Дзедзіха, дажыве і да таго. Змыецца ўсё, сам змые. Працай. Сваімі рукамі з сябе бруд атрасе...

Як добра, што ў людзей ёсць вочы...

Ён змусіць сябе глянуць у іх чыста і адкрыта... Пасля гэта, пасля... А цяпер?

Цяпер усяго будзе. Пачалі з лесу, а прыйдуць і ў хату. Дзіўна, ніводнага старшыню ніколі так не кантралявалі. Стары Тодар вадзіў праўленцаў да кожнага пня. Леснікам быў і вартаўніком доўга палявым. Вось і вартаваў... Паабяцаў і мяшэчкі памагчы пералічыць, куды тыя «паплылі-пайшлі»...

Былі ў старога вочы. А чаму ён тады не прыйшоў ні разу не сказаў усё на праўленні, не даў па твары?.. Лягчэй было б знесці, чымся цяпер...

А ці падпускаў ты, Дзедзіха, так ужо блізка да сябе людзей, што праўду хацелі сказаць? Падумай...

Як добра, што ў добрых людзей ёсць вочы...

Як добра, што ў шчырых людзей ёсць душа...

Ян Куцка кпіў. Хітры і пранырлівы яго позірк працінаў наскрозь і яшчэ, здавалася, за табой ззаду тачыў сцяну. Паставіў на стол аплецены рудой лазой буталь. Што ў ім — чортведама...

— Піць і есці!.. Каб арэхі на пузе біць можна было!.. Ян Куцка мае сваё. Мазалём заробленае і зробленае... А ты, Андруша, кінь думаць. Пра што? Хопіць часу, змяркуемся. А цяпер...

Закон Куцкі вядомы — скінуць з ног, заліць глытаўку, а там усё будзе, як ён захоча. Так звыкся. Ад веку. Так было...

Пачыналася ўсё нанова. Выжлятнік выдылінгаваў на хаце, гарланячы «руб». Джвучка ёрзаўся за сталом, выціраючыся і ці не распяразваючыся.

— Г-гуляем да дня, мілы... Танцы да ўпаду... — Выжлятнік лез цалавацца да Куцкі.

Куцка — з пузам; як умудрыўся нажыць, не скажаш, пры яго, як ён хнычыў, «беднасці»... Стаіць цяпер, хітры і задаволены, пагладжвае жывот, рад.

— Ну, Андруша, першую з бутля з табой... — позірк пранікліва, насцярожаны... З рота плыве сліна, як у звера перад здабычай... — Ну, падымі, наліта. Ты ж нават не ведаеш, што... Пальчыкі абліжаш... Праўда, Мірон? Ну, кінь. Усе свае. Да ніткі. Я перш, прызнацца, горш думаў пра цябе. Хаця, адкуль было здагадацца, што ты ўсё дзеля начальніцкага вока так касавурыўся ў наш бок. Хе-хе-хе...

Агідна. Нудна, брыдка...

Вось-вось вырве Андрэя на стол...

— До-о!.. — галасна, моцна, на вуліцы недзе чуваць праз ашалываныя з двара сцены і акітаваныя падвойныя вокны.

Ціха. Мужчыны атарапелі, як ад стрэлу. Інстынктыўна вылупілі вочы ў кут, дзе ля шафы стаялі ружжы. Бы толькі гэты сухі трэск расшчэпленага стала даў напамін, дзе яны валачыліся, білі цэлы дзень ногі і чаго апынуліся тут.

Андрэй выпрастаўся на ўвесь рост. Дрыжаў... Ад злосці і нянавісці. Троссярпадбародак, аж ляскалі зубы, вочы лавілі то аднаго, то другога, калолі. Рукі сціскалі шклянку — першае, што трапілася пад іх. Закапала, пацурчэла штосьці са стала на падлогу...

Плецены буталь стаяў, на'т не ўздрыгнуў: пузаты, моцны, як і гаспадар. Удар па ім, паспрабуй. Аплецены... Агідны, яго нельга трываць, прыкра зносіць, як і самога гаспадара...

Цяжкія рукі ўзнімаюць аплецены пасудак... Віхор нясецца праз хату...

Мужчыны анямелі. Узарваліся з месца пасля, калі глуха і цяжка зазвінела шкло. Рынуліся былі ў парог, чаго і што...

Выжлятнік ці не інстынктыўна заступіў кут, дзе стаялі ружжы, мо' баяўся, каб цяпер не трапіла што такое пад рукі Андрэю?

Джвучка таптаўся ў парозе, зашпіляў каўнер і зыркаў вачыма па сценах, —шукаў вопратку.

Загаварыў гаспадар. З усмешкай, сціха:

— Хопіць, Андруша. Пазабаўляліся і годзе. Супакойся. Я сам калі, бывае, лішняга вазьму — пальца ў рот не кладзі. Хе-хе... І пляцёнка не ўратавала шкло... Хе-хе... Закурым, хлопцы, ці што?

— Лішняга, кажаш? Тваёй атруты? Лішняга, многа лішняга за гэтыя гады я твайго сербануў... До! Людзі адракліся. Бо хто я быў? Старшыня? Чалавек? Вы мне тут сёння ўвесь вечар дзяўблі, што за маім старшынствам жыццё было... Каму? Вам! Вы апраналіся за маёй спіной... А я за вамі людзей чэсных не бачыў. Праз мяне калгас колькі гібеў. Што, я адзін гэта рабіў? Адзін? Не-е... Вы! Вы давялі!

— Чакай, чакай... Чалавек. Пры розуме ты, ці не?.. Чакай... — Куцка забегаў ля стала.

— Мілы, што гэта? Свінства, мілы, свінства з твайго боку, прама скажу. За чалавечую дабрату...

— Кепска выйшла. Пваклята...

Мужчыны сунуліся да стала.

— Я свіння?!. А вы — людзі?.. Чысценькія, чэсненькія?.. Выбудаваліся, нажыліся. Можаце і без калгаса абыходзіцца? Колькі ты, Куцка, уклаў мазаля ў такую хату? Дзяржаўны і калгасны лес! Што ж, раней і за злынь можна было будавацца. Толькі не... Не хапае ў маёй душы цярпення. До! Хто вы мне? Хто ты, Куцка? Сват, кум? Пілі разам! Парадніліся... Заўтра ж пайду і да Авяр'яна і да новага старшыні. Усё выкладу на стол, давяду. І сведкі будуць. Сам пакладу, што трэба, у калгасную касу, але і ты пакладзеш. Усё, што чарпануў. Вернеш. Праз суд, калі на тое пойдзе. Лес калгасны... Не ведаю, колькі ты ў дзяржаўным чэпнуў... Выжлятнік скажа. Разбяруцца і там. Я рашыў... Даўно... З плеч цяжка было скінуць, а рукі лёгка атрэсці...

— А-я-яй... — заекатаў Джвучка, як сабака, з якога на́жыва лупілі скуру. Тэпаў валёнкамі ля стала ў вар'яцкім танцы, бы таптаў, мяшаў з граззёй чалавека, які, незразумела для Джвучкі, невядома чаму, адурнеў і вёрз чорт ведае што, пра якое даўно забылі, пра якое лепш не ўспамінаць. — Не, Андвэй, дарэмна ўсхадзіўся... Адразу будуць ведаць, куды і як падзеліся кучы пшаніцы са свірна яшчэ тады, пасля вайны, калі з усіх шнуроў у адно месца малацілі звозілі... А лён, а семя?.. А жытцо, калі ў Лаўках сеялі? Кожны год. Усё пералічу на пальцах. Маўчы! Заткні лепш глытаўку чым. Хто ты цяпеў? Хто паверыць? Сталы ломіць... Судом страшыць. За табой туды нам давога... Ад калгаснага чыста рукі атрос, сам пячатку паклаў на стол... Лепш не прыдумаеш...

— Мілы, скажу прама... — Выжлятнік адцісну́ў ад стала Куцку, які не мог нічога сказаць, лыпаў вачыма, дрыжаў. І за такімі сценамі баяўся, што могуць учуць, набегчы людзі. — Мілы, зарапартаваўся. Гэта табе не ў калгасе на сходзе, старшынька. А ну, заткні рот! Прамовы гаворыць... Няма нікога з раёна, ніхто не чуе... Ды і слова твайго больш могуць не ўчуць... Знаеш гэта?

Кулакі павіслі былі над сталом, пасля апусціліся, ляглі на край, ззыбнулі стол і пасунулі яго да лавы.

— Не збаюся! Гэта ж не на тым хутары ў Куцкі. Калгас — людзі пачуюць. Тут не тое што ты мяне змог, дык і з ног... Помню, Платонька, і пра пшаніцу і пра лён. Помню. Каго пад суд калгаснікі хацелі аддаць? Цябе з Выжлятнікам. Сам заступіўся, пашкадаваў. Пасля вы мне аддзячылі... Калгасным жа. Бачыў, сказаць не мог. І людзі не знаді, як вы мне язык звязалі... Нічога што з раёна нікога няма. Сам пайду да першага сакратара. Заўтра ж. А не — аж да Перапёлкі ў абком.

— Не дойдзеш, заваза... Галаву скруціш...

— Дапаўзу... Ад пачатку і да канца выкладу. Хай судзяць, хай што хочуць робяць — заслужыў. Вінаваты... Толькі ж не будзеце вы больш прысмоктвацца да калгаса, не будзеце падкопы строіць пад новага старшыню...

— П'яны... Хай пагаворыць... Пваспіцца.

— Пане Куцка, не прынімай да сэрца... Здурнеў, чэсна кажу. Гарэлка твая можа адабраць любую галаву...

— Што вы, хлопцы, што вы... Андруша, ну сядзь, чым я табе не дагадзіў?..

— А старшыні не рушце... Рукі кароткія. Ён ужо не новы. Стары. Наш. Людзі палюбілі... Але што вам... Што вы разбіраеце... Я таксама такі быў... Сам цягнуў, думаў, што і другія... Не-е... За ім пайшлі... Усе. Калі гэта было, каб у мяне да аднаго на работу ішлі?.. А ў яго Раіна і тая... З місачкай пайшла на балота ямкі пад слупы капаць... І выганяць не трэба... Мароз — векі ліпнуцца, балота... А капаць трэба. Высакавольтную лінію вялі... Гляджу я за гэтай Раінай... І ў рукі ёй не холадна... Сагнецца, пастрэпае ў яме лапатай, ды місачкай гразь чэрпае, ваду выплёхвае... І гэта, калі мароз такі?.. І гэта Раіна?.. Пры мне яна і з печы не злазіла... Яна ж мяне і летам матам крыла... І варта было. Што я ёй даў? На працадні хіба што людскае?.. Як я жыў?!. Хто я быў?!.

Дзедзіха крычаў. Натруджаны, усчырванелы. Абхапіў рукамі галаву, пасля апусціўся на застолле і заплакаў. Горкімі слязьмі...

Усё аціхла. Замерла і першая і другая хата.

Па гары бегалі адзін за другім каты — рэзаліся. Скуголіў вецер.

— Усхадзіўся... Пасудзіну такую расплюжыў... Не было з ім такога. Прыглядзець трэба... — Ян Куцка нагнуўся да Выжлятніка: — Добра ж, калі пройдзе шалёны пал! А так...

— Абломім рогі... Рыміць па старшынству... Заткнём глытаўку... — Выжлятнік гаворыць, бы сам сабе.

Джвучка, апрануўшыся, ссоўваў у качарэжнік аскалёпкі:

— Такую пасудзіну расхвастаў...

— Галаву тваю трэ' было б... — Андрэй Дзедзіха адсунуў стол, выйшаў на хату. Стаў сцішаны, зусім цвярозы.

«Не ўзяла яго, завазу, гарэлка... Уцягнуўся. Крэпкі...»

— Рот, значыць, збіраецеся заткнуць? А вёсцы, а калгасу? А Раману Пэрцу?..

Джвучку прыдалося, што па стале забегалі чорныя кошкі... Ясна, што з чалавекам... Не скінеш таго з ног — кладзі сваю галаву на калодку.

— А лось? Няхай пшаніцу пасляваенную не пераважыш... А мяса? Ляжыць. Не зачапіў. У горла не палезла. Ляжыць... Участковага чакае...

— Мілы, у штаны накладзеш!
— Паскуда ты, Выжлятнік...
— А чаго цягнуўся сёння новым следам? Скажаш, ты ў баку?..
— Сёння я тут, каб табе па мордзе даць! Цярпеў такога, калі старшынёй быў... Гладзіў... Шкада Рамана. Давялі. У магілу ледзь не загналі. Ну, Куцка... Заўтра можаш ісці ў канцылярыю. Сам чашы. Не чакай, пакуль паклічуць.

Чалавек змяніўся на вачах. Такога не чакалі, і не ведалі, што чыніць. Заступілі напачатку дарогу, прасілі, не давалі апрануцца.

Куцка збялеў, — ад гарачкі.

Хітры, праныра, з галавой... У новай хаце атынковачка трымаецца гладзенька, не трэснула нідзе. Учуў, калі бёрны ўсохлі і зляігліся, не паспяшыў. А вось у чалавеку, мусіць, хібіў... Не разабраўся... Што цяпер?

— Адкасніся, Куцка!.. Чуеш? Ты такі і здохнеш. Ад цябе калгас карысці ні на грош не возьме. Не руш толькі маладых. Я з табой ящчэ згаварыся... А маладых не руш! Не зводзь Пэрца. Не спойвай. Не тыя вам гады. Не зробіце вы з ім таго, што са мною. Не-е... Я не ўступлю хлопца... Заместа бацькі...

— Ты нам зубкі, мілы, не замаўляй... Пра пшаніцу плявузгай што хочаш... Вецер! А вось з ласьком патрымай язычок, мілы, за зубкамі! Справядлівец... Пэрац прыстукнуў. Сам. З тваёй ружынкі. Мілы, помні — лес лесам. У лесе льга... — Выжлятнік толькі цяпер скеміў, што за ліха можа зваліцца на галаву. — У лесе можна... Мілы, не крычы. Не на тых... Адстаршынстваваў сваё, падумай... Мо' і аджыў заадно... Ведаеш, што рыхтуеш, чым нам пахне... Знай — табе раней засмярдзіць...

— До! Хлопца затравілі, а мяне... Сыдзі!..

Яны былі сцялі яго, здушылі, каб суцішыць, угаварыць, «абразуміць»...

Адскочылі потым, як мухі.

— Прэч!.. Псіна!..

Новыя дзверы бразнулі суха, моцна. Зазвінела, недзе ледзь-ледзь, як змораная муха, шыбіна. Не ўсё падагнаў Куцка... Не дагледзеў мо' макулінкі...

Прыкла́д старога ружжа праехаў быў, зачапіўшыся, па вушаку і нырнуў за парог ззаду за чалавекам.

Дзедзіха як і не радзіўся.

— Ай-яй-яй... Што навабіў... Што чыніць? — Джвучка хліпаў, як баба.

Выжлятніка тузала ў качарэжніку ля грубкі.

Куцку абступілі дзеці, прыбеглі з першай хаты.

— Мы баімся... Прагані і гэтых...

Стала холадна. Калі агледзеліся, — дзверы на двор стаялі расчынены. Мароз іраўся да стала — каціў сівую кудзелю, гнаў перад сабою, як вецер.

Куцку прыдалося, што пад нагамі гарыць падлога. У новай хаце...

— Ай-яй... — мітусіўся Джвучка.

— Не пашкадуе... Шалёны сабака і гаспадара ўкусіць... Хлопцы... — Куцка пачаў у гарачцы апранацца. Спешна.

У хату прыйшло ўтрапенне. Уседзець ніхто не мог. Вырваліся на двор, што галодныя ваўкі.

— Ай-яй...

— Заткні, Джвук, чорную ляпу!.. Знайшоў калі нюніць! След глядзі дзе...

За вёскай скуголіў вецер. Цемень жэрла белы снег.

Ноч пахла трывогай.



. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Да чалавека чэпіцца даўнейшае...

Ён быў тады за старшыню другі год. Абжыліся ўжо, мацаваліся. Сталі пакрысе на ногі...

Касілі ўсе Доўгія балоты. Летам па крыніцах брылі мужчыны, месцам аж па пояс. Жанчыны не бралі ўжо тады кос. Не іх гэта работа, хаця заўжды ў першыя гады па вайне на балотнай сінюсе выцягвалі па дзве нормы.

Сушылі Доўгія, зносілі вязкамі, а дзе было можна — ссоўвалі коньмі копы да стажар'яў, на бугрыны, дзе сушэй... Муравалі высачэзныя, шыракаплечыя стагі, — было работы дзеду Тодару. Хапала яго рукам летам, не адпачывалі яны і зімою. Стагі заўжды зімавалі. Не перацягнеш іх праз Доўгія крыніцы на Пагурак, куды льга было пад'ехаць з падводай. Ды і пунь не хапіла б. Добра, калі мурагі ўдавалася ўсе прыхінуць. А звозіцца летам з балота — ніхто ў Закалюжжы не любіў, і першы — дзед Тодар. Лаяўся і заўсёды даводзіў, што па калдобінах і вупраж з калясьмі пасадзіш і ўрону не абярэшся. Лепш тое сена, што растрасецца, на подсціл пойдзе.

Так і рабілі. Тралявалі Доўгія зімовай дарогай.

Тады былі на трох падводах. Абвечарэлі. Пачалася мяцеліца. Праз рэдкі альшэўнік несла снег з поля, з-пад Ваўкаўні, заносіла дарогу. Хутка цямнела. Чапурыліся коні, рыпелі па снезе палазы. Шалеў вецер, іраваў з вазоў сена. Ахапкамі. Збоку ля воза не пойдзеш — цаліна. Пярэдні — Джвучка — сядзеў на сене. За ім быў дзед Тодар. Ішоў за возам. Курыў увесь час і бурчаў, бы прадчуваючы нядобрае. Апошні воз — самы большы. Яго мудравалі Раман з Дзедзіхам.

Першыя крыніцы мінулі без бяды. Пад Пагурак зусім занесла дарогу. Коні не чулі следу. Збіліся. Сталі.

— Но-о... Завазіна... — Джвучка мерз і мацюкаўся. Не злазіў з воза. Лупіў каня пруціной як мог. Не паспелі заднія падбегчы да воза, як конь тарганўў быў з месца, скочыў і асеў у крыніцу па бруха. Воз кульнуўся і лёг на бок, шпурнуўшы прэч Джвучку.

Спалоханы конь стагнаў, біў у хамут, боўтаўся і граз у твані. Яго трымалі аглоблі. Перамяшаны снег пажаўцеў, счарнеў. Гразь блішчэла ў каня на спіне...

Доўгія крыніцы — згуб галавы, прорва. Дрыгва без дна, смактуха. Летам заўжды абганяліся ля яе са скацінай. Доўгія крыніцы — затока. Праз яе былі аж два масткі. Летні і зімовы. Зімовы заўсёды рамантаваўся з першымі маразамі. Конь жа, згубіўшы след, саскочыў у крыніцу далёка ад мастка. Пад раку аж...

Каб не ён, Дзедзіха, Тодар адхаладзіў бы тады Джвучку. Стрымацца не мог стары...

— Безгаловы! Абібок!.. Галава дзе... Азадак толькі заткнуць ёй...

Крык крыкам, а каня трэ' было ратаваць.

Першы сунуўся ў твань Раман. Хлапчанё тады быў зусім. Трымаючыся за аглоблі, па пахі ў ледзяной твані, перарэзаў супонь і церассядзельнік, сарваў гужы... Вылез увесь чорны, мокры да ніткі. Сівер абдаў яго парошай, залубянела вопратка. Не гнуліся рукі...

Конь, пазбаўлены апоры, захлынаўся, але быў свабодны, без прывязі. За грыву падцягнулі яго да берага... Доўга валтузіўся, біў галавой аб груду і старадаўні насціл-гаць, ды выбіўся, вылез. Страсануўся, абдаўшы іх кіслым холадам.

Трэ' было ратаваць і хлапца і каня. Мігам скінулі сена, перацягнулі вобмацкам па мастку сані на другі бок, запрэглі.

— Хлопец, топай... Ні хвіліны не стой. Скідай мокрую фуфайку. На сухі кажух... Танцуй, будзеш жыць, ліха яго матары... — Дзед Тодар скінуў кажух, застаўся ў фуфайцы. — Не сядзі... Дуй за санкамі, знямогаш, падсядзь... А там зноў на ногі... А дома чаю. Чаю гарачага з рускагоркай... Давай, Андрэй, імчы. Глядзі хлопца. І каня паставіць нанач лепш у парніку... А я тут з Джвучкам дацягнуся... А ну, Джвук, марш да Раманавай падводы, дома выцерыш нос ад гразі...

На санках ён, Андрэй, і хлопец. Знямоглы, змучаны. Счарнелы ад холаду. Выехалі на Пагурак. Выспа. Дзьме: як прыскам сыпле ў твар... Бялеюць у Рамана шчокі... Мерзнуць.

— Тры шчокі... Рукой... Як ногі?
— Не чую...
— Кратай, кратай... Но-о-о... Бяжы за саньмі...
— Не магу...
— Скіну!.. Скіну, загібееш жа...
— Скідайце!.. Усё роўна... — хлапец хапае паветра, як рыбіна на пяску на беразе...
— Тры рукамі шчокі... На рукавіцы...
— Не гнуцца пальцы... Не чую...

Да Закалюжжа яшчэ кіламетра паўтара. Хоць бы лясок, зацішак які. Не пагоніш, замяло. Грузне конь, збіваецца з тору.

— Давай падсунься... Шчокі патру... Выедзем на ездавую дарогу — саскочыш... Толькі б да першай хаты...

Абышлося. Хлопец назаўтра ўстаў, як нічога і не было. Прыйшоў сам на ферму, запрог каня, успароў з печы Джвучку, і паехалі на Доўгія крыніцы за абернутым возам...

Такі хлопец быў у тыя гады...

Каб павярнуўся крыху інакш лёс, Дзедзіха мог бы быць ягоным бацькам. Не родным праўда. Гануля паганьбавала ім у маладыя гады, не выйшла за яго. Муж яе, добры чалавек, калгасны каваль, — не вярнуўся з партызан. Загінуў з ягоным, Андрэевым, братам, калі райцэнтр бралі....

Не пайшла дзяўчынаю за Андрэя Гануля, не схацела і па смерці мужа.

— Не да замужжа. Не дуры, чалавек, галавы... Згінь ты, благое, прападзі... У мяне сын які... Жаню хутка...

Сказала — адрэзала. Раз назаўсёды... Што з таго, што ў яго ў сэрцы нешта жыло здаўна...

Быў бы Дзедзіха за бацьку, — не стаў бы такі Раман... Ён любіў Рамана, патураў, бывала. І вось дайшло... Да чаго гарэліца давяла.. Андрэй выкарабкаецца сам, вырве Пэрца, бо вінаваты. Мог многаму пераступіць дарогу і тады. Не як бацька хоць, як старшыня, як сталы чалавек...

Нічога. У яго, Андрэя, расце сын. Ён будзе не такі, як цяпер Пэрац, ён будзе не такі, зусім не такі, як цяпер ён, Андрэй... Ён выўчыць яго. Вялікім чалавекам зробіць... Яго сын будзе не так глядзець у вочы людзям. Яго бацька сам змые з сябе тванішча...

Перад вачыма ўзнікла Анэта, з сынам на руках. Вялікі сын... Чужых пазнае ўжо... Нават прозвішча гаворыць: «Дзе-е, дзе-е...»

Прыбегла на памяць акушэрка, што ўляцела тады ноччу ў хату як утрапёная. Як яна ўвіхалася ля Анэты, старалася, бегала... Ніколі ён, Дзедзіха, не стараўся так дзеля Анэты, дзеля жонкі... Як мала мо' быў шчыры... Часта крычаў на яе дачку... Не будзе больш такога. І без гэтага можна абысціся. Можна пражыць век, не папракнуўшы адзін аднаго...

Была ж і яшчэ раз акушэрка. Як прыкра... Ён н'ат не ўстаў з-за стала. Збаяўся. Не пазнаў быў, што за чалавек з ёю. Толькі што зняў з саняў ласіну тады, у хлеў ледзь справіўся пад сена схінуць. Па слядах, думаў, людзі прыйшлі аж з лесу. З таго ж боку выкаціліся, з двара відаць было.

І праз тых выжляцін... Чаму я тады не кінуў ім у ляпу тое мяса... Як ваўкі, на яго глядзелі, калі дзялілі... Ірвалі.

Шкада хлопца. І яго ледзь не з'елі. Тады, на Доўгіх крыніцах, не так было і — знёс. А цяпер... І Гануля зусім дойдзе з хворым сэрцам.

Крывапіўцы... Абраслі. Уеліся ў людское, як шашаль у калоду...

Ногі ступалі зморана, але цвёрда. Шукалі дарогі, узбіваліся на цвёрды, уезджаны грунт, гублялі яго і зноў мясілі ўцэла колькі во, ліха яго спомніць.

Сцямнела. Зайшоў мо' месяц-маладзік. Закруціла снег, віхрам.

Чалавека несла ў поле, гнала проста да лесу. Перла, тоўхаючы ў спіну, ірвучы з плеч вопратку. Свістала недзе збоку, мо' побач дзе быў лазняк. Не відаць яго ў цемені. Хутчэй бы ў лес. Там ціха. Там дарога. Да самай Ваўкаўні. Лес — ратунак ад немачы.

Вецер пёр да Віліі.

Ірвала з-пад ног снег, кідала далёка ў поле. У Камене брахалі сабакі. Рэдка, глуха, — далёка ўжо ззаду. Злева ўспыхнула святло, на паў-



**Людвіг Асецкі** нарадзіўся ў 1929 годзе ў Бабруйску. Пасля заканчэння Мінскага мастацкага вучылішча служыў у Савецкай Арміі. Дэмабілізаваўшыся, паступіў у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, мастацкі факультэт якога і скончыў сёлета. Серыя лінагравюр «Кастрычнік на Беларусі» была паспяхова абаронена ім як дыпломная работа.

Цяпер працуе мастаком у Міністэрстве культуры БССР.



**Людміла Ізмайлава** нарадзілася ў 1931 годзе ў Невелі. Пасля заканчэння Мінскага мастацкага вучылішча працавала ў майстэрнях Беларускага аддзялення Мастацкага фонду СССР.

Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут скончыла як жывапісец, абараніўшы дыпломную работу — карціну «На сплаве».

неба, бы пажар дзе. Чаму так раптоўна? Там электрастанцыя... А дзе Жоўты бераг? Ён тут, ён зараз павінен быць. А святло яркае, бо сцямнела так.

Стагнаў побач лес. Вось ён, чорны, як сцяна. Але дадыбай да яго, дайдзі...

Ногі ныюць, дрыжаць. Цяжка ступаць па калена ў снезе. Цяжка дыхаць. Горача за плячыма. Горка ў роце.

Стогне зmoраны чалавек... Скрыпіць намерзлы снег. Нясецца, шалее вецер.

Стогне ўперадзе лес. Лес — ратунак. Супачын. За ім — хата, дом.

Снег глыбокі. Мясіць яго цяжка, нязносна да злосці. Снег дастае да паясніцы. Ногі лезуць недзе на той свет. Дзе Вілія? Дзе Жоўты бераг?.. Дзе дарога?..

Схавалася за лесам зарыва. Зласней заскуголіў вецер. Значыць, недалёка лазнякі. Там Вілія... За ёй лес.

Ісці не стае сілы. Ісці трэба...

Наперад... Дадому... Ззаду — звяр'ё... Туды няма ходу. Уперадзе — дом. Людзі, якіх знаеш да аднаго. З якімі жыў і працаваў колькі год. Араў, сеяў, збіраў хлеб... З якімі пачынаў ладзіць калгас, лічы — на папялішчах...

Вецер сціх. Не круціць, не мяце. Стогне, як у хваробе, недзе блізка лес. На снезе льга ўгледзець, як чарнее лаза, што рэдкая мярэжа на белым абрусе. Рака...

Ногі рвуцца самі... Ногі лезуць у снег, крышаць нешта цвёрдае і хрусткае пад сабою — гэта ступаюць у парозе на шкло, трушчаць яго на друзачкі... Холадна, золка. Гэта ён, разуты, топчацца ў Куцкі ля грубкі па мокрай падлозе. Мокнуць ногі, мокнуць анучы ў ботах... Мокнуць галёнкі, паясніца... Сцюдзёная дзяга, здаецца, павязана па голым целе... Ліпкія, настылыя сырамятныя гужы спавіваюць, давяць грудзі... Нечыя рукі, мерзлыя, дубаватыя, цісінуць горла...

Зноў узвіразіўся вецер...

«Заткніся...» — ашчэрыўся аднекуль Выжлятнік.

«Захлыніся... — Джвучка лье за карак халоднае, знобкае... — Пі, задавіся, заваза...»

— Гэ-э-эй!.. — немы голас рэжа ноч, калыша стужу.

Скуголіць вецер...

Плача Анэта:

«Вазьмі на рукі сына... Вазьмі малое, Андрэй...»

Плача сын, заліваецца, кідаецца вобземлю на падлозе...

Хрась... Тузанулася на плячах вопратка...

Холад хлынуў у горла... Ірвала, тузала... Распірала грудзі.



— Ых... Ых...

Моцна-моцна ўдарыла ў галаву...

Знікла з сынам Анэта...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Быў вецер. Заносіў чорны пралом на Віліі, туды, пад электрастанцыю, правей Жоўтага берага, калі глядзець з выспы, ад Закалюжжа.

Яшчэ быў уначы стрэл. Адгукнуўся, як рэха, на немы голас. Данёсся з Жоўтага берага, з-пад лесу. На тым баку ракі, збіўшыся са штыху, разам з Куцкам мерзлі двое. Вярнуўшыся, яны хутка налучылі на след, дабеглі да прорубкі.

Прыйшоўшы ў Закалюжжа, тыя ноччу паднялі на ногі ўсю вёску.

Закалюжанцы хто ў чым, хто як падаліся на Жоўты бераг.

Да раніцы не гаслі ў хатах агні.

З начы аціхла было ад ветру.

У насцярозе збялеўся дзень.

Якая ў яго гарачая галава...

Нінка нагінаецца, прыпадае на калені, гладзіць яго рассыпаныя на падушцы чорныя валасы.

Гарыць, што агонь...

Адкуль такое гора? Ён траціць прытомнасць... Маўчыць... Не пазнае яе другія суткі. Бывае крычыць, гоніць ад сябе прэч. Толькі гоніць...

Ён добры, такі мяккі, паслухмяны. Ён любы... Ён цяпер яе... Яна можа папраўляць падушку, абтыкаць ля спіны прасціну, глядзець яму ў вочы...

Ён стаў такі блізкі для яе за два дні. Яна робіць з ім, што захоча. Супакоіўся, прынік. Змарыла хвароба.

Бывае, мінае пал, тады хлопец глядзіць на яе невідушчымі вачыма. Маўчыць, піць не папросіць. Не ведае ён, як крыўдзіць гэтым...

К начы ў яго зноў палезла ўгору тэмпература. Стала блажыць. Ставілі банкі. Уводзілі сываратку. Рабіла ўсё Галіна Фёдараўна: Барысаўна на раз'ездах. Галіна пакінула яе, Нінку, пры цяжка хворых. Загадвала не адыходзіцца. А куды яна кранецца?..

Былі хвілі неспакою, узбуджанасці. Яе ўскручвала з месца, насіла бог ведама дзе. Падступала гора, урывалася пасля радасць, як праз расчыненае акно вецер у духотны пакой.

Ён тут, на руках, яе, родны... Яна кахае яго. Колькі баялася, калючага і насмешлівага... Як магла падступіцца, калі так хацелася парой абняць за плечы, прыпасці і сарамаціць, сарамаціць на вуха ціхенька так, каб ніхто нідзе не ўчуў... За ўсё, што ён робіць, што вытварае... Во як яго любіць за гэта і як не любіць? А мо' ён проста смелы і рашучы? Не душа ў яго — вар... Шалёны ён, гарачы. Прыгожы, непаслухмяны. Колькі разоў ён гаварыў ёй, што кахае... А дзеля чаго? Каб жа хоць не хадзіла па вёсках за ім тая слава, мо' яна б, Нінка, і паверыла. Каб жа ён кахаў па праўдзе... Каб жа... Яна збаялася, яна не магла папусціцца тады летам. А яна і тады нямала ўжо кахала яго. А так выйшла... Яна аблаяла яго... А ён? Хіба ён не абразіў яе? А мо' і не? Хто ведае, што робіцца ў такім разе... Але не. Нінка адчувала, што не кахаў ён яе так, як хацела яна. Яна 'шчэ не зусім спазнала, што такое сапраўды кахаць, паддалася тады мо' першаму парыву... А ён, Раман...

Яна пасля пазбягала яго. Ён і не хадзіў за ёй. Быў сам сабой. Саромеўся, а мо' і ў яго гордасць ачнулася?

Пасля на яе найшла была хваля, гарачая і густая, як летам перад бурай. Цяжка ставала знайсці спакой, адолець сябе. Душа ныла, трымцела. Яе ўзварухнулі, спалохалі. Усё гэта пазней уляглося на дно. Тады зноў усплыло. Спачатку нешта ціхае і мяккае, а пасля — горкае, балючае, яно не давала знайсці месца. Яно не ўляглося, не мінула... Яно жыве.

І вось ён ля яе. Рахманы, паслухмяны. А такі ў жыцці неслух... Ён добры, прыгожы, любы. Самы ціхі і мяккі на свеце чалавек. Не, не быў ён настырны і ваўкаваты... Гэта — нагаворы на яго. Не назаляўся, не лез ён да яе, і тады на беразе ў іх нічога не было. Гэта так... Сон. Мроі. Туман. Усё сплыло. Не крыўдна... Толькі цікава...

Ён ля яе. Такі хворы і такі любы...

— Раман... — шэпча яна.

Ён замёр, супакоіўся. Заснуў мо' пасля гэтакай мукі. Звёў вочы. Яму лепей...

— Рома... — шэпча яна, нагнуўшыся. — Рома... — цалуе яго ў вусны, прыпаўшы да ложка на калені.

У палаце яны ўдваіх. Ля другой сцяны пусты ложак. Былі паклалі ўчора дзеда Тадора: грып ў таго ці што. Уцёк стары раніцай, накрычаўшы на Галіну...

Хутка дзень. Мо' патушыць начнічок? Мо' задрамаць самой? На душы лёгка і так спакойна...

Ён спіць...

За перагародкай, дзе жанчыны, нехта кашляе... Бухае, як у бочку. Застуджаныя грудзі...

Ён спіць. Дыхае роўна, працяжна.

— Рома... — яна кладзе яму руку на лоб.

Яна не можа адысціся.

(Працяг будзе.)



Мікола Воранаў нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Вірок Суражскага раёна на Віцебшчыне.
Скончыў сямігодку і працаваў у МТС, а пасля служыў ў Ваенна-Марскім Флоце. Цяпер працуе літсупрацоўнікам раённай газеты ў Міёрах.

**Мікола ВОРАНАЎ**

## ЛОКАЦЬ



У цэх такарны я ступіў  
Упершыню нясмелым крокам.  
І толькі ў ход станок пусціў,  
Адчуў я побач майстра локаць.

Шугалі квеценню сады.  
Я з клуба выйшаў з сінявокай.  
І ўзяў узрушаны тады  
Дзяўчыну любую пад локаць.

На палубу эсмінца стаў.  
Даносіўся прыбою рокат.  
І ў службе мне дапамагаў  
Матроскі неразлучны локаць.

І дзе б ні быў. Якой ні йшоў  
Дарогай — блізкай ці далёкай,—  
Усюды многа ёсць сяброў,  
Заўсёды іх адчуеш локаць.

## ЭЛЕКТРАЗВАРШЧЫК



Ледзьве дакрануўся электродам  
Да ліста металу — з-пад яго  
Іскры па-над вокнамі завода  
Юнака абсыпалі ўсяго.

Над яго паношанай спяцоўкай
Узлятаюць роем іскры ўвысь...
Электродам спрытна, як алоўкам,
Піша ён працоўны летапіс.

## ГАЛУБЫ ЛЯ ПОМНІКА ЛЕНІНУ



На мнагалюднай плошчы пасвятлела.
Гайдаюцца палотнішчы сцягоў.
І вось непадалёк на бруку села
Чародка беласнежных галубоў.

Даносіцца да слыхуварканне
Пад ціхі шэлест лісцяў трапяткіх...
Хто ні праходзіць — кожны з хваляваннем
Зірне на помнік. Спыніцца на міг.

Стаіць Ільіч з прасцёртаю рукою,
Такі знаёмы, блізкі гэткі нам...
Здаецца, ён на плошчу раніцою
Штодзень зярняты сыпле галубам.



Вечаслаў АДАМЧЫК

# ЁН ЗНОЙДЗЕ ЯЕ...

Апавяданне

Мал. К. Ціхановіча.

Па цэментавых сходках бегаў цьмяна-жоўты круг святла: вецер, ляпаючы абажурам, калыхаў над ганкам электрычную лямпачку.

У вестыбюлі, як і некалі, было светла, прасторна і яшчэ, здаецца, холадна. Холад ішоў ад коўзкай падлогі, дыхаў з цёмнага калідора, дзе суха і гулка скрыпеў паркет пад нечымі грузнымі нагамі.

Абабітыя цыратай дзверы чытальнай залы грукалі цяжка і мякка. За столікам дзёўбаў носам той самы гладкі ў твары і даўгавусы, як кот, вахцёр. Заўважыўшы Косцю Манцэвіча, падняў стрыжаную пад вожыка галаву і, відаць, пазнаўшы ў ім знаёмага, доўга прыглядаўся, маючы нешта сказаць, але, пэўна, не асмеліўся ці не знайшоў, з чаго пачаць гутарку, і зноў дзюбнуў носам.

Ля сотаў паштовай скрынкі, перабіраючы пісьмы, звінелі дзяўчаты,— і нейкая старая звычка і разам з тым проста цікавасць пацягнулі Косцю туды. Ён падумаў, што бадай ці пісаў хто яму на інстытут, а калі і мелася пісьмо, то змарнавалася за гэтыя два гады, але ўсё адно дастаў са скрынкі адзіную, што ляжала там, складзеную салдацкім трохкутнікам запіску. Здзівіўся, што запіска была якраз аднафамільцу, і з нейкай крыўдай пашкадаваў, што не яму самому.

Скончылася кіно, і з клуба на калідор хлынула і расплылося па вестыбюлю неспакойнае мора студэнцкай маладосці. Але гэтая людская мітусня, моцны гоман здаліся Косцю нязвычнымі, дзіўнымі. Дзіўным было тое, што ён не ўбачыў нікога знаёмага. Ішлі, спяшаліся невядома куды незнаёмыя хлопцы і дзяўчаты, гукалі адно аднаго, весела смяяліся, зычна гаварылі.

Косця глядзеў на гэтую вясёлую гаманкую мітусню людзей і адчуваў, што яго агортвае радасць, і яму чамусьці падумалася, каб была тут якая трыбуна, ён падняўся б на яе, каб усе чулі і бачылі яго, і крыкнуў бы, звар'яцелы ад паўнаты шчасця: «Дзень добры, маладосць, дзень добры мой стары і новы дружа, інстытут!»

Ля самай лесвіцы ён заўважыў дошку для аб'яў. Напэўна, гэта была тая самая дошка, на якой некалі Пеця Жвір вывесіў на смех вялізную аб'яву: «Хто знайшоў чацвёрты том твораў Язэпа Сапегі, просьба вярнуць у бібліятэку».

Юзік Сапега, ціхман і круглы выдатнік, унурыўшы нос у кнігу, сядзеў у аўдыторыі, баючыся тым днём паказацца на калідор. Аднакурснікі заходзіліся ад смеху. Пецька Жвір прыводзіў фізматаўцаў, яны высоўвалі галовы ў дзверы, а ён няўзнак паказваў на Юзіка.

«Дарэчы, трэба было б напісаць Юзіку пісьмо, — раптам успомніў Косця. — Ці, можа, выбраць вольны час ды пад'ехаць самому — Маладзечна не так далёка, за дзень управіўся б. Як гэтыя два гады перайначылі кожнага з нас. Юзік ужо дырэктар школы... І як хутка прабег час...» — паглыбіўся ў свае думкі Косця і ўжо невідушчымі вачыма глядзеў на густую студэнцкую плынь, а перад ім рабілася нешта іншае, не тутэйшае. Косця зноў падышоў да паштовай скрынкі. Некалі штодня яны нібы знарок сустракаліся ля гэтай паштовай скрыначкі з Валяй. Тут дамаўляліся схадзіць разам у кіно, на факультэцкі вечар. А пры ростані не гаварылі, дзе сустрэнуцца, бо ведалі — заўтра абавязкова ўбачацца на гэтым жа самым месцы.

«Дзе Валя, што яе напаткала за гэтыя два гады?» — падумаў Косця і ўспомніў, як аднойчы ні праз што ні праз якое яны пасварыліся. А назаўтра ён, злосны на сябе і на ўсё чыста на свеце, пайшоў на тое ж самае месца і нейкім вострым жалеззем выразаў на шыбіне яе імя. «Цікава, ці ёсць гэты надпіс цяпер? — І Косцю невядома чаму здалося, што ён сцёрся або хто-небудзь пабіў тую шыбіну.— Пайду паглядджу», — не выцерпеў ён.

На трэцім паверсе было сцішна, не гарэла святло, і тут душылася густая цемень. «Які я быў дзівак», — усміхнуўся сам сабе Косця, шыбуючы ў канец доўгага калідора, дзе ўжо было відней,— праз вялікае акно з далёкіх вулічных ліхтароў сюды, на калідор, сачылася святло. Ад акна несла холадам, тут хадзіў вецер,— нехта забыўся зачыніць фортку. Косця ляснуў форткай і пачаў вадзіць пальцамі па шыбіне, раптам абмацаў нейкі шрамок і, прыглядзеўшыся, убачыў, як азначыліся на шкле чатыры вялікія і нязграбныя літары — «Валя». Ён глынуў паветра і аж задыхнуўся. Засталося! Косця сцішыўся, на яго нахлынулі раптоўныя думкі, збіліся, змяшаліся. Але схамянуўся, што там у вестыбюлі ўсе, вядома, разышліся, і вахцёр, напэўна, ужо прымкнуў дзверы, і пабег да лесвіцы, нарабіўшы груку на ўвесь паверх.

У вестыбюлі пасля нядаўняга гоману і сумятні па-нязвычнаму было пустэльна. Толькі невялікая купка, чалавек пяць, рослых, як на падбор, хлапцоў, у модных касцюмах, у чорных востраносых туфлях, відаць, некага чакаючы, вяла нямоцную гаворку.

Бібліятэкар, злуючыся на запозненых студэнтаў, замыкала чытальную залу. Недзе ў цёмным калідоры грукаў, зачыняючы нанач вокны, вусаты вахцёр і таксама ўголас наракаў на чыюсьці нядбайнасць.

Косця крыху збочыў, каб мінуць хлопцаў, але нехта ў шэрым касцюме высунуўся з купкі і заступіў яму дарогу. Косця, не падымаючы галавы, адступіў у бок.

— Ваш пропуск! — пачуў Косця як бы знаёмы голас, але памкнуўся



яшчэ абысці чалавека. І тут нечыя рукі схапілі яго за плечы. — Задумаўся, цаліннік!

Косця Манцэвіч падняў вочы. «Пецька Жвір, дзіўна! І змяніўся як!»

Жвір, як і раней, быў прыгожы; толькі з чыстага твару, з вачэй знікла яго колішняя весялосць. Над хлопцам брала верх паўната і нейкая сталая мужчынская лянота.

— Не пазнаеш? — цяжкія рукі Жвіра слізганулі з Косцевых плячэй ніжэй і сціснулі за локці.

— Змяніўся, цяжка і пазнаць, — нехаця ўсміхнуўся Косця і аслабаніў рукі.— «Ты ў Мінску ці што?» — памкнуўся спытаць, але яго апярэдзіў Жвір:

— Даўно тут? — і, абярнуўшыся, гукнуў да купы хлапцоў: — Вы ідзіце. Я зараз.

— Вось сёння прыехаў.

— Можа давучвацца думаеш?

— Думаю.

— Прыйшла каза да воза, — Жвір выцягнуў шыю, абедзвюма рукамі тужэй зашморгваючы вузел гальштука. — Не ўмеў жыць на свеце. Не ўмеў... Упусціў шчасце з рук. Вучыўся добра, ды на ражон лез...— ён перадыхнуў, прыжмурыўся і сказаў: — Я ж у аспірантуры.

Жвір гаварыў нешта яшчэ, але Косця не слухаў, нейкая злосная думка заглушала ўсё: «Дзіўна, як толькі ён трапіў у аспірантуру? Хіба, як і некалі,— на шпаргалках»...

— Слухай! — Жвір адставіў нагу і затупаў наском туфля па падлозе. — Маё ж недзе адзенне ў гардэробе. Крыку будзе... А ты што? Ты гэтак?

— Ага.

— То я падбягу, — Жвір махнуў рукою, даючы Косцю знак ісці за ім, і заспяшаўся ў цёмны калідор. Але яго ўжо напаткала нізенькая, туга падпяразаная, падобная на мурашку, гардэробшчыца. Паўшчувала крыху і аддала Жвіру адзенне, якое, пэўна, хацела пакінуць вахцёру.

— А ты, брат, зблажэў, — разгладжваючы, відаць, прымяты ў гардэробе макінтош, гаварыў Жвір.— Зблажэў... І валасы высыпаліся, а некалі такую шавялюру меў, га? Старэеш, брат.

Косця адчуваў, як недзе на душы пачынае ажываць даўнішняя нялюбасць, злосць і непавага да Жвіра.

— А сам вінаваты,— апранаючы макінтош і не трапляючы ў рукаво, не перасціхаў Жвір.

Косця бачыў: Жвір адчувае над ім нейкую перавагу, выдае сябе за разумнейшага, за чалавека, які займеў невядома якое становішча. І Косцю раптам узяла ахвота сказаць Жвіру нешта вострае, зняважлівае, проста ў вочы, але ён змоўчаў, хоць ведаў, што калі той будзе гэтакае гаварыць далей,— не сцерпіць.

На дварэ церушыў рэдкі, халодны дождж. Недзе з завулка парывіста дыхаў густы, моцны вецер. Прамоклыя наскрозь дрэвы сыпалі на бліскучы асфальт, на рабыя лужыны вялае парыжэлае лісце. Яно валялася скрозь па вуліцы.

— Халадэча,— першым, калі яны перайшлі вулачку, азваўся Косця Манцэвіч і наставіў каўнер.

— То як жывеш, расказвай,— Жвір ступаў па вадзе, не разбіраючы лужын. Вецер раскудлачыў яго доўгія валасы, і яны рэдкімі пасмамі лезлі яму ў вочы, ён зграбаў іх абедзвюма рукамі, прыгладжваў на патыліцы і гаварыў:

— А я, браце, навукай заняўся.

Выйшлі на вуліцу. Легкавое таксі, распырскваючы лужыны, спешна і шумна паплыло ў бок прывакзальнай плошчы, пацягнуўшы за сабою па мокрым асфальце дзве чырвоныя стужкі — агні ад стопсігналаў. Следам за ім праехаў амаль пусты аўтобус, высушыўшы плыткую ля самага тратуара лужыну і загнаўшы Пецьку Жвіра аж пад самы плот.

— То пачакай, куды пойдзем? От злыдзень...— Жвір абіваў запырсканы макінтош. — Ты не на Свердлава часам? Калі туды, дык праўду,— і, пачуўшы Косцеву згоду, пачаў прыгадваць, пра што гэта ён гаварыў.

— Ды пра тое, што навукай заняўся, — падказаў Манцэвіч.

— Так, так...— цмокнуў губамі Жвір.— Цяпер, браце, не тое, што было. Ты ж ведаеш, газеты нашу кафедру тады ўшчэнт разнеслі. Зарэка зволены. А цяпер...

Косцю здалося, што памякчэў пад нагамі асфальт, пасвяжэла на вуліцы.

— Я табе скажу... Ён за нашага чалавека мог пастаяць. А астатнія...— загаварыўся Жвір і наткнуўся на сустрэчнага чалавека.— Усё чэпяцца да мяне. Не ведаю, чым скончыцца... От свет настаў...

На прывакзальнай плошчы зачыняліся магазіны, але пад дзвярыма стаялі запозненыя і настырныя пакупнікі і прасіліся нешта купіць. Ля рэстарана Жвір спыніўся і ўзяў Косцю пад руку:

— Можа зойдзем разам? Хоць на цябе хлопцы і не заказвалі, але нічога, уладзім. Грошы ў мяне ёсць.

— Не, дзякуй, дзякуй...— адмовіўся Косця.— Сам ведаеш — не п'ю. Стары прынцып —і гэта ведаеш.

— От чалавек! — Жвір паківаў галавою.— Ну, ладна, бывай! — і падаў Косцю сваю мяккую, пухлую руку.

...На сцяне перастаў трашчаць не выключаны, відаць, да канца рэпрадуктар. На ложку, што стаяў упрытык да шафы, з нейкім тонкім і працяжным свістам ужо граў нечы нос. А Косцю не браў сон. Не спала яшчэ ўсыпаная рэдкім электрычным святлом вуліца: час ад часу гулі запозненыя машыны, ішлі людзі, здаецца, знарок моцна гаварылі пад вокнамі. На пасажырскім вакзале, чуваць было, гукаў паравоз.

І новыя думкі, і першая ноч у студэнцкім пакоі, ад якога Косця адвык, але па якім цэлыя два гады сумавала яго сэрца, не давалі заснуць. Не ляжалася і на старым збітым матрацы, муляла галаву злямцаваная падушка.

Усё гэта прыкрае адбылося ў адзін дзень. Пасля заняткаў Косцю Манцэвіча сустрэў выкладчык палітэканоміі. Гэты старэнькі, рахманы і заўсёды задуманы чалавек хадзіў па калідорах трушком і неяк бокам, чамусьці каля самай сцяны. Вылучаўся ён яшчэ двума асаблівасцямі: нікому і ніколі, як памятаюць студэнты, не паставіў двойкі і чамусьці выклікаў студэнтаў не проста па прозвішчу, а заўсёды зачытваў са свайго блакноціка імя і імя па бацьку. Вітаўся ён надзвычай далікатна, нізка схіляючы сваю бліскучую галаву, заўсёды першы, калі ведаў студэнта ў твар. У той дзень ён нават не адказаў на Косцева прывітанне, але раптам спыніўся. Падняў свае бяскрыўдныя шэрыя вочы і, счакаўшы, пачаў гаварыць, збіваючыся і чырванеючы:

— Што гэта з вамі? Як гэта? Вы ж, здаецца, Канстанцін Сымонавіч, добра вучыліся і паводзіць сябе ўмелі?



Але паглядзеў, што Косця стаіць пэўна болей здзіўлены, чым перапалоханы і, відаць, не здагадваецца, пра што гэта ў яго пытаюцца, і прагаварыўся адразу:

— У дэканаце я чуў, што вас выключылі з інстытута. Гэта ж нейкае непаразуменне, недарэчнасць нейкая?..

Спазмы моцна і балюча сціснулі Косцева горла, ён памкнуўся нешта сказаць, але адчуў, што не мае сілы. У грудзях, здаецца, было нешта пустое і халоднае. Ногі дрыжэлі, слабелі, рабіліся нейкія нежывыя, і ён баяўся, каб хаця не ўпасці.

Перад вачыма раптам паўстаў чырвоны гладкі твар намесніка дэкана Зарэкі... Здаецца, варушыліся яго мокрыя тлустыя губы: «Вы толькі ўмееце гаварыць там, дзе не трэба. Вы многа берыцё на сябе. А на экзаменах у вас, нябось...» І нейкія глыбокія, патаемныя Косцевы думкі яму адказвалі: «Значыць, дамогся свайго. Цябе, вядома, лепш паслухаюць, чым мяне. Няўжо цябе не распазнаюць? Няўжо ты так і будзеш сядзець у зацішку?»

У той дзень Манцэвічу пачало здавацца, што яго адгарадзілі ад усяго свету нейкай высокай сцяною, з-за якой яму нічога не відаць і не чуваць. Ён не ведаў, куды дзецца.

Апынуўшыся ля самага ганка Ленінскай бібліятэкі, Косця здзівіўся, што зайшоў гэтак далёка, і, успомніўшы, што дакляраваў Валі прыйсці на іх курсавы вечар, вярнуўся назад, думаючы ўбачыцца і абавязкова пра ўсё пагаварыць, параіцца з ёю.

Але ў той дзень Косця не пагаварыў з Валяй. Бачыўся аж два разы, але не пагаварыў. Дарэчы, першы раз ён бачыў толькі яе. Яна яго — не. Клуб быў набіты біткам. Косця ледзьве ўшыўся ў залу. І сцэну ён бачыў толькі тады, калі пахілілася нейчая вялікая кудлатая галава. Ён чуў толькі песню. Знаёмы, да болю мілы і любы дзявочы голас, здаецца, плыў недзе з высокай і невыразнай гары, плыў сюды, у нізіну, да бясконца шырокага возера, пераліваўся дробнымі хвалямі па яго люстранай гладзі, аддаючыся рэхам у сініх густых лясах. Нейчая галава павярнулася зноў, і Косця зноў убачыў спявачку. На ёй была цёмна-сіняя сукенка, што гэтак прыставала да тонкага дзявочага стану; чорныя туфлі на высокім абцасіку рабілі яе рослай і яшчэ больш стройнай. Косця ніколі не бачыў Валю ў гэтай сукенцы, не ведаў, што яна гэтак хораша ўмее спяваць, і не ўяўляў, што яна так густа чырванее, і ад гэтага робіцца яшчэ прыгажэйшай.

— А дзяўчына яна нічога сабе...

— Грышку можна пазайздросціць... Слухай, як хораша спявае...

Загаварылі ў Косці за спіною, і ён здагадаўся, што гутарка ішла пра Валю.

Косця не ведае, адкуль у яго набралася столькі сіл. Ён падаўся назад і плячыма націснуў на некага так моцна, што той, не ўстояўшы на нагах, адваліўся да сцяны. А Косця, не памятаючы сябе, выскачыў з клуба і невядома куды пабег бы, каб не напаткаў у вестыбюлі Юзіка Сапегу.

— Косця, што з табою? Ды кінь ты, мы цэлым курсам сходзім заўтра да дырэктара. Быць не можа, каб цябе не аднавілі. Ідзем, пагаворым... Супакойся... — Юзік мо' заўважыў, што Косця быў як сам не свой, што з ім нешта рабілася.

У аўдыторыі, куды яны зайшлі, было цёпла і сціпша. На дварэ ж расхадзілася завіруха. Сыпала сухім снегам у вокны і жаласна выла ў тэлеграфных правадах. Раз-пораз звінела неакітаваная шыба і, не перасціхаючы, недзе ў рамах акна, грала адклееная паперка. Ці ад

гэтых дзівосных і непрывычных гукаў ці ад таго, што адбылося за ўвесь дзень, у Косці шэрхла спіна, яго праймаў холад.

Сапега, каб развесяліць Косцю, стаў за кафедру, надзеў на нос апраўу ад акуляраў і пачаў чытаць свой канспект, падрабляючыся пад выкладчыка нямецкай мовы. Чытаў ён, сапраўды, як той выкладчык, голасна і заікаючыся.

На голас Сапегі і прыйшла Валя.

— Косцік, чаму ты тут? — яна падбіла вышэй свае густыя чорныя валасы і папрыгажэла.

«Нібы я табе патрэбен?... Ды я нікому не патрэбен...» — Косцю ахапіў нейкі жаль да сябе, хацелася заплакаць, але стрымлівала злосць:

— Што? — ён выклікнуў гэтак моцна, што аж здрыгануўся сам і тут жа зразумеў, што з языка зляцела нешта зусім не тое, але адчуў, што ўсё адно не дасць сабе рады:— Што табе да таго?..

— Косця. Дурненькі...— Валя зачырванелася і неяк спалохана адхіснулася назад.

Дзяўчаты, што стаялі дзесьці на калідоры, не паказваючыся і чакаючы Валю, зайшліся ад смеху.

— Ідзём на вечар... І ты, Юзік... — поўныя шчокі яе то чырванелі, то бялелі. І раптам яе падбародак задрыжэў, вусны скрывіліся. Яна адвярнулася, закрыла твар рукамі, выбегла з аўдыторыі.

...Тым днём, нічога нікому не кажучы, Косця вярнуўся дадому і, не ўтойваючы, сказаў, што выключаны з інстытута. Маці загаласіла на ўсю хату. Але гэты мацярынскі плач было лягчэй зносіць, чым зацятую маўклівасць бацькі. Косця адчуваў, што ні перад кім на свеце гэтак не вінаваты і ні перад кім гэтак не мае ганьбы, як перад бацькам.

На трэці дзень Косця пайшоў у калгас вазіць торф, і па вёсцы папоўз слых, што Сымонавага сына прагналі з інстытута. Бацька змоўчаў, толькі з кожным днём хмурнеў і зусім унурыўся. Маці дапякала штодня:

— Ось які гонар нам, ось... Выгадавалі сына, вывучылі...

Косця не ведаў, што рабіць, і таксама маўчаў. Адчуваў, што гутарка ў вёсцы і гэтая сварка ў хаце зусім даканаюць бацьку.

— Жарты табе... Маё сэрца як чула, — не перасціхала маці.

Аднойчы-такі бацька не сцярпеў:

— Ну, досыць табе!..

— Мо' па галоўцы пагладзіш?

— Ды маўчы, кажу табе! — бацька падняўся з лавы, рукі яго закалаціліся, і вочы забегалі па падлозе, шукаючы невядома чаго.

Косцева жыццё дома з кожным днём цяжэла, рабілася прыкрым і бадай што невыносным. Трэба было хоць бы дзеля бацькі шукаць нейкі паратунак і выйсце: вярнуцца ў інстытут і, у крайнім выпадку, калі не пашанцуе ўладкавацца на стацыянар, падацца на завочнае аддзяленне. Гэтыя думкі і развагі крыху развясельвалі, прыносілі заспакаенне. Суцяшалі і дадавалі радасці ўспаміны пра Валю. Праўда, да гэтай радасці дамешваліся падчас журба і горкая крыўда на самога сябе, што і з дзяўчынай у яго выйшла не так, як у добрых людзей.

Тое, пачутае ў інстытуцкім клубе, выбівала Косцю з раўнавагі. Часам ён дакараў сябе за сваю вінаватасць, бо нехта, можа, бачыўшы не раз яго з Валяй, мог сказаць гэта знарок. То іншы раз верыў гэтай чужой гутарцы наконт Валі. Але заўсёды адчуваў, што не хапае яе



слова,— яе пісьма, і невядома чаму з дня на дзень чакаў Валіных пісем, хоць ведаў, што іх не будзе: наўрад ці асмеліцца яна напісаць першая, тым больш, не ведаючы, дзе ён.

З дому Косця меўся ехаць украдкам, але перад бацькам нібы прагаварыўся. Напярэдадні яго ад'езду бацька вярнуўся з мястэчка, прынёсшы дадому новыя туфлі.

— На, а то няма ў чым ехаць,— бацька дастаў іх з кардоннай скрыначкі і неяк асцярожна, нават з гонарам паставіў на падлогу.— Калі едзеш, то і грошы бяры. Палучкі яшчэ не было, але я от пазычыў...

...Вярнуўшыся з дому, Косця застаў на сваім ложку нейкага белага і доўгага, як жэрдка, першакурсніка.

— Ён тут законны, што скажаш...— высунуўшы з-пад коўдры нос, сказаў Пецька Жвір.— Сам жа ведаеш, каго выключаюць з інстытута, таго высяляюць з інтэрната. Дарэчы, у нас падлога нікім не занята. Можаш спаць. Ці прывыкаць вясковаму хлопцу. Хе-хе-хе...

Косцю да сябе ў пакой паклікаў Юзік і прыставіў нанач да свайго ложка тры скрыпучыя, раз'еханыя крэслы. Косцю ахапіла нейкая радасць, і ён адчуў палёгку, што вось гэты Юзік, які, здаецца, нікому не ўмеў сказаць ні кепскага, ні добрага слова, выдаўся зычлівым, сардэчным чалавекам. Ён хацеў неяк аддзякаваць за ўсю гэту дабрату, шчыра сказаць, але чамусьці не хапала адвагі, ды і ў галаве круціліся нейкія халодныя, абыякавыя чэрствыя словы, ад іх было ніякавата, сорамна і нават брыдка самому.

Ад Валі Косця чакаў нечага большага, чым спагады і зычлівасці. Усю ноч, мучачыся на Юзікавым ложку, ён дакараў сябе, што не наведаўся да яе ў інтэрнат. А назаўтра раненька збегаў у інстытут, спадзеючыся ўбачыць Валю на перапынку, але даведаўся, што ўвесь чацвёрты хімфак паехаў на завод і што мабыць студэнты вернуцца па полудні.

Вечарам Косця аббегаў усе калідоры, заглянуў у чытальную залу, але Валі нідзе не знайшоў. У вестыбюлі ён незнарок наскочыў на Валіну аднакурсніцу, нізенькую, поўную, як налітую, дзяўчыну. Спачатку спалохаўся, а потым здзівіўся і нават узрадаваўся, што яна, устояўшы на нагах, не зазлавала, а толькі засмяялася:

— Ну і дурны ж ты, Косцік... І за што цябе толькі Валя любіць? Я вось зараз паклічу яе, няхай крыху супакоіць гэтакага распусніка, — і, накульгваючы, пайшла ў аўдыторыю. Валя на калідор выйшла, крыху счакаўшы.

— Ледзь дзяўчыну не скалечыў, — сказала яна замест прывітання, і бровы яе насупіліся.

Косця адчуў, як пахаладзела ў грудзях. У аўдыторыі з моцным грукам нешта ўпала, і ён аж здрыгануўся.

— Гэтая таўстуля-Марынка заўсёды што-небудзь утворыць,— Валя павярнулася і, пазіраючы недзе на дзверы, спытала: — Чаму не схадзіў да дырэктара? Што ты сабе думаеш?..

Ён не даў дагаварыць:

— Валя, ты ўсё ведаеш пра мяне?

— Дзіва, увесь інстытут ведае,— з крыўдай сказала яна, не паднімаючы вачэй. Ён бачыў, як уздрыгвалі яе густыя чорныя вейкі. А на твары, як застыла, так і не раставала зацятасць і злосць.

— Напішы заяву і схадзі да дырэктара, можа, адновяць. І не адкладвай не марудзь. Усяго найлепшага табе, я пайшла...

— Ты спяшыш? — ён заступіў ёй дарогу. — Дзе будзеш вечарам? —

Ён ведаў, што лезе сляпіцай у вочы, ведаў, што яна не пераможа сваю злосць, не падабрэе. І незнарок спытаў: — Ты прыйдзеш?..

Яна не даслухала, перабіла:

— Нікуды я не пайду! Заўтра ў нас залік.

Косцю падумалася, што гэта была толькі адчэпка.

Косця зрабіў кепска, што згадзіўся пераздаваць экзамен Зарэку. Косця тады ўшчэнт раскрытыкаваў лекцыі Зарэкі. Ён нават сказаў, што такому выкладчыку не месца ў інстытуце.

— Выкладчык гісторыі рускай літаратуры не ведае, у якім годзе была напісана «Капітанская дачка»...

Воплескі заглушылі Косцевы словы.

Зарэка, пачырванеўшы да вушэй і ўгнуўшы галаву, выскачыў з прэзідыума. У зале заплёскалі яшчэ мацней.

На другі дзень ён выклікаў Косцю ў дэканат. Яго тлусты чырвоны твар сцяўся ў злосці:

— Вы хуліган. Я не маю права трымаць вас у інстытуце. Можаце падаваць заяву на завочнае аддзяленне.

Косця марудзіў, не ведаючы, з чаго пачаць гаворку. Усё, што ён меўся сказаць, раптам перамяшалася, зблыталася. І ў гэтым зблытаным, пераатасаваным матку думак ён ніяк не мог знайсці тую нітку, з якой і трэба было пачынаць гутарку з Зарэкам. Ад нервовасці, напружанасці трашчала, развальвалася галава, і ён са злосцю думаў, што вар'яцее...

За Косцю тады хадзіў прасіць цэлы курс, і ён застаўся ў інстытуце. Але не надоўга. Ён пасядзеў яшчэ дзве ночы над канспектамі, але Зарэка паўторна ў Косцевай заліковай кніжцы вывеў тлустае, каб было відаць, «нездавальняюча» і напісаў дакладную намесніку дырэктара.

...Косця, чырванеючы і бянтэжачыся, расказаў пра ўсё гэта дырэктару.

— Вы нешта многа тут нагаварылі. Ці праўда ўсё гэта? — дырэктар дастаў з кішэні насоўку, выцер губы і параіў: — Напішыце заяву Міхаілу Спірыдонавічу, ён разбярэцца.

«А вы?» — хацеў спытаць Косця, але не рашыўся. Не развітаўшыся, выскачыў за дзверы.

Як апынуўся ля інтэрната, Косця не памятаў, але быў рады, што трапіў не дадому, а сюды, на гэтую зацішную вуліцу, дзе горка пахла таполямі, сырасцю і яшчэ нечым прыемным, чым пахне заўсёды ў мяккі вясновы вечар.

Каля ганка інтэрната, збіўшыся ў купку, стаялі хлопцы і дзяўчаты, і яшчэ здалёк Манцэвіч пачуў голас Пецькі Жвіра і адразу здагадаўся, што маюцца быць танцы.

Вестыбюль быў яшчэ пусты і ціхі, але ў кутку на століку стаяла радыёла, і двое хлопцаў, нешта ладзячы, корпаліся ў ёй.

І ўжо на калідоры Косцю дагналі гукі вальса. Ці ад хараства гэтай музыкі, ці ад таго, што ён яшчэ здалёк на адным пакоі заўважыў чорны ромбік са знаёмай лічбай «17», — ужо нейкі вясёлы, узрушаны падышоў да гэтага пакоя. Пастукаў у дзверы і пачуў, як заходзіцца сэрца.

Здаецца, адказаў ласкавы звонкі голас: Валін. Косця з радасцю і страхам адчыніў дзверы. І ў той жа момант аслупянеў, жахнуўся, пачуўшы немы ўскрык. Дзяўчына, кінуўшы мыць падлогу, спешна абцягнула сукенку на круглыя ружовыя калені, падхапілася з месца і, знячэўку перавярнуўшы поўны тазік вады, схавалася за шафу.

— Не ідзіце далей! Я ж вам казала, што не можна...— нарабіла крыку дзяўчына, у спешцы, відаць, не пазнаўшы, хто зайшоў.

«Значыць, Валі няма...» — з крыўдай і шкадаваннем падумаў Косця, аглядаючы непрыбраны пакой з развалтужанымі ложкамі, поўны бруднай вады на падлозе і, не аказваючыся, ціхутка вышмыгнуў на калідор.

На першым паверсе стаялі мітусня і гоман. Невялікі вестыбюль не змяшчаў усіх ахвотнікаў танцаваць, і асобныя пары выплылі з густое таўкатні на калідор.

Косця ткнуўся быў спачатку ў гэты людскі вір, намерыўшыся прайсці да дзвярэй. Раптам у яго перад вачыма мільгнула белая ў чорны гарошак сукенка. «Яна, Валя»... — шукаючы зацішнейшага месца і штурхаючы ўсіх, падумаў ён. Адышоўся да сцяны і зноў убачыў знаёмую белую сукенку, убачыў, як, падняўшы вочы, сарамліва некаму ўсміхалася Валя, убачыў яе белую руку на нечых шырокіх плячах. Потым Косця глядзеў толькі на яго: ён быў рослы, поўны, але далікатны ў твары. Яго русыя, густыя кучаравыя валасы былі дбайна ўкладзены. Ці гэтая дзябёласць і выносны рост рабілі яго ўжо не надта маладым, ці сапраўды ён меў ужо недзе за трыццаць. Але гэтая сталасць, мужчынская дужасць дадавалі Косцю баязлівасці, і ён адчуваў нейкую перавагу гэтага чалавека над сабой.

Косця заўважыў, як, пакалыхваючыся ў павольным танго, шырокія плечы блізяцца да яго, убачыў, што на іх неяк далікатна і нясмела ляжыць круглая белая дзявочая рука і, хаваючыся за некага, падаўся на калідор. Тут стаяла нейкая прахалода і дыхалася вольна і лёгка. Косця пацёр змакрэлы лоб: «Можа гэта ён, той самы Грышка? Можа праўду казалі тады ў клубе?» Косця пакруціўся на калідоры, вырашыў: «Трэба пагаварыць з ёй, трэба пагаварыць...», і кінуўся зноў у вестыбюль. Танец скончыўся, і ўсе хлынулі да лавачак, шукаючы вольных месц.

Косця акінуў вачыма вестыбюль і заўважыў Валю. Яна сядзела на падаконніку і гаварыла нешта таму, а той стаяў поруч, упёршыся локцем у раму, трос кучараваю галавою, у нечым падтакваючы ёй.

Косцю зноў апанаваў страх, сорам, здрантвелымі нагамі ён ступіў некалькі крокаў да акна і, не даходзячы, яшчэ здалёк паклікаў:

— Валя!

Яна падняла галаву, абярнулася і застыла ў здзіўленні. Штосьці сказаўшы дзябёламу, скокнула на падлогу.

— Што з інстытутам, Косця? — спытала адразу.

«Гэта знарок, каб перабіць мяне», — падумаў ён.

«Нічога добрага?» — спытала аднымі вачыма.

— Мо' пойдзем адсюль? — Косцю пачало калаціць, і ён не ведаў, як даць сабе рады.

— Куды?

Яны выйшлі на двор. Веяў густы, парны ветрык. Яны падышлі да інтэрната, селі ў зацішку на сырыя цэментавыя приступкі ганка. Дзверы ў калідор былі забіты, і ганак пуставаў. Насупраць у шэрым доме на ўсіх трох паверхах шчасліва і ласкава гарэлі вокны, і іх святло скупа падала на ганак. Зводдаль сумна шалясцела яшчэ рэдкім маладым лісцем прысадзістая ліпка. У цёплым вечаровым небе холадна міргалі зоры.



— Нашто ты ходзіш з ім? — сказаў Косця з жалем, ціха, але адчуваў яшчэ, як недзе ў глыбіні душы кіпіць разгневанасць.

Яна маўчала. Ён глядзеў на яе тварык, бледны, змучаны. Яна стаілася, сціялася і ўсё нешта думала, моцна, цяжка, і маўчала.

Аднекуль сюды ў зацішак закруціў, прыйшоў вецер. Ліпа, размахваючы голлем, зашалясцела мацней. Запанавалі сум і адзінота.

— Косцік...

Ён не даў дагаварыць:

— Я кахаю цябе, я... — ён памкнуўся яе абняць, прытуліць да сябе, але яна здрыганулася, адвяла яго рукі і, не могучы, устала:

— Косцік...

Ён застаўся сядзець, не ведаючы, дзе падзець свае рукі.

Валя адступілася ад ганка.

— Ты не крыўдуй, не трэба. Мне... Я не ведаю... Я сустрэла яго яшчэ ў вёсцы, калі мы ездзілі на трэцім курсе капаць бульбу. Ён быў нашым кіраўніком. Я памятаю той вечар... Выбачай, мо' я дурная... — Голас яе быў нейкі не свой, ціхі, амаль шэпт. — Мы ў тую восень меліся справіць вяселле. Але я, чамусьці... Ды ён потым паехаў у Ленінград пісаць дысертацыю. — Яна раптам адвярнулася, закрыла абедзвюма рукамі твар. — Косцік, ты знойдзеш сабе дзяўчыну, гэтакую добрую, харошую, чыстую, як сам. — Яна перавяла дыханне. — А мне, Косця, усё адно.

Ён адчуў, што за гэты кароткі міг на яго навалілася новая вялікая і наглая бяда. І ва ўсім гэтым ёсць нешта прыкрае, нядобрае і можа нават агіднае.

— Валя! — нешта ўжо чужое, цяжкае адгукнулася яму ў гэтым слове: — Валя!

Яна паволі кранулася з месца і, не аказваючыся, моўчкі, гэтак жа паволі пайшла, несучы з сабою клопат і трывогу. Дайшла да жалезнай брамы, учапілася рукамі за яе і, не абярнуўшыся, жаласна папрасіла:

— Правядзі мяне, Косцік.

Косця пайшоў нехаця, але не да яе, не да Валі.

На вуліцы рушыў подбегам, не чуючы пад сабою ног. Міжволі аглянуўся, убачыў, як непаўторна хараша і цудоўна свеціць усімі вокнамі ўжо далёкі інтэрнат, і яму зрабілася шкада сябе, шкада ўсяго, што неадлучна ад святла гэтых акон: трывожнай радасці, балючага шчасця, першага кахання і мар... І сэрца яго зашчымела, калі ён падумаў, што пакідае гэты дзіўны свет, добры і заманлівы, які паўставаў заўсёды там, дзе была Валя.

Скрозь па вуліцы сумна гарэлі ліхтары, мацнеў вецер і трывожна размахваў галінамі маладзюсенькіх ліп. І Косцю чамусьці хацелася думаць, што гэта ад свежага вільготнага ветру і гэтага мяккага паўзмроку на вуліцы вейкі яго студзілі слёзы. Ён выціраў іх рукою, а яны невядома чаму сачыліся, набягалі на вочы.

Той ноччу Косця не прыйшоў у інтэрнат. Да раніцы праседзеў у зале пасажырскага вакзала, думаючы, што рабіць: заставацца ў Мінску, схадзіць яшчэ да намесніка дырэктара, а калі адмовяць, шукаць работу ці можа ехаць куды вочы глядзяць? А калі пачало ўжо добра займацца на дзень і на вуліцах патухлі ліхтары, не выцерпеўшы цяжкіх думак і бяссонніцы, Косця, як пабіты, пацягнуўся ў інтэрнат. Пастаяў на калідоры, не асмельваючыся будзіць хлопцаў. Прыхіліўся да акна, паглядзеў, што можа заснуць стоячы, і пастукаў у пакой да Сапегі. Падхапіўся чуткі ў сне Юзік. Пазяхаючы, ён буркнуў сабе пад нос, што вось гэтак хлопцаў са свету і зводзяць дзяўчаты, і, дастаючы з-пад ложка гантэлі, дадаў:

— Лажыся, чаго марнееш!

Борзда раздзеўшыся, Косця бухнуўся, як нежывы, у пасцель, але заснуць не мог. Прыгадалася гутарка з дырэктарам, прыйшоў на ўспамін учарашні вечар. Яны прынеслі неспакой, раздражнёнасць, злосць і крыўду. Косця яшчэ доўга варочаўся з боку на бок, пакуль заснуў. І бадай што не прачнуўся б да самага вечара, каб не растармашыў Юзік. Юзік доўга, відаць, цягаў яго за нос, бо Косця, пакуль раскатурхаўся, паспеў прысніць вялікі і дзіўны сон.

Ён расплюшчыў вочы і ўбачыў, што на бліжэйшым ложку ляжыць Юзік і заходзіцца ад смеху.

— Ну, дружа, ты і спіш!

Косця схапіўся з ложка і пабег мыцца.

«Цікава, што скажа намеснік дырэктара?» — задумаўся ён, падстаўляючы прыгаршчы пад тугі і халаднаваты струмень вады. — Трэба папрасіцца, раскаяцца, можа, гэта паможа».

Намеснік дырэктара, малады, далікатна апрануты чалавек, доўга расхаджваў па кабінеце, доўга гаварыў нейкім густым, грудным голасам, што сігналы аб паводзінах і вучобе Манцэвіча паступалі да яго даўно, што такіх студэнтаў ён караў і будзе сурова караць далей. А потым спыніўся, прыгладзіў на бок пяцярнёй сухія, коратка падстрыжаныя валасы і спытаў:

— Няўжо вы думаеце, што мы выключылі вас з інстытута, каб прыняць зноў?

— За гэтыя дні я зведаў усё, я зразумеў, якія дарагія для мяне інстытут, сябры... — і Косця раптам успомніў Валю. — Я не хачу маніць, шчыра вам гавару, што пераздам экзамены толькі на выдатна...

Намеснік дырэктара, здаецца, памякчэў:

— Тут да мяне прыходзілі вашы студэнты, і я ўлічыў іх просьбу. Я прыму вас, але праз два гады, калі вы будзеце мець на руках даведку з месца работы і станоўчую характарыстыку. — Намеснік дырэктара дастаў з кішэні партсігар, выцягнуў з-пад гумкі апошнюю папяросу і, ужо сеўшы за стол, закурыў. — Вось так... Вы вось адразу са школы прыйшлі ў інстытуцкую аўдыторыю і не цэніце яе. А для рабочага чалавека інстытут дарагі...

«Усё, рухнула апошняя надзея»... — Манцэвіч зрабіў колькі крокаў да стала і адчуў, што пад нагамі гойдаецца падлога.

— А на завочнае аддзяленне? — спытаў перапалохана і жаласна.

— Я абсалютна не бачу ў гэтым розніцы, — намеснік дырэктара прыжмурыўся: едкі тытунёвы дым зайшоў яму ў вочы. — Паўтараю, мы адновім вас у правах студэнта толькі тады, калі вы будзеце мець станоўчую характарыстыку з месца работы.

Косця, хістаючыся, выйшаў з інстытута, пастаяў на ганку, доўга прыгадваючы, куды ён меўся ісці. Потым успомніў, што збіраўся схадзіць у рэдакцыю, узяць камандзіроўку, і пабег на прывакзальную плошчу. Трамвай дамчаў яго аж да Дома друку. Не даходзячы да ганка, Косця заўважыў Жвіра. Той сядзеў у цяньку на лавачцы і пісаў на пяску нешта наском туфля. Манцэвіч думаў неўпрыцям прашмыгнуць у будынак, але Жвір падняў галаву:

— Здароў! Куды бяжыш? — і паляпаў рукой па лавачцы, запрашаючы сесці.

«Ну, зараз пачне выпытваць, што ў мяне з інстытутам», — нехаця спыніўся Косця. Але Жвір, усміхаючыся аднымі вачыма, спытаў пра другое:

— Можа за ганарарам, часам?



Косця паціснуў плячыма:

— Ніколі не пісаў.

Жвір, крывячы рот, засунуў руку за пазуху, дастаў газеты, раскруціў:

— Не чытаў? — яго палец тыцнуў у вялікі тлусты загаловак, пад якім значылася: «Нарыс». — Меней не будзе, як семсот рублёў. Трэба ўмець. Бяру, браце, у газеце камандзіровачку ў свой калгас і еду... у інтэрнат. — Жвір выстукаў пальцамі па лаўцы нейкі спорны і дробны марш. — Саджуся за стол і пішу. Хіба я не ведаю сваёй вёскі? А камандзіровачка поштай... Сакратар сельсавета — хлопец свой, — дзела знае...

— А білеты?

— Святая наіўнасць. Білеты? Схадзіў да аўтобуса і папрасіў, а на дарогу туды — раскашэліўся. Трэба ўмець. — Жвір прыжмурыў вока і, заўважыўшы, што Манцэвіч збіраецца ісці, памахаў круглаю, як у жанчыны, загарэлай рукою. — Ну, бывай! Свету — мір, студэнтам — грошы.

«Ну і прайдзісвет», — не мог доўга супакоіцца Косця.

... Прабыўшы цэлых пяць дзён у камандзіроўцы, Манцэвіч вярнуўся ў Мінск абветраны і загарэлы і ў той жа дзень пайшоў у чытальную залу пісаць матэрыял. Знайшоў свабодны столік ля адчыненага акна і сеў.

Пад акном, песцячыся на цёплым сонцы, зелянела таполя, і яе настоены на паветры гаркаваты пах разам з вільгаццю зямлі і каміняцы панаваў тут у зацішным кутку чытальнай залы. На дварэ была чыстая, аж калола ў вочы, яснасць. З блакітнага неба ў адчыненае акно глядзела высокае, белае, як снег, воблачка. Крычалі вёрткія стрыжы. Вяла махала крыллямі разамлелая галка.

Косця разгладзіў чысты ліст паперы і задумаўся, кусаючы руку. І на яго раптам найшла нейкая зацятасць, ахапіла раздражнёнасць, злосць. «А што будзе, калі не напішу?» Яго непакой павялічыўся, ён паглядзеў, што не можа ўседзець, і ўстаў. Аглянуўшыся на залу, убачыў Валю. Яна зачыніла шафу і, гартаючы кнігу, пайшла да самага крайняга століка. Косця прыгнуўся, потым сеў і нахіліўся над столікам. «А можа падысці?» — вілося ў галаве. — «Трэба выцерпець гэты міг, тады пройдзе, — суцяшала другое. — А найлепш уцячы», — Косця падумаў, што знайшоў ратунак, скамячыў паперы, запхнуў іх у кішэню, на пальчыках падышоў да дзвярэй, але не вытрываў, аглянуўся. Валя, заліўшыся чырванню, вінавата і сумна глядзела на яго.

Гэты палахлівы, вінаваты Валін позірк, гэтая яе разгубленая трывога дадалі Косцю смутку, журбы, і ён ужо наракаў, вінаваціў сябе, што абышоў яе ўвагай, не загаварыў, не ўсміхнуўся, нават у знак прывітання не кіўнуў галавой — ён толькі са злосцю паглядзеў на яе і моцна грукнуў дзвярыма.

Харошая, ласкавая, любая Валя! Але Косця ведаў, што ўжо вернецца да яе з нейкім прыглушаным, растаптаным болем, прынясе ў сваім сэрцы толькі дакор. Ён прыйдзе да Валі толькі дзеля спагады і жаласці.

Гэта быў халодны розум, над якім яшчэ брала верх, мела ўладу гарачае сэрца, і яно гаварыла многа іначай...

У райкоме камсамола Косцю Манцэвічу дакляравалі месца педагога ў піянерскім лагеры. Да ад'езду на працу заставалася тры дні. Нахадзіўшыся па душным і пыльным горадзе, ён вярнуўся дадому і, не маючы чаго рабіць і дзе падзець час, пачаў збіраць свой пажытак. Пака-

ваў чамадан і меркаваў, але так і не рашыў, куды падасца пасля лета: ці паедзе дадому ці дзе-небудзь у Мінску будзе шукаць сталую работу.

Але прыйшоў Юзік Сапега, прынёс дзве навіны, і яны перайначылі Косцевы думкі.

Юзік быў у той раз па-нязвыкламу гаваркі, вясёлы. Выглядаў ён зухавата. На ім была белая вышываная кашуля, гладка адпрасаваныя штаны — ён заўсёды гэтак апранаўся, калі ішоў на экзамены. І гэтая вясёласць надта маладзіла яго, нават дадавала яму крыху нечага дзіцячага. Яшчэ з парога Юзік моцна гукнуў, і голас яго змяніўся:

— Косцік, едзем на цаліну, га! — і смешна, па-дзіцячаму запляскаў у далоні.

— Мне то яно можна, а табе?.. — Косця ляпнуў векам чамадана і разагнуў спіну.

— А мне што? Цэлы інстытут едзе. — Сеў на крэсла, упёршыся рукамі ў калені. — На жніво на тры месяцы. — І ласкава папракнуў: — Дзівак чалавек! Не даходзіць да яго.

— Ну, даходзіць, даходзіць... — вінавата ўсміхнуўся Косця.

— І яшчэ адно, — Юзік кіўнуў галавою. — Валя згодна ехаць з намі. Ты чуў такое?

Косця закруціўся на месцы, шукаючы свае чаравікі, але ўспомніў, што яны недзе пад ложкам, і пашыўся пад яго.

— Прачытала яна твой артыкул. Ну, не нахваліць...

Але Косця быццам не пачуў.

Чалавек, калі ён адзеты ў што-небудзь брыдчэйшае, заўсёды здаецца нязвыклы і нават брыдчэйшы, да яго трэба прывыкнуць. Косця перш не мог прывыкнуць да Юзіка Сапегі. У стракатай з кароткім паламаным казырком кепцы, з-пад якой недзе на патыліцы выбівалася зашмуляная падкладка, у палінялай асмаленай на локці фуфайцы, у шырокіх шараварах, у якіх ён, здавалася, блытаўся і не мог хадзіць, — Юзік выглядаў неяк надта смешна і дзіўна. Потым Косцю здаліся дзіўныя ўсе дзяўчаты: у мужчынскім убранні яны былі ніжэйшыя, надта поўныя і нават непаваротныя.

І толькі адзін Пеця Жвір у белым шарсцяным світары, што гэтак хораша і гладка аблягаў яго шырокія плечы і тонкі, як у дзяўчыны, стан, вылучаўся сярод усіх сваім ростам, здаровасцю. І Косця глядзеў, дзе паварочваўся Жвір і, кусаючы губы, зайздросціў яго дужасці і прыгажосці. Жвір нешта тромкаў на гітары, каля яго роем віліся дзяўчаты.

Юзік абышоў купку, што сабралася каля Жвіра, і падбег да клункаў на тое месца, дзе павінен быў сядзець Косця, але ўбачыў, што яго няма, і закруціўся на месцы, шукаючы вачыма ў гаманлівым натоўпе.

Косця паглядзеў, што не знойдзе ўсё роўна, і падаў голас:

— Дзе Валя, га? — яшчэ зводдаль спытаў Юзік, спяшаючы да яго. — Дзе ж яна можа быць?

У Косцевых грудзях заварушылася нешта вялікае і халоднае і моцна сціснула сэрца. «Пашукай чацвёрты хімфак», — хацеў параіць Юзіку, але на яго напала нейкая бязвольнасць і цяжка было вымавіць слова.

— Зараз пойдзем на вакзал. Спытаю ў аднакурснікаў, — нарэшце Юзік здагадаўся сам. Паправіў шапку і пабег, шастаючы шараварамі.

Юзік вярнуўся неўзабаве і, перакідаючы клункі, панура сказаў, што Валя захварэла і што пара ўжо збірацца і ісці на вакзал. Косця пачуў у Юзікавым голасе нейкую затоенасць і няшчырасць, але не ведаў, што думаць.



З дарогі напісаў Валі кароценькае пісьмо: пра ціхі і велічны Урал, пра тое, што Юзік ледзь не застаўся ў Чалябінску, і пра свой сум і невясёласць. Аддаў яго на пошту ў невялікім запыленым гарадку, адкуль студэнты раз'язджаліся ў саўгасы, і, седзячы ў трускім кузаве паўтаратонкі, што бегла ўжо каторую гадзіну, узнімаючы густое і цяжкае воблака шэрага пылу, па гарачай пустэльнай стэпавай дарозе, наракаў на сябе, што зрабіў кепска. «Нашто пісаць, нашто марнаваць час і дарэмна вярэдзіць сэрца. Хіба ж не сказала яна мне, што збіраецца замуж... Як я не ведаю сораму, як няма ў мяне ні гонару, ні сумлення...» — І ён расціраў спацелай рукою запылены твар.

— Дзяўчаткі, дзяўчаткі, чэснае слова, Косця з вамі хоча пацалавацца!.. — паказваў на замурзанага Косцю і крычаў, заходзячыся ад рогату, Жвір.

— Няхай спачатку памыецца — весела адказаў дзявочы голас.

Гэты жарт і смех перабілі Косцевы думкі, ён павесялеў, ажыў, нават паспрабаваў усміхацца.

Думкі пра Валю прыходзілі штодзень, штохвіліны. Ад іх не было дзе падзецца, іх не адганяла знямога, яны не знікалі і тады, калі да непрытомнасці хацелася спаць. Косця думаў, што іх прыглушыць цяжкая праца: ён папрасіўся на цэнтральны ток разгружаць пшаніцу. Тут было цяжэй як дзе. З брыгады сюды ішлі машыны за машынай, — пшаніцу, здаецца, чэрпалі з мора. Да полудня залацістыя бурты, што пахлі свежымі булкамі, вунь як хутка раслі. Але пасля полудня пачыналі балець рукі, ад болю ныла спіна.

Тады Жвір звычайна прасіўся:

— Перадыхнем, хлопцы. Так доўга не пацягнеш. — Ён вытрасаў з-пад майкі зерне і садзіўся.

Юзік моўчкі выпускаў з рук шуфлік, але слушна падказваў:

— Выгрузім гэтую машыну і пойдзем піць ваду.

На чацвёрты дзень Жвір застаўся ў брыгадзе пералапачваць пшаніцу. А вечарам Юзік, паліваючы Косцю на рукі, смяяўся дробненькім смехам і расказваў:

— Чуў, як Пецька пералапачваў пшаніцу? Схаваўся за бурты і праляжаў, кажуць, цэлы дзень, пішучы там нейкі нарыс. Можа, нас пахваліць, га?

Косця думаў схадзіць да брыгадзіра, сказаць, што дваім зацяжка — столькі машын. Але Юзік адгаварыў:

— Хлопцаў у нас болей няма. Пашлюць зноў Жвіра. І нам бадай што ўсё роўна — з ім ці без яго. А дзяўчыну браць...

Дваім і на самай справе было цяжка. Вечарам яны прыязджалі на стан, як пабітыя.

Іншы раз, калі нанач у неба выходзіў белы месяц, — памочнік брыгадзіра, каржакаваты чарнявы малдаванін выносіў з вагончыка баян. Тады дзяўчаты, падбухтораныя Пецькам, беглі ў палатку цэлым гуртам і, не даўшы нават Юзіку павячэраць, выводзілі яго пад пахі на валейбольную пляцоўку. Юзік упіраўся, наравіўся, але праходзіў некалькі кругоў рухавай полькі, знарок узнімаючы цэлую хмару пылу, і ішоў спаць.

Пазней з'язджаліся шафёры, і каторы з іх, не баючыся, што пасадзіць акумулятары, уключаў фары, — лепшых танцаў не трэба.

Косця глядзеў на гэтую вясёласць другіх, успамінаў Валю, адчуваў, што ўвесь вечар не знойдзе сабе месца, і, не разбіраючы дарогі, падаваўся адзінотаю ў стэп.



Высока ў небе свяціўся Млечны Шлях. Кругом на небасхіле міргалі агнямі камбайны. Скрозь пахла сухім пяском і свежым іржышчам. Шэрая, без канца і краю, роўнядзь абуджала ў душы хараство і лёгкасць. І Косцю думалася, як было б добра, каб сюды прыехала яна, Валя, была разам з ім у гэтую дзіўную ноч, што так мякка ляжала над стэпам без малюсенькага павеву ветру.

У такія хвіліны яго запаланяла нейкая пяшчота да Валі, і ён адчуваў, што любіць Валю, любіць моцна, аж да болю ў сэрцы.

Аднойчы Косця вярнуўся ў палатку, пабольшыў у лямпе кнот і сеў за стол, напісаў Валі доўгае, аж на чатыры старонкі, пісьмо.

Прайшоў месяц, другі, але адказу не было. Косця знайшоў вольны час, сабраў у брыгадзе ўсю пошту і паехаў на цэнтральную сядзібу, спадзеючыся, што ў гэты дзень абавязкова ад Валі атрымае пісьмо.

Пісьмы былі амаль усім. Юзіку нават два. А Косцю... Ён папрасіў бялявую дзяўчыну паглядзець яшчэ раз. Янаператасавала тоўстую калоду пісем, падняла на яго вочы і развяла рукамі:

— Няма.

Косця выйшаў з пошты, як што згубіўшы, і накіраваўся на цэнтральны ток, адкуль павінна была ехаць машына ў першую брыгаду, і напаткаў Пецьку Жвіра.

— Прабач, не маю часу... — задыхаўся ад беганіны Жвір. — Спяшу на пошту. Званіць у абком камсамола. Мяне заўтра за граматамі пасылаюць. Хочаш, і табе дам. Нябось, заслужыў.

— Заслужыў не толькі грамату, а нават — значок! — Косця адчуў, як да яго падступае злосць. — А вось табе, браце, на камсамольскім сходзе вырашылі даць вымову, за гультайства. Дарэчы, я забыўся, што гэтыя два тыдні ты дзяліў узнагароды і не з'яўляўся на працу.

Жвір скрывіўся:

— А з цябе, як бачу, не здзьмулі яшчэ ў інстытуце гэты самы, ну... — ён пстрыкнуў пальцамі, — патрыятычны пушок...

— Добра, калі пушок расце на крыльцах, а ў цябе ён прыліп да рыльца, га? — ужо здалёк адказаў Косця.

Жвір стаяў, як мыла з'еўшы, ужо не ведаючы: ці ісці на пошту ці вяртацца назад.

І тым жа днём, пэўна, так і не з'ездзіўшы ў Кустанай, прывалокся ў брыгаду.

Вечарам, б'ючы на нагах ап'янелых ад крыві камароў, Юзік каторы ўжо раз перачытваў уголас пісьмо, а Косця, каб не чуць чужой радасці, бухнуў на ложак, накрыўся з галавою коўдрай і задыхаўся ад злосці. Потым суцешыў сябе, што пісьмо ад Валі можа змарнавалася ў дарозе, і папрасіў у Юзіка чысты ліст паперы.



— Што, на пісьмо? — спытаў Юзік, вырываючы з сярэдзіны сшытка двайны чысты ліст.

— Напішу ёй.... — зморшчыўся Косця.

— Каму? — падскочыў Юзік. — Валі? Выкінь з галавы. Яна выйшла замуж. — І яму, здаецца, самому зрабілася сорамна. — Выбачай, я ведаў пра гэта перад ад'ездам на цаліну, але не рашыўся ўсё сказаць... Думаў, пройдзе ў цябе ўсё гэта — скажу.

Косця, хапаючыся за білы ложкаў, выйшаў з палаткі, убачыў брыгадзіра і папрасіўся нанач на трактар.

З ворыва Косця вярнуўся на другі дзень у поўдзень. Выверну ў гусеніцай дошку з рукамыйнікам і заглушыў трактар, чакаючы чыйгонебудзь крыку. Але з палаткі выйшаў босы ў адных трусах, загарэлы, як смугаль, Юзік. Усміхнуўся, паказаўшы белыя зубы, і шпурнуў у кабіну, наровячы пацэліць у Косцю, запылены валейбольны мяч:

— Ломіш, дружа! Мусіць, ведаеш, што праз тыдзень едзем дадому?

— Нікуды я не еду... — панура адказаў Косця і выкінуў з кабіны мяч.

Сапега ці прыняў гэта за жарт ці не разабраўся, што кажа Манцэвіч, і выклаў сваё:

— Па дарозе заедзем у Маскву, га?

Косця саскочыў на зямлю, падняў дошку з рукамыйнікам, прыставіў яе да вагончыка.

— Я ж табе сказаў, што застаюся на цаліне.

— Як?.. — Юзікавы вочы зрабіліся вялікія і круглыя, як яблыкі. Ён падаўся назад, зачапіўся за нешта і мякка сеў у пухкі пясок. — Здурнеў!.. А інстытут? — Юзік, абапёршыся на рукі, устаў, шмаргануў далоняй аб далонь, выціраючы пясок. — Не таварыскі ты хлопец. Не слухаеш, што табе кажуць. Ды наогул... — ён махнуў рукою, — што з табою гаварыць.

Юзік узяў пад паху мяч і пасунуўся, ледзь перастаўляючы ногі, у палатку.

А ў дзень ад'езду выкленчыў недзе ў магазіне бутэльку — як яна сюды трапіла — «Белавежскай горкай» і недзе на пошце купіў «Як гартавалася сталь». Наслініўшы хімічны аловак, напісаў на адвароце вокладкі дробненькім нязграбным почыркам «Вечнаму цаліннiку» ад яго, Юзіка, а ўжо падвыпіўшы, без перастанку гаварыў, пацiскаючы худымі плячыма:

— Не разумею, ну, не разумею... — і разводзіў рукамі. — Трэба было спачатку ўладкавацца ў інстытут. Любымі сродкамі.

Правёў пасля Косцю аж да павароту, адкуль ужо быў відзён палявы стан першай брыгады — чарнеў вагончык і зводдаль яго бялела яшчэ нераскіданая палатка.

— Ну, бывай, помні, што жылі разам. І абавязкова вяртайся ў інстытут. Можа яшчэ і мяне застанеш там.

Не аглядваючыся, пайшоў пад доўгую і нізкую, як барак, сталоўку, дзе ўжо стаялі машыны, поўныя людзей і гатовыя ў дарогу, дзе ўжо весела спявалі, перабіваючы адзін аднаго:

Вьется дорога длинная,
Здравствуй, земля целинная,
Здравствуй, простор широкий,—
Весну и молодость встречай свою.

Ці ад гэтай песні ці ад лёгкага хмелю ў галаве Косцю зрабілася лёгка і вольна на душы. Ён доўга стаяў, гледзячы Юзіку ўслед, і думаў, што Юзік казаў праўду: яны ўбачацца, няхай сабе не так скора, праз колькі год, і, калі Юзік згубіўся за машынамі, рушыў наўпрасткі полем туды, дзе яшчэ ля вагончыка бялела палатка. Поле ляжала роўнае, як кінуць вокам, шэрае і радаснае ў сваім бязмежным размаху. Блізкасць зімы не кранала яго красы. І толькі вецер разносіў скрозь у сваёй цеплыні дамешаны холад. Высока сінела чыстае неба. У ім, распластаўшы дужыя крылы, плаваў арол. Зрабіўшы круг, ён раптам упаў на шэрае ржышча. Косця паскорыў крок. Але арол, ужо лопаючы крыллямі, узнімаўся ўгору. Яго магутныя кіпцюры сціскалі нешта яшчэ жывое.

— Што ж ты ўпусціў... — пачуў Косця і спыніўся, а калі агледзеўся — убачыў, што да яго бяжыць, махаючы шапкай, Юзік.

— Наша ўзяло! — Юзік сцішыў хаду і яшчэ раз гукнуў: — Ты чуеш? Наша ўзяло!

«Ці не надумаў ён застацца на цаліне...» — адчуваючы на сэрцы нешта радаснае і трывожнае, Косця падаўся насустрач.

Падбег Юзік.

— Вярніся... Газеты прынеслі... Вунь у камсорга...

— Ды ты карацей...

— Зарэку з інстытута прагналі. Нават дырэктару з намеснікам папала. Наш жа артыкул змясцілі... Пра ўсё... і пра цябе лішуць, — Юзік схапіў Косцю за руку. — Ідзём, ідзём... Дарогаю раскажу... Каб там машыны не пайшлі. Я ж выбраў табе зручнае месца ля самай кабіны.

— Чакай, — Косця выкруціўся з Юзікавых рук. — Праўда ўсё гэта?

— Няўжо ж не...

— Добра... Дзякую за навіну.

— Ты што?..

— От бяжы, а то спознішся...

Юзік скамячыў шапку, шпурнуў вобземлю і пайшоў. Праз колькі крокаў агледзеўся, убачыў, што Косця стаіць, узяўшы рукі ў кішэні, расхрыстаны, і вецер перабірае яго валасы, — і рушыў подбегам да машыны.

Косця прачнуўся зацемна: у акне толькі пачынаў сінець блізкі дзень. На вуліцы суха шоргаў венік. Косця схапіўся з ложка, зачапіўшыся за крэсла і нарабіўшы груку, падышоў да акна, адшмаргнуў занавескі — у пакоі скупа павіднела. На скрыпучым ложку, абудзіўшыся праз Косцеву неасцярожнасць, маладзюсенькі першакурснік адкрыў чорныя вочы і перавярнуўся на другі бок, нацягваючы аж на самую галаву прасціралда.

Паставіўшы на падаконнік локці, Косця доўга глядзеў на вуліцу. Яна падсохла за ноч, толькі дзе-нідзе нямоцны ветрык злёгку рабаціў плыткія лужыны. Пакінуўшы на шэрым асфальце дзве мокрыя шырокія стужкі, прашмыгнула «Волга».

Вуліца была чыстая, пустая і па-ранішняму вясёлая.

Косця ўзяў з падаконніка расколатае напалам невядома чыё люстэрка, паўзіраўся на сябе — у свае бліскучыя падпухлыя ад сну вочы, на тонкі завостраны нос, на выпуклы з трыма прыкметнымі маршчынамі лоб, — спадабаўся сам сабе і, сеўшы за стол, пачаў галіцца.

Вярнуўся з умывальніка свежы, чысты, з адчуваннем ва ўсім целе



сілы, дужасці. Прыслухаўся, як шчыміць ад моцнага, пякучага адэкалону паголены твар, і стаў апранацца.

Ужо збягаючы па лесвіцы, пачуў, як скрыпнулі дзверы нейчага пакоя і з уключанага на ўсю моц рэпрадуктара на сцішны калідор разлёгся звычны голас: «Говорит Москва! Сегодня вторник, тридцать первое августа. Начинаем наши передачи».

«Заўтра цэлы дзень заняткаў...» — з радасцю падумаў Манцэвіч, хапаючы на поўныя грудзі паветра.

Раніца была здаровая, — гэта што пасля ўчарашняга дажджу. Сонца стаяла над горадам нізка, халоднае і ружовае. Маладзюсенькая ліпа на другі бок вуліцы, падпаленая за лета сонцам, трапятала на ветрыку сваім рэдкім пажоўклым лісцем.

На прывакзальнай плошчы было людна: нядаўна, відаць, прыйшоў прыгарадны цягнік, і ад вакзала да трамвайнага прыпынку валам валілі людзі.

— Косцік? — нехта з грамады гукнуў яго знаёмым голасам, і ён сцішыўся, з нецярплівасцю чакаючы, што яго паклічуць яшчэ раз. Намагаўся распазнаць, хто гэта яго кліча.

— Косцік! — здаецца, крыкнулі з другога боку, і Манцэвіч агледзеўся. Да яго ішла, гулка тупаючы абцасікамі лакіраваных басаножак, паўнаватая ў плашчы пясочнага колеру жанчына.

«Валя...» — яшчэ не пазнаўшы, падумаў ён. І адчуў, што ў яго дрыжаць ногі.

— Валя, ты? — Косця, саромеючыся, падаўся ёй насустрач, угадваючы ў белым твары жанчыны нешта колішняе, знаёмае, блізкае і мілае.

— Дзень добры, Косцік! — Валя падала яму руку.

Зблізку Валін твар здаўся нейкі больш чужы. Косця заўважыў на ім сталасць, абыякавасць. У карых яе вачах, здаецца, ужо зусім датлела ўсё тое ранейшае, вясёлае, маладое, і яны глядзелі на Косцю неяк развважліва і бяскрыўдна.

«Як сышла з яе ўся тая прыгажосць і дзявочасць», — з нейкай жаласцю падумаў Косця.

— А вось мой муж, — Валя паказала вачыма на мужчыну, што паволі, неяк баючыся, падыходзіў да іх і якога Косця пазнаў адразу. Ён не змяніўся, ён, здаецца, нават пазграбнеў — быў не такі мажны, як у той вечар на танцах у дзявочым інтэрнаце. Цяпер Косця ўбачыў, што яго твар дзе-нідзе пабіты воспай.

— Грыша! — пачуўся прыглушаны голас, нібы гаварыў хто з пустое бочкі.

«Наш Грыша даўно з ёю ходзіць», — успомніў Косця тое даўно пачутае ў інстытуцкім клубе і пачырванеў, засаромеўся.

— Дзе ты і што з табою, Косцік? — спытала Валя і апусціла вочы.

«Напэўна, ёй брыдка, што не адпісала мне на цаліну», — рашыў Косця, а ўслых сказаў другое:

— На цаліне быў роўна два гады. Учора вярнуўся ў Мінск.

— Узмужнеў, загарэў. Які ты!.. А як з інстытутам?

Васпаваты не вытрымаў гэтай размовы, моўчкі ўзяў у жонкі сумку і адышоўся ўбок.

— Вось іду да дырэктара.

— Да дырэктара? А-а...

Памаўчалі.

— Мне Юзік Сапега пісаў, што ты ў аспірантуры? — загаварыў зноў Манцэвіч. — Ды наогул раскажы пра ўсё. Я ж нічагусенькі не ведаю. Дарэчы, Пецька Жвір таксама ў аспірантуру трапіў.

— Як трапіў, так, мусіць, і вылеціць, — яе мяккія поўненькія вусны скрывіліся, і пад вачыма збегліся дробныя густыя маршчынкі. — Не здаў экзамен па дыямату. Выхаванец Зарэкі.

З Косцевых грудзей нешта спала цяжкае-цяжкае...

— Ну, пойдзем, Валюся, — недзе збоку пачуўся той жа прыглушаны, як з бочкі, голас. — Цягнік адыходзіць...

Валя страпянулася, упілася ў Косцю шэрымі вачыма, і яны, здаецца, гаварылі «Хіба вінавата я, што мяне клічуць?», і сказала:

— Заўтра ж заняткі. Яму на працу. Хочам сёння прывезці дадому сынка, — і пайшла, зашуршэўшы лёгкім плашчом, гулка цокаючы абцасікамі, і, ужо беручы Грышку пад руку, папрасіла заходзіць да іх у госці. Але Косцю здалося, што яна запрашае не шчыра, дзеля прыліку. І ён адказаў чужым голасам:

— Прыйду, як буду мець час.

І Косцю пачало здавацца, што ён напаткаў чужую жанчыну, усяго толькі падобную на тую, колішнюю Валю, якую любіў і любіць яшчэ моцна і, пэўна, будзе любіць усё жыццё. Яна навечна ўвайшла ў яго мары. Ён сустрэне яе, абавязкова сустрэне мілую, добрую, прыгожую Валю! Яна ходзіць недзе тут.

У вестыбюлі інстытута Косця падышоў да паштовай скрынкі, перакінуў учора перагледжаныя пісьмы і, здаецца, пачуў на лесвіцы лёгкі тупат. «Валя»... — міжволі падумаў ён і агледзеўся. Яна, танюсенькая і стройная, у белай усыпанай буйным чорным гарошкам сукенцы, нібы ластаўка, нячутна і хутка ляцела сюды, да яго. Ён падаўся ёй насустрач. А яна, пырхнуўшы чорнымі бровамі, дзіўна паглядзела на яго і саступіла з дарогі.

«Дзівак! — усміхнуўся сам сабе Косця. — Палохаю незнаёмых дзяўчат...» — І, не спыняючыся, звярнуў у доўгі, заліты маладым сонцам калідор; яшчэ здалёк убачыў знаёмую шыльдачку «Прыёмная дырэктара»; хутка падышоў да дзвярэй і рашуча пастукаў...





Валянцін **ЛУКША**

# ЦЯГНІКІ ГРЫМЯЦЬ ДА СВІТАННЯ



Зноў па рэйках
Грымяць і грымяць цягнікі да світання
На блакітных дарогах...
Юнацтва —
З заплечнымі ранцамі...
— Дзе ж, мая ты бяссонніца?
— Дзе ты, каханне?
На якой, адкажы, заблудзілася станцыі?

Маці кажа:
— Сынок, не сумуй. Пачакаюць дарогі...
Не магу я чакаць,
Бо адкрыюць цаліны касмічныя...

Так!
Пакуль я чагосьці чакаў
За бацькоўскім парогам,
У блакітнай тайзе
Запалалі агні электрычныя.

Не!
Пра шчасце і лёс
З маці
Думкі ў нас розныя:
Ёй — пра хатняе «ціха»,
Мне —
З хлопцамі тымі,
Што з ранцамі...

— Гэй!
Таварыш касір!
— Гэй!
(Буджу я аконца марознае.)
Дай білет, калі ласка,
Да самай
Малодшай станцыі.

* * *



У Зарэччы
Пышэла спякотай гарачае лета,
Лета дыхала цяжка
Саляркай і горкім пылам,

І, мігаючы хваль непадробнымі
самацветамі,
Пераправа вурчэла
Ў шасціцыліндровую сілу.
Вечар вогнішчам пыхаў,
І песня не засынала,
У прарабскай палатцы
Грыміць нараджэнне загадаў,
А ля вогнішча
Бульбай ушацкай і слуцкім салам
Частавалася
Сёння залічаная брыгада.
Дні міналі,
Дэкаднікі лічбамі шчоўкалі,
Жаўрукі шнуравалі блакіт,
Адлятаючы ў вырай...
За вуглом пазнаю
Па ўсмешцы ялейнай, нялоўкай
Ў гарнітуры зялёным
Залётнага дээерціра.
...Не па ватных плячах
Будаўніцтва іспыты прымала —
Па гарачаму сэрцу,
Што ў светлае заўтра — мандат,
Таму сэрцу,
Што дзот замаўчаць прымушала,
Адхінуўшы бяссільны,
Халодны, як лёд, аўтамат.

...Займаліся зоры,
Асыпаліся сінія зоры
І ляцелі ў Наддзвінне
Маўклівым нябесным госцем...

У блакіце ільноў
Мужнеў камсамольскі горад —
Аднагодак вясны,
Аднагодак
маёй
маладосці.



Валянцін Чымірка нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Навасёлкі Петрыкаўскага раёна ў сям'і рабочага. У 1952 годзе скончыў сярэднюю школу і паступіў на аддзяленне журналістыкі Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна. Скончыўшы яго, пачаў працаваць у газеце «Калгасная праўда».

З апавяданнямі Валянцін Чымірка выступае ўпершыню.

Валянцін **ЧЫМІРКА**

# ДВА АПАВЯДАННІ

## На свае вочы

Мал. П. Лысенкі.

I

Занядужаў стары Белцік. Яшчэ год назад ён прама сказаў сваёй Алене:

— Вось і ўсё... Адрабіў свае...

Алена Іванаўна ведала хваробу мужа. Амаль з тае пары, як пайшла за яго замуж, Франц заўсёды скардзіўся на ногі. Прыйдзе з работы — з сенажаці ці ад малатарні — сядзе на ўслончык, выцягне іх, як струны, і маўчыць. Сядзіць дзесяць хвілін, дваццаць... Толькі боль на твары. А то, бывае, цёр ногі і цадзіў праз зубы: «Зваліць мяне раматус. Ох, зваліць...» Ці хадзіў па хаце і мармытаў:

— Каб ты, гад, пазнаў такое! Каб табе паскручвала так ногі...

Гэта праклёны асадніку. Некалі ў юнацкія гады Франц хадзіў на заработкі да мясцовага асадніка. Зімой вазіў з-за ракі сена і трапіў у палонку. Ускочыў па самы пояс. Хацеў бегчы дамоў, але асаднік не пусціў. Загадаў быць пры конях, пакуль не прыйдзе з вёскі падмога. Да касцей прамёрз тады Франц, застудзіў ногі.

І вось выйшаў са строю. Не хацелася пакідаць калгасную грамаду, але што зробіш...

А потым звык ляжаць на печы. З ранку да вечара грэў свае бакі ды



размаўляў сам з сабою. То адно прыгадае, то другое, і праходзіць час. Праўда, сумна бывала. Хацеў бы пагутарыць з жонкай сваёй, Аленай Іванаўнай, а яе заўсёды няма. На ферму бегала, калгасных кароў даглядала. Ну, летам яшчэ паўбяды. Па святле дамоў прыходзіла. А цяпер, зімою, дык да цямна там прападае. Белцік кожны раз пытаўся, дзе яна бадзяецца. Пытаўся наўмысна, бо ведаў сам, што на гулі жонка не ходзіць. А тая жартавала:

— Ой, Франц, танцы якія сёння былі!.. Аж я не ўтрымалася.

Чаго яна так, Белцік не разумеў. Спачатку крыўдзіўся, потым пачаў злавацца.

— Ты мне жонка? — пытаўся ён. — Так. Дык чаму дома не бываеш? Кінь кароў, хопіць табе. Няхай маладзейшыя бяруцца, а нам адпачыць час.

Алена Іванаўна адмахвалася, казала, што цяпер нельга сядзець склаўшы рукі. Гэта ж які час! Людзі сямігодку робяць... Не, пакуль ёсць сілы, яна будзе працаваць! А Франц? Франц ляжыць на печы і не бачыць жыццёвага кіпення...

Але ж з кожным днём Франц усё мацней настойваў. А ўчора заявіў катэгарычны пратэст.

...Алена Іванаўна прыйшла дамоў, калі Франц ужо хроп на печы. Яна неасцярожна забразгала пасудай, і ён прачнуўся:

— Гэта ты?

— Я.

Франц моўчкі варочаўся на чаране, вохкаў.

— Колькі ўжо?

— Не ведаю. Мо' дванаццатая гадзіна.

— Ну вось... Толькі і ведаеш сваіх кароў. — Ён уздыхнуў. — А ты хоць прападзі тут...

— Ты ж не маленькі, сам усё можаш зрабіць, — спакойна адказала Алена Іванаўна.

— «Не маленькі...», «Сам усё можаш...» — перадражніў Франц жонку. — Хопіць! Абрыдла аднаму. Дома будзеш.

— Чаго ўсхадзіўся? — супакойвала яна. — Хлеб жа трэба зарабляць? А ці даяркай ці яшчэ дзе працаваць — усё роўна.

— Другія вунь на пенсію пайшлі. А табе больш за ўсіх трэба.

— Кінь ты гэта. Другія... Пенсія... І наогул, чаго ты да мяне прычапіўся? Са старшынёй ідзі гавары.

— І пайду. Заўтра ж...

## 2

Цэлую гадзіну сядзеў Франц у канторы. Яму далі крэсла і сказалі:

— Пачакайце крыху. Уладзімір Уласавіч павінен хутка быць.

Белцік сядзеў ля грубкі, якая патыхала цяплом, і прыглядаўся да людзей. Заходзілі мужчыны і жанчыны. У кожнага была свая справа. Яны нахіляліся да бухгалтара, нешта шапталі яму на вуха ці проста гаварылі, і той пачынаў корпацца ў кнігах. Калі хто заўважаў Белціка, то падыходзіў і вітаўся. Вядома, знаёмыя. Забягалі і маладыя хлопцы. Толькі іх Франц не ведаў. «Вунь як узняліся, — разважаў ён. — Нікога і не ведаю».

Неўзабаве прыйшоў старшыня. Атрос з кучомкі снег і адразу да яго, Белціка:

— Добры дзень, Франц Іосіфавіч. Даўно не бачыў вас. Як жывеце? Як здароўе?

— Маюся вось, — адказаў Белцік. — Ногі слабыя. Раматус пракляты...

— А да нас, пэўна, па справе?

— Пагаварыць хачу...

Зайшлі ў кабінет да старшыні.

— Ну, слухаю...

Франц камечыў у руках шапку і не адважваўся гаварыць. Нарэшце паглядзеў старшыні ў вочы і пачаў:

— З Алёнай сваёй ваюю. Ведаеце, маркотна мне аднаму. Ляжыш гэта на печы і слова няма каму сказаць. Ацуралася жонка. А ўсё з-за фермы. — Белцік суняўся, бо на твары старшыні заўважыў здзіўленне. — От я і кажу ёй, каб на іншую работу пайшла. Старая ўжо, палёгка трэба.

— Так-так, разумею, — задумаўся Сідарэнка. — На адпачынак, гаворыце, час Алене Іванаўне? Што ж, магчыма і так...

Тут расчыніліся дзверы, і ў кабінет убег белабрысы хлопец. Расчырванелы, усхваляваны нечым.

— Што ў цябе, Лёня? — спытаў яго старшыня.

— Уладзімір Уласавіч, як жа гэта?.. — блытана пачаў хлопец. — Ну, што гэта такое? Прывёз сена ў кароўнік, а Белціха не дае скідваць.

Франц апусціў вочы, яму было няёмка чуць такое пра жонку. «Во дурная, — думаў ён пра сваю Алену. — Што ёй трэба? Прывёз чалавек і добра».

— Ты пачакай, — старшыня ўстаў, падышоў да расчырванелага хлопца. — А чаму яна не дазваляе?

— Дрэннае, кажа. Коням, кажа, вазіце.

— Ага, вось яно што.. — усміхнуўся Уладзімір Уласавіч. — Ну і як?

— А я тут пры чым? Брыгадзір загадаў, я і прывёз.

— А сена ўсё-такі кепскае? — перапытаў Сідарэнка.

— Ды такое... дрэннае.

— Тады Алена Іванаўна правільна кажа. Гэтае коням адвязі, а ў кароўнік па лепшае з'ездзіш.

Хлопец адразу павярнуўся. Старшыня адышоўся да акна:

— Бачыш ты іх!.. Малако дык хочуць мець! — І тут жа пахваліў: — Правільна Алена Іванаўна зрабіла. Вельмі правільна.

Твар Белціка павесялеў, у вачах засвяцілася радасць. «Ты глядзі, старшыня падтрымаў Алену, — разважаў ён. — Вось яно што...»

— Дык на адпачынак, хочаце, каб пайшла жонка? — звярнуўся да Франца Уладзімір Уласавіч. — Прызнацца, я казаў аб гэтым Алене Іванаўне. Але...

Белцік нахіліўся да старшыні і ўзрушана загаварыў:

— От бы добра было. Век бы вам дзякаваў.

— Дзякаваць тут няма чаго. Алена Іванаўна заслужыла гэта.

Старшыня нешта запісаў на лістку паперы. Белцік таропка ўзіраўся ў напісанае, але зразумець не мог: грамацей з яго невялікі ды і зрок не той цяпер.

— Добра, Франц Іосіфавіч, — заўважыў Сідарэнка. — Нешта прыдумаем.

Стары Белцік надзеў шапку, рукавіцы і хацеў пайсці, як старшыня затрымаў яго:

— Сёння ў нас праўленне. Можа прыйдзеце?

Франц вагаўся. Чаго, маўляў, сюды? Але раз старшыня прапануе, трэба прыйсці. І ён сказаў:

— Добра. Прыйду.

Дамоў Франц не спяшаўся: было пра што падумаць.

3

Белцік не дачакаўся жонкі. Калі пачало змяркацца, злез з печы, апрануў кажух і паклыпаў сцежкай да праўлення. Чамусьці прыгадалася, як некалі ўлетку ён спяшаўся па гэтай сцежцы. Тады ён першы абіваў расу, пасля ўжо ішла жонка. А цяпер? «Эх... — уздыхнуў Франц. — Ранавата здаў...»

У канторы было бітком народу. Франц ціхенька зачыніў дзверы і сеў на свабоднае месца. Гаварыў старшыня. «Аб чым ён?» — падумаў Белцік і пачаў прыслухоўвацца.

Уладзімір Уласавіч гаварыў аб калгаснай сямігодцы. Франц успомніў, што і Алена Іванаўна часта гаварыла яму пра гэта. Толькі ён не слухаў яе. А цяпер было цікава. Аказваецца, іх калгас бярэцца выканаць сямігодку раней: па мясу — за два, а па малаку — за чатыры гады. «Моцна, — думаў Белцік. —Пэўна, першыя ў раёне будзем».

Потым старшыня пачаў гаварыць пра жывёлаводаў. Калі ён сказаў, што зачытае паказчыкі даярак, Франц аж прыўзняўся. «Каб пачуць хаця... дзе ж мая Алена будзе... У першых ці ззаду?» Побач сядзеў нейчы хлопец. Ён штурхнуў свайго суседа і паказаў на Белціка. Абое ўсміхнуліся. Але Франц не звяртаў на іх увагі. Цяпер яго цікавіла адно: што скажа пра Алену старшыня?

Уладзімір Уласавіч узіраўся ў паперку і маўчаў. «Што ж ён не пачынае?» — непакоіўся Белцік. Вось старшыня ўзняў галаву.

Францу здалося, што... Не, усё-такі ён пачуў добра. Так, Алену Іванаўну, яго жонку, першай назваў старшыня. Ён расказаў яшчэ пра яе, як яна пасябравала з маладымі даяркамі, як вучыць іх даглядаць кароў.

Франц угледзеўся ўперад і там, у першым радзе, заўважыў Алену. «Вунь якая ты!..»

Але тут Уладзімір Уласавіч чамусьці змоўк. «Успомніў, пэўна, нашу размову, — зляknуўся Белцік. — Ат, навошта я казаў?..»

І ён нізка апусціў галаву.

## Сумленне

Мал. І. Немагая.

Дзяніс трымаўся за драбіну і клыпаў услед за валамі. На возе ляжалі пузатыя мяшкі з жытам ды невялічкая торбачка з акрайцам хлеба і ладным кавалкам сала. Хлеб, толькі што з печы, пахнуў густа, смачна. Дзяніс пераклаў торбачку на другі бок меха: схаваў ад воч.



Звычайна, калі Дзяніс заставаўся адзін, яго апаноўвалі думкі. Не адбіцца ад іх. Прыгадаліся даўнія дні, калі ён, яшчэ малы хлопчык, хадзіў з бацькам на заработкі да пана Запясоцкага. Як і цяпер, яны крэчылі тады вось гэтым жа бальшаком аж да самага Запясочча. «Даўно гэта было, — разважаў Дзяніс, — а памятаецца...» Ён паглядзеў на руку. Там і цяпер быў шрам. Гэта ад касы. Неяк яны касілі ў пана грэчку, і Дзяніс, калі мянціў касу, не ўтрымаў яе... Вось і застаўся знак на ўсё жыццё...

Дзяніс узняў галаву. Валы сышлі з дарогі, воз нахіліўся над канавай. І ўсё гэта буры нарабіў: штурхнуў рагамі падласага, а той — у бок.

— Ну, я ж табе дам!.. — раззлаваўся Дзяніс, сцебануў бурага лазінай па баку і бухнуўся на воз. — Вось вам... Не хацелі цягнуць адны мяхі...

Буры падвярнуў галаву, глянуў на гаспадара, які ўладкоўваўся сярод мяхоў.

— Не глядзі, — гаварыў Дзяніс. — Да самага Запясочча не злезу.

Ззаду ўжо засталося Крывое балота, і, як акінуць вокам, пацягнулася Лысуха — поле, звалі яго так за неўраджаі. Сеялі тут і жыта, і авёс, і грэчку, а карысці — на макавае зерне не мелі. Нават насенне не збіралі. Дзяніс, як жыве, памятае яго такім. І вось Раман Усцінавіч, новы старшыня калгаса, задумаў з ім нешта зрабіць. Вясной ён столькі ўбухаў сюды гною, што аж падумаць страшна. З усіх кароўнікаў вазілі — і машынамі, і вазамі. Засеялі Лысуху жытам.

Дзяніс паглядзеў на пасевы.

«Добра бярэцца рунь...»

На душы неяк заскрэбла. Ён, Дзяніс, зусім не верыў, што з гэтага ўсё-такі будзе толк. Ну, бульба мо' і ўрадзіла б... А жыта? Не, яму там ні за што не расці. І калі Дзянісу далі нарад вазіць да сеялак насенне, ён думаў тады, што жытцо ўсё роўна як за плот высыплюць...

...Дзяніс адарваўся ад нудных дум. Насустрач сцежкай з алешніку ішоў чалавек. Ён прыгледзеўся — здалёку не пазнаць. «Злезу ўсё ж, — рашыў Дзяніс. — Няёмка. Можа ад нас хто. Тады скажа: «Во, нагрузіў мяшкоў і сам узбіўся». Дзяніс перакінуў ногі за драбіну і саскочыў на зямлю. А чалавек пераходзіў ужо на другі бок дарогі, дзе якраз і крочыў Дзяніс. Па тым, як чалавек размахваў рукамі, як пераскокваў каляіны, Дзяніс пазнаў Матрунінага хлопца, вясковага верхавода Алёшку Грома. «Зноў, скажы, нанясло», — падумаў Дзяніс.



— Дзень добры, дзядзька, — кінуў той здалёк. — Закурыць ёсць?

— Т-ррр!.. — пацягнуў за лейцы Дзяніс і незадаволена адказаў: — А чаму ж не.

Яны прыхіліліся да воза. Дзяніс дастаў з кішэні капшук з самасадам.

— Бяры, — сказаў з нейкай непрыязню.

Алёшка ўсміхнуўся:

— Ой, дзядзька, і злуецеся ж вы нешта на мяне. А чаго. На сябе, на сябе злуйце...



— Ды што ты... — Дзяніс апусціў вочы.

Закурылі.

— Ну, я паехаў...

Алёшка зацягнуўся і, выдыхаючы дым, зноў з усмешкай спытаў:

— Куды гэта вы з мяшкамі на ноч?

— А табе што? — пачырванеў Дзяніс і моцна тарғануў лейцы. Словы Алёшкі скаланулі Дзяніса. Зноў, у каторы ўжо раз за дарогу, паўстаў перад ім той сход.

...Дзяніс ідзе ўперадзе, а крыху ззаду, крок у крок — участковы міліцыянер Якаў Борздзень. Надзьмуты, строгі, а ў паглядзе — холад. Ідзе, быццам нікога не заўважае, нават яго, Дзяніса, не хоча пазнаваць. А раней жа якія былі дружбакі! Разам хадзілі ў Дзямідцы на танцы, разам адбіваліся ад задзірыстых тамашніх хлопцаў, а часам ішлі дамоў з разбітымі насамі. Праўда, ён, Дзяніс, потым здрэйфіў, перастаў хадзіць у суседнюю вёску, а Яшка быў ой які праломісты хлопец: усётакі дамогся свайго, засватаў Зосю з Дзямідцаў. Вось хто такі Яшка Борздзень у мінулым — сябра. А цяпер?.. Дзяніс хоча зазірнуць Яшку ў вочы. Можа і ўспомніць тыя гады, расчуліцца. Але як толькі Дзяніс прыпыніць крок, той кладзе яму руку на плячо і паўтарае адно і тое ж:

— Ідзі, ідзі...

Дзяніс адчувае, як коцяцца па твары кропелькі поту, як прыліпае да цела кашуля. І чым бліжэй да калгаснага клуба, тым страшней робіцца Дзянісу. І ён не вытрымлівае:

— Яшка!..

Маўчанне.

— Яшка!..

— Га?

— Што мне будзе?

— Што зарабіў, тое і будзе.

— Няўжо засудзяць?

— Паглядзім там.

Дзяніс уздыхае і кідае праз плячо:

— Эх, а яшчэ сябрам меўся... Асіраціць дзяцей наважыўся...

— Раней трэба было думаць. А сяброўства тут ні пры чым. — Голас у Яшкі ледзяны, колкі. Дзяніс ажно ўздрыгвае.

— Няўжо і слова не закінеш? Ты ж мяне ведаеш... — зноў пачынае Дзяніс.

— Ідзі, ідзі... Людзі скажуць, чаго ты варты.

Яны выйшлі на цэнтральную вуліцу. Адсюль да клуба рукой падаць. Дзяніс зірнуў туды і сцяўся: там сабралася ўся вёска. Яшчэ здалёк ён пачуў прарэзлівыя дзіцячыя галасы:

— Дзяніса вядуць!.. Злодзея вядуць!..

Дзяніс спыніўся.

— Не пайду, што хочаш рабі — не пайду.

Але тут выскачыў аднекуль Алёшка Гром.

— Э, дзядзька! — крыкнуў ён. — Так нягожа. Кралі, нікога не пыталіся, а цяпер людзей баіцёся?.. Нягожа, нягожа...

«Ах ты, балван, — вылаяўся моўчкі Дзяніс. — Не адчапіцца...»

І Дзяніс рушыў далей, толькі скоса пазіраў на Алёшку, які крочыў збоку і чамусьці сам сабе ўсміхаўся.

— Чаго ты зубы паказваеш? Рады? — не стрымаўся Дзяніс.

— Ды не, дзядзька. Так сабе. Думаю, як жа гэта вы тады не ўгледзелі мяне? Чалавек вы асцярожны...

Алёшка не адставаў аж да самага клуба.

У клубе народу — не прайсці. Наперадзе, за доўгім сталом, засланым чырвоным абрусам, — старшыня Раман Усцінавіч, дзед Азёма, брыгадзір Пятрок і другія члены праўлення. Дзяніса пасадзілі на самы пярэдні ўслончык, аднаго, тварам да людзей. «Услончык падсуднага, — падумаў ён. — Вось куды трапіў...»

Зрабілася страшна, лаўка здалася халоднай, як лёд.

Калі ўстаў Раман Усцінавіч, людзі адразу заціхлі. Дзяніс увабраў галаву і ўжо хутчэй адчуваў, чым бачыў, як Раман Усцінавіч агледзеў залу, потым, правёўшы рукой па валасах, звярнуўся да ўсіх:

— Што, будзем пачынаць?..

Адразу пасля старшыні гаварыў Якаў Борздзень. Ён расказаў, як усё было. Дзяніса прызначылі вазіць жыта на Лысуху да сеялак, і той схаваў мех ля свайго прыгумення. Усё, можа, і сышло б, каб не Алёшка Гром. Хлопец натрапіў на след, прыбег у канцылярыю і сказаў старшыні...

Борздзень стаў зачытваць артыкулы судовага кодэксу, якія падыходзілі да ўчынку Дзяніса.

«Засудзяць...» — думаў Дзяніс, і яго пачало трэсці.

— Вось да чаго дакаціўся... Калгаснае дабро красці... — пачуліся галасы з парога.

— Хай раскажа, як валок мех з жытам...

Кпіны ляцелі з усіх бакоў. Дзяніс сціскаў рукамі галаву, якая разрывалася ад страшных думак, і не варушыўся.

— Таварышы, слова бярыце... — прапанаваў Раман Усцінавіч. — Гармідар няма чаго ўзнімаць.

— Я скажу, — зашамкаў дзед Азёма.

Ён выйшаў наперад і звярнуўся прама да Дзяніса:

— Нешта не пазнаю цябе, Дзяніс. Хто ты? Мой сусед ці воўк з лесу?

— Га-га-га!..

Раман Усцінавіч пастукаў алоўкам па стале, сунімаючы рогат.

— Не крыўдуй, але ж так, — працягваў дзед Азёма. — Усе вунь сабе, як людзі, ім не сорамна глядзець у вочы другому. А табе? Уцяў галаву, як воўк, які залез у хлеў і там яго лапнулі... — Дзед адступіўся крок назад, зірнуў на Рамана Усцінавіча. — Вось што Дзяніс. І ты, і я жылі за панскім часам. Не буду ўспамінаць, як жылося. Але скажу,

што і тады я бayяўся ўзяць зерне з панскага свірна. А ты? А ты ж крадзеш у такіх, як сам... Крадзеш наша, грамадскае...

— Карацей дзед! — крычалі з парога.

— Што? Я і так дзела гавару. — Дзед Азёма памаўчаў. — Ну, калі хочаце, скажу коратка. Я за тое, каб Дзяніс панёс кару.

— Запішам гэта, — заўважыў Якаў Борздзень. — Азёма Піліпавіч Дрот прапануе прыцягнуць Дзяніса да крымінальнай адказнасці. Хто далей?

Дзед Азёма зірнуў на міліцыянера, нейкі момант пастаяў у нерашучасці, потым сеў на месца і асцярожна пачаў пагладжваць бараду.

Пасля Азёмы людзей цяжка было суняць.

— Злодзей!..

— З калгаса яго!..

Але вось слова ўзяў Раман Усцінавіч. У зале насцярожана зашапталіся. Кожны ведаў: ад яго будзе залежаць многае.

— Правільна тут усе гаварылі, — пачаў ён. — Дзяніс зрабіў злосны ўчынак. Ён варты кары. Але ж, таварышы, — старшыня задумаўся і, рэзка ўзняўшы галаву, прадаўжаў: — Судзіць чалавека мо' не варта? Мы самі мо' здолеем перавыхаваць яго... Усім калгасам.

Людзі загулі, паўскоквалі з месц, крычалі адзін аднаму, махалі рукамі.

Якаў Борздзень цікаўна пазіраў на іх і чакаў, пакуль сцішацца. Ён разумеў старшыню, але хацеў пераканацца, ці падтрымліваюць яго калгаснікі.

— Правільна, возьмем на парукі Дзяніса... — нарэшце ўчуў ён.

У Запясочча Дзяніс прыехаў надвячоркам. Каля млына стаяў цэлы абоз.

— Завоз... — здзівіўся Дзяніс, — пэўна, паначаваць прыйдзецца.

Ён прывязаў валоў да слупа і пайшоў праведаць у млын. Там таўкліся мужчыны і жанчыны. Адны даказвалі, што ім вельмі некалі, упрошвалі перапусціць чаргу, другія карагодзілі каля скрыні з мукой, трэція стаялі ў баку і размаўлялі аб нечым сваім. Дзяніс падышоў да млынара, прывітаўся:



— Ой, чалавеча, — усміхнуўся той, — да ранку табе прыйдзецца сядзець. Бачыш, колькі мяхоў? Так што можаш адпачыць, — сказаў і пайшоў некуды наверх.

Дзяніс вярнуўся да воза, дастаў з торбачкі хлеб, сала і пачаў сілкавацца. Пасля задрамаў на возе. Разбудзіў яго чалавечы голас:

— Гэй ты, соня!.. На возе будзеш начаваць ці мо' ў млын перанясеш мяхі?

Дзяніс усхапіўся, працёр вочы.

— Ага, ага, перанясу...

Узваліўшы мех на плечы, Дзяніс падыбаў у млын. Хацеў паставіць яго дзе-небудзь у кут, але млынар спыніў.

— На вагі давай. Разлічымся цяпер, каб потым не валаводзіцца. Падскочылі два хлопцы і памаглі Дзянісу апусціць мех на вагі.

Стаміўся Дзяніс, пакуль апаражніў калёсы. Дастаў нарэшце з кішэні хустачку, выцер твар. Калі млынар узважыў мяхі, Дзяніс палез у кішэню за накладной.

— Колькі на тваіх? — спытаўся ў млынара.

Той адказаў.

— Колькі-колькі? — здзівіўся Дзяніс. — Не можа быць...

Іх акружылі мужчыны. Млынар зазірнуў у накладную і зазначыў:

— За свае вагі ручаюся. У цябе два пуды лішку.

«Што гэта? — Дзяніс зачырванеўся і пачаў успамінаць, як яго адпраўлялі ў млын. — Можа выпадкова?» Не, ён сам быў пры вагах.

Яму штосьці гаварылі, але ён не слухаў. Урэшце схамянуўся і прамовіў:

— Вагі ў калгасе няспраўныя. Што ж будзе?

Дзяніс раптам прыгадаў размову брыгадзіра Петрака з ключнікам сёння ўранку. Дзяніс выводзіў тады валоў з канюшні і чуў ад слова да слова. «Заўтра прыйдуць машыны па пшаніцу», — гаварыў Пятрок. «Адкуль?» — пытаўся ключнік. «З Турбінкі, з суседняга раёна. Будзем мяняць на насенне канюшыны. Дык ты каб быў зранку...» — прасіў Пятрок.

Дзяніс аж затупаў на месцы, не ведаючы, што рабіць. Урэшце звярнуўся да ўсіх:

— Хлопцы, перапусціце мяне, — ад хвалявання голас яго дрыжаў.— Прашу вас... Мне ж уранні трэба быць дома. Па пшаніцу прыедуць... А ў нас вагі няспраўныя. Перапусціце...

Людзі загаманілі, расступіліся.

— Давай памагу мяхі насіць. Чарга хутка... — нечая рука лягла Дзянісу на плячо.



Віталь КОСТЫЛЕЎ

## НЯСУЦЬ ПРАЛЕСКІ



Нясуць пралескі,
Глянь,
нясуць, шчаслівыя,
Нясуць, як скарб, трымаюць у руках.
Яны такія
Першыя
Пудлівыя,
Блакіт лясны ў даверлівых вачах.
— Па рубяльку!
Па рубяльку! —
Пачулася.—
Што, дарага?
За меншую цану —
У лесе!..
Публіка купляе чулая
За грошы
Сінявокую вясну.
Стаіць, гандлюе
Не старая кволая,
А маладзіца —
Шчокі, як пажар.
Так заклікае,
Жвавая,
Вясёлая,
Нібы ёй маткай роднай
Быў базар.
— Па рубяльку,
Па рубяльку!..
Нядарага!
І раптам тут,
На веснавой зямлі,
Нібы ўзляцела ўгору
Бочка з порахам:
— Па два рублі!
Па два!
Па два рублі!..
І прадае,
Нахабная і злосная,
Забылася на той
Нядаўні час,
Калі раней за ўсіх устаўшы,
З росамі



Яна пралескі несла
Ў родны клас.
Пралескі ж побач і з рублём
Нявінныя
І шчырыя, бы ў старане лясной,
Глядзяць вачмі
Даверлівымі, сінімі,
Глядзяць самою
Юнаю вясной.
Нясуць пралескі зноў,
Нясуць, шчаслівыя,
Нясуць,
як скарб, трымаюць у руках.
Яны такія
Першыя,
Пудлівыя,
Блакіт лясны ў даверлівых вачах.

## ЗНЕМАГЛА ДАЧКА



Знемагла дачка.
Уся гарыць.
І патухлі ў роднай
Вачаняты.
Маці не адыдзецца —
Не спіць.
Думкі толькі ёй,
Адной,
Заняты.

А назаўтра —
Зоймецца на дзень —
Грукаецца
Ў сонную бальніцу.
— Памажыце, родныя,
Бядзе...
Любыя...
А каб жывой вадзіцай.

І калі без памяці
Ў агні
Трызніць штосьці дачка
І ломіць рукі,
Маці плача ў роспачы:
— Зірні,
Смертухна,—
Вазьмі мяне,
Старую,
Я ўжо аджыла сваё,
Яна ж...

Ні зімы,
Ні зморы
Не адчуўшы,
Зноў за восем вёрст
Ідзе адна
У аптэку
Лекі ўзяць дачушцы.

А дачка з пасцелі ўстане
Ды,
Быццам з клеткі,
Выгляне на волю,

Зляжа маці, шчасная, тады,
Зляжа
І не ўстане, можа, болей...

Ігар ШКЛЯРЭЎСКІ

## ДРУГІЯ СУТКІ



Ці не таму, што конніца Батыя
Таптала стэп,
Ён, як капыт, цвярды?
Парэпіны, нібыта губы тыя,
Крычаць:
— Вады!
Яшчэ не можа з жніўнем
Сонца ўжыцца.
Другія суткі людзі ў трактарах.
Як глянуць —
ноч аруць агні,
Іржышча
Гудзе ў вятрах.
Другія суткі,
Ледзь матор прыглушыш,
Забудзешся
і схілішся к рулю —
Здалёк крычыць назойлівая птушка
І дражніць:— Сплю...
Сплю...
Засынаеш раптам.
А наўкола —
Вада,
Вада ля губ,
вада ў вачах...
Сплю...
Каб замоўк апрыклы гэты голас,
Рванеш рычаг!
І зноўку стэп,
і неба,
неба,
неба —
І зоры,
як далёкіх фар агні.
Адгэтуль
Заўтра
Эшалоны з хлебам,
Грукочучы,
памчацца ў камунізм!

## ПУЦІНА



Пад вечар
вецер чайкай падаў,
Узагрудкі
валы хватаў...
Зялёнавокія наяды
Шарахаліся з-пад вінта.
Натужны хрып:
Яшчэ!..
Не совацца...
Капрон мярэж трашчэў,
але ж
Дрыжэла злоўленае сонца
І ў лодцы білася, як лешч.
І вось знаёмы
профіль бухты.
А ў складках,
пене,
пузырах
Заліў сваім калыша брухам,
І неба верціцца ў вачах.
Прахор асіпла
«Дзякуй!» рыпнуў —
Звыш нормы выдадзім цяпер...
Прапахлыя
смалой і рыбай,
У срэбную завею верб
Ідзем.
І пінкі прагна смокчам,—
Марскі закон мы маем свой.
І рукі выціраем моўчкі
Падмёрзлай,
шорсткаю травой.

Пераклаў з рускай мовы
Р. БАРАДУЛІН.



Юля брала ў рукі кавалак глебы і доўга разглядала яго.

Фота В. Бараноўскага.

# КРЫЛЫ НОВАГА ПАЧЫНУ

Закончана школа. Збіраючыся ў сваю жыццёвую дарогу, Юля Савасцей надумалася зрабіць такое для людзей, каб яны заўсёды гаварылі пра яе з павагай. У Юлі не было пакутлівага роздуму, які шлях выбраць, да чаго прыкласці рукі. Яе многія сябры і сяброўкі, ранейшыя выпускнікі школы, працавалі ў родным калгасе «17 верасня». Гэтай дарогай пайшла і Юля Савасцей.

Выпускнікоў у калгасе сустракалі ветліва, гасцінна, бо школа, настаўнікі прывілі сваім выхаванцам павагу да працы, навучылі любіць зямлю — крыніцу нашага багацця.

Спачатку Юля працавала, дзе ёй загадаюць. Пашле брыгадзір накідаць гной — яна брала ў рукі вілы, загадаюць палоць лён — ішла ў поле. Усякую работу рабіла яна з душою, і хоць добра зарабляла, але маральнага задавальнення дзяўчына не адчувала. Усё часцей і часцей узнікала пытанне: навошта ж яна столькі вучылася? Дзе прымяніць веды, набытыя ў школе?

Такія думкі ўсё часцей непакоілі і іншых выпускнікоў. З гонарам здаўшы экзамен на працоўную сталасць, былыя дзесяцікласнікі адчулі нейкую разгубленасць. І дробязнае, і вялікае пачало навoдзіць на роздум. Вось пазалеташняй зімой вымерзла азімая пшаніца. Колькі працы марна загінула! Чаму ж нельга вывесці мясцовы гатунак пшаніцы, які не баяўся б ніякіх марозаў?..

Вечарамі сябры, нядаўнія дзесяцікласнікі, збіраліся дзе-небудзь пад ліпай. Гаварылі аб палётах ракет, аб скарасных плаўках, скарасным рэзанні металу. І пыталіся самі ў сябе, чаму на заводах і фабрыках, у навуковых лабараторыях так бурна пульсуе творчая думка. Неяк трэба зрабіць, каб і ў іх калгасе адчуваліся штодзённыя пошукі новых шляхоў, новых метадаў працы.

...Юля брала ў рукі кавалак глебы і доўга разглядала яго. Колькі таямніц схавана ў ім? У гэтых драбнюткіх пясчынках тоіцца велізарная сіла, якая дае жыццё раслінам, пачынаючы ад кволай травінкі і канчаючы магутным дрэвам-волатам. Распазнаць бы гэтыя сілы, падпарадкаваць іх сваёй волі, і якія б яшчэ больш цудоўныя ўраджаі зашумелі тады на калгасных палях! Юля ж чытала, што на доследных станцыях збіраюць па 40 цэнтнераў збожжа з гектара, па 1 000 цэнтнераў бурakoў...

Ды гэта недзе... А ў нашым калгасе пра гэта пакуль што можна толькі марыць...

Такія размовы вяліся з дня ў дзень. Дапытлівы розум шукаў прасторы, а маладая энергія — выйсця.

### Аднойчы ўвечары

Неяк у калгас па просьбе моладзі прыехалі вучоныя з Мінска. Адбылася сустрэча, якая надоўга запомнілася, бо паклала пачатак новай плыні ў жыцці і працы выпускнікоў сярэдніх школ.

Гаворка ішла пра тое, як зрабіць працу калгасніка кваліфікаванай, як «вывесці» на калгаснае поле выдатныя дасягненні навукі. Розум вучонага і практыка хлебароба павінны дзейнічаць заадно. Новае ж можна ствараць заўсёды і ўсюды. Варта ўспомніць жыццё Мічурына. Ён жыў у вёсцы, вучыўся самастойна. Імкненне да пазнання жывой прыроды прывяло яго ў шэрагі вялікіх вучоных свету. Лепшым дарадчыкам Мічурына былі кнігі. «Няхай жа кніга і для вас стане неразлучным спадарожнікам, — сказаў, звяртаючыся да моладзі, доктар сельскагаспадарчых навук прафесар А. Сямёнаў. — А разабрацца ў ёй вы зможаце, бо за вашымі плячыма дзесяць гадоў вучобы. І першым, хто дасць вам напрамак, будзе кніга».

А колькі навокал спраў, якія патрабуюць чулых, клапатлівых рук, дапытлівай думкі! Узяць тое ж садоўніцтва. Якія цуды можа зрабіць умелы садоўнік! Шэраг захапляючых доследаў па гібрыдызацыі, акліматызацыі новых гатункаў пад сілу ставіць маладым энтузіястам. А якая цікавая справа агародніцтва! Ці ўзяць насенняводства збожжавых культур, кармавых траў, асваенне севазваротаў... Толькі працуй, шукай, здзяйсняй.

Калісьці ў калгасах былі так званыя доследнікі — удумлівыя, дапытлівыя людзі. З іх выйшаў і вядомы народны вучоны Ц. Мальцаў. Маючы толькі чатыры класы адукацыі, ён стварыў свой метад паверхневай апрацоўкі глебы. Праўда, Мальцаў многа чытаў, раіўся з вучонымі.



Вечарамі сябры збіраліся дзе-небудзь пад ліпай.

У нас, у калгасах рэспублікі, усё больш пачынаюць сеяць цукровыя буракі. Неабмежаваныя магчымасці гэтай культуры, асабліва тут, у суседстве з Гарадзейскім цукровым заводам. Але пакуль што сабекошт цэнтнера буракоў у Нясвіжскім раёне складае 45 рублёў, а калгасы прадаюць іх па 30 рублёў за цэнтнер. І гэта тады, калі ўкраінскія даследнікі вывелі новы дзяшовы гатунак — аднапарастквавыя буракі, за што атрымалі Ленінскую прэмію.

Хутчэй укараніць такія дзяшовыя буракі — значыць забяспечыць заводы сыравінай, знізіць да мінімуму затраты працы. Доктар сельскагаспадарчых навук А. Казлоўскі заклікаў моладзь паспрабаваць разводзіць аднапарастквавыя буракі ў сваім калгасе.

Доўга раіліся вучоныя і маладыя хлебаробы, разам шукалі шляхі, каб праца прыносіла больш плён. Пераканаўча прагучалі словы маладога вучонага, кандыдата сельскагаспадарчых навук Ваструхіна, які сказаў, што новыя прагрэсіўныя прыёмы трэба хутчэй «прасоўваць» у практыку. У праверцы гэтых прыёмаў былым дзесяцікласнікам належыць вядучая роля. Вось, скажам, гербіцыды. Гэты новы ядахімікат павінен зрабіць цэлую рэвалюцыю ў земляробстве. Двух кілаграмаў яго зусім дастаткова, каб знішчыць пустазелле на цэлым гектары. Аднак на многіх культурах дзеянне гербіцыдаў не праверана. Калі ж на дапамогу вучоным прыйдуць выпускнікі сярэдняй школы, праблема будзе вырашана хутчэй.

Так мэта, яшчэ не зусім зразумелая і акрэсленая, паступова пачала праясняцца. Нядаўні дзесяцікласнік Уладзімір Чабатарэнка сказаў, што цяпер ён ведае, дзе можна спаўна аддаць калгасу свае веды і сілы. Ён пажадаў даследаваць аднапарастквавыя цукровыя буракі і для гэтага чытае спецыяльную літаратуру, каб паспяхова весці назіранні, рабіць доследы. Вучоныя тут жа абяцалі сваю дапамогу.

Звеннявая Ліля Карачун расказала аб сваёй запаветнай мары — паступіць у сельскагаспадарчы інстытут.



Юля Савасцей (справа) і навуковы супрацоўнік Ганусаўскай селекцыйнай станцыі Валянціна Мікалаеўна Богдан вядуць доследы па цукровых бураках.

— Але туды трэба прыйсці з трывалым запасам ведаў, — сказала яна. — Я ўжо не так мала працую ў калгасе, а што ведаю? Не багата. А вось калі я сваімі рукамі «прамацаю» расліну, вывучу ўмовы і законы яе развіцця, тады з мяне будзе аграном.

Так узнікла прапанова аб стварэнні ў калгасе групы даследнікаў, якія ўкаранялі б у вытворчасць дасягненні навукі і ўзбагачалі б гэтую навуку. Група падзелена на творчыя секцыі.

### Зямля не паскупіцца

Юля Савасцей павольна ідзе полем. На твары сканцэнтраванасць, позірк удумлівы. Раз-пораз яна спыняецца, бярэ глебу на ўзараным участку і складвае яе ў грудкі, потым у блакноце штосьці адзначае. За крокаў дзвесце ад яе — Ніна Чабатарэнка. Незвычайная ў іх сёння работа. Па метаду кітайскіх селекцыянераў яны даследуюць магчымасці атрымання максімальнага ўраджаю цукровых буракоў, бульбы і кукурузы. Хоць дослед будзе закладзены на лета, але дзяўчаты ўжо загадзя рыхтуюцца.

Максімальны ўраджай... Юля і Ніна ведаюць, што ўдала пастаўлены дослед можа даць па дзве тысячы цэнтнераў буракоў. А можна і нічога не атрымаць. Усё залежыць ад таго, як будзе вывучана глеба, яе хімічны склад: кіслотнасць, колькасць фосфару, калію, азоту. Камсамолак не палохае гэта складаная праца. Ім дапамагае Мікалай Пятровіч Ваструхін, навуковы супрацоўнік Ганусаўскай доследнай станцыі.

— Шкада, што аналізы нам даводзіцца рабіць на доследнай станцыі, — гаворыць Юля. — Але нічога, хутка ў нас будзе свая лабараторыя.

Настаюць доўгія асеннія вечары. Але сумаваць не даводзіцца. Яркія вокны калгаснага палаца культуры клічуць юнакоў і дзяўчат. Тут іх чакаюць заняткі для кожнага па густу. Кіпучае жыццё віруе у шматлікіх светлых пакоях. Хор развучвае новыя песні, драматычны калектыў рыхтуе цікавую пастаноўку. Хто жадае, можа паглядзець кінафільм. Паўнютка, як заўсёды, і ў бібліятэцы.

А даследнікі ідуць у агратэхнічны кабінет. Да іх паслуг — кнігі Вільямса, Дакучаева, Лысенкі. Камсамольцы ўзяліся за ўкараненне квадратна-гнездавога метаду вырошчвання цукровых буракоў. Адказны за дослед сакратар камітэта камсамола Уладзімір Чабатарэнка будзе весці назіранні за развіццём раслін. Яго задача — шляхам перыядычных назіранняў за ростам буракоў вызначыць, які гатунак у мясцовых умовах найбольш ураджайны.



Настаюць доўгія асеннія вечары. Але сумаваць не даводзіцца.

•

Улетку была праведзена праверка буракоў на цукрыстасць, назіранні запісаны ў спецыяльны журнал.

Доследнай работай загарэліся і дзяўчаты са звяна Зінаіды Кохан, якія вырошчваюць кукурузу. Мяркуючы па тым, якая выдатная кукуруза сёлета ў іх звяне, можна не сумнявацца — хутка ў калгасе будзе сваё насенне.

Радуюць вынікі работы секцыі



Уладзіміра Берташа і Анатоля Дземуха хвалююць пытанні хімічнай праполкі. Вось і шукаюць яны адказу ў кнізе.

хімічнай праполкі! Энтузіястамі праявілі сябе Вечаслаў Майсеня і Уладзімір Берташ. Іх доследы, праведзеныя на вялікіх плошчах, закончыліся перамогай. Яны здабылі новы прэпарат — дэкатэкс-80, з дапамогай якога было поўнасцю знішчана пустазелле. На кожным з 38 гектараў калгас сэканоміў па 200 рублёў. Адпала неабходнасць у ручной праполцы ільну, якая забірала столькі рабочых рук.

Няхай яшчэ не ўпэўненыя крокі гэтых энтузіястаў — юнакоў і дзяўчат, што вырашылі несці ў вытворчасць усё новае і перадавое з нашай сельскагаспадарчай навукі і практыкі, але тое, што робіцца, заслугоўвае пахвалы і падтрымкі.

Цяпер і вывазка ўгнаенняў і іншыя работы набылі інакшы, новы сэнс. «Кожны ўдзельнік творчых секцый — ударнік працы!» — такі дэвіз былых дзесяцікласнікаў. Механізатар Анатоль Дземух, які нічым асаблівым раней не вызначаўся, на ўборцы ўраджаю выйшаў у першыя шэрагі калгасных трактарыстаў. Руплівымі рукамі членаў звяна Зінаіды Кохан вырашчана лепшая ў раёне кукуруза. Ударная маладзёжная малацільная брыгада, якая днём і ноччу малаціла збажыну, пастаянныя групы па нарыхтоўцы ўгнаенняў, рэйдавыя брыгады — вось далёка не поўны пералік канкрэтных спраў, якія здзяйсняе моладзь калгаса «17 верасня».



**Добрая кукуруза вырасла на ўчастку звяна Зіны Кохан** (у цэнтры). **Радуецца і калгасны аграном Аляксей Галушка** (другі справа).

### Вырастаюць крылы

Ініцыятыва нясвіжцаў не засталася незаўважанай. Аб ёй загаварылі па ўсёй рэспубліцы. Яна абмяркоўвалася на пасяджэннях бюро ЦК ЛКСМ Беларусі і калегіі Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР. Вучоныя, спецыялісты, камсамольскія работнікі выказалі свае думкі, заўвагі. Усе пагадзіліся на адным — пачын маладых хлебаробаў калгаса «17 верасня» знойдзе шырокую падтрымку.

Малады калгаснік нашых дзён — гэта не ранейшы хлебароб, які ведаў толькі плуг ды барану. Ён добра разбіраецца ў задачах, што стаяць перад краінай, сельскай гаспадаркай, родным калгасам. Ён знаёмы з тэхнікай і хіміяй, батанікай і заалогіяй, фізікай і літаратурай. Ён гарыць жаданнем працаваць творча, уносіць у справу нешта сваё, карыснае.

Жыццё дыктуе свае законы. На барацьбу за самую перадавую ў свеце сельскую гаспадарку выходзіць маладое калгаснае пакаленне, якое лічыць, што культура працы на зямлі павінна адпавядаць яго ведам і магчымасцям. Стварэнне ў калгасах груп доследнікаў павінна вырашыць некалькі праблем. Тут і маральны стымул у рабоце выпускнікоў сярэдніх школ, і практычная карысць калгасам, і добрая база для падрыхтоўкі будучых студэнтаў сельскагаспадарчых навучальных устаноў.

Сорак пяць тысяч юнакоў і дзяўчат, якія маюць сярэднюю адукацыю і працуюць у калгасах і саўгасах рэспублікі, гэта вялікая сіла, якую можна выкарыстаць для далейшага ўздыму сельскай гаспадаркі. Маладзёжныя групы доследнікаў, непасрэдна звязаныя з вытворчасцю, пад кіраўніцтвам вучоных і спецыялістаў будуць смела і заўзята ўкараняць усе лепшыя дасягненні навукі і перадавога вопыту.

...Калгаснік-доследнік! У гэтых словах захапляючая навізна і шырокія перспектывы. Наша жыццё, наш савецкі лад — вось што нарадзіла рух калгаснікаў-доследнікаў, пачатак якому паклалі ў нашай рэспубліцы маладыя нясвіжцы. Тэрмометры, дажджамеры, прабіркі, мікраскопы становяцца цяпер для юнакоў і дзяўчат такімі ж звычайнымі прыладамі, як вілы ці рыдлёўка.

Як і ўсякі рух, які мае глыбокія карэнні ў жыцці, рух калгаснікаў-доследнікаў расце і шырыцца. У калгасе імя Сталіна на Вілейшчыне камсамольцы ўзяліся вывучаць эфектыўнасць ужывання розных відаў угнаенняў, у тым ліку і гноева-земляных кампостаў, будуць выпрабоўваць вугалеамікаты, распрацоўваюць квадратна-гнездавы спосаб вырошчвання ворыўных культур. Пройдзе час, і па рэкамендацыях творчай лабараторыі будуць вырошчвацца ў калгасе многія новыя культуры.

Закрынічыла жыццё ў аграбіялагічнай, аграхімічнай і іншых секцыях доследнікаў у вёсцы Лібава Калінкавіцкага раёна. Маладыя калгаснікі — былыя дзесяцікласнікі ставяць шырокія вытворчыя доследы.

Ствараюцца лабараторыі ў калгасах «Іскра», «Беларусь», імя Леніна і многіх іншых у Брэсцкім раёне. У калгасе «Беларусь» доследнай работай моладзі кіруе мясцовы настаўнік Віктар Іванавіч Палянскоў. За добрае веданне сельскай гаспадаркі яго вяскоўцы называюць «акадэмікам».

Прыгожа выглядае ўлетку адно з палёў калгаснай лабараторыі. Густой сцяной стаяла на ім кукуруза — высокая, цёмна-зялёная, шыракалістая. А ў міжрадкоўях буялі цукровыя і кармавыя буракі. На кожным гектары вырашчана па 1 000 цэнтнераў кукурузы і па 180—200 цэнтнераў буракоў. На другім полі — тыя ж пасевы кукурузы, а ў міжрадкоўях — агуркі. Няма патрэбы пералічваць усе доследы, над якімі працуе творчая лабараторыя. Але трэба сказаць, што юнакі і дзяўчаты праходзяць тут выдатную практыку, у іх характарах выпрацоўваецца добрая рыса — заўсёды шукаць новае, ствараць лепшае.

Глядзіш, з якім энтузіязмам пракладвае дарогу новаму моладзь з сярэдняй адукацыяй, і міжволі ўспамінаеш словы вялікага Леніна: «Наш абавязак... ператварыць земляробства з промысла, які вядзецца несвядома, па-старому, у промысел, заснаваны на навуцы і заваяваннях тэхнікі».

Прыемна, што з кожным днём дужэюць крылы новага, выдатнага пачыну нясвіжскай калгаснай моладзі.

**Эдуард ЮШКЕВІЧ.**

# „Маладосць" вядзе рэпартаж...





## Сцяганосцы сямігодкі

Будаўнікі! Муляры, тынкоўшчыкі, кранаўшчыкі, цесляры... Яны прыйшлі ў знявечаны і спалены Мінск услед за воінамі-вызваліцелямі з розных канцоў нашай краіны, каб з руін узняць родны горад, сталіцу Савецкай Беларусі. Будаўнікамі станавіліся і людзі сталыя, якія ўжо мелі за плячыма не адну спецыяльнасць, і падлеткі, якія толькі што ўзнімаліся на сваю першую самастойную ступеньку ў жыцці. Па закліку партыі на новабудоўлі прыйшлі лепшыя, смелыя прадстаўнікі маладога пакалення — камсамольцы.

Год за годам набіраў сілы горад-воін, горад-будаўнік. Новы, пасляваенны Мінск даўно пераступіў свае колішнія межы. Ужо і на ўскраінах назаўсёды знікаюць крывыя, гразкія вулачкі і завулкі. Раён былой Старажоўкі да нядаўняга часу заставаўся звычайнай гарадской ускраінай. Летась — у памятным першым годзе сямігодкі — тут закладзены першыя шматпавярховыя дамы-прыгажуны. Спланаваны згодна генеральнага плана новы мікрараён удала ўпішацца ў цудоўны ансамбль заўтрашняга горада-волата.

Сярод тых, хто сёння нясе пачэсную вахту на пярэдніх рубяжах сямігодкі, хто ўпрыгожвае беларускую сталіцу, — шырокай вядомасцю карыстаецца камсамольска-маладзёжная брыгада тынкоўшчыкаў з УНР № 13, якую ўзначальвае малады камуніст Міхаіл Гуд.

Амаль усе члены гэтага дружнага, па-рабочаму згуртаванага калектыву — людзі крылатага камсамольскага ўзросту. Яны, як і іх важак — выхаванец камсамола, які дзесяць год назад па камсамольскай пуцёўцы прыехаў у горад з вёскі, у працавітай сям'і будаўнікоў знайшлі сваё прызванне.

У брыгадзе Міхаіла Гуда ўсе працуюць і вучацца. «Сёння падсобнік, а заўтра тынкоўшчык і муляр!» — такое жыццёвае правіла для кожнага, хто прыходзіць на рыштаванні будоўлі. Кіруючыся гэтым добрым правілам, доўга не хадзілі ў падсобніцах Ганна Дзмітрук і Соня Дзянісчык, ды многія іншыя дзяўчаты, якія сёлета сталі майстрамі тынкоўкі.

Тынкоўка — не лёгкая, адказная справа. Ёю завяршаецца, аздабляецца праца шматлікага калектыву будаўнікоў. Тут патрэбны не толькі сіла і спрыт, але кемлівасць і майстэрства.

Тынкоўшчыц з брыгады Гуда на пляцоўцы называюць смелымі дзяўчатамі. Варта глянуць на малюнак, дзе яны паказаны ў спецыяльных калысках на вышыні пятага паверху, як вывад напрошваецца адзін — такая справа па плячу толькі смелым!..





Вопытнейшыя, мацнейшыя становяцца побач з навічкамі, перадаюць ім сваё ўмельства, і калектыў моцна трымае гудаўскую марку — працаваць толькі добра і выдатна, перавыконваць вытворчыя заданні.

...Сёння колішняя Старажоўка — гэта гіганцкая будаўнічая пляцоўка, дзе ствараецца адзін з прыгожых і ўпарадкаваных раёнаў беларускай сталіцы. Гэта будзе цудоўны з усімі выгодамі і зручнасцямі горад у горадзе. Яго ўзводзяць лепшыя кваліфікаваныя будаўнікі — маладыя сцяганосцы сямігодкі.

Тэкст А. ВЕЧАРКОВА.
Малюнкі П. ЛЫСЕНКІ.



# Сэрца кліча наперад

Стаяла зіма. Спалі апушаныя інеем бярозы на ўскрайку вёскі. Па начах у густым небе зоркі-весялухі заводзілі карагод. Неяк увечары да клуба спяшаліся калгаснікі. Меўся быць справаздачны сход. Такая падзея бывае раз у год, а таму людзей у залу набілася столькі, што здавалася вось-вось рассунуцца сцены.

Калі размова зайшла пра кукурузу, падняўся такі вэрхал, ажно старшыня праўлення Адам Мікітавіч Чадовіч заткнуў пальцамі вушы. Адзін перад другім, здаецца, стараліся мацней крыкнуць:

— Толькі працадні дарма ўбахалі!

— Матыкай многа не наробіш!

— Не парасце ў нас кукуруза, дальбог, не парасце!..

Камсамолка Ліна Крукоўская моўчкі сядзела ў кутку і слухала. Калі трохі пацішэла, яна абвяла вачыма сход і сказала:

— Няпраўду кажаце! У нашых суседзяў бачылі, якая кукуруза? З лесам навыперадкі ідзе! І ў нас такая парасце!..

— Не дарасла ты, мая галубка, каб нас вучыць, — ускапіўся з лаўкі брыгадзір трэцяй паляводчай брыгады Сямён Зубовіч. — Не любіць кукуруза нашай зямлі, не парасце, паверце, браточкі!

— Ліна сказала праўду, — кінуўшы ў бок брыгадзіра насмешлівы позірк, загаварыў старшыня. — А ты, Сямён, дарма божышся. Паўтараю яшчэ раз: Ліна сказала праўду. — Голас у Адама Мікітавіча цвёрды і суровы: — Парасце і ў нас кукуруза, калі з машынамі за яе возьмемся. Адно мяне трывожыць: не ведаем мы, як гэта робіцца...

Задумаліся ўсе. Заціх сход. Глыбокія зморшчынкі ляглі на круглы лоб Ліны. Старшыня мае падставу: ніхто ў калгасе не ведаў, як механізаваным спосабам вырошчваць кукурузу. Чытаць пра гэта чыталі, па радыё колькі разоў чулі, але гэта не тое, што ўласнымі вачыма паглядзець, кожную дэталь запомніць.

— А што калі паехаць да Мікалая Манукоўскага, — раптам прапанавала Ліна і адчула, што яе падтрымліваюць. З палёгкай уздыхнуў і старшыня.

— Такую прапанову падтрымаць не грэх, — узрадавана сказаў ён. — Дару чым гэта нашай Ліне.

...Пабыўшы ў Манукоўскага, Ліна адчула сябе намнога дужэйшай. Павялічылася ўпэўненасць ў сваіх сілах, у поспеху задуманай справы.

На Палессі ўжо была вясна, калі Крукоўская вярнулася з экскурсіі.

Калгасныя камсамольцы Яўгеня Саніковіч, Ніна Чадовіч, Мікалай Бордак, Міхаіл Мядзведскі падтрымалі сваю сяброўку. Так было створана механізаванае звяно, якое ўзначаліла Ліна Крукоўская.

У той першы год працы па-новаму эн-



**Ліна Крукоўская** (справа) **з членамі свайго звяна.**

тузіясты заваявалі выдатную перамогу. Ураджай кукурузы ў механізаваным звяне склаў па 925 цэнтнераў з гектара. Рэкордны для раёна ўраджай!

Аднойчы да сіласных ям, куды звозілі з-пад камбайна кукурузную масу, пад'ехаў сакратар райкома партыі Мікалай Фёдаравіч Пракапенка. Прывітаўся з калгаснікамі, усё агледзеў па-гаспадарску і заўважыў:

— Пастаралася ваша Ліна. Даказала на справе, што кукурузу зручней вырошчваць з дапамогаю машын!..

Мужчыны пераглянуліся і заківалі галовамі ў знак згоды.

Тады ж сакратар камсамольскай арганізацыі Галіна Саніковіч першай перадала Ліне радасную вестку аб тым, што цэнтнер кукурузы абышоўся калгасу меней як па паўтара рубля.

— Цяпер, Ліначка, — усхвалявана гаварыла Галіна, — табе ордэн абавязкова дадуць. Вось пабачыш!..

Сапраўды, неўзабаве прыйшла слава: савецкі ўрад высока ацаніў заслугі маладой трактарысткі, узнагародзіўшы яе ордэнам Леніна.

Шчыра віншавала сваю дачку з высокай узнагародай маці. І Ліне прыгадалася, як яшчэ маленькая, завязаўшы ў хусцінку колькі яблыкаў, спяшалася яна ў поле. Ішла на раўнамерны гул матора, каб знайсці бацьку. Ён спыняў абсыпаны пылам трактар, браў з рук хусцінку з яблыкамі, садзіўся ў баразну і задаволена пазіраў на дачку. А Ліна ў гэты момант узбіралася на машыну і спрабавала пакруціць цяжкі абаранак руля.

— Ого, — радасна гаварыў бацька.— Можа і ты хочаш стаць трактарысткай?..

З вайны бацька не вярнуўся. Не давялося яму пабачыць, як увішна працуе яго дачка-камсамолка за рулём трактара. Яна пераняла ад бацькі любоў да працы, да зямлі. І гэта любоў прыносіла багаты працоўны плён. Ліна ўдастоілася гонару быць удзельнікам Усесаюзнай выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі, дзе атрымала малы залаты медаль і каштоўны падарунак. Яе ўзнагародзілі таксама ганаровымі граматамі ЦК ЛКСМ Беларусі і ЦК ВЛКСМ.

...Сёлетні год для комплекснага механізаванага звяна з'явіўся сур'ёзным экзаменам на сталасць. Яно і зразумела. За плячыма ў Ліны Крукоўскай — уласны вопыт: памагла ёй і вучоба ў Манукоўскага. Цяпер былі ўзяты смялейшыя абавязацельствы — па 1 000 цэнтнераў зялёнай масы на гектар. Амаль удвая пашырэла кукурузнае поле.

Давялося зноў чытаць і перачытваць парады Манукоўскага, вывучаць яго агратэхніку. Больш за ўсё размова ішла аб квадратах, аб угнаеннях.

Зацяжная вясна не давала спакою. Доўга трымаліся халодныя ночы. І калі нарэшце прагрэлася глеба і крыху падсохла, Ліна выехала ў поле. Дзень пры дні шчыравала яна на трактары.

Неяк пад вечар неба зацягнула свінцовымі хмарамі. Іх мітуслівыя крылы раскінуліся ад вёскі да пералеску.

Паглядзеўшы на неба, трактарыст Міхаіл Мядзведскі, якога прыйшла змяніць Ліна, сказаў:

— А як жа працаваць будзем у такое надвор'е?

— Дождж ці пагода, усё роўна стаяць не выпадае, — цвёрда заявіла Ліна.

Дарэмна пераконваў яе Міхаіл Мядзведскі, каб хоць памяняцца зменай, бо яму, мужчыну, у дрэннае надвор'е неяк спадручней, але дзяўчына стаяла на сваім.

Ліна выехала ў начную змену. Дзьмуў золкі вецер. Неўзабаве пайшоў густы дождж. Прамокла ватоўка, адубелі рукі ў мокрых рукавіцах. Замінала набрынялая вадою хустка. Але дзяўчына моцна трымала руль. У імглістай цемені весела паблісквалі фары трактара. Заход за заходам рабіла Ліна, пакуль не закончыла ворыва.

З сяўбой управіліся за дзесяць дзён. Гэта вельмі важна. Трактарыстка, машыніст кукурузасаджалкі Мікалай Бордак, фіксатаршчык Васіль Сячко, лябёдчыца Ніна Чадовіч — усе члены звяна працавалі зладжана і старанна, па-гаспадарску выкарыстоўваючы кожную гадзіну. Добра ведаючы, што галоўнае на сяўбе — атрымаць правільныя квадраты, Ліна дамаглася, што на ўсім палетку квадраты былі зроблены акуратна, нібы тыя лінейкі ў сшытку.

З'явіліся ўсходы, прыбавілася клопатаў. Мала таго, што пракідалася пустазелле, дык яшчэ і сухмень ушчаўся. Хоць бы кропелька дажджу ўпала на зямлю. Захваляваліся члены звяна. Аднойчы на досвітку прыбегла да звеннявой Ніна Чадовіч.

— Я толькі што з поля, — сказала, засопшыся, дзяўчына. — Пачалі жоўкнуць расліны. Што будзем рабіць?

Зашчымела сэрца ў Ліны. Агледзеўшы палетак, звеннявая сабрала членаў звяна і з хваляваннем сказала:

— Кукурузе патрэбна вадкая падкормка. Хутчэй за справу, сябры!..

Праз паўгадзіны кукурузаводы былі ўжо на полі. Мікалай Бордак, Васіль Сячко прывезлі ў бочках гноевую жыжку. Дзяўчаты прынеслі ў вёдрах салетру. Працавалі дружна, не ведаючы стомы. Не заўважылі, як хутка сканаў доўгі летні дзень.

Так і на другі і на трэці дзень, пакуль «каралева палёў» не набралася сілы. Зазелянелі, заіскрыліся пасевы, пайшлі ў рост, нібы на дражджах. А потым палілі дажджы. І кукуруза расла, як кажуць, на лес гледзячы. Сцяблы больш як на тры метры ў вышыню, а лісты шырокія, лапушыстыя. Ідзе ў такім зарасніку чалавек і хаваецца з галавою. І так усцяж на ўсіх 120 гектарах.

— Такой кукурузы ў нас яшчэ не было. Во рост! — ускінуўшы руку высока над галавой, гаворыць звеннявая Ліна Крукоўская і шчасліва ўсміхаецца: — Добры ласунак нашым калгасным каровам і свінням...

Нарэшце надышоў час уборкі. Механізатары Іван Масель і Міхаіл Чадовіч прывялі на палетак магутны «ДТ-54», каб камбайн мог разгарнуцца ў такім высокім і густым зарасніку.

Ліна тут жа, на полі. Камбайн прайшоў адзін круг, другі. Трактарыст спыняе машыну.

— Ну, як? — спяшаецца з пытаннем Ліна.

— Цудоўна! Усё як па масле ідзе, — захапляецца камбайнер Чадовіч.

На поле падкаціла калгасная «Волга». З яе выйшлі старшыня калгаса Адам Мікітавіч Чадовіч і аграном Аляксандр Сасноўскі. Шпаркай хадой яны накіраваліся да камбайна.

— Колькі выйдзе на гектар? — непакоіцца старшыня.

— Па дзевяцьсот будзе, нават з гакам, — упэўнена адказвае звеннявая-механізатар.

— І я думаю, што будзе, — усміхнуўся Адам Мікітавіч і падышоў да Ліны, каб паціснуць ёй руку:

— Малайчына. Памагла калгасу назаўсёды прыпісаць зялёную «каралеву палёў!..»

Па ружовым твары Ліны прабегла ціхая, шчырая ўсмешка. Ёй радасна і за сябе і за сваіх сяброў.

Камбайн зноў крануўся. Зашасцела, загаманіла зялёналістае трысцё. Увішныя шаферы ледзь паспяваюць адвозіць зялёны сілас.

Выйграна яшчэ адна бітва за ўраджай, за танныя кармы для жывёлы. Упісана яшчэ адна старонка ў летапіс сямігодкі.

...З Жываглодавіч, дзе цэнтральная сядзіба калгаса, да Белага Балота — невялікай вёскі, у якой жыве Ліна Крукоўская, усяго якіх чатыры кіламетры. На веласіпедзе шлях гэты можна праехаць за некалькі хвілін, калі хто па дарозе не сустрэнецца. Але на гэты раз Ліна ўжо больш гадзіны стаіць на развілцы: яе ўсхвалявала размова з Лінай Масель, той самай, што некалі разам з іншымі лёгкадумнымі дзяўчатамі, скончыўшы бабруйскае вучылішча механізацыі, выракласе набытай спецыяльнасці.

— Хочацца мне вярнуцца на трактар, — гаворыць Ліне, стрэўшыся, сяброўка, — толькі баюся, ці возьмуць... Забыла ўжо многае...

— Абавязкова возьмуць, — адказвае Ліна, — хочаш ідзі ў маё звяно, яно цяпер пашыраецца.

Маладое, кіпучае сэрца заўсёды жыве імкненнем наперад.

**Калгас «Шлях Леніна»**
**Старобінскага раёна.**

**Павел БАРОДКА,**
**Уладзімір НОВІК.**
Фота П. БАРОДКІ.



**Ліна на трактары «Беларусь».**



**Валянціна Сямёнаўна віншуе сваю дачку Ліну з высокай узнагародай — ордэнам Леніна.**



**923 цэнтнеры з гектара! — адказвае Ліна сакратару Старобінскага райкома партыі Р. В. Завадзэўкіну на пытанне аб сабраным яе звяном ураджаі.**

# ЯК УТВАРЫЎСЯ МЕСЯЦ

«Мы жывём у эпоху, калі адлегласць ад самых неверагодных фантазій да зусім рэальнай сапраўднасці скарачаецца на дзіва хутка». Гэтыя словы Аляксея Максімавіча Горкага — сапраўды прарочыя. Пачаты савецкай навукай і тэхнікай імклівы штурм неба робіць рэальнай даўнюю мару чалавека аб палётах да іншых планет. Сёння, пасля паспяховых выпрабаванняў звышмагутных касмічных ракет, канчаткова рассеяліся сумненні ў магчымасці стварэння першых аўтаматычных абсерваторый на Месяцы, Марсе і Венеры, а затым і палётаў да іх самога чалавека.

Планеты нашай сонечнай сістэмы маюць цэлую сям'ю спадарожнікаў, — іх налічваецца каля трыццаці. Сярод гэтых спадарожнікаў Месяц з'яўляецца своеасаблівым целам. Па сваёй масе і памерах ён значна бліжэй да сваёй планеты Зямлі, чым спадарожнікі ўсіх іншых планет. Дыяметр Месяца меншы за зямны прыкладна ў 3,75 раза, а маса — у 81 раз. Месяц размешчаны так блізка да Зямлі, што астраномы часта завуць Зямлю і Месяц «двайной планетай». Астранаўты з борта касмічных караблёў будуць наглядаць выключную па сваёй прыгажосці «двайную зорку» — яркаблакітную Зямлю і серабрысты Месяц.

Пытанне аб паходжанні спадарожнікаў вялікіх планет належыць да найбольш складаных праблем сучаснай касмагоніі — навукі, якая тлумачыць утварэнне і жыццё нябесных целаў. Яго спрабавалі вырашыць старажытныя мысліцелі яшчэ тысячы год таму назад. Шмат фантастычных міфаў і легенд стварыла нарэшце Месяца рэлігія. Паводле біблії, Месяц у ліку шасці планет, уключаючы і нашу Зямлю, быў створаны богам на працягу шасці дзён. Старажытныя язычаскія рэлігіі народаў Усходу абвясцілі Месяц адным з галоўных багоў — богам ночы і чарадзейства. Схільным да паэзіі старажытным грэкам цудоўнае і ў той жа час таямнічае начное свяціла навеяла вобразы багіні дзявоцкасці Артэміды і злоснай Гекаты — багіні начнога чарадзейства. Жыхары Карфагена абвясцілі багіняй Месяца — Таніту, апякуншу іх дабрабыту.

Усім гэтым рэлігійным выдумкам вялікія мысліцелі старажытнай Грэцыі і Рыма супроцьпаставілі навуковае вучэнне аб паходжанні ўсіх нябесных целаў. Паводле смелых думак старажытных вучоных, Месяц утварыўся з віхуры часцінак матэрыі — атамаў такім жа чынам, як утварылася Зямля і ўсе астатнія планеты.

Навука двух апошніх стагоддзяў высунула некалькі новых гіпотэз і тэорый аб паходжанні нашага вечнага спадарожніка. Некаторыя вучоныя лічылі Месяц пабочным касмічным целам, якое заляцела ў сонечную сістэму і засталося ў ёй пад уплывам прыцягнення Сонца і планет. Паводле другой гіпотэзы, Месяц утварыўся з рою пасланцоў сусвету — буйных і дробных метэарытаў.



У сучаснай касмагоніі разглядаюцца дзве асноўныя тэорыі, якія зусім па-рознаму тлумачаць паходжанне Месяца. Шырокае распаўсюджанне атрымала тэорыя ўтварэння Месяца, прапанаваная Джорджам Дарвіным, сынам вядомага заснавальніка эвалюцыйнага вучэння ў біялогіі Чарльза Дарвіна. Згодна гэтай тэорыі, Месяц утварыўся шляхам аддзялення ад нашай планеты Зямлі.

У вельмі далёкія часы, калі Зямля ўяўляла сабой вадкую і пластычную масу, утвораныя сонечным прыцягненнем магутныя прылівы на яе паверхні адарвалі частку Зямлі. З гэтай адарванай часткі і ўтварыўся Месяц. Паводле законаў механікі, вязкае цела, круцячыся, паступова павялічвае хуткасць і пад уздзеяннем цэнтрабежнай сілы інэрцыі пачынае паступова мяняць сваю форму. Тлумачачы ўтварэнне Месяца, Дарвін прымяніў тэорыю фігур, створаную вядомым рускім матэматыкам Ляпуновым. Паводле тэорыі Ляпунова, пры дастаткова вялікай хуткасці вярчэння Зямля павінна была атрымаць грушападобную форму. Такая фігура няўстойлівая і можа прывесці да распаду цела на дзве няроўныя паміж сабой часткі. Створаная яшчэ ў мінулым стагоддзі тэорыя Ляпунова цалкам знайшла сваё пацверджанне ў работах астраномаў нашага часу.

Паводле вылічэнняў Дарвіна, аддзяленне Месяца ад Зямлі адбылося каля 4 мільярдаў год назад, калі час абарачэння Зямлі вакол сваёй восі складаў усяго каля трох гадзін, а Масяц, які аддзяліўся ад яе, рабіў поўны абарот за 4—5 гадзін і знаходзіўся на адлегласці прыблізна ў 15 000 кіламетраў ад Зямлі. Велізарныя прылівы, якія ўзнікалі ў мяккім рэчыве Зямлі і Месяца, тармазілі вярчэнне абодвух целаў, і ў выніку пачалося паступовае аддаленне Месяца ад Зямлі. У тым месцы, дзе Месяц аддзяліўся ад Зямлі, на яе паверхні ўтварылася велізарная ўпадзіна, запоўненая пазней водамі Ціхага акіяна.

Зусім па-іншаму тлумачыць утварэнне Месяца і іншых спадарожнікаў тэорыя, створаная савецкімі вучонымі Шмідтам, Фясенкавым і Амбарцумянам. Працэс утварэння спадарожнікаў планет гэтая тэорыя разглядае, як паўтарэнне ў малых маштабах працэсу ўтварэння саміх планет. Можна сказаць, што планеты ўтварылі спадарожнікі тым жа шляхам, якім былі самі створаны Сонцам.

Паводле тэорыі Шмідта, усе целы сонечнай сістэмы ўтварыліся ў адзіным працэсе эвалюцыі з велізарнага метэорна-пылавога воблака, якое некалі ахутвала Сонца. У працэсе змянення стану воблака ўтвараліся згусткі з рассеяных цвёрдых часцінак і газаў, якія паступова павялічваліся і ператварыліся, нарэшце, у буйныя целы — зародкі будучых планет. Праз пэўны час на месцы былога воблака з'явілася сістэма планет са значнымі масамі.

Утварэнне Месяца і спадарожнікаў іншых планет тэорыя Шмідта тлумачыць паяўленнем згусткаў пылавой матэрыі вакол зародкаў будучых планет. Рост спадарожнікаў адбываўся побач з утварэннем саміх планет. Сістэма Зямля — Месяц павінна была ўзнікнуць і развівацца ў адзіным працэсе ператварэння рассеянай касмічнай матэрыі ў нябесныя целы.

Канчатковае вырашэнне пытання аб утварэнні Месяца належыць блізкай будучыні, калі на нашым спадарожніку паявяцца даследавальнікі яго складу. Калі наш спадарожнік сапраўды ўяўляе сабой частку Зямлі, дык мінеральны склад Месяца павінен быць вельмі блізкі да зямной кары. Але калі Месяц ніколі не быў часткай Зямлі і самастойна ўтварыўся адначасова з нашай планетай, дык, відаць, мінералы яго будуць значна адрозніваецца ад мінералаў Зямлі. Пакуль што такія даследаванні мала даступны з паверхні Зямлі, бо кара Месяца застаецца схаванай ад нас пластам пылападобнага рэчыва, якое пакрывае паверхню Месяца.

З назіранняў за нашым спадарожнікам удалося пакуль вылі-

чыць сярэднюю шчыльнасць Месяца. Яна аказалася роўнай 3,34 грама на кубічны сантыметр. Гэта — намнога менш за шчыльнасць Зямлі. Паводле дадзеных геалогіі, шчыльнасць камяністага складу паверхневых пластоў Зямлі вельмі блізкая да шчыльнасці масы Месяца.

Сучасная навука стварае велічную карціну працяглага працэсу ўтварэння і развіцця ўсіх нябесных целаў. Месяц, як і іншыя згусткі касмічнай матэрыі, спачатку быў цвёрдым целам, але пасля за перыяд прыкладна ў адзін мільярд год, ён ператварыўся ў мяккае цела. Радыёактыўныя рэчывы, якія ў вялікіх колькасцях увайшлі ў склад Месяца пры яго ўтварэнні, пачалі распадацца, вылучыўшы цеплыню, якая размякчыла Месяц. Паступова радыёактыўных атамаў станавілася менш і пачалося зноў зацвярдзенне Месяца. Зацвярдзелы Месяц прыняў фігуру цела, прыплюшчанага па восі яго вярчэння. Такім мы бачым Месяц і цяпер.

У эвалюцыі Месяца, як і ў жыцці Зямлі і ўсіх іншых планет, вялікае значэнне мае сусветнае прыцягненне. Месяц, і ў значна меншай меры Сонца, прыцягваючы да сябе воды зямных акіянаў, ствараюць на воднай паверхні два «гарбы» — адзін з боку Месяца, другі з супрацьлеглага боку. Прыліўныя «гарбы» нябачнымі сіламі прыцягнення ўвесь час прывязаны ў напрамку да Месяца. Пры вярчэнні Зямлі яны перамяшчаюцца па паверхні нашай планеты ў напрамку, супрацьлеглым яе вярчэнню. Прыцягненне Месяца ўтварае трэнне аб дно акіяна мас вады, якія ўтвараюць прыліўныя «гарбы» і набяганні хваляў на берагі мацерыкоў. Прылівы дасягаюць найбольшай вышыні пры маладзіку і поўні, калі дзейнічаюць адразу два прылівы — Месяца і Сонца. Прылівы тармозяць вярчэнне Зямлі.

У перыяд, калі Месяц яшчэ знаходзіўся ў вадкім стане, прыцягненне Зямлі ўтварыла на паверхні Месяца велізарныя прыліўныя выступы. Маса ж Зямлі ў 81 раз большая за масу Месяца, а адлегласць паміж Зямлёй і Месяцам была ў многа разоў меншая, чым цяпер. Моцнае прыліўное дзеянне Зямлі значна тармазіла вярчэнне Месяца. Суткі на Месяцы сталі павялічвацца і, паводле законаў нябеснай механікі, пачалося аддаленне Месяца ад яго сястры-Зямлі. Прыліўное трэнне працягвала тармазіць вярчэнне Месяца да таго часу, пакуль ён не аказаўся павернутым да Зямлі заўсёды адным бокам. Месяц прыняў сваю сучасную форму, а прыліўныя выступы застылі на яго паверхні.

Цяпер Месяц у многім адрозніваецца ад Зямлі. Ён не мае воднага пакрыцця і амаль зусім не мае газавай абалонкі — атмасферы. Як паказалі назіранні, праведзеныя другой касмічнай ракетай, каля Месяца няма магнітнага поля, характэрнага для Зямлі і многіх касмічных целаў. Тлумачачы прыроду ўтварэння зямнога магнітнага поля, фізікі бачаць яго прычыну ў наяўнасці металічнага ядра ў нетрах нашай планеты. Адсутнасць магнітнага поля Месяца гаворыць аб тым, што яго ўнутраная будова значна адрозніваецца ад унутранай будовы Зямлі.

Добра вывучаны рэльеф Месяца. Па сваёй разнастайнасці ён намнога складанейшы за зямны. Пасля фатаграфавання трэцяй савецкай касмічнай ракетай адваротнага, нябачнага з зямной паверхні, боку Месяца ўдалося стварыць першы глобус Месяца, падобны да зямнога глобуса.

Паверхня Месяца не разбураецца дзеяннем вод і паветраных патокаў, толькі падзенне буйных метэарытаў, вулканічныя выбухі і вялікія ваганні тэмператур могуць рабіць змены на карце Месяца. Часта вучоныя называюць рэльеф Месяца мёртвым, застылым.

Паводле новай тэорыі будовы Месяца, створанай навукай у апошнія гады, унутраная частка нашага спадарожніка гарачая, бо на яго паверхні працягваюць дзейнічаць вулканы. У мінулым



вулканічная дзейнасць была вельмі інтэнсіўнай. З нетраў Месяца падымаюцца згусткі газаў, падобныя да туманаў, і выдзяляецца глыбінная цеплыня.

Зноў узнікае пытанне аб магчымасці жыцця на Месяцы. Яшчэ зусім нядаўна магчымасць жыцця на Месяцы рашуча абвяргалася ўсімі вучонымі, але ў святле новых навуковых дадзеных пытанне ставіцца зноў на парадак дня. Адкрыццё савецкім астраномам Козыравым вулкана, які дзейнічае на Месяцы, прыводзіць да вывадаў аб існаванні належных умоў для жыцця на Месяцы. Наш спадарожнік не астыў цалкам, і, відаць, пад яго паверхняй можа захавацца пастаянная тэмпература, яна можа заставацца нязменнай і на дне шматлікіх шчылін і глыбокіх упадзін, якія пакрываюць паверхню Месяца. Па тым, што паверхня Месяца порыстая, можна меркаваць аб наяўнасці ў яго нетрах вады і кіслароду, які ўтвараецца шляхам аднаўлення вугляkіслага газу вулканічнага паходжання. Жыццё на Месяцы можа грунтавацца не абавязкова на вугляродзе, як у зямных умовах, а на крэмнію і іншых хімічных элементах.

Усё гэта гаворыць аб наяўнасці на Месяцы пэўных умоў, неабходных для існавання жывых істот, хоць бы самых простых форм.

Блізкая будучыня ў жыцці Месяца належыць чалавецтву, якое насяляе Зямлю. Падобна да таго, як чалавек увесь час змяняе сваю планету, падпарадкоўваючы ўсё новыя і новыя сілы прыроды, ён пачне змяненні і на Месяцы.

Людзі ператвораць Месяц у новы населены кантынент. На пляцоўках цыркаў і кратэраў на Месяцы вырастуць крытыя гарады-аранжарэі пад купаламі з мнагаслойнай пластмасы. З нетраў Месяца чалавек будзе здабываць і ваду і кісларод, як мы здабываем карысныя выкапні. Багацце сонечнай энергіі, якую лёгка можна выкарыстаць пры дапамозе паўправаднікоў, дазволіць сінтэзаваць з рэчыва Месяца ў вялікіх колькасцях усё неабходнае для насельніцтва і паліва для міжпланетных караблёў. У аранжарэях



**Здымак адваротнага боку Месяца, атрыманы 7 кастрычніка 1959 года з борта савецкай аўтаматычнай міжпланетнай станцыі.**

Месяца можа ўзнікнуць раслінны свет, бо вулканічны попел і лава могуць аказацца ўрадлівай глебай.

Магчыма, што чалавек створыць штучную атмасферу на Месяцы. Багацце энергіі сонечных праменняў дазволіць у велізарных колькасцях здабываць з кары Месяца кісларод і іншыя, неабходныя для жыцця, газы. Выпадуць першыя дажджы, на глобусе Месяца з'явяцца першыя вадаёмы, вада запоўніць упадзіны, на карце Месяца з'явяцца сапраўдныя, а не ўмоўныя моры. Вядома, стварыць атмасферу на Месяцы — задача вельмі цяжкая. Месяц не ўтрымлівае атмасферныя газы не толькі таму, што на ім у шэсць разоў слабейшае прыцягненне, чым на Зямлі. Ёсць і другая прычына гэтага. За двухтыднёвы дзень на Месяцы паверхня яго награецца больш чым на сто градусаў. Пры такой тэмпературы малекулы газаў атмасферы могуць лёгка адлятаць з паверхні планеты ў касмічныя прасторы.

Навука спрабуе прадказаць аддаленую будучыню Месяца. Паводле тэорыі Д. Дарвіна і іншых вучоных, Месяц можа зноў аддаліцца ад Зямлі на адлегласць да 600 тысяч кіламетраў. Абедзве планеты будуць павернуты тады

адна да другой адным і тым жа бокам. Пасля доўгага перыяду нязменнага стану ў руху Зямлі і Месяца пад уплывам сонечных прыліваў зноў пачнецца набліжэнне Месяца і скарачэнне зямных сутак. Адлегласць ад Зямлі да Месяца складзе тады ўсяго каля 16 тысяч кіламетраў. Пры такім збліжэнні вельмі ўзрасце дзеянне зямных прыліваў і яны могуць зноў разарваць Месяц на часткі. Паводле вылічэнняў, разбурэнне Месяца можа адбыцца толькі праз тысячы мільярдаў год.

Сучасная навука аказалася ў стане не толькі адкрыць таямніцы Месяца, але і вытлумачыць яго мінулае і нават выказаць першыя меркаванні аб недалёкай і вельмі аддаленай яго будучыні.

На карце Месяца паявіліся новыя імёны выдатных дзеячоў навукі і культуры ўсіх краін, імёны людзей, якія прысвяцілі сябе барацьбе за шчасце чалавецтва, чые навуковыя подзвігі забяспечылі перамогі сучаснай навукі і тэхнікі над космасам. Нанава адкрытыя горныя хрыбты, кратэры, бязводныя моры названы імёнамі вялікіх рускіх вучоных Ламаносава і Лабачэўскага, Мендзелеева і Цыялкоўскага, «бацькоў сучаснага радыё» — Максвела, Герца і Папова, Жоліо-Кюры і Курчатава, якія да апошніх дзён жыцця звязалі сябе з выкарыстаннем атамнай энергіі ў мэтах міру і прагрэсу чалавецтва, палымянага французскага пісьменніка-фантаста Жуля Верна, выдатнага амерыканскага вынаходцы Эдысона, старажытнага кітайскага астранома Цзу Чунчжы. Адкрытая савецкімі вучонымі новая палавіна карты Месяца стала сімвалам высакароднага супрацоўніцтва ў навуцы народаў усіх краін свету.

**С. БОБАЎ.**

*У свеце мастацтва*

# НОВАЕ ПАПАЎНЕННЕ МАСТАКОЎ

У Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце на мастацкім факультэце адбыўся сёлета другі выпуск.

Дыпломныя работы абаранялі маладыя жывапісцы, графікі і адзін скульптар. Яны дэманстравалі перад дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіяй і шматлікай грамадскасцю свае творы — вынік шматгадовай вучобы. Гэта была не толькі першая грамадская справаздача пачынаючых мастакоў, але і праверка сталасці іх мастацкага мыслення.

Ці спраўдзіў спадзяванні інстытута і грамадскасці другі выпуск у цэлым? Адразу адказаць на гэтае пытанне цяжка, таму што на агляд былі прадстаўлены і вельмі слабыя палотны жывапісцаў, і даволі высокія па сваіх мастацкіх якасцях работы графікаў.

Для некаторых жывапісных палотнаў характэрна незавершанасць. Многія персанажы на карцінах пададзены так статычна, што нагадваюць не зацікаўленых сваёй работаю людзей, а застылыя пастаці натуршчыкаў. Залішняя ж саладжавасць такіх, напрыклад, карцін як «Вечар» і «У басейне» (кіраўнік — праф. В. Волкаў) сведчыць толькі пра благі густ аўтараў.

Адзіная работа, якая прынесла радасць сваёй вобразнай мовай, гэта карціна Барыса Уса «Знайшлі таварыша» (кіраўнік — дацэнт В. Цвірко). Суровая па каларыту, яна вельмі дакладна перадае атмасферу часоў грамадзянскай вайны. Гэта вялікае палатно гучыць, як своеасаблівая рамантычная балада пра загінуўшага будзёнаўца. Але, на жаль, і яно не дапрацавана як след з боку жывапісу.



Генадзь Лойка. Зябліва.



Людвіг Асецкі. Слава тым, што загінулі ў барацьбе.

Адзінай скульптурнай работай быў «Дождж» Мікалая Бельскага (кіраўнік — дацэнт А. Бембель). Сюжэт твора нескладаны. Прамокшыя юнак і дзяўчына, накрыўшыся адной курткаю, ідуць пад дажджом. Адчуваецца, што хоць дождж і спыніў іх прагулку, але зусім не сапсаваў вясёлага настрою і толькі зблізіў іх. Скульптарам добра перададзена стройнасць юнака, вуглаватасць яго рухаў. Гэта кампазіцыя, задуманая для фантана, удала адпавядае жанравым асаблівасцям паркавай скульптуры.

Работы графікаў (кіраўнік — дацэнт П. К. Любамудраў) выклікалі ўсеагульнае задавальненне.

Серыю калгасных пейзажаў, выкананую тэхнікай каляровай літаграфіі, прадставіў Генадзь Лойка. Лісты серыі аб'яднаны многімі рысамі, але галоўная з іх — паэтычнае ўспрыняцце прыроды. Лойка вельмі добра адчувае родны пейзаж і моцна яго любіць. Характэрна і тое, што калгасныя працоўныя будні Лойка паказвае прыўзнята, падкрэсліваючы тым самым харастwo працы, услаўляючы багацце роднага краю.

Тлустая зямля ўзараных баразён («Зябліва»), моцныя хвалі багатага збожжа, у якіх, як у моры, плыве аўтамабіль, падняўшы лёгкае воблачка пылу (малюнак «Збожжа паспела»), ці, нарэшце, шырокі прастор зялёнага лугу, на якім пасвіцца статак («Першы выган»), — усё гэта аб'яднана адной ідэяй багатага і шчаслівага жыцця калгаснай вёскі. Амаль ва ўсіх пейзажах гэтай серыі не відаць людзей, але ў кожным адчуваецца прысутнасць чалавека-працаўніка. Уся серыя гэта цэлае апавяданне аб народзе — пераўтваральніку прыроды.

Абароненая Г. Лойкам серыя «Калгасныя пейзажы» сведчыць пра высокую тэхнічную падрыхтоўку мастака — у яго творах добра адпрацаваны перспектыва і каляровы строй. У пейзажы «Зябліва» такое багацце танальных пераходаў у межах аднаго колеру, што малюнак выклікае ўражанне не графічнага ліста, а жывапіснага палатна. Лойка дасканала авалодаў складанай тэхнікай друкавання каляровай літаграфіі з чатырох каменняў.

Тонкае адчуванне колеру выявіў мастак у пейзажы «Малацьба», дзе ён перадае настрой, характэрны для жніўнай пары ў Беларусі. На жаль, пейзаж перагружан. Сціртa саломы стаіць на першым плане і засланяе сабой усё астатняе, ёй не знойдзена месца ў кампазіцыі. Ёсць некаторыя хібы і ў пейзажы «Першы выган», але ўсё гэта не можа зменшыць агульнага ўражання ад серыі, у якой мастак здолеў па-свойму ўбачыць прыроду і раскрыць перад гледачом яе паэтычны пачатак.

Серыя гравюр на лінолеуме, створаная графікам Людвігам Асецкім, аб'яднана тэмай «Кастрычнік на Беларусі». Кожная гравюра — «Сігнал», «Капітуляцыя», «Слава тым, што загінулі ў барацьбе», «Зямля сялянам» — глядзіцца, як зусім закончаны станковы твор, выкананы сціпла і проста. Дыпломная работа радуе добрай прафесійнай тэхнікай выканання. Усё, што паказана мастаком на гравюрах, не голая ілюстрацыя падзей, якія адбыліся ў тых ці іншых дакладна вядомых мясцінах. Аўтар узняўся да шырокіх абагульненняў, каб перадаць подых суровага і гераічнага часу незабыўнага 1917 года.

Асабліва звяртаюць на сябе ўвагу сваім вырашэннем дзве гравюры — «Сігнал» і «Слава тым, што загінулі ў барацьбе». На першым лісце ў цэнтры кампазіцыі — гудок, які кліча на барацьбу, унізе на фоне змрочных фабрычных будынкаў суровыя твары рабочых, якія паўсталі супраць сваіх прыгнятальнікаў. Уся серыя гравюр вырашана ў асноўным на кантрастах чорна-белых тонаў і толькі на гэтых двух лістах умела ўведзен трэці колер — чырвоны. У «Сігнале» (гл. укладку) гэта рэвалюцыйны сцяг, які кліча ўперад, у «Славе тым, што загінулі ў барацьбе» — доўгае палотнішча кумача, на які нашываюць жалобную стужку паплечнікі тых, хто аддаў жыццё за справу рэвалюцыі. Звяртае на сябе ўвагу дружыннік, які стаіць у профіль, — суровы і нерухомы ад вялікага гора, але моцны духам.

Гравюры «Капітуляцыя» і «Зямля сялянам» атрымаліся крыху ілюстратыўныя. Асабліва адчуваецца гэта ў апошнім творы серыі — «Зямля сялянам», дзе зусім не выяўлены адносіны сялян да падзелу зямлі. Уся група людзей успрымаецца нейкай аднастайнай масай.

Серыя каляровых лінагравюр Генадзя Дзянісава «Будні цаліны» была створана на матэрыяле, сабраным аўтарам у час паездак на цаліну. Гэта своеасаблівая сюіта, народжаная непасрэдным успрыняццем жыцця. Некаторыя гравюры глядзяцца, як простыя эпізоды з жыцця цалиннікаў, іншыя ж узніклі ў выніку абагульнення назіранага жыццёвага матэрыялу. У гравюры «Раздарожылася» ўдала перададзен настрой суровых будняў цаліннікаў. Пасля дажджу начное неба чыстае, густа ўсыпанае зоркамі. Месяц яшчэ не выплыў. На дарозе загразлі дзве машыны. Вадзіцелі памагаюць адзін аднаму выцягваць грузавікі з гразі. У гэтай невялікай замалёўцы з жыцця вельмі ўдала перададзена пачуццё сяброўства людзей, загартаванае ў працы і нягодах.

Другая работа Г. Дзянісава «Абед трактарыстам» простая па сюжэту, але вельмі паэтычная. Колькі паветра і прасторы ў гэтым пейзажы! У перспектыве добра перададзена адчуванне неабсяжнасці цалінных прастораў. Удала знойдзена месца для дзяўчыны, якая махае хусткай трактарам, што



Генадзь Дзянісаў. Раздарожылася.



Юры Выхадцаў. Вызваленне.

відны недзе ўдалечыні, і гэта яшчэ больш узмацняе пачуццё бяскрайнасці палёў.

«Ранішняя сустрэча» пакідае глыбокае ўражанне жыццёвасцю вобразаў і добрай тэхнікай выканання. Здавалася б, звычайны для цаліны эпізод — ідзе цягнік і машыны са збожжам вымушаны спыніцца ля пераезду, каб перачакаць. Але цягнік вязе трактары для працаўнікоў цаліны, а калона машын — збожжа для жыхароў краіны. І простая, здавалася б, сустрэча раніцай у стэпе становіцца абагульненым вобразам, які сімвалізуе шчырую дружбу і ўзаемадапамогу савецкіх людзей, занятых стваральнай працай.

Два другія лісты гэтай серыі — «На таку» і «Тут будзе горад» менш выразныя па зместу і прываблівають хіба толькі харастком колеру, тэхнікай выканання.

Серыя аўталітаграфій Юрыя Выхадцава «Непакораныя» складаецца з чатырох лістоў: «Тайнік», «Уцёкі», «Паўстанне» і «Вызваленне». Гэтая серыя выходзіць далёка за рамкі дыпломнай работы. Маладому мастаку трэба было шмат чаго адчуць і непасрэдна перажыць, каб стварыць мастацкі твор вялікай сілы ўздзеяння. Цыкл фактычна ператварыўся ў гімн людзям, удзельнікам супраціўлення ў гітлераўскіх лагерах смерці, у гімн нязломным. У карцінах ёсць барацьба і людзі, якія знясілены страшэнным лагерным рэжымам, але моцныя духам, поўныя веры ў перамогу.

Ю. Выхадцаў з дасканалым тэхнічным майстэрствам перадае ўсю глыбіню зместу і пачуццяў — трывожнае напружанне і адчуванне небяспекі ў «Тайніку», пераможны наступ масы зняволеных, іх адзінае імкненне да барацьбы ў «Паўстанні», сканцэнтраванасць волі, упартасць і бязмежную прагу свабоды ва «Уцёках», мужнасць пакалечаных фізічна, але гордых, поўных пачуцця ўласнай годнасці нязломных людзей у «Вызваленні».

У лістах гэтай серыі шмат схаванай экспрэсіі, у іх тонка прапрацавана светацень. Умоўны прыём, якім карыстаецца аўтар, не штучны, а падказаны самой логікай таго, што адбываецца і павінна быць адлюстравана. Напрыклад, ва «Уцёках», дзе паказаны зняволеныя, якія паўзуць, шчыльна прыціснуўшыся да зямлі, у аднаго з іх знарок павялічана плячо. Але якраз гэта і стварае адчуванне выключнага напружання волі чалавека, які выбіваецца з апошніх сіл і метр за метрам набліжаецца да жаданай мэты — свабоды. Якраз гэтая ўмоўнасць і робіць адлюстровак вельмі выразным. Той жа прыём выкарыстан і ў «Вызваленні». Узбуйненыя цені, што падаюць ад зняволеных, якія падымаюцца з бункера, яшчэ больш падкрэсліваюць сілуэты герояў падпольнага змагання. Варта было аўтару пайсці па шляху дакладнай перадачы ўбачанага і напісаць выцягнутыя цені знясіленых пакутамі зняволеных людзей, як гэта выглядала б карыкатурна і ўздзеянне на гледача было б не такім моцным.

Усе лісты серыі выкананы моваю сапраўднага рэалістычнага мастацтва: яны ідэйна глыбокія і мастацкі выразныя, а гэта сведчыць аб прафесіянальнай сталасці мастака.

Юры Тышкевіч тэхнікай каляровай лінагравюры выканаў серыю «Родны Мінск». Вельмі своеасаблівыя па задуме пейзажы — «У Мінск», «Ля Цэнтральнай плошчы», «Красавіцкае сонца», «Вечар», «Заводская ЦЭЦ». Знаёмыя мінчанам краявіды глядзяцца ў гравюрах неяк па-новаму, бо іх адлюстраваў мастак з высокім адчуваннем сучаснасці. Для ўсіх работ Ю. Тышкевіча характэрны ясны і лёгкі малюнак, сцісласць вобразных сродкаў і кампазіцыйная смеласць. Улюбёны прыём аўтара — гэта кантраснае супастаўленне вялікіх па адценнях плямаў і графічна дакладных ліній.

Арыгінальнае кампазіцыйнае вырашэнне пейзажа «У Мінск» прыкметна вылучае гэту работу сярод іншых. Кантраснасць адчуваецца і калі супастаўляеш адзін пейзаж з другім. Велізарныя вежы градзірняў ЦЭЦ змяняюцца лёгкасцю панарамы, што адкрываецца з Цэнтральнай плошчы. Рамантычная панарама вячэрняга Мінска, калі горад уяўляецца адразу новым і старажытным, удала кантрастуе са звычайнасцю пейзажа «Красавіцкае сонца» (гл. укладку).

У «Красавіцкім сонцы» ўсё ясна і проста. Ажурныя галінкі дрэў кідаюць доўгія цені. Між ствалоў відны выразныя лініі будынкаў. Гуляюць у пяску дзеці. У гэтай звычайнасці, прастаце — сакрэт поспеху твора.

Мастакі-графікі паказалі пры абароне сваіх дыпломных работ высокую прафесійную падрыхтоўку. Калі гаварыць пра графікаў, дык інстытут выхаваў дастойнае папаўненне творчых работнікаў выяўленчага мастацтва, якія сваёй далейшай працай апраўдаюць прысвоенае ім высокае званне савецкага мастака.

**Г. БАРЫШАЎ.**



Юры Тышкевіч. Ля Цэнтральнай плошчы.



# ПЯСНЯРКА НАРОДАЎ

**ДА ПЯЦІДЗЕСЯЦІГОДДЗЯ З ДНЯ СМЕРЦІ МАРЫІ КАНАПНІЦКАЙ**

Літаратурная спадчына выдатнай польскай паэтэсы Марыі Канапніцкай блізкая не толькі польскаму народу. Яшчэ ў дарэвалюцыйны час «Правда» назвала Марыю Канапніцкую паэтам дэмакратыі. Творчасць яе, поўную любві да простых людзей, абурэння супраць сацыяльнай несправядлівасці буржуазнага ладу, супраць ханжаства і крывадушнасці рэлігіі, ведалі і любілі беларускія пісьменнікі. Многія творы Марыі Канапніцкай перакладзены на беларускую мову.

Выступіўшы ў 1877 годзе з вершамі, трыццаціпяцігадовая паэтэса неўзабаве звярнула на сябе ўвагу чытачоў і рэцэнзентаў шчырасцю пачуццяў, музычнасцю мовы, «сапраўдным талентам, які як сонечны прамень» (Г. Сянкевіч). Не літаратура, а само жыццё народа жывіла яе паэзію.

Пачатак творчага шляху пісьменніцы супаў з вельмі цяжкім перыядам яе асабістага жыцця—каб пракарміць шасцярых дзяцей, яна вымушана была даваць шмат прыватных урокаў і толькі па начах мела магчымасць пісаць вершы. Але можа якраз гэтыя абставіны зрабілі яе назаўсёды песняром прыгнечаных, абяздоленых, бяспраўных.

*Творы Марыі Канапніцкай поўныя* жудасных малюнкаў чалавечага гора, але разам з тым пісьменніца любіць і хараство роднай прыроды, кліча другіх любіць і цаніць яе. Увесь час яе трывожыць пытанне—чаму нават зоркі і сонца свецяць толькі для пана? Яна сурова асуджае сучаснае ёй буржуазнае грамадства за зняважлівыя адносіны да штодзённых патрэб працоўнага люду і папярэджвае прадстаўнікоў маёмных класаў, што гнеў народа абрушыцца на іх. Спачатку пісьменніцы здаецца, што словам таксама можна ўздзейнічаць на прыгнятальнікаў, але вельмі хутка *яна пераконваецца ў марнасці сваіх* спадзяванняў. І тады яшчэ з большым абурэннем гаворыць Марыя Канапніцкая пра непрымірымасць сацыяльных супярэчнасцей, пра нарастанне гневу народных мас:

Почему так безбрежна, как океаны,
И так страшна, как открытая
рана,—
Пропасть, что делит людей
произвольно
На угнетателей и обездоленных?
Почему сравнять её так и не могут
Ни взрывы мести, ни камни
острогов?
Почему так ужасна она и бездонна,
Как ненависть нищих, как ярость
бездомных?

Значная колькасць твораў Канапніцкай прысвечана цяжкаму лёсу сялянства. У цыклах «На жалейцы» і «З палёў і лугоў» яна паэтызуе працу хлебароба; яго любоў да роднай зямлі і хоча пераканаць чытача, што калі-небудзь «сермяжный люд найдёт дорогу в мир прекрасный».

Вялікую славу прынеслі паэтэсе яе навелы і асабліва паэма «Пан Бальцар у Бразіліі». У прозе пісьменніцы мы сустракаем працяг і далейшую распрацоўку тэм, закранутых ёю ў паэзіі. Героі навел—гэта таксама простыя польскія працаўнікі, сумленныя, чулыя, якія моцна любяць сваю айчыну, але не маюць шчасця ў свеце, поўным несправядлівасці.

Народная эпапея «Пан Бальцар у Бразіліі» апавядае пра трагічны лёс польскага сялянства, якое вымушана ў пошуках зямлі і лепшага жыцця эміграваць за акіян. Галоўны герой паэмы—селянін па паходжанню, пан Бальцар, які становіцца рабочым. Разам з ім кідаюць радзіму дзесяткі гаротных людзей з розных правінцый Польшчы. Але ўжо на караблі трацяць яны веру ў тыя светлыя мары, з якімі выехалі з дому. Калі ж яны прыязджаюць у Бразілію, там іх чакае голад, хваробы, непасільная праца. Так пад ударамі капіталістычнай рэчаіснасці знікаюць апошнія надзеі. Бальцар змог згуртаваць вакол сябе сялян, якія зусім разгубіліся перад навалай нечаканага гора, і пераканаць іх у тым, што не можа быць шчасця ўдалечыні ад роднай зямлі. Перажыўшы страшэнныя пакуты, страціўшы родных і блізкіх, вяртаюцца эмігранты дамоў. Але вяртаюцца загартаваныя, з верай у свае сілы.

У вялікім партовым горадзе бачылі яны сілу паўстання мас і нават прымалі ў ім удзел. Пасля такой школы рэвалюцыйнай барацьбы Бальцар зразумеў, што «переросли своё ярмо рабы и требуют ответа у судьбы». У гэтым творы пісьменніца ўзнялася да ўсведамлення рэвалюцыйнай пралетарскай барацьбы і горача вітала яе:

Мы будем плугом разрезать поля,
Ковать булат и жать серпами жито,
Пока не упадёт с тебя петля,
Пока не вспыхнет вновь твой
пламень скрытый,
И не посмеет уж никто, земля,
Сказать, что нет у матери защиты.

Гэтай паэмай і закончыўся творчы шлях пісьменніцы. Паэма выйшла з друку ў пачатку 1910 года, а 8 кастрычніка таго ж года пісьменніца памерла.

На рускай мове творы пісьменніцы з'явіліся ўжо ў 90-я гады і адразу атрымалі прызнанне. «Самай таленавітай з усёй парнаскай брацііі» лічыў Марыю Канапніцкую і беларускі паэт Янка Лучына, які вёў перапіску з польскай пісьменніцай. Ведалі і любілі яе творы і другія беларускія літаратары. Асабліва блізкім была творчасць Марыі Канапніцкай нашаму народнаму паэту Янку Купалу. У сваіх аўтабіяграфічных нататках ён пісаў: «Які аўтар тады зрабіў на мяне большае ўражанне—цяжка сказаць. Але наогул памятаю добра, што кнігі, у якіх гаварылася пра цяжкую долю беднага люду, заўсёды мяне захаплялі. З гэтага, вядома, вынікае, што такія аўтары, як Кандратовіч, Канапніцкая, Някрасаў, Кальцоў, мяне больш за ўсё цікавілі...»

Цікавасць да твораў Марыі Канапніцкай у Янкі Купалы не была часовай. З яго аўтабіяграфічных запісаў, з успамінаў Уладзіславы Францаўны Луцэвіч —жонкі паэта, нарэшце, з купалавых твораў выразна бачна, што яму, беларускаму песняру, асабліва ў дарэвалюцыйны час, былі блізкія погляды Канапніцкай на мастацтва, у некаторай меры сугучныя і тэмы яе твораў.

Янка Купала не пакінуў нам сведчання таго, якія творы пісьменніцы ён асабліва любіў. Але пералік зробленых ім перакладаў дае магчымасць вызначыць, што найбольшую цікавасць для яго складалі вершы, у якіх паэтэса гаварыла пра цяжкі лёс працоўнага люду і ставіла сваё нязменнае пытанне—чаму селянін вымушан усё жыццё працаваць і галадаць, а пан можа баляваць на заробленым мужыком грошы?

У ліпені 1906 года Янка Купала пераклаў вершы Марыі Канапніцкай—«Пара», «Каму» і «На жалейцы», у якіх сцвярджаецца права сялян на зямлю, гучыць заклік да сейбітаў выйсці на шырокую ніву грамадскага жыцця. Выбар іменна гэтых твораў для перакладу невыпадковы. Гэта пацвярджаецца першымі крокамі творчасці самога Я. Купалы. Тыя ж матывы, тыя ж заклікі, але яшчэ больш смелыя, чым у Канапніцкай, гучаць у купалаўскіх вершах «Зашумеў лес разгуканы», «Пойдзем» і іншых. Канапніцкая гаворыць пра ўсход сонца, якое асветліць новай радасцю жыццё. І ў Купалы мы знаходзім звернуты да суайчыннікаў заклік ісці туды, «адкуль сонца ўзыходзе, адкуль вецер прыветлівы

вее» («Пойдзем»). Аднак ніякага механічнага запазычання ці паўтораў тут няма.

Пераклады вершаў Канапніцкай былі апублікаваны Я. Купалам у першым зборніку «Жалейка», які выйшаў, як вядома, у 1908 годзе ў Пецярбургу. І той факт, што сярод перакладаў з М. Канапніцкай ёсць цыкл «На жалейцы», магчыма, меў некаторы ўплыў на выбар Купалам назвы свайго зборніка.

Для перакладаў Я. Купала выбіраў у першую чаргу такія вершы польскай пісьменніцы, якія адпавядалі яго думкам і настроям, пра што ва ўмовах дарэвалюцыйнай цэнзуры паэт не мог пісаць сам. Верш Канапніцкай, названы Купалам «Каму», у арыгінале назвы не мае. Ён у адных выданнях уваходзіць у цыкл «Песенькі і песні», у другіх—у цыкл «З палёў і лугоў». Перакладчык вынес у загаловак пытанне, на якое даецца адказ у вершы:

Тым саху, плуг толькі знаці,
Хто прырос к зямліцы-маці,
Хто закон свой наскрозь знае,
Каго холад не пужае;
Хто радзімых сваіх ніў
Знае час сяўбы і жніў.

У 1907 годзе Янка Купала пераклаў яшчэ адзін верш Канапніцкай, вельмі распаўсюджаны і на рускай мове ў выглядзе папулярнай песні «Как король шёл на войну». Няроўнасць і несправядлівасць у буржуазным грамадстве, пра што ў многіх творах пісала Канапніцкая, тут выражаны з асаблівай сілаю і вобразнасцю. Трэба адзначыць, што Я. Купала зрабіў значна больш дакладны і высокамастацкі пераклад гэтага верша, чым рускі перакладчык А. Касцюкоўскі.

Яшчэ праз год Янка Купала перакладае новыя вершы паэтэсы—«Тры дарогі», «Збудзіўся лес, азваўся лес» і «Варажбітка». Пераклад першага з іх быў апублікаваны ў майскім нумары «Нашай нівы» за 1908 год, а трэцяга — у зборніку «Шляхам жыцця». Пераклад жа верша «Збудзіўся лес, азваўся лес» так і не быў да рэвалюцыі апублікаваны.

Верш М. Канапніцкай «Варажбітка» прывабіў Янку Купалу выключнай сацыяльнай завостранасцю, рэзкім процістаўленнем лёсу працоўнага чалавека і пана:

Скарб ты выараш багаты
З нівы гэтай заараной:
І таляры, і дукаты
Толькі не сабе, а пану.

Беларускі паэт, перакладаючы гэты верш, яшчэ больш падкрэсліў яго вастрыню, каб мацней прагучаў заклік на барацьбу з адвечнай несправядлівасцю.

З верша М. Канапніцкай «Збудзіўся лес, азваўся лес» Я. Купала ўзяў толькі дзве страфы з чатырох—першую і апошнюю. Польская пісьменніца скардзіцца на тое, што яе песня абуджае прыроду, але не можа разбудзіць «сонных хат, дзе народ, дзе брат». Гэтая ж думка хвалявала і Янку Купалу, вось чаму і звярнуўся ён да перакладу іменна тых строф, дзе яна выказана з найбольшай сілай:

Збудзіўся лес, азваўся лес
Ад плачу маёй песні,—
Галосіць рой, птушыны рой
Па ўсёй пустыні леснай.

Ударыў звон, ударыў звон,
Як сэрца над магілай,
А сонных хат, дзе люд, дзе брат,
Збудзіць не маю сілы!..

На дзіва дакладна, захаваўшы лірычную ўсхваляванасць і задушэўнасць арыгінала, пераклаў Я. Купала верш М. Канапніцкай «Песня пра дом» (беларускі паэт назваў яго «Родны дом»).

Яшчэ пры жыцці М. Канапніцкай яе творы атрымалі доступ да беларускага чытача не толькі ў перакладах Янкі Купалы, але і другіх беларускіх пісьменнікаў. Многа перакладаў друкавала «Наша ніва». Так, у 1908 годзе ў гэтай газеце былі змешчаны два вершы Канапніцкай— «Званы» і «Мой божа мілы», у якіх польская пісьменніца выступае як пяс696 гора народнага. У 1909 годзе асобным выданнем выйшла ў перакладзе на беларускую мову апавяданне М. Канапніцкай «Дым».

Калі памерла пісьменніца, «Наша ніва» прысвяціла ёй рэдакцыйны артыкул і апублікавала верш «Пара» ў перакладзе Я. Купалы. У артыкуле падкрэслівалася дэмакратычная накіраванасць творчасці Канапніцкай, якая ўважліва прыслухоўвалася да ўсяго таго, што гаварыла ёй душа польскага народа, і ў сваіх вершах апявала лёс і нядолю мужыка-хлебароба. Ніякія жыццёвыя нягоды, адзначае газета, не змаглі заглушыць яе вялікіх агульначалавечых думак. Цвёрда верыла пісьменніца ў перамогу праўды і справядлівасці, жывым словам песні абуджала людзей ад сну, паказала сілу народа, якая павінна ўрэшце здабыць лепшы лёс для ўсіх абдзеленых жыццём.

Далей газета паведамляе, што незадоўга да смерці пісьменніца звярнулася ў рэдакцыю з просьбай прысдаць ёй матэрыялы аб жыцці беларусаў, якія былі блізкія ёй сваёй нядоляю. «І мы сёння,—заканчвае газета свой невялікі артыкул,—перад яе труною схіляем галовы, як перад чалавекам-грамадзянінам, сябрам беднаты і нашым сябрам. Чэсць памяці людзей ідэі!»

Янка Купала прысвяціў пісьменніцы верш «Памяці Марыі Канапніцкай», у якім выказаў не толькі свае адносіны да яе, але і паказаў значэнне творчасці польскай паэтэсы для ўсіх прыгнечаных. Купала пісаў, што як пры жыцці, так і пасля смерці вершы Канапніцкай будуць «высушваць слёзы-росы і паказваць к праўдзе дарогу»:

І хаця сэрца сціхла, заныла,
Хоць, як зоры, ўжо вочы
не свецяць,—
Голас думак тваіх яшчэ будзе
Не з адным гаманіці сталеццем.

«Пясняркаю народаў» назваў у гэтым вершы Марыю Канапніцкую наш народны паэт.

У паслякастрычніцкі перыяд з'явіліся новыя пераклады твораў выдатнай польскай пісьменніцы на беларускую мову. Цікавы той факт, што Я. Купала, перакладаючы ў 1919 годзе верш без назвы з цыклу «Песенькі і песні», даў яму загаловак «Доля наша». Апрача таго, перакладчык надаў канцоўцы твора аптымістычнае гучанне. Марыя Канапніцкая пытаецца: «Што варожыць нам дзянёк і божае сонейка?», Купала ж, паўтараючы гэта двойчы, піша:

Што варожыць нам дзянёчак
Сонечны і шчасны...

Вядомы купалавы пераклады яшчэ двух вершаў паэтэсы — «Сасонка» і «Вольны наймiт». «Сасонка» ў купалавым перакладзе на беларускую мову пакладзена, як вядома, кампазітарам М. Аладавым на музыку.

«Вольны наймiт» у перакладзе Купалы гучыць гнеўным абвінавачаннем супраць тых, хто пануе над працоўным людам. Селяніна-бедняка выганяюць з яго ўласнага дома за няўплату падаткаў — такі змест верша. Я. Купала вельмі дакладна перадаў велізарны сацыяльны змест, які ўклала ў гэты верш М. Канапніцкая.

У 1930 годзе выйшла ў перакладзе на беларускую мову асобным выданнем выдатная навела Канапніцкай «Мендаль Гданьскі». У гэтай навеле пісьменніца паказвае еднасць працоўных, як сілу, здольную скасаваць нацыянальныя спрэчкі, якія распальвае капіталізм.

Творы Марыі Канапніцкай выдаюцца і цяпер у нашай рэспубліцы. У 1957 годзе ў перакладзе Янкі Брыля была апублікавана казка М. Канапніцкай «Пра гномаў і сіротку Марысю».

Прайшло паўстагоддзя з дня смерці выдатнай польскай пісьменніцы, але яе творы аб горы народным, аб прыгажосці і сіле простага чалавека і сёння дарагія не толькі працоўным Польшчы, але і іх братам — савецкім людзям.

**В. ЦІМАФЕЕВА,**
**кандыдат філалагічных навук.**

# Бібліяграфія

## На пачатку дарогі

«Плыў сабе маленькі ручаёк... Плыў — і ўсё... Абмінаў перашкоды, шукаў сабе сцежкі, зноў выбіваўся на роўнае месца...»

Нешта падобнае можна было б сказаць і пра многіх тых, хто робіць свае першыя крокі ў літаратуры. То сям, то там паявіцца верш ці, скажам, апавяданне пачынаючага. Праміне гэты твор чытач, шукаючы вядомых прозвішчаў, пагартае па прафесійнаму абавязку крытык — і аўтар зноў застаецца сам-насам, як той ручаёк, што шукае сабе сцежкі вобмацкам.

У некаторай меры гэта адносіцца і да аўтара прыведзеных радкоў Уладзіміра Дамашэвіча. Друкуе свае апавяданні Уладзімір Дамашэвіч ужо тры гады, але мала хто нават з найбольш уважлівых чытачоў здолее сказаць пра яго, як апавядальніка, што-небудзь пэўнае.

Зараз апавяданні У. Дамашэвіча выйшлі з друку асобнай кніжкай.* Большасць з іх значна перапрацавана аўтарам. І цяпер, вядома, лепш бачна, якую сцежку абраў сабе ў літаратуры малады пісьменнік.

У зборніку — пяць апавяданняў. А сярод іх найбольш цікавыя — «Трэці лішні» і «Зваруга». Апавяданне «Трэці лішні» — гэта дэталёва апісаная гісторыя аднаго кахання. Малады супрацоўнік выдавецтва Мікалай Васюк на суботніку ў падшэфным калгасе закахаўся ў дзяўчыну, студэнтку тэхнікума Веру Кавалёнак. Пакахала як быццам і яна яго. Потым Мікалай даведваецца, што яна выходзіць замуж за нялюбага чалавека, выкладчыка тэхнікума Адама Жука. Так пачынаецца, гаворачы словамі аўтара, доўгая, заблытаная гісторыя чалавечых адносін. Мікалай угаворвае Веру не выходзіць замуж за Адама, потым, калі яна ўсё ж выходзіць, ён упрошвае яе пакінуць мужа. Вера вагаецца, дае як быццам згоду. Але ўсё застаецца па-ранейшаму, хоць з мужам жыць ёй цяжка, асабліва пасля таго, як у яе нарадзілася дзіця. І далей зноў «лірычныя спатканні», зноў угаворы. Заканчваецца ўсё гэта бойкай на Верынай кватэры, калі Мікалай прыйшоў адкрыта сказаць Адаму праўду. І толькі калі Вера стала на бок Адама, Мікалай нарэшце ўсё зразумеў. Ён адчуў пякучы сорам за парушаны спакой гэтай сям'і і адначасова «нейкую незнаёмую палёгку».

У апавяданні «Трэці лішні» — просты, нават, можна сказаць, традыцыйны сюжэт. Тут няма вострых сюжэтных ходаў, складаных апавядальных паваротаў. Аўтар акцэнтуе ўвагу на псіхалогіі герояў. Гэтая павышаная ўвага да ўнутранага свету чалавека і складае адметную рысу У. Дамашэвіча як пісьменніка.

Канфлікт у апавяданнях маладога пісьменніка вынікае з характараў саміх герояў. Так і ў «Трэцім лішнім». Шчыры і сумленны, але нявопытны ў жыцці і крыху самаўпэўнены чалавек, Мікалай закахаўся з першага позірку ў прыгожую дзяўчыну і бачыў яе не такой, якой яна была на самай справе, а такой, якой намалявала яе яго ўяўленне.

А Вера была куды прасцей у жыцці, чым яму здавалася. Не было ў ёй нічога такога ўзвышанага і паэтычнага. Мікалай ёй падабаўся, яна, магчыма, кахала яго. Калі б муж зусім пакінуў яе, яна, відаць, пайшла б замуж за Мікалая. Але ніколі Вера не глядзела на жыццё з тых вышынь, з якіх глядзеў Мікалай. У яе непасрэдных простых думках і разважаннях Мікалай імкнуўся знайсці нейкі залішне глыбокі сэнс, нешта такое, што было б сугучна яго ўзнёсла-рамантычным настроям, яго ўяўленням аб каханні і наогул аб жыцці. А паколькі ў Верынай натуры не было гэтае глыбіні, то іх жыццёвыя дарогі павінны былі разысціся. Так яно і сталася.

Шкада аднак, што аўтар не раскрыў да канца характару сваёй гераіні. Ён глядзіць на яе толькі вачыма героя (для якога яна засталася «загадкай»), а трэба было паглядзець і з боку, са сваёй аўтарскай пазіцыі. Тады апавяданне можна было б значна скараціць, надаць яму больш дынамічнасці і мастацкай выразнасці.

Зацікаўленасцю псіхалогіяй герояў вылучаецца і апавяданне «Зваруга». Знешні ход падзей, апісаных у ім, выглядае так.

Шпара атрымаў строгі загад: «не адкладваючы ні хвіліны, ехаць у вёску Дабрынічы і любой цаной затрымаць небяспечнага злачынцу Зваругу, які некалькі дзён назад абакраў і забіў багатага гаспадара Барыса Якаўца». Спачатку Шпара дзейнічаў хоць са страхам, але рашуча. Аднак як толькі абложаны ў хаце злодзей прыгразіў зброяй, рашучасць у Шпары адразу прапала. Ён адступіў са сваімі «сіламі» далей ад хаты і стаў чакаць. Толькі сорам перад падначаленымі і страх трапіць за краты, калі злачынца ўцячэ, прымусілі Шпару пачаць нарэшце асцярожныя «баявыя» дзеянні. Але было позна: Зваруга пакончыў жыццё самагубствам.

Паводзіны Шпары можна было растлумачыць звычайным страхам за сваё жыццё. Але калі б аўтар абмежаваўся толькі такім тлумачэннем, вобраз Шпары атрымаўся б прымітыўным, спрошчаным.

На самай справе, не толькі страх быў прычынай разгубленасці і нерашучасці Шпары, а нешта большае. Шпара не такі ўжо шчыры паліцэйскі служака. Падаўся ён у паліцыю, «ратуючыся ад голаду». Толькі страх за заўтрашні дзень, за кавалак хлеба прымушае яго несці службу паліцэйскага. Гэты страх кіпцюрамі трымаў яго чалавечае сумленне, прымушаў выслужвацца перад начальствам.

Выпадак са Зваругам, гэтым бедным вясковым хлопцам, з якім у Шпары было нешта агульнае ў лёсе, асабліва востра паставіў перад ім пытанне: «За што і за каго ён рызыкуе жыццём». Шпара ведаў Барыса Якаўца, ведаў, што гэта быў за чалавек, на якога даўно «вастрылі зубы вясковыя хлопцы», як на даносчыка. І Шпара зусім не шкадуе гэтага кулацкага вырадка, а наадварот, ловіць сябе на тым, што спачувае няшчаснаму злодзею, «які не па сваёй віне стаў бедны і пайшоў красці». Смерць Зваругі падняла ў душы Шпары цэлую буру. «Радасць і боль, палёгка і гнеў, адчуванне важнасці моманту, які надышоў у жыцці і крута мяняе яго далейшае цячэнне, — усё аж разрывала яго грудзі».

Такім чынам, паводзіны Шпары атрымліваюць даволі глыбокую псіхалагічную матывіроўку.

У апавяданні «Горад прыйдзе сам...», як і ў папярэдніх двух, прываблівающь чытача не падзеі, а сам герой, яго думкі, яго перажыванні.

Пасля паспяховага заканчэння дзесяцігодкі Міхась вырашыў застацца працаваць у родным калгасе. Аб гэтым ён сказаў у выступленні на выпускным вечары. Сказаў, крыху «падбадзёраны віном і таварышамі». Потым, калі «прайшло напружанне мінулага дня», на сэрцы ў Міхася застаўся «больш балючы, чым прыемны» след.

Хоць рашэнне было прынята, але думка аб тым, ці правільна ён зрабіў, не давала хлопцу спакою. Асабліва пасля размовы з маці. А ўперадзе ж была яшчэ размова з бацькам. Разважаючы сам з сабой, Міхась не толькі шукаў найбольш важкіх доводаў для апраўдання перад бацькамі, але імкнуўся знайсці апору і для сябе, канчаткова пераканацца ў правільнасці свайго рашэння. І няхай тое, што гаварыў ён у крутой размове з бацькамі, яшчэ нагадвае добра вывучаны ўрок, але гэта па сутнасці ўжо станавілася Міхасёвай цвёрдай жыццёвай пазіцыяй. Апавяданне і цікавае тым, што ў ім відаць, як шукае наша моладзь сваіх дарог у жыцці.

Найбольш напружанае па сюжэту апавяданне «Заклінаю ад кулі». Але яму не стае глыбіні раскрыцця чалавечых характараў. Відавочна, аўтар захапіўся падрабязным апісаннем трагічнай падзеі, пакладзенай у аснову апавядання.

Шчыра кажучы, апісальніцтва — адзін з істотных недахопаў апавяданняў У. Дамашэвіча. Усе яны перагружаны пабочнымі фактамі, непатрэбнымі дэталямі, падзеямі, здарэннямі, характарыстыкамі, заўвагамі. Вось некалькі прыкладаў. У апавяданні «Горад прыйдзе сам...» у адной з найбольш напружаных мясцін, дзе Міхась разважае аб сваім лёсе, немаведама для чаго паяўляецца... карова. Яе прывёў да студні Міхасёў брат Толік. «Карова піла павольна, адмахваючыся ад заедзі. Серабрыстыя пырскі вады разам са слінай, як струны, разляталіся налева і направа — карова махала галавою, адганяючы мух з крутых бакоў». Сама па сабе цікавая падрабязнасць. Але для чаго яна тут?

Думаецца, што не было асаблівай патрэбы, напрыклад, падрабязна, аж на дзесяці старонках, апісваць, як Зваруга краў кумпякі (апавяданне «Зваруга»). Апісана тонка, нават паэтычна, але ў цэлым гэтая частка апавядання «завісае», як няўмела пакладзены пласт у стозе. У тым жа творы без асаблівай патрэбы аўтар характарызуе солтыса і нават яго жонку, якая не мае ніякага дачынення да сюжэта.

* Уладзімір Дамашэвіч. «Заклінаю ад кулі». Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1960.

Такіх «лішнасцей» у апавяданнях У. Дамашэвіча вельмі многа. Гэтыя пабочныя і непатрэбныя дэталі бываюць выпісаны куды лепш, чым тыя, якія непасрэдна звязаны з асноўнай тэмай твора.

Адзін з эпізадычных герояў апавядання «Горад прыйдзе сам...» дзядзька Лявон, паслухаўшы ўрывак з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» пра касьбу, вельмі трапна заўважыў: «Той не напіша, хто не ведае, якім канцом касу трымаць. Тут адразу відаць, што чалавек не адзін стог зваліў за сваё жыццё...»

У. Дамашэвіч, гаворачы словамі дзядзькі Лявона, ведае, «якім канцом касу трымаць». Праўда, першы яго сцяжок на пожні беларускай літаратуры выглядае яшчэ не зусім гладка, бо не ўсё ў ім уложана як след, дзенідзе і на пракосах засталіся, як кажуць, хвасты. Але думаецца, іх будзе з цягам часу ўсё менш. Аб гэтым сведчыць новае апавяданне У. Дамашэвіча «Харраство душы», апублікаванае ў пятым нумары часопіса «Полымя». Тут больш яскрава выяўляецца пільная ўвага аўтара да ўнутраных рухаў чалавечай душы, імкненне вызначыць маральныя крытэрыі жыццёвых паводзін сваіх герояў.

**Алесь КРЫВІЦКІ.**

## Беларускія прыпеўкі

Шырока ўвайшла ў быт народа частушка. Яе сёння можна пачуць са сцэны калгаснага і рабочага клуба. Значнае месца займае яна і ў праграмах радыёперадач.

Ні адно, мусіць, вяселле не абыходзіцца без мілагучнай, задорнай прыпеўкі. У першую чаргу яна, як правіла, адрасуецца віноўнікам урачыстасці — маладым і «галоўнакамандуючаму парада» — свату, якія самі нярэдка, не застаючыся ў даўгу, актыўна падтрымліваюць вясельную дружыну.

Колькі гумару, бадзёрасці ў камедыі В. Вольскага «Несцерка»! І ўсё таму, што ў ёй выкарыстана ўсё багацце мудрай, дасціпнай, меладычнай частушкі.

Часцей за ўсё аўтарства частушкі ўстанавіць немагчыма. Створаная адным ці некалькімі аўтарамі, прыпеўка ідзе ў народ, набываючы шырокую вядомасць. Так сталася з большасцю частушак, напісаных К. Крапівой і П. Трусам у 20-я гады, на пачатку іх літаратурнай творчасці. Найбольшая колькасць прыпевак нараджаецца ў самадзейных калектывах. Бадай не сустрэнеш ніводнага творча актыўнага самадзейнага хору, які б не меў сваіх прыпевак.

Глыбінёй думкі і вобразнасцю, прастатой, лаканічнасцю і шчырым пачуццём частушка заваявала ўсеагульнае прызнанне і шырокае распаўсюджанне.

Аднак да апошняга часу ў нас не было больш-менш поўнага збору беларускіх прыпевак, створаных пасля Кастрычніка, калі не лічыць невялічкіх зборнікаў, выпушчаных абласнымі дамамі народнай творчасці ў Віцебску і Гомелі. Першую спробу ў нейкай меры выправіць становішча і даць уяўленне аб развіцці на Беларусі частушачнага жанра за гады савецкай улады зрабіла Акадэмія навук БССР, выпусціўшы у свет зборнік «Беларускія частушкі». *

Грунтуючыся на дарэвалюцыйных выданнях і запісах савецкага часу, складальнікі К. Кабашнікаў і І. Цішчанка ўважліва падышлі да адбору лепшых узораў штодзённай песнятворчасці беларускага народа.

Цяжкім, беспрасветным паўстае са старонак зборніка жыццё працоўных да Кастрычніка. Асабліва даставалася ў той час жанчыне. Яна павінна была раней уставаць, пазней легчы. Дзяўчыну маглі сілком аддаць замуж за нялюбага:

А як замуж я пайшла,
Гора цяжкае знайшла,
Хлеб у горле комам стаў,
Светлы дзень мне ноччу стаў.

Зусім па-іншаму загучалі частушкі пасля рэвалюцыі. У іх выказвалася глыбокая падзяка камуністычнай партыі і савецкай уладзе, роднаму Леніну за шчаслівае жыццё:

Ў нас калгасы, ў нас заводы,
Громка радыё гучыць,
Гэта ты, таварыш Ленін,
Навучыў нас гэтак жыць.

Шмат прыпевак прысвяціў беларускі народ героям грамадзянскай вайны, якія ў жорсткай барацьбе з інтэрвентамі і ўнутранай контррэвалюцыяй адстаялі маладую савецкую рэспубліку:

Калчаку падбілі вока
І Пілсудскаму шчаку,
А Дзянікін, засмучоны,
За слязою лье слязу.

* Беларускія частушкі. Склалі К. Кабашнікаў і І. Цішчанка. Выдавецтва Акадэміі навук БССР, Мінск, 1960.



Усе важнейшыя падзеі і зрухі, якія адбываліся ў гады станаўлення савецкай улады і разгорнутага будаўніцтва сацыялізма, знайшлі сваё адлюстраванне ў частушках. Яны з'явіліся дзейснай зброяй партыі і камсамола ў барацьбе з перажыткамі старога ў свядомасці людзей, з дробнаўласніцкімі і мяшчанскімі настроямі, з рэлігійнымі забабонамі:

На двары стаіць кулак,
Моліцца ён богу:
Яму трактар перасек
Назаўжды дарогу.

Высокія маральныя якасці людзей новага свету, іх душэўнае харство складаюць змест большасці частушак перадваенных год.

Натхнёна і гнеўна загучала частушка ў грозны для краіны час, калі пачалася Вялікая Айчынная вайна. Частушкай нашы воіны і партызаны высмейвалі фанабэрлівасць гітлераўскіх ваяк, успаўлялі самаахвярнасць і адданасць савецкіх людзей агульнай справе перамогі над ворагам:

Афіцэр прыйшоў у хату,
Лезе ў печ ён з галавой,
А калгасніца Агата —
Па загрыўку качаргой.

Здзеклівa і бязлітасна частушка бічавала гітлераўскіх прыблуд, пад нагамі якіх агнём гарэла беларуская зямля:

Разышоўся Вільгельм Кубэ:
— Беларусь — калонія!
Партызаны міну ў бок —
І ўся цырымонія.

Усе частушкі перыяду Вялікай Айчыннай вайны напоўнены бадзёрым гумарам, з'едлівай іроніяй, светлым аптымізмам савецкага народа.

Радасць перамогі, гатоўнасць на працоўныя подзвігі ў імя аднаўлення разбуранай вайной гаспадаркі гучаць у прыпеўках, што складаліся ў першыя пасляваенныя гады.

Частушка і сёння выступае вострай зброяй у барацьбе супраць усяго, што шкодзіць нашаму пасяховаму руху наперад. Тонкая іронія і гнеўная сатыра надаюць частушцы дзейснасць і мэтанакіраванасць у гэтай барацьбе:

Што сказаць пра брыгадзіра —
Такі добры стаў на дзіва:
Дасць усё, што папрасі,
Толькі чарку паднясі.

У Якіма-стаража
Жонка вельмі хораша.
Якім дома ўсё ляжыць —
Сваю жонку старажыць.

У кожным раздзеле багата змешчана прыпевак інтымнага зместу, аб каханні, шчырай дружбе і таварыскасці.

У «Беларускіх частушках» сабран немалы матэрыял, хоць некаторыя крыніцы засталіся абмінутыя. Аўтары абышлі такія вядомыя дарэвалюцыйныя выданні, як «Беларускія прыпеўкі» П. Станіча, «Беларуская частушка» В. Астаповіча. Шкада, што так бедна выглядае раздзел, дзе сабраны прыпеўкі аб сучаснасці. Тут яшчэ непачаты край работы па сістэматызацыі хоць бы таго, што выконвалася на аглядах мастацкай самадзейнасці.

Аматары спеваў, прафесіянальныя і самадзейныя выканаўцы знойдуць усё ж шмат новага і цікавага ў гэтым першым зборніку беларускіх прыпевак, за якім, будзем спадзявацца, неўзабаве з'явяцца і новыя.

**Іван КУРБЕКА.**

## Грунтоўнае, цікавае даследаванне

Бясконцыя размовы пра адставанне беларускай крытыкі і літаратуразнаўства, нарэшце, спыніліся. Ужо каторы год у Дзяржаўным выдавецтве БССР выходзіць па дзесяць і больш кніг літаратурна-крытычных артыкулаў і манаграфій пра творчасць беларускіх пісьменнікаў.

Сярод гэтых кніг заслугоўвае асаблівай увагі праца крытыка з Брэста Уладзіміра Калесніка «Паэзія змагання».* Аўтар паставіў перад сабой даволі складаную задачу — прасачыць станаўленне творчасці аднаго з выдатнейшых прадстаўнікоў сучаснай беларускай паэзіі Максіма Танка на фоне грамадскага і літаратурнага жыцця былой Заходняй Беларусі. Таму «Паэзія змагання» — гэта не толькі першае грунтоўнае даследаванне дакастрычніцкага перыяду творчасці М. Танка, але адначасова і кніга пра заходнебеларускую літаратуру 30-х гадоў, пра асаблівасці яе развіцця і пра тое месца, якое займала яна ў нацыянальна-вызваленчай барацьбе за ўз'яднанне беларускага народа.

Насычаная багацейшым фактычным

* Уладзімір Калеснік. Паэзія змагання. Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Мінск, 1960.

матэрыялам, кніга У. Калесніка вызначаецца глыбінёй мастацкага аналізу, пранікненнем у спецыфіку паэтычнага вобраза, і, што вельмі важна, напісана яна ярка, палымяна, эмацыянальна.

Многа новага і цікавага сустрэне чытач у кнізе «Паэзія змагання» пра дзіцячыя і юнацкія гады паэта, пра яго першыя літаратурныя крокі. Выкарыстоўваючы рукапісныя аўтабіяграфічныя матэрыялы, успаміны, паасобныя раннія празаічныя творы, у якіх ёсць аўтабіяграфічныя звесткі, даследчык паказвае жыццё бацькоў паэта ў гады вайны і рэвалюцыі, бясконцыя блуканні М. Танка з адной школы ў другую, яго сувязь з камсамольскім падполлем. Відаць, упершыню абнародаван цікавы факт аб тым, што восенню 1932 года Яўген Скурко (Максім Танк) перайшоў каля мястэчка Даўгінава граніцу і трапіў у Мінск, меў камсамольскую клічку «Віктар», што раннія творы ён падпісваў псеўданімам А. Граніт. Усе біяграфічныя звесткі падаюцца ў такой яркай і жывой форме, што стварaецца ўражанне, нібы чытаеш не літаратуразнаўчую працу, а мастацкі нарыс. Перад намі паўстае воблік прагнага да ведаў і змагання няўрымслівага і смелага юнака, у сэрцы якога яшчэ на школьнай лаўцы абудзілася нянавісць да прыгнятальнікаў працоўнага чалавека.

У. Калеснік прасочвае эвалюцыю паэта ад наіўнай рамантызацыі, рыторыкі і мадэрнісцкага штукарства да глыбокага адлюстравання рэчаіснасці і сапраўднага наватарства. І фон тагачаснага грамадскага і літаратурнага жыцця прысутнічае ў кнізе не як механічны дадатак, а з'яўляецца арганічнай асновай аналізу творчасці паэта. Крок за крокам, з лагічнай паслядоўнасцю У. Калеснік паказвае, як ва ўмовах сацыяльнага і нацыянальнага прыгнечання нараджалася мужная і гордая песня, як пад уплывам жыцця, марксісцкай тэорыі, вопыту савецкай літаратуры, і ў першую чаргу твораў Я. Купалы і Я. Коласа, М. Горкага і У. Маякоўскага, выкрышталізоўваліся эстэтычныя погляды паэта.

Паступова ў паэзіі М. Танка акрэсліваюцца рысы станоўчага героя — не дэманічнага пакутніка і наіўнага рамантыка, а загартаванага змагара, чалавека працы, які цвяроза і ўпэўнена глядзіць на жыццё і ведае, што «толькі молатам лепшая доля куецца». Рэальныя, зямныя і чалавечныя рысы набывае вобраз мастака-барацьбіта, у якога «на варштаце Кастрычніка дні», які разумее, што «песню нам выкаваць трэба хутчэй» — песню, якая будзе клікаць да штурму. Вялікую ўвагу У. Калеснік аддае праблеме герaічнага ў ранняй творчасці М. Танка і зусім правільна звязвае рашэнне гэтай праблемы з традыцыямі савецкай літаратуры, з уплывам здабыткаў фальклору.

Насычан багатым фактычным матэрыялам з гісторыі рэвалюцыйна-вызваленчага руху і беларускага друку ў панскай Польшчы раздзел «Творчасць Максіма Танка перыяду ўздыму Народнага фронта». Гэта кароткі летапіс гераічнай барацьбы працоўных Заходняй Беларусі, аб'яднаных па ініцыятыве КПЗБ у Народны фронт. Літаратурны працэс таго часу характарызаваўся абвастрэннем класавых супярэчнасцей і згуртаваннем прагрэсіўных сіл вакол часопіса «Беларускі летапіс» і газеты «Наша воля». У перыяд Народнага фронта ажывілася паэтычная дзейнасць Міхася Васілька і Міхася Машары, Піліпа Пестрака і Валянціна Таўлая, Міколы Засіма, тады ж пачалі выступаць у друку Ніна Тарас, Анатоль Іверс і іншыя, з'явіліся першыя зборнікі Максіма Танка.

Зборнік вершаў «На этапах» і паэма «Нарач» выразна сведчаць, што «упершыню Заходняя Беларусь вылучыла паэта, творчасць якога пачала адчувальна ўплываць на лёс рэвалюцыйна-вызваленчага руху». Авалодваючы метадам сацыялістычнага рэалізма, М. Танк у сваіх творах паказвае нарастанне рэвалюцыйнай свядомасці шырокіх народных мас, адлюстроўваюцца на многія грамадска-палітычныя падзеі. Больш акрэсленым і жывым становіцца яго лірычны герой. У. Калеснік піша, што лірычны герой вершаў М. Танка, якія былі змешчаны на старонках газеты «Наша воля» і ў зборніку «На этапах», гэта «мужыцкі сын, які, выходзячы ў людзі, ішоў у рэвалюцыю і рабіў рэвалюцыйную барацьбу сваёй прафесіяй». Паранаўча паказвае даследчык і тое, што, аддаючы свой паэтычны талент рэвалюцыйнай справе, М. Танк «узняўся на новую ступень не толькі ў ідэйным, але і ў мастацкім развіцці».

Бадай толькі адзін момант выклікае пярэчанне. Супрацоўніцтва М. Танка ў газеце «Наша воля», якая праіснавала ўсяго толькі дзевяць месяцаў, У. Калеснік схільны лічыць нейкім асобным перыядам у творчасці паэта (у даследаванні ёсць нават асобны падраздзел «Лірыка перыяду «Нашай волі»). Думаецца, што вершы М. Танка, змешчаныя на старонках гэтай газеты, па ідэйнаму зместу і мастацкім вартасцях не даюць падставы выдзяляць іх у нейкі асобны раздзел. Супрацоўніцтва ў «Нашай волі» — гэта толькі старонка творчай біяграфіі паэта, насычаная вялікай актыўнасцю і знешне звязаная з выхадам газеты. Закрыццё гэтага выдання не стала вызначальным рубяжом у творчасці паэта, які па-ранейшаму знаходзіў форму і мастацкія сродкі, каб несці ў масы свае палымяныя словы.

Вялікае месца ў кнізе «Паэзія змагання» У. Калеснік адводзіць буйным паэтычным творам М. Танка — паэмам «Нарач», «Журавінавы цвет», «Сказ пра Вялю», «Кастусь Каліноўскі».

Аўтар падрабязна разглядае гісторыю напісання паэмы «Нарач», у якой найбольш выразна праслаўляецца нацыянальна-вызваленчая барацьба ў Заходняй Беларусі, сіла і веліч народа. Раздзел пра паэму «Нарач» напісаны вельмі ярка, узнёсла, палемічна завострана. Нельга не пагадзіцца з даследчыкам, што першая паэма М. Танка была не проста творам пра бунт нарачанскіх рыбакоў. Паэма «Нарач» прагучала як мужная песня барацьбе наогул, яна сведчыла аб росце рэвалюцыйнай літаратуры ў Заходняй Беларусі і ўдасканаленні паэтычнага таленту Максіма Танка.

Вельмі каштоўная якасць кнігі У. Калесніка ў тым, што аўтар не ідзе пратаптанай сцежкай, у яго ёсць свой погляд на кожны твор, свая думка пра той ці іншы вобраз, свае трапныя назіранні, слушныя вывады.

Аднак чытаючы ў кнізе «Паэзія змагання» раздзелы пра паэмы, кідаецца ў вочы, што даследчык заліш не многа ўвагі і месца адводзіць буйным паэтычным творам. Якімі б важнымі для разумення творчай эвалюцыі і росту мастацкага майстэрства паэта ні былі яго буйныя творы, усё ж такі ў гісторыю заходнебеларускай літаратуры М. Танк увайшоў перш за ўсё як паэт-лірык. Гэтая акалічнасць вымагала ад даследчыка больш увагі да паэтычных зборнікаў «Журавінавы цвет» і «Пад мачтай», аналіз якіх чамусьці параскіданы ў розных месцах кнігі. Праўда, у раздзеле пра лірыку 1937—1939 гадоў У. Калеснік разглядае такія выдатныя творы, як «Песня кулікоў», «Матыль», «Павязлі цягнікі», «Паслухайце, вясна ідзе» і іншыя, паказвае глыбокую сувязь вершаў М. Танка з народнай паэзіяй і тэматычнае багацце яго твораў.

Кніга «Паэзія змагання» каштоўная тым, што яе аўтар не абмяжоўваецца разглядам толькі паэтычных твораў М. Танка. Ён упершыню знаёміць чытача з крытычна-публіцыстычнымі артыкуламі і прозай пісьменніка. Гэтая мала даследаваная цікавая старонка творчай біяграфіі М. Танка паглыбляе наша ўяўленне аб літаратурна-грамадскай дзейнасці паэта, які ў сваіх крытычных артыкулах і рэцэнзіях на творы М. Машары, М. Васілька і літаратурнай моладзі, як адзначае У. Калеснік, «патрабаваў пашыраць сувязь з жыццём і павышаць майстэрства, быць эстэтычна пісьменнымі і самакрытычнымі, ...заклікаў зжываць у імя мастацкай праўды як уплывы адраджэнцкага бясколернага натуралізма, так і стракатага мадэрнізма».

Кніга У. Калесніка «Паэзія змагання» атрымалася змястоўнай і цікавай. Хочацца выказаць пажаданне, каб аўтар плённа працягваў і далей паспяхова пачатую працу над даследаваннем заходнебеларускай літаратуры і творчасці Максіма Танка.

**Сцяпан АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Словы крылатыя і бяскрылыя

Перад намі своеасаблівае, першае ў сваім родзе выданне — зборнік арыгінальных беларускіх «Крылатых слоў і афарызмаў», любоўна сабраных з літаратурных крыніц Фёдарам Янкоўскім *. Аўтар паставіў перад сабой задачу: не толькі сістэматызаваць і пракаменціраваць ужо вядомыя крылатыя словы, але і выбраць з твораў беларускай літаратуры тыя дасціпныя выслоўі, якія з часам могуць стаць афарызмамі.

У кнігу ўвайшло больш двухсот слоў і выразаў. Тут і лёгкакрылае дарагое сэрцу «Мой родны кут, як ты мне мілы!», і прасякнутае гумарам, мудрае: «Кіраваць то ты кіруй, ды не вельмі тузай», ды шмат іншых слоў, якія шырока ўжываюцца ў друку і нашым штодзённым жыцці. Сярод іх — малавядомыя ці зусім новыя, але таксама арыгінальныя выразы: «Кветкі з чужых палёў» (Ю. Гаўрук), «Дурань таму і блішчыць здалёк, што знаходзіцца не на сваім месцы» (К. Крапіва), «Валяцца ўсе шышкі нават на ньютонаў зверху ўніз» (А. Русецкі) і многа іншых.

У прадмове да зборніка аўтар занчае:

«Мы захапляемся крылатымі словамі, часта выкарыстоўваем іх пры ацэнцы самых разнастайных фактаў, падзей, сітуацый, пры ацэнцы людзей з іх характарамі, схільнасцямі, сілаю, слабасцямі, пры вызначэнні і ацэнцы

---

* Ф. Янкоўскі. Крылатыя словы і афарызмы. З беларускіх літаратурных крыніц. Выдавецтва АН БССР. Мінск, 1960. 134 стар.

разнастайных людскіх узаемаадносін».

І сапраўды, папулярнасць трапнага слова ў народзе надзвычай вялікая. Яно дапамагае змагацца з усімі адмоўнымі з'явамі, якія сустракаюцца ў жыцці, з чалавечымі слабасцямі; яно ж радуе душу хараством думкі і тым самым развівае эстэтычную культуру народа.

Характэрнай асаблівасцю крылатых слоў літаратурнага паходжання з'яўляецца тое, што сэнс іх намнога шырэйшы за сэнс таго прыватнага выпадку ці здарэння, з якога яны паходзяць. У «Новай зямлі» Якуба Коласа дзядзька Антось пасля няўдалага палявання гаворыць:

Забілі зайца, не забілі,
Але ж, брат, гуку нарабілі.

І як жа стасуецца сёння гэтае трапнае Коласава выслоўе да тых пустазвонаў, якія замест справы прывыклі рабіць толькі шум!

Гэтым сваім бокам, а іменна, надзённасцю крылатых слоў, — кніга Ф. Янкоўскага можа зацікавіць не толькі літаратараў і лінгвістаў, але і агітатараў, прапагандыстаў. Дарэчы ўжытае трапнае слова можа намнога павысіць дзейснасць любой лекцыі, любога публічнага выступлення. А выслоўяў, якія валодаюць вялікай дзейснай сілай, у зборніку многа. Вось некаторыя з іх: «Ад славы галава не баліць, а толькі кружыцца» (з п'есы Ілы Гурскага «Свае людзі»);

«Калі розум слабаваты,
Не віні падкоўкі»,—

(з верша Максіма Лужаніна «Вожык і заяц»);

«Лес не сякуць языкамі» (з верша Кандрата Крапівы «Лясная казка») і інш.

Трапныя выслоўі маюць яшчэ і тое значэнне, што яны самым непасрэдным чынам узбагачаюць нашу мову, павышаюць яе культуру.

Такім чынам, карысць кнігі Ф. Янкоўскага відавочная. Толькі хацелася б бачыць яе лепш укладзенай і адрэдагаванай.

Перагортваючы старонкі зборніка, часам натрапляеш на такія выразы, якія не адпавядаюць назве «крылатых». Напрыклад: «Памёр пясняр, забыт людзьмі, а песні ўсе яго пяюць», «Без атак і абароны няма сапраўднае вайны», «Якая ж я Круціла? Шэрасць. Няхай бы хоць Круцілло? Неўшта ад французскага...» і інш. Гэтыя выразы не настолькі арыгінальныя, дасціпныя і свежыя па думцы, каб стаць крылатымі. Яны, як кажуць, не хочуць садзіцца на язык, каб у зручны момант без напружання думкі зляцець з яго, бо не маюць крылаў.

Не вымагала суровая неабходнасць уключаць у зборнік пад выглядам афарызмаў і некаторыя выказванні, якія маюць прыватны сэнс і на сённяшні дзень устарэлі па думцы, як напрыклад: «Калі б я праз недахоп «сыравіны» застаўся беспрацоўным як сатырык, дык толькі рад быў бы як грамадзянін» (К. Крапіва, 1933).

Сустракаюцца паўтарэнні амаль адных і тых жа выразаў: «Думка ходзіць, дзе захоча», «Ад зямлі да зор і сонца няма думкам забароны», «Слова, дум ніхто не звяжа», «Дум не скуеш ланцугамі». Відавочна, з усіх гэтых чатырох выслоўяў трэба было пакінуць сапраўды крылатыя.

У той жа час у кнізе мы не знаходзім многіх крылатых слоў і афарызмаў беларускіх пісьменнікаў, якія даволі шырока пашыраны ў вуснай мове. Напрыклад, Я. Коласа: «Добры конь і цягне дужа» («Новая зямля»), «Хто сам шчаслівы, таму здаецца, што і ўсе шчаслівы» («Хмарка»), «Лепш быць няшчасным, але відушчым, чымся шчаслівым, ды сляпым» («Чыя праўда»); А. Гурло «Не гасіце агнёў!»; М. Танка «Не шкадуйце, хлопцы, пораху» і многіх іншых.

Не пашанцавала ў «Крылатых словах і афарызмах» імёнам літаратурных герояў, якія сталі агульнымі. Засталіся па-за ўвагай аўтара палахлівая «пінская шляхта» з Кручковым, Ціхонам Пратасавіцкім і Іванам Цюхаем-Ліпскім, вясёлыя Несцерка і Шкаляр, дзядзька ў Вільні, Жлукта і інш.

Некалькі слоў аб укладанні кнігі. Карыстацца ёю вельмі зручна — усе словы і выразы размешчаны ў алфавітным парадку. Пры кожным крылатым слове, афарызме і выразе — усебаковы пашпарт: з якога твора, кім і калі напісанага, узяты выраз, а таксама ў якім выданні твораў пісьменніка і на якой старонцы яго можна знайсці. Пры многіх выразах і словах ёсць аўтарскія тлумачэнні і падабраны адпаведныя цытаты. Аднак нельга не звярнуць увагу на тое, што аўтар часам вельмі захапляецца цытаваннем без патрэбы. Нярэдка сэнс выраза зразумелы і без тэкста, з якога ён узяты, аўтар жа ўсё роўна прыводзіць доўгія цытаты з твора.

Хацелася б, каб пры падрыхтоўцы другога выдання гэтай цікавай і патрэбнай кнігі аўтар улічыў недахопы першага яе выдання.

**Вечаслаў ЧАМЯРЫЦКІ.**








Слуцкія школьніцы, якія ўстанавілі юнацкі рэкорд СССР у эстафеце.
Фота І. Стэца.

# БАГАТЫ ПЛЁН ЛЕТА

«Каралевай спорту» прынята называць лёгкую атлетыку. Спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы з'яўляюцца найбольш масавымі і захапляючымі. Нават самыя заўзятыя аматары футбола з задавальненнем наведваюць стадыён у тыя дні, калі на бегавой дарожцы, сектарах для скачкоў і кіданняў мераюцца сіламі лёгкаатлеты.

Сёлетні год надзвычайны — алімпійскі. Ён багаты цікавымі спартыўнымі мерапрыемствамі. Часцей, чым летась, стартавалі і нашы лёгкаатлеты. Мацнейшыя з іх рыхтаваліся да XVII Алімпіяды, аспрэчвалі першынство рэспублікі ва ўсесаюзных спартакіядах.

«Каралева спорту» прынесла багаты ўраджай новых рэкордаў і дасягненняў.

**Заяўка зроблена!**

Зіма была ў самым разгары. На хакейных палях ішлі напружаныя «баі», змагаліся за рэкордныя секунды канькабежцы, на заснежаных сцежках спаборнічалі лыжнікі. Лёгкаатлеты таксама не сядзелі склаўшы рукі. Даўно мінулі тыя часы, калі лёгкая атлетыка лічылася «сезонным» відам спорту. Цяпер бегуны, кідальнікі трэніруюцца круглы год. І сёлета першыя старты лёгкаатлетаў адбыліся ў зімовыя месяцы. А ўжо

ў сакавіку ў Брэсце праводзіўся матч лёгкаатлетаў Беларусі і Прыбалтыкі.

Таварыскія спаборніцтвы спартсменаў нашай рэспублікі, Літвы, Латвіі і Эстоніі з'явіліся першай пробай сіл напярэдадні летняга сезону. Многія ўдзельнікі прадэманстравалі выдатную падрыхтоўку і дабіліся высокіх вынікаў. Прадстаўнік Мінскага аўтамабільнага завода Рэм Крашанінпікаў упершыню ўзяў вышыню 2 метры. Малады спартсмен зрабіў сур'ёзную заяўку на перамогу ў афіцыйных спаборніцтвах.

Нядрэнна выступіў у Брэсце і Аляксей Балтоўскі. Ён штурхнуў ядро на 16 метраў 46 сантыметраў. Тое ж можна сказаць і пра заслужанага майстра спорту Марыю Іткіну, мінчанку Галіну Галунову, брэстаўчаніна Ігара Дзмітрачэнку і многіх іншых беларускіх спартсменаў. Ужо ў той час нашы вядучыя лёгкаатлеты знаходзіліся ў добрай спартыўнай форме, як кажуць, ва ўсеўзбраенні сустракалі спартыўнае лета.

### Добры пачатак

Першымі афіцыйнымі лёгкаатлетычнымі спаборніцтвамі сёлетняга спартыўнага сезону было міжведамаснае каманднае першынство Беларусі. На мінскім стадыёне «Дынама» сабраліся мацнейшыя лёгкаатлеты многіх спартыўных таварыстваў. Гераіняй гэтых спаборніцтваў стала малады майстар Галіна Галунова. Яна ўстанавіла новы рэкорд БССР па скачках у даўжыню з разбегу — 5 метраў 90 сантыметраў, а таксама заваявала першае месца ў бегу на 80 метраў з бар'ерамі і ў пяцібор стве.

Ужо тады трэнер Галіны Галуновай выказаў упэўненасць, што яго вучаніца хутка пераадолее шасцімятровы рубеж. Гэтае «прадказанне» збылося. На працягу лета рэкардсменка рэспублікі шмат разоў паляпшала сваё дасягненне і давяла рэкорд рэспублікі па скачках у даўжыню з разбегу да 6 метраў 20 сантыметраў.

На гэтых спаборніцтвах пачалася своеасаблівая «дуэль» паміж вядомай у краіне спартсменкай мінскай дынамаўкай Елізаветай Ермалаевай і прадстаўніцай спартыўнага таварыства «Чырвоны сцяг» Тацянай Аўрамавай. Аўрамава першай прабегла 400-мятровую дыстанцыю, паказаўшы час 55,9 секунды. Ермалаева засталася на другім месцы.

Бег на самую кароткую дыстанцыю — 100 метраў выйграла Марыя Іткіна з вынікам 11,8 секунды. Сярод мужчын хутчэй за ўсіх прабег стомятроўку студэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна Сяргей Сонцаў.

Калі Марыя Іткіна ўвесь час дабівалася поспеху ў бегу на 100 метраў, то Сяргей Сонцаў многіх расчараваў. У наступных спаборніцтвах ён, на наш погляд, выступіў ніжэй за свае магчымасці і страціў заваяваныя ў мінулым годзе пазіцыі.

Разам з дарослымі на гэтым камандным першынстве рэспублікі выступалі і юныя спартсмены. Найбольшага поспеху сярод іх дабіўся Ігар Кароль. Па скачках у даўжыню з разбегу ён устанавіў новы юнацкі рэкорд рэспублікі і заняў першае месца сярод юнакоў у трайным скачку.

### Упершыню — адкрытае першынство

Цэнтральнай падзеяй сёлетняга лёгкаатлетычнага сезону з'явілася першынство Беларусі. У адрозненне ад мінулых год яно на гэты раз было адкрытым: у спаборніцтвах за ганаровае званне чэмпіёнаў БССР маглі ўдзельнічаць спартсмены з іншых саюзных рэспублік. Гэта абвастрыла барацьбу за першыя месцы, нягледзячы на тое, што ў сувязі з падрыхтоўкай да Алімпійскіх гульняў адсутнічалі Марыя Іткіна, Уладзімір Булатаў, Уладзімір Гараеў і іншыя.

Зусім нечакана магіляўчанін Леанід Аляксашын выйграў званне чэмпіёна рэспублікі ў Сяргея Сонцава. Час пераможцы ў бегу на 100 метраў — 10,7 секунды, а ў Сонцава на адну дзесятую секунды меней. Натхнёны гэтай перамогай, Аляксашын потым заняў першае месца і ў бегу на 200 метраў, заваяваўшы другі жэтон чэмпіёна Беларусі.



Галіна Галунова бяжыць 80 м з бар'ерамі.
Фота Д. Церахава.

Сярод жанчын двойчы чэмпіёнкай БССР стала мінчанка Ольга Булатава. Яна выйграла абедзве спрынтарскія дыстанцыі — 100 і 200 метраў. Аднак яе час — вельмі пасрэдны. Калі б Марыя Іткіна ўдзельнічала ў спаборніцтвах, то перамога, безумоўна, была б за ёю.

Яшчэ раз сур'ёзную «непрыемнасць» прынесла Елізавеце Ермалаевай яе пастаянная саперніца Тацяна Аўрамава. Гэта адбылося ў забегу на 800 метраў. Спачатку ўперад выйшла Ермалаева. Здавалася, ёй перамога забяспечана. Аднак здарылася непрадбачанае. Ля самага фінішу Аўрамава зрабіла імклівы рывок і на нейкае імгненне раней кранулася фінішнай стужкі. Ёй і было прысвоена званне чэмпіёнкі Беларусі, хаця абедзве спартсменкі паказалі аднолькавы час — 2 мінуты 7,3 секунды.

Хутка расце малады майстар спорту Рэм Крашанінпікаў. Яго асноўным сапернікам быў рэкардсмен Беларусі Гіві Гогаберыдзе. Крашанінпікаў даволі лёгка ўзяў вышыню 2 метры і стаў чэмпіёнам Беларусі.

Новы чэмпіён валодае выдатнай тэхнікай скачка і, безумоўна, яшчэ не сказаў сваё апошняе слова. Крыху пазней на Усесаюзных спаборніцтвах калектываў фізкультуры, якія праходзілі ў Растове, ён заняў першае месца з вынікам 2 метры 3 сантыметры. Гэта ўсяго на адзін сантыметр ніжэй за рэкорд БССР.

Цікава ўспомніць, што якраз дзесяць год таму назад у Гомелі на Усебеларускай спартакіядзе сельскай моладзі калгаснік з Іванаўскага раёна Васіль Місюк устанавіў новы рэкорд рэспублікі — 183 сантыметры. У той час ён пабіў ранейшае дасягненне Беларусі, якое трымалася з 1938 года і было роўна 182 сантыметрам. Місюк скакаў тады самым прымітыўным спосабам — «разножкай», і хаця быў высокага росту, так і не змог узяць 185 сантыметраў — тагачасны нарматыў 1-га разраду. І толькі, калі быў асвоен прыжок «хваляй», «столь» рэкорда рэзка паднялася.

З астатніх вынікаў першынства рэспублікі трэба адзначыць дзве перамогі Галіны Галуновай — па скачках у даўжыню з разбегу і ў пяцібор стве. Мінчанін Алег Дзянісаў паказаў новае рэспубліканскае дасягненне па скачках у даўжыню з разбегу для юнакоў — 6 метраў 63 сантыметры. Юны спартсмен з Гродна Якаў Гардзееў устанавіў юнацкі рэкорд рэспублікі ў бегу на 800 метраў — 1 мінута 56,5 секунды, а мінчанін Мікалай Марозаў палепшыў сваё ж рэспубліканскае дасягненне для юнакоў па штурханню ядра, давёўшы яго да 14 метраў 10 сантыметраў.

Нельга не прызнаць і своеасаблівы «рэкорд» нашага госця, спартсмена з Літоўскай ССР Вітольдаса Яраса, які ўдзельнічаў у адкрытым першынстве Беларусі па лёгкай атлетыцы. Ён далей за ўсіх кінуў дыск (50 метраў 79 сантыметраў) і штурхнуў ядро (16 метраў 43 сантыметры), двойчы заваяваўшы званне чэмпіёна Беларусі.

### Два залатыя медалі Марыі Іткінай

Марыя Іткіна не ўдзельнічала ў спаборніцтвах на першынство Беларусі, бо ў тыя дні рыхтавалася ў складзе савецкай алімпійскай каманды да паездкі ў Рым. Затое яна ўзяла сваё на чэмпіянаце СССР.

Да сёлетняга сезону Іткіна неаднаразова заваёўвала званне чэмпіёнкі СССР і Еўропы ў бегу на 200 і 400 метраў. У 1955 годзе яна ўстанавіла сусветны рэкорд у бегу на 400 метраў, затым двойчы паляпшала яго і праз год пабіла рэкорд Еўропы дваццацігадовай даўнасці ў бегу на 200 метраў.

Сёлета Марыя Іткіна крыху «перакваліфікавалася». Яна ўпершыню стала чэмпіёнкай Савецкага Саюза ў бегу на 100 метраў, паказаўшы выдатны час — 11,7 секунды. І «па традыцыі» заваявала другі залаты медаль у бегу на 200 метраў.

Не пашанцавала крыху другому выдатнаму беларускаму спартсмену заслужанаму майстру спорту Уладзіміру Булатаву. Яму прыйшлося саступіць першае месца па скачках з шастом прадстаўніку Савецкай Арміі Яну Красоўскасу і задаволіцца срэбраным медалем. Новы чэмпіён краіны «адабраў» у Булатава і рэкорд Еўропы. Яго вынік — 4 метры 65 сантыметраў — на 1 сантыметр вышэй за ранейшы еўрапейскі рэкорд мінчаніна.

Акрамя Марыі Іткінай і Уладзіміра Булатава, якія ўжо ўдзельнічалі ў алімпійскіх гульнях у Мельбурне, у Рым паехаў трэці беларускі лёгкаатлет, студэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна Уладзімір Гараеў. Ён прымаў удзел у спаборніцтвах па трайному скачку і заняў другое месца, заваяваўшы срэбраны медаль.



Майстар спорту Рэм Крашанінnікаў бярэ вышыню 2 м.

### Расце юная змена

Самай радаснай падзеяй сёлетняга сезону можна лічыць паспяховыя старты юных лёгкаатлетаў. Першым аглядам сіл нашай юнай змены з'явілася XIV Усебеларуская спартакіяда школьнікаў. Сярод пераможцаў мы бачым прозвішчы не толькі мінчан, але і вучняў іншых гарадоў і нават вёсак.

Узяць хаця б Георгія Галаха, прадстаўніка каманды з Брэстчыны. Жыве ён у вёсцы Машанцы Высокаўскага раёна. Юнак захапляецца кіданнем кап'я, займаецца ў высокаўскай спартыўнай школе. На Усебеларускай спартакіядзе школьнікаў ён заняў першае месца і ўстанавіў новы юнацкі рэкорд. Кінутае ім кап'ё пралядела 61 метр 50 сантыметраў.

А вось віцяблянка Таня Качанава. Ёй толькі 13 з палавінай год. Між тым, дзяўчынка з'яўляецца адной з мацнейшых юных спартсменак па скачках у вышыню з разбегу.

Можна назваць таксама імёны Галіны Грэк са слуцкай сярэдняй школы № 5 — пераможцы ў бегу на 100 метраў, гамяльчанкі Алы Гаранскай, якая хутчэй за ўсіх закончыла 200-мятровую дыстанцыю, і многіх іншых. Гэта наша надзейная спартыўная змена.

### «Дождж» рэкордаў

Такога «даждж» рэкордаў яшчэ не ведаў мінскі стадыён «Дынама». Іх устанавілі ўдзельнікі Усесаюзнай завальнай спартакіяды школьнікаў — юныя спартсмены Беларусі, Грузіі, Азербайджана, Арменіі, Малдавіі, Літвы, Латвіі і Эстоніі. І большасць з гэтых рэкордаў належыць «гаспадарам» спартакіяды — беларускім спартсменам.

Вучаніцы слуцкай школы № 5 Аляксандра Масяйчук, Галіна Журанкова, Валянціна Кушнярэвіч і Валянціна Мядзведзева дабіліся самага вялікага поспеху. У эстафеце 400 + + 300 + 200 + 100 яны ўстанавілі ўсесаюзны юнацкі рэкорд — 2 мінуты 26,4 сек. Не менш за юных рэкардсменаў радаваўся і іх трэнер Дзмітрый Фрэнкель, дырэктар Слуцкай дзіцячай спартыўнай школы. Значыць, не дарэмна затрачана праца!

Яшчэ раз парадаваў гледачоў Георгі Галах з Брэсцкай вобласці. Ён кінуў кап'ё на 61 метр 86 сантыметраў і на 36 сантыметраў палепшыў свой жа юнацкі рэкорд рэспублікі.

Рэкордныя вынікі паказалі таксама юныя беларускія спартсмены Алег Дулевіч (200 метраў з бар'ерамі), Ларыса Барабіна (80 метраў з бар'ерамі), Жана Уласенка (скачкі ў вышыню), Галіна Бялевіч, Галіна Грэк, Ала Гаранская і Святлана Усошына (эстафета 4 × 100).

Лёгкаатлеты нашай рэспублікі ўпэўнена заваявалі на спартакіядзе першае месца. На другое месца выйшла каманда Эстоніі, на трэцяе — Грузіі. Поспех гэты — заслужаны. Ён сведчыць аб тым, што ў бліжэйшыя гады зборная каманда рэспублікі папоўніцца новымі выдатнымі майстрамі лёгкай атлетыкі.

Нашай моладзі ёсць у каго вучыцца спартыўнаму майстэрству. На XVII Алімпійскіх гульнях, што адбыліся сёлета ў Рыме, спартсмены Савецкага Саюза атрымалі пераканаўчую перамогу. Яны заваявалі 43 залатых, 29 сярэбраных і 31 бронзавую медалю. Як па колькасці медалёў, так і па набраных ачках у неафіцыйным камандным заліку нашы спартсмены занялі першае месца і намнога апярэдзілі каманды іншых краін, у тым ліку і Злучаныя Штаты Амерыкі.

У складзе алімпійскай каманды СССР выступіла 11 беларускіх спартсменаў. Гэта лёгкаатлеты Марыя Іткіна, Уладзімір Булатаў і Уладзімір Гараеў, барцы Алег Караваеў і Мікалай Чучалаў, весляры Сяргей Макарэнка і Леанід Гейштар, гімнаст Мікалай Мілігула, фехтавальшчыкі Тацяна Пятрэнка, Арнольд Чарнушэвіч і Аляксандр Паўлоўскі. Асабліва вызначыліся Алег Караваеў, Сяргей Макарэнка, Леанід Гейштар і Тацяна Пятрэнка, якія сталі алімпійскімі чэмпіёнамі і заваявалі залатыя медалі. Спартсмены Савецкай Беларусі ўсё больш смела і ўпэўнена выходзяць на сусветную спартыўную арэну.

**Л. СЕВАСЦЬЯНАЎ.**



## Гумар і сатыра

Мал. В. Швяцова.




**БЕЛКА І СТРЭЛКА: У космасе жыць можна!**



**Зямлю за трох**
**ён мог бы рыць**
**І рваць дубы з карэннем,**
**Ды абапёрся, як стары,**
**На «кволае стварэнне».**

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ**

**ВЫПІЎ ВОБЛАЧКА І СОНЦА...**

**І па наіўнасці сваёй,**
**Здавалася, да донца**
**Я піў ваду, а разам з ёй**
**І воблачка, і сонца.**
**Васіль МАТЭВУШАЎ,**
**«Крынічнае люстра».**

**Стану ў позу абаронца:**
**— Пі ваду, пакінь нам Сонца!..**

## ЗМЕСТ



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «А гармонік грае, грае...»**







**Для гербарыя.** Фотаэцюд І. Бяляева.